## СУСТРЭЧЫ І РОСТАНІ
## Вершы 1977-1981

### АПОШНІ ВЕТЭРАН

Калі наступны век пачнецца,
Дзядамі стануць нашыя сыны,
Тады, напэўна, ў свеце застанецца
Адзін, апошні, ветэран вайны.

Яго з сяла ці з горнага аула,
З Палесся, з Дагестана ці з Тувы
Сустрэнуць гучным і ўрачыстым гулам
І музыкаю вуліцы Масквы.

Яму пасцелюць дываны пад ногі
Усе лугі і кветнікі вясны,
Бо ён ад Брэста і да Перамогі
Прайшоў праз пекла колішняй вайны.

Паблісквацъ будуць на старым мундзіры
Адзнакі за Берлін і Сталінград,
Але яго сябры і камандзіры
Ніколі больш не выйдуць на парад.

Заўсёды цвёрда верачы у шчасце,
Ён прастаіць на скверы пяць гадзін
І з нумарам сваёй гвардзейскай часці

Ізноў на плошчу вернецца адзін.

Апошні ветэран вайны апошняй,
Патрушчаны нязломны чалавек,
Прайшоў калісьці па крывавай пожні
З дваццатага у дваццаць першы век.

І водбліскам далёкае трывогі,
Каб помнілі і бачылі усе,
Гвардзейскі сцяг на Свяце Перамогі
Ён па Чырвонай плошчы пранясе.
1977

**ТРАПЯТКІ РАДОК**

Сляды расталі капытоў і санак
На згоне доўгай снежнае зімы,
І я лаўлю зялёны след маланак,
Спеў салаўя і першыя грамы.

Хвалююць то сустрэчы, то расстанні.
На ростанях — пад помнікам грудок
І шум дажджу, што музыкаю стане
І перальецца ў трапяткі радок.

Папрок у раўнадушшы вочы коле,
І сэрца працінае халадок.
Пакуль твой боль маім не стане болем,
Датуль не загартуецца радок.

Прымаю ўсе сумненні і трывогі
І радасці прымаю, як свае.
Чужых пакут і хваляванняў многа,
Хоць і сваіх на кожнага стае.

Но ведаю, ці я каго суцешу,
Ці падтрымаю, ці дапамагу,
Але радок, як спешную дэпешу,
Я не паслаць у горы не магу.

Чужое шчасце мне прыносіць шчасце,
Чужое гора — горкі неспакой,
Чужы запал маёю стане страсцю,
Чужая ўдача — радасцю маёй.

На самай дробнай і адказнай працы
Пакінуць можна незабыўны след,
А вось паэтам нельга ўладкавацца —
Паэтам нараджаецца паэт.
*1977*

* * *
Чаму не закрасуе красавік
Пралескамі і сон-травой на ўзлессі,
Чаму зямля ляжыш, як чарнавік,
Што нехта неахайна перакрэсліў?

Шляхоў і сцежак хісткія радкі
Расходзяцца і сходзяцца з разбегу,

Нібы сляды няцвёрдае рукі
На аркушы: паточанага снегу.
Спазнілася і сёлета вясна,—
Яшчэ пустуюць гнёзды і буслянкі,
І толькі шпак каля майго акна
Вітае песняй ветраныя ранкі

І скардзіцца граку і снегіру,
Што холад і яму даўно абрыдзеў,
Што ён дамоў вяртаецца ў пару,
А вось вясна спазнілася на тыдзень,
Што холадна, што сонца ўкрылі хмары,
І за спазненне патрабуе кары.
*1977*

**АКЦЁР**

Быў поспех, бывалі правалы,
Калі без натхнення іграў:
То пафасу ўсё не ставала,
То — праўды, калі паміраў.

Кахаў і хлусіў, што кахае,
Кідаў і пакінуты быў,
Мінала хвіліна ліхая,
Смяяўся і шчодра любіў.

Не стаў ён галоўнаю зоркай
І ўсё ж ганарыўся, калі
Партэр, бельэтаж і галёрка
Ад воплескаў доўга гулі.
Пакутаваў часам ад гора,
Зацiснуўшы боль у душы,
І ўсё ж гледачоў і акцёраў,
Глытаючы слёзы, смяшыў.
Не скардзіўся ён аніколі,
Не кідаў нікому дакор,
Калі на апошнія ролі
Яго перавёў рэжысёр.

Не мог ён сядзець у зацішшы
І спіну не гнуў удвая,
Калі з тэатральнай афішы
Ягонае знікла імя.

Ён радасць, і смех, і пакуты
Прынёс на высокі касцёр;
Ні разу не стаўшы славутым,
Ён быў не апошні акцёр.

Не, ён не трымаўся канонаў,
Ён зведаў і шчасце і боль,
Калі бездакорна выконваў
Сваю негалоўную роль.
Калі ж на яго пахаванне
Між іншым зайшоў рэжысёр,
Зірнуў і шапнуў з хваляваннем:
— Цяпер геніяльна памёр.
*1977*

## КАЛІ ТЫ ДРУГ...

Дапамажы мне зразумець сябе,
Скажы па шчырасці, чаго я варты.
Адкінь і жарцікі і жарты,—
Дапамажы ў нялёгкай барацьбе,

Бо ўсё ніяк не паміруся
Не з ворагамі, а з самім сабой
Вяду зацяты і няроўны бой,
Астыну, потым зноў вазьмуся

Судзіць амаль што кожны крок,
Пустыя словы і учынкі,
Што, быццам тыя аблачынкі,
Часамі засцілаюць зрок.

Дапамажы мне ў гэтай барацьбе,
Скажы, як пракурор, праўдзіва,
І я тады табе надзіва
Сам абвяшчу прысуд сабе.
*1977*

## СТАРАЯ КАРЧМА

Гарэлі на акне герані,
Гайдаўся дом:
Пілі, спявалі, і да рання
Стаяў садом.
Сюды не запрашалі госця,
Ён сам ішоў
Ад гора, радасці ці злосці
Да гладышоў
З ячменным, хмельным, пенным півам,
З густым вінам,
Ён быў і за сталом шчаслівы,
І пад сталом.
Не памятаў, ці ныюць ногі,
Ці галава,
Каго праводзіў да парога
І цалаваў,
З кім настыраўся каля печы
І на зямлі,
Хто абдымаў, хто біў у плечы,
Як мёд пілі,
Збіралі грыўні, залатоўкі
І пятакі,
Гарнуўся нехта да залоўкі
І мяў бакі.
А карчмару бадзяга нейкі
Даводзіў:
«Што ж,
Тваё жыццё — адна капейка,
А наша — грош!»
Пускаліся ад гора ў скокі,
Гула струна:
Іграў музыка аднавокі
Аж давідна.

«Канчайце, хлопцы, каніфолі
Няма, хоць плач.
Натупаліся, і даволі»,—
Казаў скрыпач.
А выпаўзлі — ў асеннім змроку
Дарог няма.
Глядзела толькі воўчым вокам
Услед карчма.
Так некалі бацькі гулялі,
Як іх дзяды,—
Ад гора вочы залівалі
І ад бяды.
*1976*

## ДРУГ

Відаць, пракляўшы горкі лёс,
Спалоханы і вінаваты,
Галодны незнаёмы пёс
Да нашае прыбіўся хаты.

Ён не брахаў, не скавытаў
І не віляў хвастом лісліва,
А так глядзеў, нібы вітаў,
І быў, здавалася, шчаслівы.

„Ну, як цябе, прыблуда, зваць,
Барбос, Трызор ці, можа, Лыска?
Чаму ж не хочаш адказаць
Ні брэхам, ні вясёлым віскам?”

Нібыта цьмяныя агні,
Трывожна пазіраюць вочы —
Здаецца, папрасіць ёй хоча:
„Пытай, ды толькі не гані”.
„Жыві сабе, не галадай!
І мне ж было часамі туга.
Дзеля знаёмства лапу дай.
Сябрамі будзем, валацуга!”

Са мною разам ён пабег
Па хмызняках, па снежным полі,
То абганяў, то нюхаў снег
І не зблудзіў ужо ніколі.
Такі свайго не падвядзе,
Чужы такога не прынадзіць,
Не кіне ён свайго ў бядзе
І не набрэша, і не здрадзіць.
*1976*

## ДЗІК

На заінелы маладзік
Маленькімі вачыма, скоса,
Загледзеўся змарнелы дзік,
Дарэмна пакараны лёсам.
За што?
Хіба ён вінаваты,
Што доўгі лыч і хіб кудлаты,
Што з першых невясёлых дзён
Бадзяецца па лесе ён?

Пакуль жыве, ён дзень пры дні
Грызе тугія карані.
Нідзе прыстанішча няма,
Калі суровая зіма
Усю зямлю засцеле снегам —
Ні жалудамі, ні арэхам
Дзіку няма дзе пажывіцца,
І голадна, і кепска сніцца:
То будзіць крык,
То звон пілы,
То сняцца дымныя ствалы,
То чуецца з усіх бакоў
Галёканне і трэск сукоў,
Жакана свіст, шалёны брэх
І ў ельніку ружовы снег.
Яго ж сабрат з лычом куртатым
Жыве і ў будні, як у святы,—
З карытам поўным у хляве,
Без клопатаў у галаве:
Не трэба рыць яму зямлі,
Бо лоем вочы заплылі.
Але і ён не спіць начамі,
Калі забразгаюць ключамі.
Калі засвеціцца ліхтар
І точыць швайку гаспадар.
А дзік зімой ледзь не скалеў,
І ўсё ж не хоча ў цёплы хлеў,
І думка неадступна лезе:
Хоць страшна, але добра ў лесе.
*1977*

**КОЦІЦЦА ЗВАНОЧАК**

Па полі коціцца званочак
За пасівелае сяло.
Яшчэ такіх блакітных ночак
У нас ніколі не было.

Званочак коціцца па полі,
І не стрымаць імклівы бег,
Калі аснежанае голле
Страсае зоры ў сіні снег.

Змяшаліся ў далёкім звоне
Вясёласць з лёгкаю тугой,
І белыя ад снегу коні
Ляцяць пад срэбнаю дугой.

Іскрацца зоры ў кожным следзе,
Над месяцам замкнуўся круг,—
Здаецца, што здалёку едзе
Мой даўні незваротны друг.

Званочак коціцца па лёдзе
Пад цішынёю стылых рэк
З даўно забытага стагоддзя
У невядомы новы век.
*1977*

## АСЕННІЯ ДАЖДЖЫ

*Памяці Міхася Лынькова*

Бядуюць Купа і Наносы,
І чайкі стогнуць на касе,
Што чарадзей срэбравалосы
Да іх не прыйдзе па расе,

Хвалююцца ў сутонні хвалі,
Што не відаць яго нідзе,
Што ноччу лямпу не запаліць
І вогнішча не раскладзе.

І нарачанскія узгоркі
І сосны журацца даўно,
Чаму нідзе яго маторкі
І не відно і не чутно.

Яшчэ яго калодзеж повен
Вады крынічнай і святла,
І толькі адзінокі човен
Лістамі восень замяла.

Бядуюць Купа і Наносы,
Датлелі смольныя карчы,
І днём, і ноччу, быццам слёзы,
Цякуць па шыбінах дажджы.
*1976*

## РАЗВІТАЛЬНАЯ ЖУРБА

*Памяці Івана Паўлавіча Мележа*

На жытнішча упаў падбіты жораў,
Смугою зажурыліся палі.
„Якое гора! О якое гора!” —
Па важаку галосяць жураўлі.

За кім цяпер ляцець у паднябессі?
Як абысціся без яго ў жыцці?
І выраю дарогу на Палессе
Увесну над разводдзем не знайсці.

Яго журбы і скаргаў не пачулі:
З далёкіх дзён, атручаная злом,
Ляцела следам кручаная куля
І перабіла дужае крыло.

Якое гора! О якое гора!
Смуга заслала нечакана свет —
Упаў падбіты ў паднябессі жораў,
А на зямлі яго не гасне след.
*1976*

## З ТАБОЙ І ДЛЯ ЦЯБЕ

У восені, вёсны і зімы,
У жнівеньскі спелы прыбой,
Мая дарагая Радзіма,

Жыву для Цябе і Табой.

Журуся ў ліхія паводкі,
Шчаслівы ўмалотнай парой,
І з першай твае пяцігодкі
Штодня станаўлюся у строй.

Ды робіцца горка часамі
За нас, маладых і сівых,
Што скардзімся часта, а самі
Не бачым агрэхаў сваіх.

Мая дарагая Радзіма,
Мы сталі з табой трывалей,
У заўтрае прагна глядзім мы
І бачым далей і далей.

**ВЯСНОВЫ ДЫМ**

Вясна паводкай захмялела,
Густой расою апякла,
І з баразны тугая сіла
Ў гарачых жылах пацякла.

Вясна іскрыцца над зямлёю,
Захутанаю ў лёгкі дым,
І свежай дыхае раллёю,
І пругкім ветрам маладым.

Тут некалі мае барозпы
Пралеглі да тае мяжы,
Дзе адпалалі нашы вёсны
На зорным восеньскім лаўяш.

Дзе столькі гора перажыла,
Дзе столькі радасцей было,
Дзе мной пасеянае жыта
Не раз даспела і ўзышло.

Як добра: гоні зарунелі,
І раскаціліся грамы,
Над полем жаўранкі запелі,
Яшчэ далёка да зімы!
*1980*

**БЯРОЗЫ**

Куды сплываюць тыя слёзы,
Што нашы маці пралілі?
З іх сталі плачкамібярозы
Па ўсёй зямлі, па ўсёй зямлі.

Яны пасталі на ўзбярэжных
Скрываўленых вайною рэк,
На колішніх дзяржаўных межах,
Што вораг кулямі пасек.

Яны схіляюць вецце нізка,
І слёзы коцяцца ў мурог
Каля бетонных абеліскаў,

На ростанях усіх дарог.

Шумяць плакучыя бярозы
Па ўсёй знявечанай зямлі,
Каб толькі больш ніколі слёзы
Па дзецях маці не лілі.
*1980*

**РАБІНАВЫ СОК**

Гарачь у завею рабіны
У зарыве позняй зары,
Сняжынкі, як пух галубіны,
Страсаюць на дол снегіры.

У замеці коціцца звонкі
Дзявочы гарэзлівы смех,
І падаюць стылыя гронкі,
Нібыта крывінкі, на снег.

Сняжынак іскрыстыя зоркі
Растануць на чырвані шчок,
І вусны апырскае горкі
Халодны рабінавы сок.
*1980*

* * *

Каго ты цураешся?
Маці сваёй?
Бо рукі яе
Ў мазалях і апёках,
Злінялыя вочы,
Ватоўка на ёй,
Струменьчыкі поту
На шчоках.

Чаго ты стыкаешся?
Слова яе,
Празрыстага, чыстага,
Быццам званочак?
Яна ж не гаворыць,
А ціха пяе:
„Вярніся дадому,
Сыночак”.

Цябе не спаткаюць
Ужо на сяўбе —
Да іншай работы
Душа прыкіпела.
Глядзі ж, каб хоць дома
Пазналі цябе,
Каб родная маці.
Цябе зразумела.
*1978*

**ДЗІВАКІ**

За сціпласць помнікаў не ставяць,
Але часамі дзівакі
Сябе і свой народ праслаўляць

На цэлы свет і на вякі.

Без радасці і без ахвоты
Камусьці служаць дзівакі,
Але, як тыя донкіхоты,
З кап'ём ляцяць на ветракі,

То кідаюцца напярэймы
Чужой нягодзе і бядзе,
Каб уздыхнулі ўсе лягчэй мы,
За дзіваком дзівак ідзе.

Чыноўнік добра разумее:
Хваліць дзівацтва не з рукі,
Хоць сцежку першымі ў завею
Зноў адшукалі дзівакі.

Быў дзіваком Джардана Бруна,
І Цыялкоўскі быў дзівак,
Ды ні стары тады, ні юны
Не ведаў, што такое ВАК,

І не выседжваў дысертацый,
І на чыны не меў надзей,
А толькі — праца, праца, праца
Была заўсёды для людзей.

Як добра, што ва ўсе вякі
Жывуць на свеце дзівакі.
*1980*

**НА ЧЫМ ТРЫМАЕЦЦА ЗЯМЛЯ**

На чым трымаецца Зямля?
На трох кітах?
На жаўруковай песні?
Ці на абломках карабля,
Што хвалі з вечнасці прынеслі?

Трымціць праменнямі ланцуг,
Да сонца некалі прыбіты.
На ім Зямля за кругам круг
Плыве, не сходзячы з арбіты.

Здаецца вогненнай здаля
Яна у выбухах і ў гудзе.
І ўсё ж трымаецца Зямля
Па добрых і сумленных людзях.
*1980*

**ТОЛЬКІ ВЕЧАР...**

Дзень адышоў,
            і больш ужо не будзе
Таго, што адыходзіць
            з гэтым днём,—
Ні хвалявання ў мітусні
            і ў гудзе,
Апаленага

сцюжай і агнём,
Ні горкае разлукі,
ні сустрэчы,
Што прызначалі
блізкія мае.
Палае захад,
і асенні вечар
Без месяца
і зорак настае.
Мінае дзень,
але наступны будзе,
З трывогамі,
чаго тут ні прароч,
І радасць,
што навокал — людзі, людзі,
Што толькі вечар,
што яшчэ не ноч.
*1979*

**БАЛЮЧАЯ ЦІШЫНЯ**

Счарнелы снег і талая вада,
І сонцам набрынялыя ільдзіны
У далеч адплываюць, дзе бяда
Загаласіла крыкам лебядзіным.
За паламаны сітнік, за ручай,
Над хвалямі халоднае паводкі
Адносіць вецер крыкі і адчай
Нікім не абароненай лябёдкі.
Іскрацца хвалі, а на сконе дня
Над залатым разводдзем — цішыня.
*1980*

**ЧАЛАВЕК І БОГ**

Не бог стварыў на мукі чалавека
У невядомы і далёкі век,
А часам нечакана недарэку
Рабіў магутным богам чалавек

І быў гатоў маліцца аж да скону,
Хоць добра ведаў: бог — зусім не бог,
Але пісаў усё ж з яго ікону,
Якую потым кінуць за парог.

Не верыў богу і баяўся бога,
Каб той яго не перацёр па тло,
А скінуць і стварыць сабе другога
Ні смеласці, ні сілы не было.
*1979*

**АСЕННІЯ ГНЁЗДЫ**

Пусцеюць гнёзды ў чорным вецці,
І ўслед за песнямі тугі
Птушыны пух адносіць вецер
На пасівелыя лугі.

Злятае ліст на дол настылы
З чырвоных клёнаў і калін,

А ў вышыню тугія крылы
Нясуць за клінам новы клін.

Іх шлях нікому невядомы,
Ды толькі з кроплямі вясны,
Хоць і не ўсе, але дадому,
Напэўна, вернуцца яны.

І бусел заклякоча зранку,
Вяртаючыся па пастой
У незабытую буслянку
Над хатаю даўно пустой.

Пусцеюць гнёзды. За ракою
Мільгнуў агеньчык і патух.
Над неспакоем і спакоем
Ляціць халодны белы пух.
*1979*

**АДДАЙ БЕЗ ЖАЛЮ**

Калі не хопіць вытрымкі і сілы
Над прорвай праімчацца на кані,
Тады прыпомні, як, зламаўшы крылы,
Ляціць у бездань лебедзь з вышыні.
Таму каня гарачага без жалю
Аддай другому, здатнаму ў яздзе.
Адкрые ён нябачаныя далі
І сам з каня ніколі не ўпадзе.
*1979*

* * *

Калі завея слепіць вочы,
Калі паводка рве масты,
Званіце мне і днём, і ўночы,
Пішыце спешныя лісты.

Калі душа баліць ад зморы,
Калі трывога абміне,
Званіце ў радасці і ў горы,
Прыходзьце ў госці да мяне:

Заўсёды дальняя дарога
Развее смутак і бяду,
І я сябрам на дапамогу
Заўсёды з радасцю прыйду.
*1977*

* * *

За вокнамі снежныя казкі
Расказвае сцішаны лес,
На шыбах — і пальмы, і краскі,
І белы задымлены бэз.

Калматае вецце ў сутонні
Калыша дзівосныя сны,
Ссівелі ад шэрані скроні
На ўзлессі у кожнай сасны.

Пазёмкай дымяцца сумёты,
За вокнамі — ноч і зіма...
І добра, што многа работы
І часу ніколі няма.
*1977*

* * *

Я пазычаць калісьці бегаў жар,
Каб распаліць агонь у нашай печы,
А потым узваліў такі цяжар,
Што і дасюль не разагнуцца плечы.

Хоць шлях яшчэ не кончыўся даўгі,
І верыць хочацца ружовым марам,
А час настаў да шэлега даўгі
Аддаць і потам, і гарачым жарам.
*1977*

* * *

Мне крытыкі гавораць: — Не сучасны,
Карэтнымі прыраслы да зямлі,
І традыцыйны, і занадта ясны,
Шурпатыя радкі, як мазалі.

Насуперак і моднікам і модам
Ніяк не адарвацца ад зямлі,
Што пахне потам, палыном, і мёдам,
І вільгаццю асенняе раллі.
*1977*

**НАД ЗІМОЮ**

То мароз, то адліга,
Ні хмурынкі няма,
І, як белую кнігу,
Разгарнула зіма.
На стракатых старонках
Прабягаюць радкі,
Быццам вершаў калонкі —
Гарады, гарадкі.

Блісне шыба на сонцы,
І дымы паплылі,
На іскрыстай старонцы —
То лясы, то палі.
Самалёцік паволі
Ледзь плыве, як сляпы,
І шматкроп'ем па полі
Разышліся слупы.
Разбягаюцца вёскі
За сівыя лясы,
Ды гасцінцаў паўрозкі
Пралягли наўскасы.
І снягі над ракою
Берагі замялі,
Толькі нельга спакою
Адшукаць на зямлі.
*1979*

**ПРАЎДА І ДРУЖБА**

Скажы праўду, страціш дружбу.
*Дайняя прымайка*

А я ўсё ж праўду гавару,
Што нават блізкім вочы коле,
Бывае часам не ў пару,
Але не шчыра — аніколі.

Таму пакутую парой
Ад плётак, шэптаў і даносаў,
І, як у прыказцы старой,
Заўсёды застаюся з носам.

А той, хто любіць пахвалы,
Сабе заводзіць падхаліма,
Ды фаміам з густой смалы
Асядзе хутка чадным дымам,

І дружбы разамкнецца круг,
Калі міне пара паслугам,
І толькі праўду мудры друг
Прымае, каб застацца другам.
*1979*

**РАЗМОВА З УЛАДЗІМІРАМ ІЛЫЧОМ**

Уладзімір Ільіч,
я да вас на прыём не прашуся:
Вы даступныя ўсім,
як тады, пры жыцці.
Вось чаму у турботах,
у шчасці і ў скрусе
Я прыходжу да вас,
каб адказ і параду знайсці,
Каб дазнацца,
ці так мы ўсё робім як трэба,
Расказаць, як працуем,
жывём і жылі,
Што асвоілі нетры зямныя
і ў неба
Выпраўляем адзін за адным караблі.
Помнім,
як вы з усімі дзялілі нягоды,
Не забылі кранштадскі
скрываўлены лёд,
Як гарэла Паволжа,
маўчалі заводы,
І адзіны кружыў
над Масквой самалёт.
Помнім,
з бантам чырвоным ішлі вы на свята
І з усмешкай,
што кожнага грэла здалёк.
Каб дужэла Расія,
сабе скарачалі зарплату
І стаялі ў чарзе па нішчымны паёк.
Мы без вас
за сябе і за вас працавалі

І зрабілі,
што іншым не здолець за век —
Лемяхі і гартаваны шчыт адкапалі,
Павярнулі спрадвечныя рэчышчы рэк.
На дарозе фашысцкай
навалы шалёнай
Уставала за раццю
нязломная рать.
Незваротныя лепшыя дваццаць мільёнаў
З вашым імем на вуснах ішлі паміраць.
І ўскрасалі ізноў.
Праз агонь да знямогі
Наступалі часамі без хлеба і сну,
І ўзнялі над Еўропаю сцяг Перамогі,
І прынеслі дадому спакой і вясну.
Хоць бывала ўсяго:
на крутым перавале
У пару нечаканых
сляпых навальніц
Часам профіль і ваш
засланіць спрабавалі,
Ды вялікае нельга нічым засланіць.
Уладзімір Ільіч,
вы ж не ўбачылі здзейсненай мары,
Што свяціла ў сібірскія ночы і дні —
Дзіўнагорскае дзіва,
агні Нар'ян-Мара,
І Нарыльска, і Брацка, і Брэста агні.
У Нурэку, на Волзе
і на Днепрагэсе
Вы святло адмыкалі чароўным ключом,
У спякотнай пустыні,
у тундры і ў лесе
Пад цяжкія камлі падстаўлялі плячо.
Мы прайшлі навылёт
мерзлату Саматлора,
Падняліся да зорных
нязведаных трас.
І калі караблі
адлятаюць да зорак,
Касманаўты
спачатку прыходзяць да вас.
Пад касмічным дажджом
і пад сонечным кругам,
На арбітах,
далёкіх ад роднай зямлі,
Памятаюць усе,
што ракетам з Калугі
Вы надзею
і дужыя крылы далі.
Мы дужэем штодня —
ёсць і хлеб, і да хлеба,
Нашай праўды далёка даходзіць святло,
Бо жывём і працуем,
каб чыстае неба
Над зямлёю заўсёды
бясхмарным было.
Але свет і дасюль
неразумны, стракаты,
Неаднойчы бывае

на грані бяды…
У цытатніках спрытна тасуюць цытаты,
Але робяць не тое,
вядуць не туды.
Толькі мы не пахісніся
ў праўдзе і ў веры,
Толькі мы памятаем
святы запавет
І жывём,
каб адкрыць у наступнае дзверы,
Каб нашчадкі убачылі
Ленінскі свет.
Уладзімір Ільіч,
я да вас на прыём не прашуся:
Ваша слова
заўсёды у сэрцы гарыць.
Я з адроджанай вамі
калісьці нямой Беларусі,
Што сягоння умее з усёю зямлёй гаварыць.
Уладзімір Ільіч,
не хвалюйцеся. Мы на рабоце,
Мы за вамі ідзём і па подзвіг, і ў бой.
У глыбокім забоі і ў смелым палёце
Мы Радзіму заўсёды заслонім сабой.
*1980*

**НАЗАЎСЁДЫ**

*Памяці П. М. Машэрава*

Гінуць камуністы на пастах,
На трывожных сцежках, у палёце,
На сарваных крыгамі мастах,
Назаўжды няскончанай рабоце.
Каб сабою засланіць бяду,
Каб ніколі слабасцям не здацца,
Гінуць камуністы на хаду,
Нават не паспеўшы развітацца.

Калі ты няшчасце адвядзеш
Па-над прорвай або ў полі чыстым,
Каб жылі другія, упадзеш,—
Назаўсёды станеш камуністам.
*1980*

**АЧЫШЧЭННЕ**

Перамаглі і тыфус, і разруху
На ўсіх кірунках і на ўсіх франтах,
Калі стаяла смерць за павітуху
Над намі у гарачцы і ў бінтах.

Разбілі Калчака, Махно, Пятлюру,
Знявечаныя ўваскрасалі зноў,
І волю здабылі, і дыктатуру,
Каб заснаваць аснову ўсіх асноў —

Дзяржаву неадольную, святую,
Што гартавала чыстую душу,
Што кожнае сумленне уратуе
Ад зайздрасці, нажывы, барышу,

Ад хабараў і ад пустога звону,
Ад кар'ерызму злечыць назаўжды,
Калі не столькі будзе фельетонаў,
І меней будуць засядаць суды.
*1979*

**ДОМА**

Сыходзіш, вёска, з яснай явы.
*Я. Купала*

У кляновую замець, у сіні прастор
Зноў паклікала восень на матчына поле,
Дзе палае ракіты празрысты касцёр
І чужая бяда азываецца болем.
Хоць уласнай тугі не пазбыцца ніяк:
Развітанні..,
адны развітанні.
Абшарпаны вятрамі
апошні вятрак
З перабітымі крыламі
змоўк на кургане
І пустымі вачніцамі ўдалеч глядзіць,
Дзе прыціхлі даўно
селікатныя вёскі,
Быццам некаму хоча і ён дагадзіць,
Каб падслухаць
жывых жураvоў адгалоскі.
Вось і сцежка праз поле
бяжыць і бяжыць,
Пратаптаная,
пэўна, дзядамі калісьці,
І каліна на колішняй колкай мяжы
Асыпае на поле пажоўклае лісце.
Я губамі лаўлю гаркаваты лісток
І прыгадваю ўсё,
што пакінуў і страціў —
Суравую аснову,
купальны уток
І вячэрнюю песню самотнае маці.
Каля нашае студні сланечнік сухі,
Пакляваны,
пабіты дажджом і вятрамі,
І буслянку на вільчыку шэрай страхі,
І начлежную ноч
над крутымі вірамі.
Гэта роднае ўсё і даўно не маё —
Незнаёмыя дзеці,
чужыя жанчыны,
Маляваныя хаты і засень гаёў,
І гаркавы лісток адзічэлай ляшчыны.
Тут усё забуяла ў асенняй красе:
Пасвятлела наўкол,
расцвіло, налілося.
Мне насустрач малая дзяўчынка нясе
І працягвае цяжкі вяночак з калосся.
Я бяру, і паціху з гарачай шчакі,
Хоць і яснае неба, сціраю дажджынку.
А за полем гудуць і гудуць бальшакі,
І кляновая замець .
спраўляе дажынкі.
Тут мой дом,

хоць ад дому і следу няма.
Забываюцца толькі кватэры, кватэры.
Зносіць вецер сухія лісты,
і зіма
Неўзабаве пастукае
ў нашыя дзверы.
*1979*

## ГАЛАСЫ НА ПАЛЕССІ

Над Пцiччу і Арэсай маладзік
Пасерабрыў лясы
і балаціны,
Глядзіць спакойна адзінокі дзік
З густое багны
і зялёнай ціны.
Заходзяцца ў чаромхах салаўі,
У жабурынні сажалкі самлелі,
Грымяць цецеруковыя баі,
Чырванапёркі грэюцца на мелі.
Плыве туман з балотнае вады
Па ельніках
і лозах кучаравых,
І свецяцца русалчыны сляды
На росных сцежках
і высокіх травах.
У крохкай таямнічай цішыні,
Па даўніх
партызанскіх папялішчах
Начамі загараюцца агні
І Салавей[1] умоўным свістам свішча.
— Ого-го-го! —
і навальнічны гром
Разгойдвае дубы у паднябессі,
І водгуллем
далёкі буралом
Дагэтуль не змаўкае на Палессі.
— Ого-го-го!
Вастрыце сахары,
Сталіце пешні, восці і сякеры!
Сягоння заначуем у бары,
А заўтра выб'ем у палацах дзверы!
Калоцяцца ад страху хутары,
Маёнткі і засценкі дробным лістам.
А заўтра паўцякаюць „спадары”,
Аглушаныя Салаўёвым свістам.
Яму крычаць сябры:
„Не салавей,
Хоць і прабіты шаблямі ў паходзе!»
І верны абавязку Салавей
Ужо з каня ніколі не сыходзіць,
Ён чуе на Палессі кожны гук,
Ён пазнае варожыя падковы.
Яму ідуць на змену сын і ўнук
У грозныя атрады Бумажкова.
Кабеты Рудабелкі
і Смугі
У вогнішчах галосяць
і галосяць..

---

[1] А. Салавей — арганізатар партызанскага pvxv па Палессі ў 1917—1920 гг.

Ды грымнулі па ворагах стагі,
Трывожны ельнік
і пустая восецьь.
— Ого-го-го! —
гукае Салавей.—
Вышэй трымайце буйныя галовы !
І выступаюць у паход смялей
Байцы Каржа
і Васіля Казлова.
...На золку патрывожыў цішыню
Маленькі жаўручок шчаслівым свістам,
Ідуць насустрач сонечнаму дню
І голасна гукаюць трактарысты.
Гудуць памаладзелыя лясы.
На сценках, дзеразою перавітых,
Прыслухайся — пачуеш галасы
Няскораных, забітых, незабытых.
*1980*

**ПРАБАЧЭННЕ**

Прабачце, калі вас пакрыўдзіў,
Сказаў не тое і не так,
Калі размовамі абрыдзеў,
Хоць я на іх і не мастак.

Прабачце за пагляд суровы,
За абыякавы ківок,
За неабдуманае слова,
Што вырвалася незнарок.

Бывае, што душа знямее,
І цемра перакрэсліць дзень,
Таму часамі не здалею
Пераступіць уласны цень.

Таму з дакорам не глядзіце,
Калі губляюся ў журбе,
І так сурова не судзіце:
Я пакараю сам сябе.
*1979*

**УСЁ АД МАЦІ**

Усё, што маю, ўсё ад маці —
Усмешка, першы боль да слёз,
І асцярожны крок па хаце,
І мой круты нялёгкі лёс.

Ад маці — першыя барозны
На абагуленай зямлі,
І вочы ясныя, як вёсны,
І на далонях мазалі.
Ад маці ўся мая навука,
А ўсё астатняе — пасля,
Ад маці — радасці і мука,
Бо маці — родная зямля.
*1979*

## ЖАР-ПТУШКА

Засну пад роўны шум дажджу,
Што елкі за акном загушкаў,
І ў хату ў поўнач упушчу
Даўно забытую жар-птушку,
Што разгадаць умела сны
І мне пра шчасце нагадала,
Што ад вясны і да вясны
Тры песні мудрыя складала.
Адною — адвяла бяду,
Калі грымелі непагоды,
Калі здавалася ўпаду
І правалюся назаўсёды.
Другою песняй павяла
Мяне за сінія туманы,
Дзе любая гняздо звіла,—
І вось дагэтуль закаханы.

А трэцяй песняю снягі
Ператварыліся ў калоссе,
Каб ні адчаю, ні тугі
На свеце больш не засталося.
Калі ж душу астудзіць злосць,
Ці немач возьме зноў на мушку,
Прыпомню я: заўсёды ёсць
У кожнага свая жар-птушка.
*1980*

## ДЗВЕ РАДАСЦІ

Твая усмешка мне, як падарункі,
Тваё прызнанне, як шчаслівы лёс.
Я на цябе гляджу цераз карункі,
Што сплёў на шыбах ранішні мароз.

Аднолькава шчаслівыя абое
Спяшаемся ў завейныя сады,
Дзе па крутых сумётах за табою
Не паспяваюць познія гады.

А мы ўцячэм ад іх у снежны вечар,
Каб замяла завея кожны след,
Няхай асыпле іней нашы плечы,
Як той далёкі яблыневы цвет.

Калі ж бяда падкосіць на паўкроку,
Хоць з ёю, можа, спраўлюся і сам,
А ты ужо спяшаешся здалёку,
Каб падзяліць пакуты папалам.

Як лёгка нам з табою ў лад ісці
З дрыгвы і багны на круты пагорак,
Бо радасць на дваіх — дзве радасці,
А гора на дваіх — паўгора.
*1980*

## УСПАМІНЫ… УСПАМІНЫ…

З гадамі мы ўсё меней марым,
А ўспамінаецца часцей
Туман з рабінавым пажарам,
Сустрэчы ці ад'езд гасцей,
Ці непрыкметныя драбніцы,
Якіх, магчыма, не было,
І ўсё часцей з гадамі сніцца
Вады празрыстае святло
І віратлівае разводдзе
Маёй далёкае вясны,
Калі да ганка па дарозе
Плылі, як лебедзі, чаўны.
Чаго не мроіцца начамі!
Куды ўспамін не завядзе!
Заплюшчу вочы — з касачамі
Насустрач любая ідзе.
Яе, нібы скульптуру, лепяць
Тугія сінія вятры,
Пад ветразямі белы лебедзь
Плыве, плыве з тае пары.
Бягу з каханаю сустрэцца.
Ды, як у тым нямым кіно,
Яна гаворыць і смяецца,
Але нічога не чутно.
*1979*

## КОЛЕРЫ ЖЫЦЦЯ

Я не бядую, бо жадзён
Да ясных і да змрочных дзён.
Люблю дажджы і лістапад,
Завеяны снягамі сад,
Сумёты, сцежку да двара
І на галінцы — снегіра.
Люблю ўсе колеры жыцця;
Калі ўсміхаецца дзіця,
Калі, як маладосці сны,
Даходзяць галасы вясны,
І пах вады, і крыгалом,
І вецер, зрэзаны крылом.
Люблю купальскія агні,
І знічкі след у вышыні.
Жыву, не трацячы надзей,
Бо верую ў дабро людзей.
*1979*

**МАЕ СЯБРЫ**

Няма ў мяне „славутых” і „вялікіх”
Сяброў, якім адну хвалу пяюць.
Сяброў не выбіраюць па разліку,
Што нешта могуць, значаць і даюць
(Вядома, не з уласнае кішэні).
Са мной здавён да гэтае пары
У час узлётаў і ў пару крушэнняў
Заўжды апошнім дзеляцца сябры.
*1979*

* * *

Вось ізноў не да сну.
Літасцівы мой лёсе,
Падары мне вясну
І даспелую восень,
Падары туманы
І агонь лістападу,
Беражы ад маны,
Ад паклёпу і здрады.
Добры лёс, падары
Крыгалом на прадвесні
І на золкай зары
Жураўліныя песні.
І яшчэ падары
Хоць малую уцеху —
У світальным бары
Перакатнае рэха.
Засланi ад бяды
І дарэмнай напасці,
Каб рады у гады
Не абходзіла шчасце.
Падары мне яшчэ
Завірушныя зімы
І усмешку вачэй
Дарагое Радзімы.
*1979*

**ВЫСОКАЕ ІМЯ**

Два яблыкі скаціліся на грудзі,
Кляновы ліст на таямніцы лёг,
Калі яна ачнулася, аб цудзе
Загаварылі і змяя і бог.
Акружаную райскімі садамі,
Разбуджаную спевам салаўя,
Салодкімі даспелымі пладамі
Хацела спакусіць яе змяя,

І заклінала — для спякотнай страсці
Бяздумна захмялець да забыцця,
Яна ж пакуты выбрала за шчасце
Дзеля пачатку новага жыцця.
Яе лічылі з веку ў век багіняй,
Налюбавацца ёю не маглі.
Пакуль яна жывая, не загіне
Усё, што засталося на зямлі.

Яна не верыць ні змяі, ні богу,

Яна — і літасць, і вышэйшы суд,
Бо па вяну ёй давялося многа
Спазнаць замест радасцей пакут —
Кахаць, і няньчыць, і нашчадкаў траціць,
Пад ношкамі згінацца удвая...
Сапраўдны цуд жанчына, але Маці —
Адзінае, вышэйшае імя.
*1980*

**МАЯ ПАСАДА**

Нікога я не турбаваў,
Бадай ад самае калыскі,
За „трон” ні з кім не ваяваў,
Ні за высокі, ні за нізкі.
Зірну ў мінулае і рады,
Што не было ў мяне пасады,
Што сам залежаў ад усіх —
Ад брыгадзіра і прараба,
І нават з'едлівая баба
Часамі лаяла услых,
Што за парогам ног не выцер,
Што данасіў да дзірак світэр,
Што чуб, як след, не прычашу
І недзе ўпотайкі грашу.
Так, я грашыў на адзіноце
У сшытым дратваю блакноце:
Агрызкам простага алоўка
Усё шукаў такое слоўка,
Каб ухапіла за душу
Таго, каму яго пішу.
Пісаў, пакуль не зморыць стома
За дзве гадзіны да пад'ёма.
На золку білі ў рэйку гулка,
Хоць спаць было занадта мулка
І не хацелася ўставаць —
Ісці грузіць і пілаваць.
Але канчаўся мой начлег,
Паўзлі па нізкім небе хмары,
Сляпілі вочы колкі снег
І белыя, як бельмы, фары.
Быў чорны снег, і шэры снег,
Блакітны і, нарэшце, белы.
Пакуль грузілі, дзень прабег,
Нарэзаў вецер твар змакрэлы,
Я быў здаволены усім,
Хоць кожны дзень хвасталі штормы
Суровых азіяцкіх зім,
Па тры выконваючы нормы
Па сцюжы, па вятрах, снягах,
Што білі ў спіны дрывасекам,
І ўсё ж трымаўся на нагах,
Хто заставаўся чалавекам...
Забілася ў бараку сэрца,
Відаць, дарэмна ноч не спаў —
Той верш, на тоненькай паперцы,
Нібы вясновы снег, прапаў.
Адзін прапаў, другі пішы,
Каб дакрануўся да душы,
Знаёмай, невядомай, блізкай,

Каб маці пела над калыскай,
Каб падтрымаў у час бяды,
Як хлеб, агонь, глыток вады,
Тады я толькі буду рады,
Што іншае не меў пасады.
*1979*

**РАЗУМЕННЕ**

Я ўпаду адразу, як ад кулі,
На паўкроку абарвецца след,
Моцна сцісну вусны, каб не чулі,
Як балюча пакідаць мне свет.
Свет маіх пакут і спадзяванняў,
Радасцей, якіх не прычакаў,
Свет чужых паружавелых ранняў,
Што і я калісьці сустракаў.
Упаду адразу, як ад кулі,
Вось і след снягамі замяло…
Год мінуў, а пра мяне не чулі,
Быццам і на свеце не было.
*1977*

* * *
У яго і сонца на заходзе,
Упаў на травы доўгі цень,
І непрыкметна адыходзіць
Яшчэ адзін нялёгкі дзень.
Ды застаюцца недаробкі,
Якіх ніколі не сцярплю.
Змаруся да апошняй кропкі,
А што не зроблена — зраблю:
Збяру адборныя зярняты,
Засею з краю ў край вясну,
Да поўначы заўжды запяты,
А ноч падыдзе — не засну.
*1980*

**ЗА МАГІСТРАЛЛЮ - МАГІСТРАЛЬ**

Я жыў у самых светлых марах
У дні дваццатае вясны,
Але канчаліся на нарах
Мае няспраўджаныя сны.

Штодня насіў кайло з лапатай
І груз нялёгкі на спіне,
Нястомнаю савой лупатай
Тайга глядзела на мяне.

Ляцеў пад ногі ліст апалы,
Шумелі хвоі і гулі,
А мы далей масцілі шпалы
І рэйкі некуды вялі.

Нас акрылялі летуценні,
І хоць смылелі сінякі,
Нам снілася, нібыта цені,
Плывуць па рэйках цягнікі.

І семафор гарэў зялёны
У той нялёгкі даўні час,
Ішлі блакітныя вагоны,
І ўсё без нас і не для нас.

А мы зацята клалі шпалы
У затуманеную даль —
За рэкі і за перавалы
За магістраллю — магістраль.

Калі і я па ёй праехаў,
Душой зрабіўся маладзей,
Але дасюль не змоўкла рэха
Тых летуценняў і надзей.
*1980*

**МЯСТЭЧКА**

Цвіце за аселіцай грэчка
У роснай лясной старане,
Далёкае наша мястэчка
Забыла даўно пра мяне.

А мне яно сніцца і сніцца
У пыле пясчаных дарог,
Апошні званар на званіцы,
Глухі і ссівелы, як бог.

Старыя замшэлыя дахі
Гарбарняў, хлявоў і адрын,
Сады і садкі каля шляху,
І хмельны салодкі язмін.

Да самай апошняе рыскі
Усё тут знаёмае мне:
Пад бэлькаю крук ад калыскі,
Шпакоўня на гулкім гумне.

Складаю далоні і клічу
Равеснікаў даўніх маіх,
І юныя бачу аблічча
Жывых і даўно нежывых.

Мяне не пазнаюць суседкі
Сягоння такога, як ёсць.
Таму запрашаю у сведкі
Забытую тут маладосць.

Успомню: рыпелі капоты,
Плылі пад чаромхай чаўны,
І месяц глядзеў на пяшчоты
Семнаццатай нашай вясны.

Маўчаць і схіляюць галовы
У рэдзенькіх пасмах сівых
Даўно адзінокія ўдовы
Сяброў незабыўных маіх.

У будні і ў гучныя святы

Схіляю і я галаву,
Нібы сапраўды вінаваты,
Што за аднагодкаў жыву.

Смыліць, як у сэрцы насечка,
Як самы шчымлівы радок:
Мястэчка, мястэчка, мястэчка,
Навек дарагі гарадок.
*1980*

**ДА ВЯСНЫ!**

Буслы адлятаюць у вырай.
Хто вернецца з іх, а хто не?
У слабага цяжкаю гірай
Павісне адчай на спіне.

Калі ж яго дужыя крылы
Падхопяць на зорных шляхах,
У шчасце і ўласныя сілы
Паверыць знясілены птах.

Буслы адлятаюць на зіму.
Знікаюць у небе сляды.
Магчыма, увесну за імі
І ты завітаеш сюды.
*1980*

**СІВЫЯ ГАЛУБЫ**

Па вуліцы крочу і крочу
Насустрач наступнаму дню,
Марознаю дыхаю ноччу
І прагна лаўлю цішыню.

Сняжынкі лажацца на плечы,
Цямнее акно за акном,
Чакаю з табою сустрэчы,
Шукаю у змроку твой дом.

Паціху настукаю ў дзверы,
Узбегшы на стромкі паверх,
Бо ў праўду жаночую веру,
А ты ў маю казку павер.

Няхай сабе звоніць, што позна
Гадзіннік стары на сцяне,
І з вуліцы вецер марозны
Праніжа цябе і мяне.

Прызнайся і ты, што чакала,
Ніколі душой не крыві,
Бо ўсё застаецца трывала
І ў лёсе, і ў гулкай крыві.

Працягнеш пяшчотныя рукі
Да вуснаў засмяглых маіх…
А раніцай звонкія гукі

Ад шчасця разбудзяць дваіх.

Ну што нас разводзіць і зводзіць,
Нібыта сівых галубоў?
...З гадамі каханне праходзіць,
Навек застаецца любоў.
*1980*

**ПАЎСТАНАК**

Таполі вецце звесілі на дах,
Цвітуць вяргіні і буяюць грады,
На тонкіх тэлеграфных правадах
Праводзяць ластаўкі нарады.

Грабуцца ў пыле куры пад акном,
А вераб'і разносяць плёткі,
Што з галагуцкім певуном
У крапіву пайшлі малодкі.

На санцапёку млее сонны сад,
А ў вузенькім пакоі нетаропкі
Старэнькі тэлеграфны апарат
Адстуквае працяжнікі і кропкі.

Таварнякі трывожна прагудуць,
З цыстэрнамі і штабелямі лесу,
Прамільгацяць і ў змроку прападуць
Вагоны міжнароднага экспрэсу.

Сігналяць да світання аганькі —
То запрашэнні, то перасцярогу:
Паўстанак выпраўляе цягнікі
Ў шчаслівую далёкую дарогу.
*1980*

**ФІНАЛ ЗАГАДКІ**

Жыццё было няроўнай і нягладкай
Сцяжынкай хваляванняў і прыгод,
Жыццё было таемнаю загадкай
У даўнія мае семнаццаць год.
Я спадзяваўся некалі на ўдачы,
Наступнае свяціла, як маяк,
Але жыццё паставіла задачы,
Што аднаму не вырашыць ніяк.

Неспадзявана множыліся страты,
І год ад году большалі яны,
Хоць кажуць, што ніхто не вінаваты,
Што быў я вінаваты без віны.

Развейваліся летуценні прахам,
Смылеў ад смагі і ад сцюжы рот,
Калі ж мінулі назаўсёды страхі,
Усё ў жыцці пайшло наадварот:

Мяне нарэшце радавалі ўдачы,

Хоць шкода і цяпер, што не паспеў
Зрабіць усё, і што не многа значыць
Запознены няроўны мой засеў.
З апошніх сіл раблю усё, што можна,
Каб у здабытках павузеў прагал.
Спяшаюся, а на душы трывожна,
Што бачу не пачатак, а фінал.
*1980*
* * *
Жыццё хвастала, мяла і круціла,
На жорнах церла, кідала у змрок.
Дзівіліся — адкуль бярэцца сіла,
Што не ўчарнелі ні душа, ні зрок.

Каб не счарсцвець і не сатлець ад гора,
Што выпала не кожнаму ў жыцці,
Наступнае мінуламу гаворыць:
„І не ўпівайся, лепей адпусці,

Бо не ўтрымаеш болей у палоне
Пакутных успамінаў і трызні.
Няхай гады, як спуджаныя коні,
Знікаюць у барвовай вышыні,

Каб зоры давідна не дагарэлі,
Каб не апёк халодны бляск ляза,
Каб сэрцы назаўсёды падабрэлі,
А шчасце павялічвала сляза”.

**СУСТРЭЧНЫЯ**

Куды ні глянеш — людзі, людзі,
І ў кожнага няпросты лёс:
Камусьці радасці прыбудзе,
А некаму не хопіць слёз.

Ідуць шчаслівыя абое
Да таямнічай навіны,
Захопленыя так сабою,
Нібы на цэлы свет адны.

Вось малады, ды пасівелы,
Не ходзіць, а, бадай, ляціць,
І ўсім то ўпарта, то нясмела
Заўжды стараецца свяціць —

Шукае, траціць, адкрывае
І вынаходзіць пакрысе,
Бо цвёрда верыць, што крывая
Яго над часам узнясе.

А ў запаволеным трамваі
Кляне жанчына лайдака
І моцна хлопчыка трымае
Яе худзенькая рука.

І не таму кляне, што кінуў,
Што збіўся з тропу, што зліняў,
Што не яе забыў, а сына

На маладзёнку прамяняў.

Душы счарнелай, быццам сажа,
Ужо нічым не дагадзіць...
А што ён потым сыну скажа
І як у вочы паглядзіць?!

А ў тэлефоне-аўтамаце
Аж іскраў сыплецца каскад:
Крычыць хлапец далёкай маці,
Што здаў выдатна дыямат.

З маленькіх радасцей і бедаў
Складаюцца і дзень, і ноч.
Хто зведаў боль, хто радасць зведаў,
Да поўначы не сплюшчыць воч.

У шуме, лязгаце і гудзе
Машын, трамваяў і бяроз,
Куды ні глянеш — людзі, людзі,
І ў кожнага няпросты лёс.
*1980*

**ТРАДЫЦЫІ**

Некаторыя сцвярджаюць, што звычай прапускаць жанчыну наперад пайшоў з першабытных часоў: жанчыну выпраўлялі разведаць невядомую пячору. Многія адтуль не вярталіся.
Некаторыя жанчыны, ведаючы гэта, адмаўляюцца ісці першымі.

Мой валасаты прашчур асцярожны,
Відаць, быў самы першы эгаіст!
Над прорвамі і кручамі трывожна
Дрыжаў ад страху, як апошні ліст.

Калі была наперадзе пячора,
Ёй першаю жанчыну пасылаў,
А гінула, не галасіў ад гора
І помстай да забойцаў не палаў,

Бо там раўлі ваўкі і леапарды
І ўсё жывое нішчылі датла.
Другая жонка, поўная пагарды,
Шукаць пячору новую ішла.

З тае пары такая завядзёнка
Трывала ўсталявалася ў людзей:
Дзе трэба і не трэба,
першай жонка
Упэўнена паперадзе ідзе.

Мужчыны лічаць добрым выхаваннем,
Што ад жанчын хоць трошкі адстаюць,
Што пры сустрэчы і пры развітанні
Дарогу ненадзейную даюць.
І я не адступаю ад традыцый:
Ад ветру, ад завеі, ад агню,
Ад бруду, ад знявагі, навальніцы
І ад бяды жанчыну засланю.
*1980*

## СВЯТАЯ ГРЭШНІЦА

Ты не тая
І не тое,
Чым лічыў
Цябе даўно,
Ты здавалася
Святою,
Як царкоўнае
Віно.
Вось і лесвіца
Крутая,
Можа, ў пекла,
Можа, ў рай.
Грэшніца мая
Святая,
Што захочаш,
Выбірай.
Ты адразу
Адказала:
— Я нястомная
Ў гульбе,
Аднаго мне раю
Мала,
Сумна ў пекле
Без цябе.
Памылюся —
Не заплачу,
Ты таксама
Не карай,
Калі ўбачыш,
Што я значу:
Я ні — і пекла,
Я — і рай!
*1979*

## АДНА

Жанчына з сіняком над вокам
Па выбаінах, па вадзе,
Людзей цураючыся, бокам
Бязмэтна некуды ідзе.

Адна, з нявыказаным горам,
З дрыготкай кропляй па губе,
Нясе нявыплаканы сорам
Не за сябе, не за сябе.

Абы не заўважалі сведкі,
І каб ніхто не спагадаў,
Яна сабе купляе кветкі,
Каб думалі, што любы даў.
*1976*

## РУЖОВЫ СНЕГ

Ружовы іней на бярозах,
А на душы — даўнейшы боль.
Ад слоў і выкладак цвярозых

Хоць трошкі адысці дазволь,
І ўсё забыць, што набалела,
Што прамінула у жыцці,
Пакуль ружовы снег і белы
Не перастаў яшчэ ісці.
Таму і хочацца забыцца
Пра ўсё, што снегам замяло.
Пра горкі боль, якога быццам
Не будзе больш і не было.
Пакуль наўкол усё іскрыцца,
Забыць чужы і ўласны грэх,
І зноў смяяцца і дзівіцца,
Як падае ружовы снег.

**НЯМІГА**

Іду па Нямізе.
                    Нямігі няма:
Глыбока ў бетоне булькоча рачулка.
Увесну яна не раскоціцца гулка,
Яе не зашкліць, не заснежыць зіма.

І зоры ў Нямізе сябе не пазнаюць,
Праз брук не праб'ецца чарот і аер,
Напіцца не прыйдзе спалоханы звер,
Ліні на глыбокіх вірах не зліняюць.

На дне іржавеюць тупыя мячы,
Пустыя шаломы, каляныя стрэлы:
Тут некага доля ліхая сустрэла,
А нехта адбіцца не змог і ўцячы.

Крывёю курыліся поймы Нямігі,
У прорву ляцелі чаўны і стругі,
Пякельны пажар папяліў берагі,
І толькі на свеце нятленныя кнігі,

Як вечныя сведкі пакутнай зямлі,
Расказваюць горкую праўду сурова,
Што брамы і замкі знікалі, а слова
Чужынцы навек спапяліць не змаглі.
...Іду па Нямізе адзін уначы
У замеці лютай, калючай і белай,
І чую, як свішчуць каляныя стрэлы,
І глуха грымяць аб кальчугі мячы.
*1980*

**ЗАВЕЯ**

Завея білася ў акно.
Яна і сёння ў шыбы б'ецца,
А ўсё, што страчана даўно,
Надоўга ў сэрцы застаецца.
Ішоў і днём, і ноччу снег,
У браму грукаў вецер гулка,
Зрываў блакітны пыл са стрэх
І гнаў па вузенькіх завулках.

Стаяў у хаце змрок густы,
Трымцела сэрца ў хваляванні,

Але была у змроку ты
І мне свяціла да світання.
Шумяць у зайсці сады.
Твайго ж даўно не чутна слова.
Гудзе завея, як тады
У глухіх завулках Магілёва.
*1981*

## ВЫРАЙ

За стратамі — новыя страты
Прыходзяць, і ўсё без пары,
І помнік з падвойнаю датай
Мае набываюць сябры.

Дасеюць за іх і давершаць
У час навальніцы стагі,
І толькі натхнёныя вершы
За іх не папіша другі.

Усю не зрабіўшы работу
У нашым нялёгкім жыцці,
За імі ўслед без звароту
У вырай і мы паляцім.
*1981*

## ГОСЦІ

У дзень жаданае сустрэчы
Усе масніčыны рыпяць,
Гудуць непаленыя печы
І ў доме ўсе даўно не спяць.

У інеі застылі пушчы,
На шыбах — студзеньскі узор.
Замоўклі бомы. Гэта ж Пушчын
Уехаў у сумётны двор.

Так нечакана, выпадкова!
Да клямкі прыстае далонь,
А каля ганка б'е падковай
Гарачы заінелы конь.

Наросхліст дзверы.
Вузкай сцежкай
Па наледзі, як востры пол;,
Паэт з арапскаю усмешкай
Бяжыць насустрач басанож.

Пасля бясконцае разлукі
І снегу Пушчын не атрос,
Схапіў таварыша на рукі
І, як дзіця, у дом панёс.

Трашчыць мароз у белым парку,
Камін гудзе ад жаркіх дроў,

Звіняць на развітанне чаркі
За Русь, Свабоду, за сяброў,
З якімі болей не сустрэцца...

Ды толькі ад тае пары
Заўсёды па загаду сэрца
Ідуць да Пушкіна сябры.
Тут і зімой спяваюць птушкі,
І ўсё часцей, усё часцей
На ганак выбягае Пушкін
Сустрэць здарожаных гасцей.
*1980*

**ІДЗЕ КУПАЛА ПА ЗЯМЛІ**

Белаю чаромхавай завеяй
Зноў пялёсткі бераг замялі,
Зноў у полі жыта палавее,
І Купала ходзіць па зямлі.

Ходзіць па снягах і на расе,
Заначуе ў полі або ў хаце —
Ён такую спадчыну нясе,
Што не можна ні забыць, ні страціць.
Зноў Купала ходзіць па зямлі —
Па Маскве, Казані і Палессі,
То ляціць у зорным караблі,
То шукае папарась на ўзлессі.

А над полем звоняць жаўрукі,
Б'юцца ў бераг сонечныя хвалі,
І плывуць у белы свет вянкі,
Што сплялі дзяўчаты па купалле.
Спадчына — адзіны запавет,
Спадчына — усіх асноў аснова,
І нясе цераз вякі паэт
Матчына няскоранае слова.

Арляняты крылы апяклі,
Да сузор'яў іх лятаюць дзеці.
І Купала ходзіць па зямлі,
Каб яшчэ святлей было па свеце.
*1979*

**ПОМНІК ЯНКУ КУПАЛУ Ў АРОЎ-ПАРКУ**

Ну, як вам там за акіянам?
Ці не забылі землякі,
Як дома некалі на Яна
Пускалі па рацэ вянкі,

Ці не забылі нашы песні
І луг у росным серабры?
А ўспомняць — маці уваскрэсне
З сярпом па жнівеньскай зары.

Вы ім пaціху раскажыце,
А хто там і куды ідзе,

Як перапёлка плача ў жыце,
Што птушанят няма ў гняздзе.

Што вам за акіянам сніцца,
Калі трывожна, з-пад рукі
Глядзяць, прыйшоўшы пакланіцца
Вам безрадзімцы-землякі?
*1981*

**ВЕЧНЫ ВУЧАНЬ**

Пераступіўшы ўзрост Купалы,
Я ўбачыў больш і зведаў больш.
І вось нясу да п'едэстала
Букеты, як уласны боль.

І зноў па памяці чытаю:
„Ад прадзедаў спакон вякоў”…
І тчэцца нітка залатая
Крывёй акропленых радкоў.

Як першы раз яны палоняць
І клічуць зноў у маладосць —
На здзірванелае улонне,
Дзе непрыкметны попел ёсць

Ад вогнішча з майго начлегу
Над кручаю лясной ракі,
Дзе ад разводдзя аж да снегу
Плывуць купальскія вянкі.

І я з „Жалейкаю” Купалы
Хадзіў услед за гусляром,
А ў сны трывожна прылятала
Жар-птушка з вогненным пяром.

З тае пары няма спакою
І шчасця лёгкага ў жыцці.
Як не шукаю — пад рукою
Пяра жар-птушкі не знайсці.

Я зведаў і пражыў нямала,
Ужо і мой рубеж відзён,
Л ўсё вучуся у Купалы
Ад першых да апошніх дзён.
*1980*

**СКАРБ**

Яшчэ саромеюцца маці,
Што ходзіць у андараку,
Бо ёй даводзілася траціць
Усё, што мела на вяку.

Губляла і чужых,
І блізкіх,
Бандар прыбраў усё датла,
І толькі слова ад калыскі
Да дамавіны берагла.

Яна не любіць гучнай славы,
Бо мае востры слых і зрок,
Бо не бывае неласкавых
І непрыгожых
мацярок.
*1980*

**ТАЛЕНТ**

Ён аддаваў усё да ніткі,
Дзяліў скарынку напалам,
Свае нялёгкія набыткі
Не спажываў ніколі сам.
Шаптаў зласлівец, што хітруе,
Што хоча славу заслужыць,
Што аддае драбніцу тую,
Якой самому не спажыць.
Паклёпаў ледзяшы расталі,
Бо ў свеце толькі праўда ёсць:
Тварыць дабро патрэбен талент,
Прыносіць гора — толькі злосць.
*1980*

**СІВІЗНА**

Як некалі ў далёкія часы,
У сына маці гладзіць валасы.
Прыгледзелася і сказала ўголас:
„Глядзі, сыночак, сівы волас".
Яна крадком слязінку выцірае
І думае: „Якая ж я старая!"
*1979*

**З МАТЧЫНАГА ЛІСТА**

Вось ты, сынок, вучоны і вялікі,
Свая сям'я, кватэра, „Жыгулі",
Усё бяжыш, і нават для прыліку
Да маці завітаць няма калі.
*1980*

* * *

Не сходжу я з крутых узгоркаў
На раскатаную лыжню,
Бо веру, што сустрэну зорку
І ў полі шчасце даганю.
*1980*

**КАРАЛІ**

У Каралішчавічах каралі
Заўзята рэзаліся ў карты
І прагулялі, прапілі
Свае маёнткі не на жарты.

Звялі на Свіслачы лясы,
Што — ні маліны, ні арэха,
І на жывыя галасы
Азвацца не здалела рэха.

Праз паўстагоддзя недзе тут,
У лесе, што даспеў за лета,
Знайшлі сабе утульны кут
І раманісты, і паэты.

Зрубілі ладны смольны дом
Непадалёку ад сталіцы,
І выдаюць за томам том
Яны на кніжныя паліцы.

Маланкі, свецяць уначы,
Ласі на росных сцежках блудзяць,
І так рагочуць пугачы,
Што класікаў часамі будзяць.

Вавёркі баюць казкі ім,
Спяваюць раніцай сініцы,
І каля возера кілім
Паслалі спелыя суніцы.

Тут сцежка ў кожнага свая,
Таму і не абыйдзем іх мы.
На гэтай — сыкае змяя,
На той — звіняць званочкам рыфмы.

Збіраюць з раніцы ў цішы
І раманісты і паэты
Нектар гаючы для душы,—
Актавы, оды і санеты.

Пад кожным дрэвам і кустом
Знаходзім лірыкі прыкметы,
Таму і любім гэты дом
Зімою, восенню і летам.

За пералескамі — палі,
І жыта сонцам налілося…
Што прагулялі каралі,
Нам назаўсёды дасталося.
*1980*

**ПУРПУРОВЫЯ ВЕТРАЗІ**

І пурпуровых ветразем узвівы
Трымалі курс у сонечнае заўтра.
*Ул. Дубоўка*

На прагных вуснах запяклася соль,
Палынным ветрам выбелены бровы,—
На беразе самотная Асоль
Усё чакае ветразь пурпуровы.

За хваляй хвалі і за днямі дні
Падточваюць і падмываюць бераг,
Але і ў змроку свецяцца агні,
Запаленыя неадольнай верай

У пурпуровы ветразь і дабро,
А ў сінім небе лёгкаю хмурынкай
Мільгае лебядзінае пяро

На кончыку з гарачаю крывінкай.

Яно ляціць над светлаю журбой
І над пучынай, чорнай і суровай,
Гайдаецца і кліча за сабой,
І... выплывае ветразь пурпуровы.

Да сэрца падступіў салодкі боль,
Салёным вуснам не прамовіць слова...
І сёння вечна юная Асоль
Свой сустракае ветразь пурпуровы.
*1980*

**ХАЛОДНЫ ЛІПЕНЬ**

Вось і ліпа зацвіла
У пару дакосін,
Але ўсё няма цяпла,
Ліпень, быццам восень:
То дажджы, то халады,
То сцюдзёны вецер
Хвошча пырскамі вады
І збівае вецце.

Гне дадолу каласы,
І чарот, і скрыпень,
Стогнуць спелыя лясы
У непагодны ліпень.

Адкаціліся вятры,
Сціхне дождж бясконцы.
Дачакаемся пары,
І засвеціць сонца!
*1980*

**НАРАДЖЭННЕ ПЕСНІ**

Яго забілі на світанні,
Як толькі сонца узышло.
Ні горкіх слёз, ні развітання,
Ні паніхіды не было.

Калі клубіўся ранак сіні,
На вусны белыя, як мел,
Зляталі з вецця апельсіны,
Што зрэзаў нечаканы стрэл.

Забойца думаў: не ўваскрэсне.
І замаўчаў навек паэт,
Але яго жывыя песні
Ускалыхнулі цэлы свет...

Дзе пра бяссмерце забываюць,
Дзе вольных песень не пяюць,
Там, дзе паэтаў забіваюць,
І маці родную заб'юць.
Смерць страціла свае правы:
Паэт пяе, паэт — жывы.
*1980*

## ТУРБОТЫ

Бывае проста і складана
Жыццё пражыць на скразняку,
У праўду верыць апантана,
І не застацца у баку

Ад бальшакоў і пераваласў,
У адзіноце і ўначы
Свае сумненні і правалы
Перахварэць, перамагчы,

Забыць пра крыўду і згрызоту,
Не пастарэць ад драбнаты,
Заўжды імкнуцца да налёту
І непадкупнай дабраты,

Не забываць, што быў Асвенцім,
Што раны ўсе не зажылі,
Глядзець на свет не праз акенца,
А жыць турботамі зямлі.
*1979*

## САМАКРЫТЫКА

Каму здаваць прыдзецца справы,
Што не паспею давяршыць
Не дзеля грошай, не для славы,
А без якіх мне не пражыць?

Каму прызнаюся, што марна
Прайшоў мой некароткі век,
Што і натхнёна і бяздарна
Жыў, як і кожны чалавек,

Што не зрабіў і палавіну
Таго, што мог зрабіць спаўна,
Што некаму даўгі пакінуў,—
Мая і не мая віна.

Ці ж вінаваты, што гадамі
Рабіў і гэтак і не так,
Што і тайгою, і садамі
За век нацешыўся усмак.

Што завіхаўся і спяшаўся
Усё закончыць у пару,
Хоць так падмайстрам і застаўся,
Падмайстрам, мабыць, і памру.

Ды спадзяюся напаследак
Закінуць вечнае пяро
І дзень у дзень, без лішніх сведак,
Тварыць дабро. Адно дабро.
*1980*

## АДЗІНАЯ

До боли
Нам ясен долгий путь...
*А. Блок*

Люблю цябе, адзіную да болю,
Люблю цябе з гадамі гарачэй,
З высокім небам, з дзічкамі у полі,
З пяшчотным сэрцам і агнём вачэй.

Люблю твае высокія узлёты,
Спакойную і цвёрдую хаду,
Вясёлы смех і горкія турботы,
Чужому непадсудныя суду.

Тваёй душы люблю размах вялікі,
Упартасць і спакойнае святло.
Не ўспамінаю даўнія пралікі,
Каб толькі іншых болей не было!

Заўжды шаную нораў твой ласкавы
І грозны ў час трывогі і бяды,
І цвёрда веру, што не маюць права
Цябе сагнуць нягоды і гады.

Мяне дабром і мудрасцю спакою
І сілаю сваёю наталі,
А прыйдзе вораг,— цвёрдаю рукою
Спыні, адкінь і сцежку спапялі!
*1979*

## ВОСЕНЬ

Сцяжынка збягае з пагорка,
Унізе шуміць лістапад.
І сумна, і крыўдна, і горка,
Што ўжо не вярнуцца назад

У звонкае шчодрае лета,
У водар даспелых суніц,
Дзе столькі яшчэ недапета,
Дзе столькі гуло навальніц.

Шкада, што назад не вярнуцца,
Што лета прайшло да пары,
Што вербы сівеюць і гнуцца,
Што сцежка збягае з гары.
І толькі адно засталося —
Прыпомніць усё, што было...
Сцяжынка збягае у восень:
Кароткае лета прайшло.
*1980*

## ЧЫТАЮЧЫ „НА ПОЛІ КУЛІКОВЫМ”

Мы як ёсць у стане ў поўнач сталі.
Коні нас дамоў не даімчаць.
За Няпрадвай лебедзі крычалі,
І яны ізноў крычаць...

*А. Блок*

Здавён над стэпам пасівелым
І на світанні, і ўначы
Крычаць лябёдкі, свішчуць стрэлы,
Звіняць булатныя мячы.

Б'е Перасвет і сам канае,
Каб на світанні ўскрэснуць зноў,
Каб орды цемніка Мамая
Не паднімалі бізуноў,

Каб адпалалі ў дзікім полі
Чужынцаў чадныя агні,
Каб вораг не ўрываўся болей
Ні пехатой, ні на кані...

У кашалях знайшоў падкову
Калісьці Перасветаў сын
І ўбачыў з поля Кулікова
Барадзіно, за ім — Берлін.
*1980*

## РУКІ

На вуліцах і ў цягніках,
На сцежках і завейных стромах
Не па абліччах,— па руках
Чытаю лёсы незнаёмых:

Ідзе высокі, хлопец спакваля
У моднай шапцы і ў дублёнцы,
А рукі? — рукі каваля
Нясуць мімозы з Камароўкі жонцы.

Вось у пярсцёнках спрытная рука
То прадае, а то купляе:
Да пальцаў, як да слімака,
Усё, што трэба, прыліпае.

Я ведаю, як у наркозным сне
Пяшчотныя далоні ў паняверцы
Вярнулі сілу і надзею мне
І ўратавалі зраненае сэрца.

Худая, учарнелая рука
Застыла ў здранцвенні на прыполе,
Прапахлая цуркамі малака
І залацістым пылам поля.

Я ўспамінаю сотні соцень рук,

На іншыя ніколі не падобных.
Па іх пазнаеш, хто сапраўдны друг,
А хто і ненадзейны, і падробны.
На тых руках святыя мазалі,
Што тройчы памяняліся за лета,
Што нас над спелым жытам паднялі
І над
с у с в е т а м.
*1980*

**У ГЛУСКУ**

А што мне тут трэба,
Спытаеце вы.
Бяздоннае неба
І водар травы,
За Прудкай і на Абалонні,
Як здані,
Ружовыя коні
У блакітным тумане.

Я тут не чужы,
Не староннi, не госць,
Шукаю на даўняй мяжы
Маладосць,
Здалёку гукаю,
Па следу іду.
Сяброў сустракаю,
Яе — не знайду.
*1980*

**СУМНЕННІ**

Яшчэ неастылыя вершы
Пакінуць ніяк не магу,
Пакуль іх душа не давершыць,
І гукі не ўсе зберагу.

Камусьці здадуцца пустымі
Яны, без заглыбленых слоў,
І можа, як голаву, здыме
Галоўны рэдактар ізноў.

Таму не магу разлучыцца
І ўсё дапісаць не магу.
Зімовая ноч праімчыцца,
А я застануся ў даўгу.
*1980*

**МАСТАК**

Шумяць асеннія дажджы,
Кляновы ліст ірдзее ў лужы,
Мастак у лубяным плашчы
Ідзе прамоклы і нядужы:

Ужо і скроні ў сівізне,
І ў сэрцы часам перабоі,
А ён і сёння не засне,

Не задаволены сабою,

Бо нешта робіцца не так,
І паўтараюцца няўдачы,
А ён, відаць, не той мастак,
Што вырашыць усе задачы.

Пасля на печ павесіць плашч,
Расставіць волкія эцюды
І ўжо не выстаўку няўдач,
А на хвіліну ўбачыць цуды.

За хатай змоўкне лістабой,
Зноў затуманяцца надзеі,
Бо ў нездаволеных сабой
Душа заўсёды маладзее.
*1980*

* * *

*Я. Скрыгану*

Мой лепшы друг на рубяжы пакут
Ляжыць распяты, як на мінным полі,
Маланкі б'юць з кута у кут
І крэсляць стрэлы па счарнелай столі.

Перапаўзці наперад ці назад
І на паўцалі
не хапае сілы:
Засмяглі вусны, б'е гарачы град,
А ў сэрцы тлее прысак неастылы.

Мне на світанні і ўначы
Пакута раны раз'ядае соллю,
Што не магу нічым дапамагчы
І на сябе прыпяць часцінку болю.
*1979*

**СУСТРЭЧЫ**

*Заіру Азгуру*

Не адкладай сустрэчы на пасля —
На красавік, на ліпень ці на студзень:
Ты ж бачыш, як спяшаецца зямля,
Што гэтай стрэчы, можа, і не будзе.

Прыходзь. Не бойся сцюжы і слаты,
Прыходзь, як мы хадзілі ў маладосці,
Па кладачцы, калі парве масты,
Або з сяброў недастае кагосьці.

Калі ў нас тэлефонаў не было
І тэлефонных кніг на этажэрцы,
Прыносілі ўначы і ўдзень святло
Прамыя правады ад сэрца к сэрцу.

Іду табе насустрач спакваля:
Не знаю — рады будзеш ці не рады,
Але сустрэч і шчырае спагады
Не адкладай ніколі на пасля.
*1980*

## НЕЗВАРОТНАЕ

Мяне апаноўвалі страты і страты,
Я з гора выскакваў, нібыта з агню,—
Не меў ні скарынкі, ні світкі, ні хаты,
І толькі не траціў сяброў і радню.

Я хату зрубіў на старым папялішчы,
Насеяў ільну і наткаў палатна,
У новенькай світцы хадзіў на ігрышчы
І разам з усімі гуляў давідна.

Разжыўся на ўсё, і аб стратах не плачу,
Ні разу не ўспомніў старую бяду,
А, страціўшы друга, сябе вінавачу,
Што болей такога нідзе не знайду.
*1980*

## КАЛЯ ВОГНІШЧА

*Памяці Аркадзя Куляшова*

Мне сняцца тваe непрапетыя песні,
І вербы над Бесяддзю ў ціхай журбе,
Самотная ў ветраным полі Алеся
Шукае, чакае і кліча цябе.

Цябе ж не даклікацца з дальняй дарогі,
З яе не вярнуцца нікому назад,
На ростані, на курганы і аблогі,
У твой лістабоем завеяны сад.
Зажурыцца восень журбой жураўлінай,
Заплачуць дажджы, загалосіць зіма
Над шляхам Варшаўскім, над горкай калінай,
Дзе вогнішча згасла і прыску няма.

Калі нечакана скацілася знічка
У вечную цемрадзь, у холад ільдзін,
Слязьмі захлынулася ў полі крынічка,
І толькі ўжо ты не заплачаш адзін.

Другія паплачуць, збяруцца другія,
Запаляць агонь ля Варшаўскай шашы.
У золкія ранні і ў ночы глухія
Ім свеціць святло непагаснай душы.
*1978*

## БРОЎКАВА СЛОВА

Броўкава слова толькі краніце —
Запахне чаборам, зазвоніць крыніцай,
Сэрца атуліць крылом галубіным,
Сокам нальецца даспелай рабіны.

Броўкава слова водгуллем гулкім
Коціцца з ціхай вушацкай рачулкі,
Хвоей гамоніць, праменнем снуецца
І назаўсёды ў душы астаецца.
*1980*

## АЛЬТРУІЗМ

Каб эгаізму не было і следу,
Каб добра ўсе жылі да аднаго,
Чаргу за шчасцем саступі суседу,
А ў непагоду заслані яго.

Калі ў дваіх хапае дабраты,
Шчаслівым будзе ён і ты.
*1980*

## СПАДЧЫНА

*Памяці паэта-маладнякоўца*
*Янкі Бобрыца*

Забіла сыпкімі снягамі
Сцяжынкі ўсе і бальшакі,
Вятры сухімі трыснягамі
Шумяць, шумяць каля ракі.

У полі ветрана і гола,
Звіняць ільдзінкі на страсе,
А я чакаю балагола,
Што госця з Менску прывязе.

Пад вечар зарыпелі санкі,
Прысталі коні ля двара,
І вось ужо ў абдымках Янкі
Смяюцца маці і сястра.

І да мае шчакі прыпала
Яго калючая шчака.
Прывёз ён «Спадчыну» Купалы
І кніжачкі «Маладняка».

А ноччу доўгай і завейнай
Госць, не прыткнуўшы галавы,
Пры бляску лямпы трохлінейнай
Чытае байкі Крапівы.

І хата поўная рагоча
Ад „Бібліі” і ад „Асця”,
Бо ўсе суседзі да паўночы —
У Янкі Бобрыка ў гасцях.

А як разыдуцца, я зноўку,
Хоць класціся даўно пара,
Дапытваюся пра Дубоўку,
Пра Пушчу і пра Дудара:

Хацелася пра ўсё дазнацца
І ўласную адкрыць душу,
Але ніяк не мог прызнацца,
Што сам употайкі пішу.

Яму, празрыстаму ў блакадзе,
Прыходзіў родны дом у сны…
Застаўся ён у Ленінградзе,

І… пахаваны без труны.

Я зразумеў у час вячэрні,
Што ён, бядзе сваёй назло,
Мне перадаў жывое зерне,
Каб хоць сцяблінкай прарасло.
*1980*

## МАЎЧАННЕ

*Памяці Алеся Пальчэўскага*

Не асядае даўняя смуга,
Яшчэ не ўсе зязюлі адкувалі,
За гэты час там вырасла тайга,
Дзе мы з табой сваё адпілавалі.

Не адкаціўся навальнічны гром
Над краем і ласкавым, і суровым,
Дзе ты дзяліўся шорсткім сухаром
І саграваў душу гарачым словам.

Дзе ты масты і грэблі будаваў,
Стаўляў бяздомным і дамы, і хаты,
І шчодра беззваротна аддаваў
Усё, што меў, і быў таму багаты.

Ты ісціну адзіную спасціг,—
Бяду і радасць піў па поўнай мерцы,
Таму ніколі на старонках кніг
Тваё не змоўкне трапяткое сэрца.

Зашкліла вокны лютая зіма…
Дзе ты цяпер і днюеш і начуеш?
Званю табе. Адказу ўсё няма.
Гукаю… Ты мяне не чуеш.
*1980*

## СЭРЦА ПАЭТА

*Памяці Анатоля Сербантовіча*

Яно баліць часцей за ўсё на свеце,
Пакутуе ад нечае бяды,
Яно гарыць, яно здалёку свеціць
Другому сэрцу ў змрок і ў халады.

Яно само спраўляецца з адчаем,
А змоўкне,— апануе небыццё:
А мы адзін другому скарачаем
І без таго кароткае жыццё.

Тут вінаваты сам не азавецца
І не паверыць у сваю віну,
А што ў другога сэрца разарвецца,
Сустрэне, як старую навіну.
*1980*

## ГАЛАСЫ НЕЗАБЫЎНЫХ

Плыве пласцінка да глыбокай ночы,
Як у даўнейшыя часы,

Хвалююць, радуюць, прарочаць
Паэтаў незабыўных галасы.
Пяшчотны бас, знаёмы ўсёй планеце,
Накочваецца, як дзевяты вал,
І маяком у навальніцу свеціць,
То б'е суровым словам напавал.

...Нібыта Зорны Воз у непагоду,
Высокі пафас у зеніце згас,
Бо не хапіла лёгкім кіслароду,
І думу не дадумаў Апанас.

Усхваляваны голас, глухаваты,
Змяняе звонкі срэбраны ручай,—
Калі ў шчымлівай лірыкі раскаты
Ўрываюцца трывога і адчай.

І раптам чую: пакацілі выдмы
Гарачыя туркменскія вятры,—
Як цеціва, напружаныя рытмы
Разгойдваюць і душу, і муры.

Плыве Сатурнам чорны круг паволі.
Заплюшчу вочы. Лямпу патушу
І слухаю нябожчыкаў.
Да болю
Паэты развярэдзілі душу.
*1980*

**КУМІР**

Жыў колісь вытанчаны лірык,
Яго шчымлівыя радкі
Гучалі, як узнёслы вырак,
Як пульс заўсёды трапяткі.

Здавалася, што на Пегасе —
Крылатым казачным кані —
Ён не цяпер, а ў іншым часе
Імчыцца ў зорнай вышыні.

Зачараваная паэтам
Дзяўчына ў гэты гарадок
Прыехала спякотным летам
Яго пабачыць, хоць здалёк.

Яна хадзіла каля дому,
Шукала ледзь прыкметны след.
Тут фехтавальшчык жыў вядомы,
І не вядома — дзе паэт.

Нарэшце ўбачыла. На мосце
Ішоў яе жывы кумір
І нёс дадому у авосьцы
Алей, батоны і кефір.
*1980*

**І ПЕРШЫ І АПОШНІ...**

Надыдзе чорная, як сажа,
Ноч непазбежная мая,
І „добры дзень” ніхто не скажа,
А скажа — не начую я.

І па званкі па тэлефоне
Нікому ўжо не адкажу,
Як нетутэйшы, як староннi,
Пераступлю цераз мяжу,

І не паспею апраўдацца,
Пакаяцца ў сваіх грахах,
Шапну „даруй”, а можа здацца,
Што адымае мову страх.

Не, ўсе трывогі адбалелі
За столькі лётаў, столькі зім,
Што стала ад завеяў бела,
І ў сэрцы холадна маім.

Жыццё прабегла нечакана,
У вечнасць канулі гады,
І шэрым інеем заткана
Мая заранка назаўжды.

Я калісь да яе цягнуўся,
Пакуль не змогся, не прыстаў,
Ламаўся часам, ды не гнуўся,
Хоць зорку так і не дастаў.

Сябры, даруйце. Не дарэчы
Патурбаваць прыйдзецца вас,
Каб паднялі мяне на плечы
І першы, і апошні раз.
*1980*

**ГУКАЕ ЛЕТА**

З камандзіроўкамі паўсвета
Аб'ехаў я даўным-даўно,
Але дамоў гукае лета,
І восень стукае ў акно.

Паклікалі лясы Палесся
І вербы з ціхае Пцічы,
Дзе і цяпер у паднябессі
Плывуць гусіныя ключы.

Паклікалі густыя травы
І заінелыя лугі,
Дзе, як шаломы вечнай славы,
Пасталі статныя стагі.

Адкіну клопаты і справы
І палячу ізноў туды,
Дзе на расе густой атавы

Яшчэ відны мае сляды,

Туды, дзе зведаў смак скарынкі,
Дзе гора з радасцю было,
Дзе вечарынкі і дажынкі
З сяла вадзілі у сяло.

Я помню лонданскае Сіці
І Елісейскія палі,
Але расказваць не прасіце,
Бо лепш няма маёй зямлі.
*1981*

**АБАРОНЦЫ**

Бяжыць унук за мячыкам, за сонцам,
І цішыня блакітная над ім.
А я баюся, каб пякельны стронцый
Усё жывое не спаліў на дым.

Бяжыць унук пад белыя аблокі
І забівае сам сабе галы,
І добра, што не бачыць, як здалёку
За ім цікуюць чорныя ствалы.
Яму спяваюць у гаях салоўкі,
А ён яшчэ не знае аднаго,
Што ўжо даўно усе боегалоўкі
Нацэлены на нас і на яго.

Што ж ён зрабіў?
Каму ён замінае?
За што за ім такі забойчы гон?
Што мы гарым, што кожны з нас канае,
І днём і ноччу марыць Пентагон.
Штампуюць смерць ці д'яблы, ці вар'яты
Сляпое атамнай дзяржавы каралі.
Даўно пара, каб за муры і краты
Забойцаў і вар'ятаў адвялі.

Не бойся, ўнук. За мячыкам, за сонцам
Бяжы, бяжы у светлыя палі;
Ёсць у цябе заўсёды абаронцы —
Сумленныя народы ўсёй Зямлі.
*1980*

**ПАЗВАНІЦЕ...**

Цэлы тыдзень маўчыць тэлефон,
Нават сонца паблякла ў зеніце,
Адзінокі асыпаўся клён...
Пазваніце вы мне, пазваніце.
Замятае і двор, і балкон
Парудзелае мокрае лісце,
Л ў мяне ўсё маўчыць тэлефон,—
Пазваніце вы мне, пазваніце.
Дождж шуміць і шуміць па сцяне.
Адзіноту і сум разганіце,
І калі не забылі мяне,
Хоць апоўначы ўсё ж пазваніце.
1981

## НЯСТАЧЫ

Колькі б ні жыў чалавек,
Колькі б ні марыў,
Усё яму мала:
Радасцей мала
І мала дабра,
То сонца яму не стае,
То дажджоў і расы,
Пяшчотных світанняў,
І радасных дзён не хапае,
Водару жытняга поля,
І чыстай крынічнай вады,
Святла і спатканняў з каханымі мала,
Усяго, што яшчэ па зямлі засталося,— мала:
Высокай травы у рамонках і слёзках,
Кування зязюлі,
І шуму зялёнага мала,
Спякотных начэй таямнічых — замала,
А некаму хлеба заўжды не стае,
І смага скрывавіла вусны,
І розум мутнее ад гора,
А прагу жыцця і яму не адолець.
І толькі ужо на апошнім прыпынку
Чалавек разумець пачынае,
Як мала зрабіў,
І часта не так, як патрэбна:
Заўсёды збіраўся,
Усё адкладаў на пасля,
А на важнае часу заўжды не ставала.
На мітусню выстарчала,
На марныя спрэчкі — хапала,
А жыць для людзей, для зямлі,
Што яго ўзгадавала,
Ніяк не ўпраўляўся.
Збіраўся, збіраўся,
Усё адкладаў надалей,
І вось на апошнім прыпынку заўважыў,
Што больш не паспее нічога,

Таму ад бяссілля і гора заплакаў.
Цяпер пакідае другім
Недапітыя вёсны і вусны,
Захмызелае поле
І мёртвую рэчку,
Недапетыя песні і казкі,
Забытае слова,
Што некалі, можа, ўваскрэсне.
Пакутуе і дакарае сябе,
Што марна патрачаны сілы,
Каб цешыць сваё самалюбства,
Мільгаць на вярхах шумавіння,
А шчасця сапраўднай, натхнёнай работы
Ніколі амаль не было.
Усім аднаго не хапае —
ЖЫЦЦЯ.
Праходзіць яно непрыкметна,
І нават сляды
Часта змываюць дажджы і гады.
1981

## КАРОТКАЕ ЛЕТА

Усе мы аб вечнасці марым
На самым пачатку дарог,
А лёс нечаканым ударам
Ссякае і звальвае з ног.

Ні пропуска і ні білета
Нікому у вечнасць няма...
Такое кароткае лета!
Якая даўгая зіма!
1981

* *

Не трачу я падзей —
Шчырую па рабоце,
Жыву сярод людзей,
Памру у адзіноце.

Калі нябыт кране,
Забуду ўсе нястачы.
І вось тады па мне
Асенні доеждж заплача.

1979

## ЗАБЫТАЯ ДАРОГА

Прайшла ты, як прывід, калісьці
І сэрца кранула да слёз,
Дарогу завейвала лісце
Даспелых плакучых бяроз.

Прыпомніўся профіль твой тонкі
І лёгкі пушок на шчацэ,
Рабіны пастылыя гронкі
У вузкай гарачай руцэ.

А ты ж не кахала нікога,
Не слала лістоў і дэпеш...
Забылася тая дарога,
А ты ў маім сэрцы жывеш.
1981

## У ТВОРЧАЙ ЛАБАРАТОРЫІ

Прайшлі дажджы,
І ўдарыла цяпло,
Грыбы па пералесках
Падняліся,
А мне пайсці
Ўсё часу не было,
І пошукі
Адразу не ўдаліся.

Калі ж здалёк
Пачуў ласіны рык,
Я заспяшаўся у діброву
Першы.
І вось знайшоў
Адзіны баравік
І свежыя радкі
Для новых вершаў.
1980

## НЕСПАДЗЯВАНЫ СНЕГ

Сягоння выпаў першы снег.
Магчыма, заўтра ён растане.
Мне сцежку заяц перабег
І памахаў па развітанне.

А снег ідзе, ідзе, ідзе
І зацярушвае гасцінцы,
На цёмнай растае вадзе,
Гайдаецца па чараціпцы

І падае на скаты стрэх,
Завейвае сухія пожні,
Неспадзяваны першы снег,
А дзеля некага апошні.
1981

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Грымела, бліскала, гуло,
Ажно хісталіся званіцы.
Паўвека, мабыць, не было
Такой пякельнай навальніцы.

Ламала вецце па дубах,
Раўло над полем і пад садам,
Па шчоках секла, па губах,
І па спіне кантовым градам.

Ні затуліцца, ні ўцячы,
І не схавацца ў чыстым полі —
Маланкі свішчуць, як мячы,
І крышаць крохкія таполі.

Ды раптам сціхлі дождж і гром,
Вясёлка стала пад лугамі,
Сарваны круціцца паром
Паміж крутымі берагамі.

Прабіўся сонечны прамень,
Яшчэ барвовы і халодны,
А заўтра будзе ясны дзень
І падвячорак мой пагодны.
1981

* * *
Ляцяць лісты і павуціна,
Барвовы дагарае клён,
А мы з табою, Валянціна,
Усё чакаем лепшых дзён.

Ці дачакаемся? Хто скажа?
Ці ёсць надзея, ці няма?
Няўжо неспадзявана ляжа
На плечы лютая зіма.

А мы сцяжынку адшукаем,
Трывожныя забудзем сны,—
Перазімуем, прычакаем
З табой адлігі і вясны.
1981

**ТРАКТАТ ПРА ВЕРЛІБР**

Кажуць, верлібр незалежны і вольны,
Раскуты, як конь, на чатыры нагі,
Нібыта паводка, шырокі, павольны,
Ніяк не здалее ўвайсці ў берагі.

Не цокаюць звонка па бруку падковы:
Крылаты Пегас пазбіваў капыткі,
Без кропак плывуць беспамерныя словы,
Без косак зусім акаселі радкі.

Таму без ваганняў не модную выбраў,
А ўсім зразумелую песню,
як дар,
І добра, што сэрца не знае верлібраў,
А роўна адлічвае
кожны удар.
1980

**ПРОСЬБА**

Жыццё закончу,
быццам казку,
Хоць цяжка ў ёй канцы звязаць.
А некаму ж па абавязку
Прамову прыйдзецца сказаць.

Я не імкнуся аж да неба
Кароткай сцежкаю ўзысці,
Таму хваліць мяне не трэба,
Скажыце так, як —
пры жыцці.
1979

**ВЕЧНАСЦЬ**

А я ў сваё бяссмерце веру,
Я — вечны,
несмяротны, як і ты,
Пе падуладны пі агню, ні зверу,
Ні кулі, што саб’е за тры вярсты.

Я вечны, вечны, хоць і век кароткі,
Хоць ярок слабее і рука дрыжыць.
Калі сканаю, як і нашы продкі,
У дзецях і нашчадках буду жыць.

Мяне зямля цераз вякі народзіць,
Няхай і не такога, як спярша,
І будзе жыць заўсёды у народзе
Мая крывінка і мая душа.
1980

# ПАЭМЫ

## ПАМЯЦЬ

За ўсё жыццё я столькі слоў сказаў
І выслухаў, што іх ніхто не злічыць,
Што іх ніхто ніколі не запомніць,
Ды і ці трэба іх запамінаць?

Яны знікаюць, як у полі вецер,
І галасы змаўкаюць назаўсёды,
Што мне калісьці сэрца хвалявалі
І не давалі да зары заснуць.

У памяці жывуць сяброў аблічча:
На іх то боль, то радасць, то усмешка,
Святыя слёзы першага кахання,
Адкрыты рот, як у нямым кіно.

Я ў цёмныя ўглядаюся глыбіні
І хлопчыка маленькага гукаю...
У шарачку,
у лапціках лазовых,
У шапцы бацькавай і лотам, і зімой.

І я сябе пазнаць у ім спрабую,
Гляджу зусім староннім чалавекам,
Як ён у спёку баранue ляды,
Дужэе, і сталее, і расце,

Як ён ідзе мурожнымі лугамі,
Пад белымі аблокамі, з касою,
Як на узлессі спелыя суніцы
Губамі ловіць, лежачы ў траве.

Ён возіць з лесу дровы ў завіруху,
Правальваецца ў сыпкія сумёты,
Дрыжыць ад лютай сцюжы задубелы,
Аж слёзы прымярзаюць да шчакі.

А ўвечары гудзе агонь у печы,
Цвыркун тугу да раніцы пілуе,
Шуміць завея па замшэлых сценах
І вокны замятае да брывей.

Мігае кнот у трохлінейнай лямпе,
У цёплай хаце рошчынаю пахне,
Сухімі смалякамі, сырадоем
І снегам, што ў парозе растае.

Пяе паціху каля печы маці,
А чорны дзень ад прасніцы здаецца
То лесуном, то казачнікам-дзедам
З кудлатаю густою барадой.

Такім жыве у памяці дзяцінства.
Няхай такім яно і астаецца
Да самае апошняе хвіліны
І да апошняй кропкі у жыцці.

Ідзе хлапчук асеннімі шляхамі
У свет прасторны і адкрыты насцеж.
Што ён здабудзе, што ён можа страціць
Каго сустрэне? Хто пакажа шлях?

Ніхто ж не чуў, што ён жыве на свеце,
Ніхто ж яго у госці не чакае,
Ніхто яго ў кватэру не запросіць,
А ён усё ж ідзе у белы свет.

Бо ўсюды ёсць прытулак чалавеку,
У сэрцы, за сталом і пад страхою,
І хлеб, і соль спрадвеку дзеляць людзі
З далёкімі і з блізкімі людзьмі…

Ляцяць лісты па вуліцах Бабруйска,
Галосіць сівер у пустых завулках,
А я ізноў іду на біржу працы
І станаўлюся ў доўгую чаргу.

Яшчэ апошні ў горадзе рамізнік
Па сумяшчэнні, мабыць, вечарамі
Пілсудскага і Чэмберлена лае
І прадае газету «Камуніст».

Дзяўчаты у юнгштурмаўках і ў ботах,
У паркалёвых хустачках чырвоных
Бягуць па сход, на дыспут ці па вечар,
І я за імі назіркам іду.

Ды нечакана сэрца засмылела
Па роднай хаце, па асеннім полі
З гусінымі чародамі ў тумане,
І з развітальным крыкам журавоў.

Падумалася з болем і надзеяй:
Адны ляцяць, другія астаюцца
І вышыню ніколі не пабачаць,
Не заляцяць за дальні небасхіл.

А мне тады здаваўся вышынёю
Зашклёны дах у беладрэўным цэху,
Пракошаны густым сталярным клеем,
Прапахлы пілавіннем і смалой.

Я не шукаў тут лёгкае работы…
З жалезнаю аднапалоснай тачкай
Мы абагнулі тры разы экватар,—
Так і не выйшлі з цэхавых варот.

Мы цэлы лес за зіму перавезлі,
Набраклы шкіпінарам і жывіцай,
З чырвонымі празрыстымі сучкамі
І меткамі гарачае пілы.

Нам не ігралі урачыстых маршаў,
Не выдавалі медалёў і прэмій.
Ніхто пра іх не ведаў і не думаў,
Ніхто сябе героем не лічыў.

Цяпер бы я бязвусым і бясслёзным
Хлапцам халоднай першай пяцігодкі,
Дзяўчатам у дзіравых целагрэйках
Паставіў бы найлепшы манумент.

Адны даўно спраўляюць юбілеі,
Другіх скасіла смерць пад Ленінградам,
Пад Мінскам, пад Варшаваю, Берлінам,
А нехта не вярнуўся з Калымы.

Але жывуць у памяці заўсёды
Вясёлыя, гарачыя, худыя
Рамантыкі, паэты, аптымісты —
Далёкія равеснікі мае.

Я клічу вас, я запрашаю ў госці —
Прыходзьце да мяне хоць кожны вечар,
Хай будзе цесна, дымна, як калісьці,—
Нам з вамі ёсць пра што пагаварыць.

Вы, мабыць, не паверыце адразу,
Што мы кіруем электронным мозгам,
Што з Марса далятаюць пазыўныя,
А касманаўты — нашы землякі,

Што каля Мінска — атамны рэактар,
Што б’ецца сэрца ў руках хірурга,
Што без пасадкі рэактыўны лайнер
Пералятае з лета у зіму.

Вы чуеце, як на далёкай Кубе
Чытаюць па складах: «Масква» і «Ленін»,
Як па зямлі на ўсіх вядомых мовах
Даўно пяюць «Інтэрнацыянал»?

Вы чуеце?
А мне паверыць цяжка,
Што вас няма, сябры, сягоння з намі,
Што вы даўно замоўклі назаўсёды,
Што кожны толькі ў памяці жыве.

Здаецца мне, што бачу вашы спіны,
Прысыпаныя першым колкім снегам,
Што вы са мной бяжыце па работу
І нават не наспелі пасівець...

Мы ведаем, што замянілі паўшых
На маршы, за канвеерам і ў полі,
А чым заменіш трапяткія сэрцы,
Што так любілі сонца і зямлю?

А чым заменіш неспакойны розум,
Што біўся да апошняе хвіліны,
Што ўрэзваўся ў глухую невядомасць,
Што мог бы пеадкрытае адкрыць,

Што мог знайсці гаючую вакцыну
Ад страшнай неадольнае хваробы,
Што растапіў бы лёд у Запаляр'і,
Каб красавала і цвіла зямля?

А колькі фізікаў, паэтаў, астраномаў,
Няўрымслівых, лабастых, непакорных,
Сказаць галоўнай праўды не паспела.
І гэта ўсё — равеснікі мае.

Яны не прыйдуць болей па спатканне,
Нічога не здабудуць, не адкрыюць,
І толькі маці доўгімі начамі
Ім калыханкі ў страшных снах пяюць.

То засланяюць іх ад навальніцы,
То ў дальнюю дарогу выпраўляюць,
Чакаюць і не могуць дачакацца
І ўсё глядзяць на захад і на ўсход.

І берагуць лісты і пахаронкі,
І кажуць: «Гэта ўсё, што асталося
Ад самых дарагіх і самых кроўных,
Якім з вайны дадому не дайсці».

Не!
Асталася вольная Радзіма,
Зямля бацькоў і ленінская праўда,
Што стала вечным компасам сумлення,
Што ў строй вярнула мёртвых і жывых.

Не!
Асталася дабрата людская,
Любоў і дружба, ласка і спагада.
І першыя сустрэчы, і каханне

Тых, што прыйшлі у свет пасля вайны.

Яны бягуць з ракеткамі на корты,
Гуляюць у футбол і пішуць вершы,
Даследуюць нейтроны і пратоны
І прагна ў неба зорнае глядзяць.
А падрастуць, паходзяць з мазалямі,—
І поруч з намі стане пакаленне
Няўрымслівых, трывалых, неспакойных,
За ўсё адказных на зямлі людзей.

Я уяўляю змену пакаленняў
Жывою шматступеннаю ракетай:
Яшчэ адна ступень у поўнай сіле —
Наступная ўключаецца ступень
І працінае новыя вышыні,
Адвечныя знаходзіць таямніцы,
Што не паспела наша пакаленне,
Паспеюць дзеці нашыя адкрыць.

Яны, упартыя, цыбатыя, худыя,
Заўзятыя плыўцы і футбалісты —
Курчатавы, Гагарыны, Купалы
Спяшаюцца у дваццаць першы век.

Я ім зайздрошчу, і заўжды здаецца,
Што зноў іду з равеснікамі побач,
Вясёлымі і вечна маладымі,
І сам на дваццаць год памаладзеў.
1963

## ТРЫ ВЫМЯРЭННІ

Апоўначы, калі сціхае горад
І тухнуць вокны у суседнім доме,
Шумяць па шыбах лёгкія сняжынкі,
І гімн яшчэ ў прыёмніку гучыць,

Дачка дамоў прыходзіць з інстытута,
Прыносіць коцікі і весела жартуе,
Што пахне снег вясноваю вадою,
А снегам пахне ранняя вясна.

Яна прыносіць тоўстыя канспекты,
Тугія скруткі ватманскай паперы,
Бярэ лагарыфмічную лінейку
І, мабыць, да світання не засне.

А на стале — часопіс «Юный техник»
І карта нашай сонечнай сістэмы,
Цвічкі, стамескі, лобзікі, свярдзёлкі
І сынаў папяровы самалёт.

Пра што сягоння мараць нашы дзеці?
Іх вабяць электроніка і космас,
У іх свае сусветныя трывогі,
Якія нам ніяк не зразумець.

А каб зірнуць на іх гадоў праз дваццаць,
Дазнацца, што яны зрабіць паспелі,
Куды праклалі новыя дарогі,

Ці не зблудзілі на крутых шляхах,

Узяць білеты па касмічны лайнер
І паляцець на Месяц ці Венеру...
Фантастыка? А колькі год мінула,
Як першы спадарожнік стартаваў?

І тут я ўспомніў пра сваё дзяцінства
Пад прэлаю саломеннай страхою,
З шаптухамі, папамі, знахарамі
І з дымным самаробным каганцом.

Здаецца гэта мне былым стагоддзем.
Магчыма, нешта каляндар наблытаў:
Калі лічыць па зробленай рабоце,—
Прайшло не пяцьдзесят, а дзвесце год.

Я азіраюся і думаю заўсёды:
А што было б, каб не радзіўся Ленін,
Каб у Кастрычніку не грымнула паўстанне
І не ўвайшла «Аўрора» у Няву?

Сядзеў бы я і сёння ў курнай хаце,
Тачыў бы верацёны пры лучыне,
Насіў бы лапці, зрэбныя кашулі
І вечным бы нядоімшчыкам быў,

Баяўся б старасты, урадніка і бога,
На самалёт глядзеў бы, як на дзіва,
Насіў бы крыж на спрацаванай шыі,
Як цяжкае і мулкае ярмо.

А белы свет канчаўся б за узгоркам,
І толькі б не канчаліся нястачы,
І толькі б крыўды, гора і знявагі
І ў спадчыну б унукам перадаў.

Не ведаў бы ні Пушкіна, ні Гётэ,
Не бачыў бы палотнаў Рафаэля,
Застаўся б невядомым Цыялкоўскі,
А Маякоўскі кайданы б насіў.

Галоўнага канструктара не мелі б,
Не сустракалі б нашых касманаўтаў,
Не рыхтавалі б новых да палётаў,
Бо іх у нас, напэўна б, не было.

Калі б не рэвалюцыя, не Ленін,
Калі б не камсамольскія пуцёўкі,
Не светлыя чытальні інстытутаў,
Нам бы сваіх каханых не сустрэць.

Усё жыццё тады пайшло б іначай:
Былі б у нас цяпер другія сем’і,
Другія дзеці і сябры другія,
А тых, што ёсць, ніколі б не было.

Руда рудзела б пад гарой Магнітнай,
Гула б тайга на берагах Амура,
Каля Старобіна ляжалі б сільвініты,

А на Палессі панаваў каўтун.

Вякамі людзі марылі пра шчасце,
Складалі казкі пра сваё збавенне,
Шукалі мужных волатаў, а потым
За імі ўслед на катаргу ішлі.

Павінен стаць быў Леніным Ульянаў,
Каб увабраць любоў і гнеў народа,
Паклікаць самых дужых і адважных
І навярнуць усёй планеты лёс.

Мы ўсе яго сучаснікі і сведкі,
Як ён жыццё і лёсы перайначыў.
І нашыя нашчадкі пазайздросцяць,
Што продкі іх пры Леніне жылі,

Што бачылі той самы дождж і хмары,
Якія бачыў Ленін над Масквою,
Чыталі тыя самыя газеты,
Што Ленін кожнай раніцай чытаў.

Той самы хлеб, цяжкі, шурпаты, глёўкі,
Што еў Ільіч і мы ў дзяцінстве елі,
І пакляліся Леніну жывому
Быць кожнай клятве вернымі заўжды.

Апошні раз мы не стрымалі слёзы
У студзені, калі гулі сірэны,
І сцюжа лютавала над зямлёю,
І ўпершыню пачулі — Маўзалей.

Мы за зіму прыкметна пасталелі,
Так, як у горы сіраты сталеюць,
І сталі вочы вострымі, сухімі,
А плечы і жужэй і трывалей.

Здавалася, што ленінская воля
І сіла перайшлі ў мільёны сэрцаў,
Што гэтай сілы, мужнасці і веры
І праўды гэтай хопіць на вякі.

Нам стала неабходна, як паветра,
Нялёгкая гарачая работа,
Бо сэнс жыцця і нашае бяссмерце
І шчасце пакаленняў толькі ў ёй.

Прымаюць нашы дзеці эстафету
Ад першых трактарыстаў і вучоных,
Ад сталявараў, дойлідаў, хірургаў,
Каб новым пакаленням перадаць.

Спрачаецца, працуе, марыць Ленін,
І кожны з нас, калі бывае цяжка,
К яму ідзе па мудрую параду,
Бо ён у нашых сэрцах і ў душы.

Ён выступае на Дваццатым з’ездзе,
Усе мы чуем ленінскую праўду,
Суровую, адкрытую, святую,

Што вучыць нас, вядзе і беражэ,

Што адкрывае нам такія далі,
Дае такую ўпэўненасць і сілу,
Такую мудрасць і такую волю,
Якая можа ўсё перамагчы.

То свеціцца блакітнымі агнямі,
Гартуе сталь, то праз сівую сцюжу
Вядзе цяжкія гулкія саставы
Энергія жывога Ільіча.

Мы Леніна маглі б і сёння бачыць
Не ў строгім мармуровым Маўзалеі,
А па трыбуне, на Чырвонай плошчы,
З заціснутаю кепкаю ў руцэ.

Ён мог бы жыць не толькі ў нашых сэрцах,
А і ў сваёй маленечкай кватэры,
Убачыць Брацка зорнае разводдзе
І слухаць бой курантаў у Крамлі.

А мы за гэты час прайсці паспелі б
Яшчэ далей, яшчэ вышэй узняцца,
Калі б хоць два ці тры дзесяцігоддзі
Ён з намі жыў і з намі працаваў.

Яшчэ ж яго паплечнікі працуюць
І выступаюць на партыйных з’ездах,
Любуюцца святочнаю Масквою.
Яшчэ яго равеснікі жывуць.

А што было б, каб Ленін жыў дагэтуль?
Былі б яго паплечнікі жывыя,
Пабудавалі б, што збудуем заўтра,
Зрабілі больш і страцілі б найменш.

Магчыма, што фашысцкая навала
Не падпаўзла б да нашага парога,
Л каб адважылася, каб паспрабавала,
Ніколі б не пусцілі на парог.

Салдаты, што загінулі пад Брэстам,
Былі б яшвыя, сеялі б, касілі б,
Заводы і плаціны будавалі б
І адпраўлялі ў космас караблі.

Слупкі дагэтуль невядомых формул,
Сімфоніі і оперы пісалі б,
Карціны і натхнёныя паэмы,
Якіх за іх ніхто не напісаў.

Мы іх напішам, мы за іх збудуем,
Бо кожны сёння за траіх працуе,
Бо кожны прагне ўсё зрабіць, што трэб
І нават немагчымае зрабіць.

Бо кожная цагліна, кожны колас,
Сагрэтыя шурпатымі рукамі
І клопатамі пра жыццё, пра шчасце,

Пра будучае наша — Камунізм.

Жыве заўсёды ў нашых сэрцах Ленін,
Што свет і нашы лёсы перайначыў,
Што нам адкрыў бязмежныя вышыні,
Што партыю з’яднаў, загартаваў.

Яна — наш розум, нашае сумленне,
І праўда непадкупная і вера,
Надзейны компас у цяжкой дарозе
І самы ясны, самы мудры зрок.

Мы ведаем, што паша пакаленне
Узнімецца на новыя вышыні,
Пад ленінскім непераможным сцягам
Услед за намі пойдзе цэлы свет.

Няхай растуць спакойна нашы дзеці,
Няхай рашаюць цяжкія задачы,
Няхай працуюць, думаюць і мараць
Пра новы дзень і пра наступны век.
1964

# ПАЭМА ДАРОГ

**Перад дарогай**

За навальніцамі — спакой і ціша,
За радасцямі — халадок трывог.
З нас кожны ўсё жыццё паэму піша
На скрыжаваннях сцежак і дарог.

Выводзіць першы свой радок нясмела,
Правалаў баючыся і няўдач.
А потым зразумее, пасівелы,
Што сам герой, сам аўтар і чытач,

Што час прыйшоў усё як след узваяшць
Што змог зрабіць, чаго яшчэ не змог...
І колькі заўтра перад намі ляжа

Няходжаных гасцінцаў і дарог.
Я ўсё часцей з канца ў канец гартаю
Сваю паэму сцежак і дарог.
А прыйдзе час — сумленна дачытаю
Адзіны непазбежны маналог.

**Першая дарога**

Над шляхам пыл:
Ні свету, ні прадухі,
Калюжыны засмяглі без вады.
Каторы дзень

Рыпяць вазы і дугі,
І едуць людзі немавед куды.

Па бальшаках,
Гасцінцах і дарогах,
Па жыце здратаваным,
Па мяжы…
Ідуць і едуць,
Просячы у бога:
— Заступнік, злітуйся,
— Збавіцель, памажы…

І дзень і ноч
Не астые дарога
Ад босых ног
І ад гаручых слёз —
Брыдуць у свет
Ад роднага парога
За следам след,
За возам воз.

Храпуць на грэблях
Змуляныя коні,
Набраклі латнікі,
Трашчаць гужы.
Згасае дзень,
І толькі у сутонні
Чарнеюць
Растанцовыя крыжы.

Гарыць паўнеба
Полымем пажараў,
За шызым дымам
Зоры не відны…
Рыпяць вазы,
Драбіны і мажары
Усё далей ад дому
І вайны.

На возе бабка,
Уздыхнуўшы ціха,
Плыве ў смяротны
Холад забыцця,
А побач курчыцца
І енчыць парадзіха
Перад пачаткам
Новага жыцця.

Магіла засталася пры дарозе,
Паплакаў дзед,
Мышасты конь захроп.
Л раніцаю
Хлопчыка па возе
Сяк-так перахрысціў
Расстрыга-поп.

У рызманах,
Нячэсаны і рыжы,
Лінуў з бляшанкі
Мутнае вады

І начапіў на шыю
Медны крыжык
Пакутніку
На доўгія гады.

Ссівелыя дачасна маладзіцы
У полі
Закалыхвалі мяне,
Бо собіла
Ў дарозе нарадзіцца '—
Па першай
Мікалаеўскай вайне.

Закураны
Дарожнымі кастрамі,
Да костачак пранізаны
Дажджом,
Запелянаны ў полі
Туманамі,
Стагнаў і плакаў
І пішчаў пішчом.

З тае пары мяне
Заўсёды вабяць
То сцежкі палявыя,
То шаша.
Ад параджэння
І да скону, мабыць,
Жыве ў душы
Цыганская душа.

**Дарога на ўсход**

Сцяжынкі ў полі, грэблі і развілкі,
Гасцінцы, скрыжаванні, бальшакі,
Па іх ідуць калекі і асілкі
У розныя кірункі і бакі.

І так заўсёды, з веку і да веку:
То спакваля, то спорнаю хадой
Імкнецца чалавек да чалавека
Часамі — з радасцю,
Часцей за ўсё — з бядой.

Калісь праклалі прадзедавы ногі
Сцяжынку паміж купін і звацца,
А следам развінуліся дарогі
Па свеце без пачатку і канца.

Бязлітасная бежанская доля
Вадзіла нас не першы год
Ад хаты к хаце, з ельніку у поле,
І ўсё далей, усё далей на ўсход.

Спрадвечная дарога ратавала
Ад смерці, ад няволі і бяды,
То лютая завея замятала,
То пыл заносіў нашыя сляды.

Тыфозныя трызнілі эшалоны,
Свісталі лёгкія ад газавых атак.

Рыпелі мыліцы, паблісквалі пагоны...
А можа, ўсё было не так?

Магчыма, трохі памяць вінавата...
Хоць бачу, як цяпер: асеннім днём
Вадзіў хлапчук аслеплага салдата
З адным пазелянелым медалём.

То ратнік, барадаты і бязногі,
Па бруку поўз і нема галасіў
І, зняўшы шапку, пасярод дарогі
Скарынку ці капеечку прасіў.

На ўсіх вакзалах — людзі, людзі, людзі,
І ў кожнага свая бяда і лёс.
Пад нарамі, у рызманах і ў брудзе,
Качаўся я і непрыкметна рос.

Назолай быў і клопатам для маці:
Віс на руках, услед за ёй снаваў,
То ў нейкім пакалечаным салдаце
Свайго часамі бацьку пазнаваў.

Расхлістаны бадзяўся па марозе
Мурзаты трохгадовы чалавек
І думаў, што жывуць усе ў дарозе
І што ваююць людзі з веку ў век.

А маці мыла нечую бялізну
За бульбіну, што цукру саладзей,
За глеўкую скарынку, за старызну
Падлогі вышароўвала ў людзей.

І ўсё часцей пра дом успамінала,
Не ведаючы, ёсць ён ці няма.
Мінула лета, восень дагарала,
Зашкліла лужы блізкая зіма,

Датлела сонца у аблоках шэрых,
На травах заблішчала сівізна,
І на глухім паўстанку Красны Бераг
Мой лёс перавярнула навіна.

Не ведаў я, каторае стагоддзе,
Не разумеў яшчэ, каторы год,
Але запомніў, як гуло ў народзе:
— ПЕРАВАРОТ!
— Пе-ра-ва-рот!

**Дарога вяртання**

Халодная вясна. На балаголе
Мы з бежанцаў вярталіся назад,
А па рагожнай будзе біла голле
Набраклых кацярынінскіх прысад.

У каляінах колы калыхалі,
Спыняўся конь ля кожнае вярсты.
Казала маці: «Тут мы пахавалі
Бабулю,

а вунь там радзіўся ты».

І пазнавала хутары і вёскі,
Карчомкі і заезджыя двары,
На цэрквы, на капліцы, на бярозкі
Хрысцілася, з’язджаючы з гары.

Вайсковец побач праімчаўся конна,
Схіліўшыся да самае лукі,
А па грудзях успыхваў бант чырвоны,
Паблісквалі то шаблі, то штыкі.

Пад капытамі мільгануў агеньчык
І пакаціўся па звільжэлы дол:
Чырвоны бант, сарваны ветрам з фрэнча,
Падняў з дарогі сівы балагол.

Атрос пясок і разгарнуў старанна,
Пашкадаваў, што бог не даў дачок.
— Тады табе пашанцавала, Ганна,
Вазьмі сабе на памяць каснічок.

Яго мне прышпіліла маці
Па шарачковы латаны халацік.
Здавалася, прыгрэў агеньчык грудзі,
І пасвятлела ў балагольскай будзе.

А ў шэрым небе радасна трубілі
Над голымі гаямі журавы.
— Ляцяць, ляцяць!
Глядзі, каб не забылі
Свае гаі, лясы і паплавы.

Набраклы беразняк свістаў і цінькаў,
Над рэчкай вербалозы расцвілі,
Задраўшы дзюбкі, веснавую сіньку
Шпакі з халоднай лужыны пілі.

Блішчаў раллёю касагор пакаты,
Над полем дралі глоткі крумкачы,
Па гразкай баразне ішоў араты
У зрэбніках, з вінтоўкай на плячы.

Чырвоны бант, аратага у полі
І конных камісараў ля дарог
Запомніў я, а што такое воля —
«Па маладосці» зразумець не мог.

Змяняліся арлы, мундзіры, канты,
Канфедэраткі, каскі, шышакі:
Па-рознаму гарлалі акупанты,
Аднолькава стагналі мужыкі.

Гарэлі гумны, хлеўчукі і хаты,
Тарпы пшаніцы тлелі тут і там,
А п’яныя капралы і салдаты
Бароды брылі шаблямі дзядам.

Пад шампаламі курчыліся спіны,
Жанкі стагналі, падаючы ніц.

На допыты і на пакуты ў гміну
Жандары гналі босых маладзіц.

Ксяндзы імшу і ў будні дзень спраўлялі,
Жалобай захлыналіся званы:
Лясы і пералескі абміналі
За тры вярсты падпанкі і паны.

Гулі, грымелі, гневаліся пушчы:
Тут суд вяршыў і вёў пакутам лік
Нябачны і няўлоўны, ды відушчы
Спагадлівы і грозны бальшавік.

Абходзячы салдат і афіцэраў,
Мы з раніцы стараліся ўцячы
У зараснікі спелага аеру,
У лазнякі на беразе Пцічы.

Галодныя, з кіямі і сукамі,
Гулялі мы ў вайну і ў партызан,
І ўсе хацелі быць бальшавікамі,
Каб толькі панасіць сапраўдны бант.

З чужых дарог прыходзілі пакуты:
Сыпняк, сіроцтва, голад і вайна…
Нас берагла, пасоленая крута,
Шырокая салдацкая спіна.

На ёй вінтоўка, латаная скатка,
Падпаліны ад куль і ад лаўжоў…
Так я ў маленстве, з самага пачатку,
Ўсю палітграмату на практыцы прайшоў.

**Дарога ў свет**

Выпрасталася стоптанае жыта,
Калоссе уставала з-пад калёс.
Здавалася, што тры жыцці пражыта,
Хоць і адзін яшчэ не склаўся лёс.

Мітынгавалі.
                    Камісар на ганку,
З бінтом на кучаравай галаве,
Накінуўшы пацёртую скуранку,
Паджары, у чырвоным галіфэ,

Рукою сек налева і направа
І ракатаў прастуджаным баском:
— Мы ўсім цяпер
     валодаць маем права! —
І грукаў аб парэнчы кулаком.

Чытаў адозвы і даваў парады
Вясёлы і бязлітасны Максім.
Царкоўны хор выкопваў па загаду:
«Хто быў нічым, той стане ўсім».

І сотні глотак песню падхапілі,
Спярша няўлад, як грымнулі яны,
Аж затрашчала вецце і бадылле

І загулі шчарбатыя званы.

Дзяды вяроўкай мералі папары,
Акапцавалі сто валок зямлі.
А ўвосень па загаду камісара
Нас мацяркі ў маёнтак прывялі.

Паўсотні мокрых ступакоў і пятак
Упершыню ступілі за парог,
Дзе быў яшчэ нязведаны пачатак
Адкрыццяў, захапленняў і трывог.

У белай зале пад халодным сонцам
Густога пылу плавалі слупы,
І яна першай прачытаў старонцы:
«Мы не рабы. Мы не рабы!»

Ляцела лісце над пажоўклым садам,
Два матылькі кружыліся ў акне.
Настаўніца нахмураным паглядам
З дакорам пазірала па мяне.

Маленькая, у сонечнай кароне
Аўсяных пераспелых валасоў,
І звонкі голас чуецца і сёння
З мільёна чутых мною галасоў:

То цвёрды, то ўсхвалёваны і ціхі,
Пераліваўся кроплямі расы —
І ажывалі слуцкія ткачыхі,
Што ткалі залатыя паясы;

То ў бубны дахаў снежны вецер біў,
То навальніца у прыпар грымела,
Трубач пад зыркім вогнішчам трубіў —
І ўсё было да болю зразумела.

З лемантара па «Родныя шляхі»
Мы перайшлі, аж сэрца засмылела.
Блішчалі на світанні лемяхі,
І ўсё было да болю зразумела.

Мы адкрывалі для сябе штодня
Дняпро і Волгу, і хрыбты Урала,
Дазналіся, што ёсць і ў нас радня —
І Скарына, і. Колас, і Купала.

А вечарам у апусцелым садзе
Дзе сцежкі выслаў лісцем ясакар,
Каля альтанкі абдымаў і гладзіў
Настаўніцу суровы камісар.

Насіў і песціў, цалаваў у вочы,
Пацёртаю скуранкай накрываў,
І шчасце і сабе, і ёй прарочыў
І Самай светлай зоркай называў.

З тае пары на вуліцы і ў школе
Я чырванеў і замаўкаў не ў час,
Калі дзяўчынка яблыкі ў прыполе

Прыносіла і частавала нас.

Крадком глядзеў на збітыя каленцы
І на іскрынкі, што ў вачах гарацъ,
А каля весніц гаварыў Алёнцы:
— Прыходзь пад дзічку падалкі збіраць.

Мы «Бандароўну» і «Курган» чыталі,
Навыперадкі бегалі з гары,
І на змярканні часта шкадавалі,
Што рана наступаюць вечары.

Я прызнаваўся беленькай дзяўчынцы,
Угледзеўшыся ў далеч з-пад рукі,
Што сняцца мне далёкія гасцінцы
І клічуць у дарогу цягнікі.

Што недзе за блакітнымі лясамі,
Вядомы толькі з кніжак і газет,
Гукае нас жывымі галасамі
Яшчэ не знаны і дзівосны свет.

**Свая дарога**

Гарачы камень, звалены у крушні,
Ад буйнай кроплі поту ці вады
Шыпіць, нібыта каменка у сушні,
Дзе хвошчуцца і вокхаюць дзяды.

Трашчыць жарства падсмажанаю грэчкай,
Сцякае пот па жалабку спіны,
Звініць кайло — усё глыбей насечка,
І лопаюцца з крэктам валуны.

Лабатыя, залізаныя ветрам,
Развальвае гарачае кайло,
Паблісквають на сонцы кіламетры
Гасцінца, што будуе ўсё сяло.

Дзяды, дзяўчаты, хлапчукі, кабеты,
Засмяглыя на сонцы і вятрах,
Прайшоўшы войны, беды і камбеды,
Упершыню сабе брукуюць шлях.

Над галавою неба пабялела,
Шуміць званцом губаты сухавей
І круціць пыл над шляхам спапялелым
І хустачкі збівае да брывей.

У маладзіц і ў тоненькіх дзяўчынак
Залубянелі кофты на плячах,
Але яшчэ не скора адпачынак
Засвеціцца усмешкаю ў вачах.

Я камень б'ю, а вечарам ад стомы
На голы груд, як сноп, валюся з ног,
Акраец пахне палыном і домам
І цёплым пылам палявых дарог.

На вогнішчы гудзе сухі ядловец,

Гарачай бульбай пахне за вярсту,
Схіліўшыся, чубаты камсамолец
Чытае нам уголас «Беднату».

Я пазіраю, як шугаюць іскры
І зорамі ўзыходзяць нада мной,
А полымя ужо датлела ў прыску
І стыне пад густою сівізной,

То круціцца гарачаю завеяй,
То нечакана рвецца угару…
Няўжо і я калісьці пасівею
І, як сухі ядловец, дагару?

Наіўныя дзіцячыя трывогі
Чыю не растрывожвалі душу?
Хоць верыў я, што сцежкі і дарогі
Выводзяць на шырокую шашу.

З нас кожны быў дзівак і летуценнік.
З нас кожны марыў пра шчаслівы лёс,
Які нам з неадольным захапленнем
Прарочыў камісар, былы матрос.

Скуранку абшарпаную напашкі
Накінуць ён увечары любіў.
Трыкутнік паліняпае цяльняшкі
Яго мандатам і дыпломам быў.

Пры вогнішчы па вытаптаным грудзе,
Худы і чорны, як залётны птах,
Даводзіў еп і біў сябе у грудзі,
Што ў нас адзіны і надзейны шлях.

Ён разам з намі сёрбаў заціруху,
Цягаў сухое голле на агонь,
У росным жыце перапёлку слухаў
І спаў, шчаку паклаўшы на далонь.

І я масціўся да яго скуранкі,
Туліўся да гарачае сліпы.
Пад зорпым небам з поўначы да ранку
Нам сніліся адны і тыя ж сны:

Даспелыя палі і сенажаці,
І па пагорку белае сяло —
Над вуліцамі і у кожнай хаце
Гарыць жывое цёплае святло.

У травы зоры падаюць начамі,
І вусны дакранаюцца шчакі,
Цікуюць пас бяссоннымі сычамі
Праз шчыліну прыцэла кулакі.

Ускокваў часам камісар спрасоння
І… накрываў дзяружкаю мяне,
І ціха клікаў: «Зося! Зося! Соня!»
А мне Алёнка бачылася ў сне.

Уранні вузлаватыя каменні

Крышыў Максім чугуннай булавой.
У ім былі вытокі і карэнні
Надзеі і адданасці маёй.

**Далёкая дарога**

Усе драбніцы ў тым далёкім годзе
Цяпер выразней бачу з вышыні
Другой паловы грознага стагоддзя,
Што траціць адчуванне цішыні,

Што, кожны лёс замешваючы крута,
Ні ласкай, ні бядой не абміне,
А даўнія юнацкія пакуты
Цяпер здаюцца шчасцем для мяне.

Якія там няўдачы або крыўды
У васемнаццаць неспакойных год?
Пакуты, што нічога не адкрыў ты,
Ці што Аленка позніцца на сход,

Што каля весніц слова не сказала,
І я прызнацца аніяк не змог...
Усё тады няпэўна, нетрывала
Яшчэ было на ростанях дарог.

Хацелася супольна іх адолець,
А не паўзці да шчасця нацянькі,
Ды разышліся не па нашай волі
Дарогі пашы ў розныя бакі.

На здымак «Першы выпуск сямігодкі»
З тугой гляджу да гэтае пары,
Што болей не збяруцца аднагодкі,
Пастаўнікі, сяброўкі і сябры.

А каб сустрэліся, нікога не пазналі б:
У зрэнках час іскрынкі патушыў,
Па лоб і скроні намярзае наледзь
І халадок кранаецца душы.

А сэрца неспакойнае стукоча,
І любіць, і хвалюецца штодня,
Развітвацца з учорашнім не хоча
І зноўку прагне заўтрашняга дня.

Яго заўжды чакаю, як вясны, я,
Хоць і не знаю, што ён прынясе.
А нашых пакаленняў сувязныя
З дарогі ўжо сыходзяць пакрысе.

На помніках і зорных абелісках
Шуміць вянкоў пасохлае лісцё,
Між датамі кароценькая рыска
Злучыла і жыццё і небыццё.

Але хіба калі жыццё забудзеш?
Хіба яго стагоддзі замятуць?
Бясследна не знікаюць тыя людзі,
Што ўсё жыццё на поўны рост ідуць.

Яны адкрылі кола і нарогі,
Зрубілі хату, назубілі серп,
Забрукавалі першыя дарогі
І гінулі за каласісты герб.

Усе мае сучаснікі і продкі
Перайначвалі і ўзвышалі свет
І пакідалі доўгі ці кароткі,
Але заўжды прыкметны ясны след.

У кожнага адны і тыя ж звычкі:
Шукаць сябровак і сяброў сваіх,
Нібы праводзіць часам пераклічкі
Равеснікаў жывых і нежывых,

Я помню іх у тым шчаслівым веку,
Рамантыкаў у зрэбніках да пят,
Калі над кожным крокам браў апеку
Фарпост і юных ленінцаў атрад.

З тае пары і гарту, і закваскі
Хапіла ўсім для міру і вайны:
У сорак першым надзявалі каскі
І праз дзесяцігоддзі — ордэны.

Цяпер штогод збіраюцца паротна
Герояў парадзелыя рады
І памінаюць тых, што пасмяротна
Запісаны ў сэрцах назаўжды.

У лес, да партызанскае крынічкі,
Да слёзна-урачыстага стала,
За дваццаць тры гады на пераклічку
Аленка ані разу не прыйшла.

Жыцця, і смерці, і бяссмерця сведкі,
Пытанняў пазбягаючы маіх,
Гавораць: «Не вярнулася з разведкі,
А мы яе чакаем пазыўных».

Не толькі ў гадавіны Перамогі
Успамінаем кожнага байца,
Што не прыйшоў з далёкае дарогі,
А той дарозе не відно канца.

**Споведзь**

Не зажыла, а запяклася рана,
Ні час яе, ні ўзрост не залячыў.
Лёс, ці не лёс, а хтосьці вельмі рана
І родных і каханых разлучыў.

Не нас адных.
У кожным доме — страта.
Сыноў, дачок на вогненнай мяжы
Касілі кулі,
А сумленных здрада
Спакойна распінала на крыжы.

У вогнішча падкідвала паленцы,

Не мілавала матак і сясцёр,
Яна скруціла ручачкі Аленцы
І узвяла жывую на касцёр.

...Мінуць вякі, а попел не астыне.
У нашых дзецях ажывуць яны,
Па кім у Бухенвальдзе і ў Хатыні
Дасюль галосяць вечныя званы.

Нам пройдзеных дарог не перамераць
І нанава нікому не прайсці.
Я іх прайшоў і навучыўся верыць
У праўду, найвышэйшую ў жыцці.

Калі ў завею з раніцы да ночы
Валіў заледзянелыя камлі,
Я, летуценнік, быў чорнарабочым
Любімай і суровае зямлі.

Калі ў знямозе ападалі рукі,
А плечы горкіх дум згінаў цяжар,
Давала сілу мудрасць той навукі,
Якую перадаў мне камісар.

Калі ж мінулі крыўда, боль і сорам,
Ад радасці заплакаць кожны мог,—
Сталіца нас зялёным семафорам
Сустрэла і адкрыла сто дарог.

Якой ісці? Куды цяпер падацца?
Не замінаць жа людзям па рагу.
І прага ўпершыню паспавядацца
Мяне вяла ў бясконцую чаргу.

Яна плыве прыцішана і строга.
Слязінка часам скоціцца з павек
На тую ачышчальную дарогу,
Якая ўжо не кончыцца навек.

Сумненні, радасці, часамі беды
З усіх канцоў трывожнае Зямлі
На самую святую плошчу свету
І юных і ссівелых прывялі.

Калі б жаданні, думы і пачуцці
Тых, што заўжды спяшаюцца сюды,
Маглі усе сучаснікі пачуць іх,
Пазбавіліся б людзі ад бяды.

Я тут здаля — па постаці і твары —
У саман доўгай праведнай чарзе
Пазнаў свайго былога камісара,
На мыліцы і на адной назе.

А побач — пасівелая дачасна
У партызанскай школе ці ў баях,
Настаўніца мая глядзіць на ясны
І прамяністы наш Дзяржаўны сцяг.

Я не прызнаўся, не сказаў нічога

І не прыспешваў у чарзе хады.
У кожнага была свая дарога,
І ўсіх яна прыводзіла сюды,

На самую святую плошчу свету,
У адну чаргу, патрэбную ў жыцці,
Куды і ў сівер, і ў зеніце лета
Ішлі, ідуць і будуць век ісці

На подзвіг і на пошук невядомы,
Каб стаць дужэй, сумлопной, трывалей
І перад кожным стартам з касмадрома
Усе спярша ідуць у Маўзалей...

...Не трэба перакрэсліваць старога,
Патрэбна шмат яшчэ паспець прайсці.
З тае чаргі вядзе адна дарога
Да найвялікшай праўды ў жыцці.

**З дарогі ў дарогу**

Абсівераў, і перасмяг, і вымак
У доўгіх падарожжах я даўно,
А ўжо упарта стукае зазімак
Сняжынкамі і да мяне ў акно.

Закруціць ветрам, загалосіць нема,
То сонца выблісне, то дождж заімжыць...
Жыццё заўжды — натхнёная паэма,
Якую трэба скласці і пражыць,

Напоўнена, самаадданa, звонка,
Каб засвяціўся і расцвіў прасцяг...
А гэтыя радкі — адна старонка
Майго жыцця і не майго жыцця.

Прысядзем перад новым падарожжам.
Ну, хопіць. Пойдзем. Толькі б не адстаць!
Калі адзін другому дапаможам,
Здалеем зоркі дальнія дастаць.

Не азіраючыся на перасцярогі.
Пакуль рука трымае алавок,
Я не сыду з адзінае дарогі,
Дзе першы быў і дзе апошні крок

Раней або пазней зрабіць прыйдзецца
І перадаць таму, хто трывалей,
Як запавет няскоранага сэрца:
«Ідзі далей, ідзі далей

І перадай пасля свайму нашчадку
Агонь душы і золата палёў,
Усё: ад першай смелае здагадкі
Да міжпланетных зорных караблёў,

Упартасць, і пяшчоту, і адвагу,
Усё, што за паўвека здабылі,—
Падданасць праўдзе і адданасць сцягу,
Што свеціць свету з нашае зямлі».
1968

**БЯССМЕРТНІКІ**

Маці спаткаеце,
Ёй не кажыце.
*М. Сурначоў*

I

Шумяць саломаю сухою
Вятры з вясны і да вясны,
І пад замшэлаю страхою
Адны і тыя ж сняцца сны.

Гадамі кволая газніца
Гарэла ў хаце давідна,
Здавалася — рыпіць масніца
І нехта ходзіць ля акна.

Не замыкала Маці брамку,
Аер крышыла на парог,
Каб сын, як возьмецца за клямку,
Абцёр агорклы пыл дарог.

Сама пасціла, але скварку
Для сына толькі берагла,
Грыбкі саліла, нават чарка
У халадку заўжды была.

Глядзела Маці за вароты
І ўсё чакала навіны…
Прайшлі танкісты і пяхота
І артылерыя з вайны.

І камандзіры, і салдаты
Прайшлі пякельныя кругі
І вось вярталіся дахаты
Да мацярок на пірагі.

«Каб жа сынок з тае дарогі,
Няхай змарнелы і сівы
Ці, не тут кажучы, бязногі
Вярнуўся, толькі каб жывы».

Сыноў суседзі сустракалі.
Хваліліся франтавікі,
Як той рэйхстаг пракляты бралі
Іх батарэі і палкі.

У госці Маці запрашалі
Заўжды суседскія сыны,
І ў кожнай хаце суцяшалі,
Што хутка вернецца з вайны

Здаровы, дужы і вясёлы
Дамоў яе адзіны сын:
«Забуксавалі, можа, колы,
І не даехаў у Берлін».

Казалі, прыйдзе з ардэнамі
І прывязе акардэон,
Што ганарацца ўсе сынамі
Такімі смелымі, як ён.

Як трошачкі хмялела Маці,
Пра апантаных салаўёў
Спявала на суседскім свяце,
У свята верачы сваё.

А дома — холадна і пуста,
А дома Маці слёзы лье,
І недаедзеная луста
Даўно счарсцвела на стале.

Куды ні пойдзе, дзе ні сядзе —
Не заціхаюць галасы,
У полі і ў здзічэлым садзе,
Здавалася, гукае сын.

То нейкі незнаёмы голас
Прарочыць слёзы і бяду.
Зірне навокал — пуста, гола,
І ўсё ж адказвае: «Іду».

Ідзе на раздарожжа Маці,
Куды, не ведае сама,—
Ні ў полі, ні ў суседскай хаце
Спакою Мацеры няма.

II
Чакае Маці,
Чакае Сына,
А ён не едзе
З дарогі дальняй.

Ляціць у вырай
Клін за клінам
З апошняй песняй
Развітальнай.

Асенні вецер
Галосіць глуха,
Смугою ўкрылісся
Палі,
Дарогу ў небе
Белым пухам
Прыцерусілі
Жураўлі.

Упаў апошні
Ліст з бярозы,
У дзверы грукае
Зіма.
Гудуць завеі
І марозы,
А вестак ніадкуль
Няма.

Мінаюць вёсны,
Леты, зімы,
Шуміць над ганкам
Сынаў клён.
Чакае маці,
Але міма
І новы ходзіць

Паштальён.

З надзеяю
Прыходзіць Маці
У райцэнтр
З ядлоўцавым кійком,
А там ужо
Ў ваенкамаце
Змяніўся
Пяты ваенком,

І гэты кажа:
«Ордэн Славы»
Ваш сын
Сумленна заслужыў,
Ды каля горада
Варшавы
У бітве
Галаву зложыў».

У полі ветрана
І бела.
Каторая ж ідзе
Зіма?
Старэе Маці,
Саслабела
І стала
Белаю сама.

Яна адна
Зімой на дровы
Пілуе
Смольныя камлі:
«Каб сын прыйшоў
Ды быў здаровы,
Глядзіш — і ўнукі б
Памаглі».

З пажоўклай карткі
У цёмнай раме,
Як і ў даўнейшыя
Часы,
Глядзіць з усмешкаю
На Маму
Заўсёды маладзенькі сын.

Начамі з ім
Гаворыць Маці:
«От доля
Горкая мая,—
Не ты мяне,
Сыночак, страціў,
Асірацеў не ты,
А я.

Цябе, відаць,
Не дачакацца,
І не сустрэцца
Пры жыцці.
Міне зіма,

Пачну збірацца
Тваімі сцежкамі прайсці.

Прайду усе твае
Акопы
І пераправы
Ўсе прайду,
І хоць слядочкі
Ў той Еўропе
Твае апошнія
Знайду.

Ісціну ўсю вясну
І лета,
Спаць —
Падмасціўшы кулачок».
Дастала Маці
З-за партрэта
Сухіх бяссмертнікаў
Пучок.

III
Сумёты асядалі пад акном,
Сіпела неба ў насвятлелых шыбах,
На рэчцы разгуляўся крыгалом
І грукатаў, нібы гарматны выбух,

Звінелі на дарогах раўчукі,
І бераг ад праталін застракацеў,
Каля імклівай веснавой ракі
Глядзела ўдалеч зморараная Маці.

Глядзела па развіліны дарог,
На гонкія бярозы і таполі,
На пачарнелы за ракою стог
І дзічку адзінокую на полі,

А ўспаміналася ёй гарачы пыл,
У ім знікалі маладыя спіны,
І абняла тады, як парай крыл,
Яна свайго зажуранага сына.

І ён у тым праклятым пыле знік,
А ў Маці засталася толькі згадка,
Як цераз рэчку тонкі маладзік
Ёй перакінуў срэбраную кладку.

Здаецца, ўсё даўным-даўно сплыло:
На полі бою палавее жыта,
На папялішчы вырасла сяло…
Але нікім дагэтуль не забыта,

Як у няволі давялося жыць
І помсціць заваёўніку за здзекі,
Сумленнем непрадажным даражыць,
Каб вольнымі усе былі навекі,

Каб не скаваў ніколі больш ланцуг.
Сабе палёгкі Маці не прасіла:
Касіла, жала і цягала плуг,

Не ведаючы, скуль бярэцца сіла.

Не астывалі ў Маці мазалі.
Хоць ныла сэрца,
а яна маўчала,
І кожны год нялёгкія рублі
Сваёй Дзяржаве шчодра пазычала.

Гады мінаюць.
Болей свой парог
Не затрымае ў апусцелай хаце.
На скрыжаванні веснавых дарог
Стаіць адна, як тая дзічка, Маці.

Усе чатыры горкія гады
Ішлі сыны па мінах і па прыску.
Дзе іх крывёй адзначаны сляды,
Пасталі вартавымі абеліскі.

Па іх і нойдзе Маці ў белы свет
Зарослай сцежкай, торнай пуцявінай,
Пакуль не знойдзе хоць адзіны след
На тых дарогах страчанага сына.

Ідзе на Захад.
Днём і па начах
Вясна ёй насцеж адчыняе дзверы.
Заходзіць сонца...
Небасхіл ачах,
Над цёмным полем узышла Венера.

У ясным небе — зорная сяўба,
Плывуць у белай замеці аблокі,
Расінка за расінкаю з ілба
Збягае па запыленыя шчокі.

Вялізны месяц, белы нібы лунь,
Над бліжнім лесам выкаціўся рана,
Зарэчны луг і маладую рунь
Услалі цёплай воўнаю туманы.

Вясновы вечар травамі працах.
На дзяцельніку, на прымятай мяце,
Пад зоркай трапяткою ў галавах
Заснула ў полі зморaная Маці.

Зямля пад ёю глуха загула
І паплыла, як лёгкія арэлі,
Паволі расступалася імгла,
А сёлы ўсё стагналі і гарэлі,

І бомкалі жалобныя званы
Над нарудзелым попелам Хатыні,
І аўтамата погляд ледзяны
Папоўз і затрымаўся зноў на сыне.

А ён з агню ды ў полымя бяжыць,
То прападзе ў свінцовай крутаверці,
То прамільгне па хісткім рубяжы
Паміж жыццём і неадступнай’ смерцю.

Ён у атаку за сабой вядзе,
І не дрыжыць рука на аўтамаце,
А напярэймы сынавай бядзе
У пекла бою кідаецца Маці,

Каб ворагу павек не засланіць
Ні кратамі, ні чорным дымам сонца
І не падсекчы тыя карані,
З якіх растуць такія абаронцы.

Яна бяжыць, а з месца не сысці,
І крыўда працінае сэрца болем,
Што больш у пекле сына не знайсці,
Што толькі дым плыве над чорным полем.

Заранкі загараліся здалёк,
І ў страшным сне здарожанай Матулі
Змаўкалі танкі, адсвісталі кулі,
Над полем лётаў першы матылёк.

На золку прахапілася са сну:
У светлым небе зоры дагаралі,
На ўзмежку адзінокую сасну
Усыпалі дрыготкія каралі.

Устала Маці і па халадку
Пайшла, адзін трымаючы кірунак —
На тую незнаёмую раку,
Нібы на ёй збавенне і ратунак.

Магілу вартавалі два дубкі,
І явар нахіліўся нізка-нізка.
Чытала Маці доўгія слупкі
Імёнаў на гранітных абелісках.

Спляліся пад нагамі карані,
Гайдаліся дразды на голлі гнуткім,
І дзеці на запылены граніт
Паклалі лугавыя незабудкі.

Усюды Маці слаліся пад ногі
Трыпутнік, канюшына і чабор,
Калі вялі нялёгкія дарогі
Да новых помнікаў і пяцікутных зор.

Закасавалі тоненькія рыскі
Байцамі непражытыя гады.
Ад абеліска і да абеліска
Шумелі белай квеценню сады.

Не ўбачыць сын такую прыгажосць:
Разліў вясны і птушак пералёты,
Ліпнёвы цвет, рабінавую млосць
І студзеньскія чыстыя сумёты.

IV

Глядзела, Маці, як цяжэла жыта,
Пагнала ў трубку проса і аўсы,
І ўспамінала ўсё, што пражыта,
І гладзіла тугія каласы.

Успомніла, як хворага сыночка
Дадому несла з поля цераз брод,
Як ён трызніў, і ліпеньская ночка
Здавалася даўжэйшаю за год.

Успомніла сцяжынкі і дарожкі,
Што праз гады травой не зараслі,—
Іх сынавы маленечкія ножкі
Праклалі і па іх у свет пайшлі.

Яна вучыла сына жыта сеяць,
Касіць лугі і сена стагаваць,
А давялося аж за ўсю Расею,
За ўсю Еўропу сыну ваяваць.

Калі чужынец збіў прыкладам дзверы,
Калі страляў, паліў, галовы сек,
Ніколі свет яшчэ не бачыў звера
Страшней, як азвярэлы чалавек.

Спазнала Маці воўчыя засады,
Прайшла усе пякельныя кругі:
І голад, і бамбёжку, і блакады,
І сцюжу без агню і без страхі.

Яна праз драцяныя агарожы
Нагледзелася здзекаў, слёз і кпін.
Ды верыла, што ў горы дапаможа
І вызваліць яе з няволі сын.

Яна ішла. Гайдаліся палі,
Над спелым жытам жаўранкі звінелі,
Сунічнікам акопы зараслі,
І ягады чырвоныя паспелі.

Знайшла абойму. Ржаўчыны налёт
Усе патроны патачыў на сіта,
Праз ложу аўтамата навылёт
Прайшла сцяблінка маладога жыта.

А некалі, нібыта крумкачы,
Адсюль глядзелі цераз мушку фрыцы.
Калі яны жывыя, што ўначы
У цёплых ложках ім сягоння сніцца?

Яшчэ, напэўна, снайпер той жыве,
І есць, і п’е па поўнай мерцы,
Што поўз да нас па спаленай траве
І цэліўся то ў галаву,
то ў сэрца.

Ці ж ён гаруе са сваёй віной?
Чым ён жыве з нядзелі да нядзелі?
Стаіўся, пэўна, недзе за сцяной,
Каб сіраты ў вочы не глядзелі.

Ці ўспамінае ён да гэтых нор,
Што заслужыў, а што навекі страціў,
Як галасіў пры ім жывы касцёр
І енчылі знявечаныя маці?

Цяпер ён здатны поўзаць, быццам сліж,
І замятаць крывавы след старанна,
Хлусіць, за што ў яго — жалезны крыж
І метка на спіне ад партызана.

Казала Маці:
— Ён сваю віну
Залізвае, як цюцька на парозе,
А я знайду і хоць здалёк зірну,
Што ад душы паганай засталося.

Няхай святая праўда, як папрок,
Яму па кожным кроку вочы коле,
Каб ён ніколі ўжо не ўзвёў курок
І не ступіў на наш парог ніколі.

Трыпутнік запыліўся: і пасох,
Здарожаныя ногі коле гліна.
Бетонныя салдаты ля дарог
Адкуль ні глянь, падобныя на сына.

Ён тут ішоў, акопваўся і поўз
У самы вір смяротнай навальніцы,
Пакуль не зачапіўся, не прырос
Да нашае заходняе граніцы.

Пасля быў нечуваны марш-рывок,
Пад танкамі гарэлі пераправы —
Ішлі на Захад. І яе сынок
Дайшоў ад Сталінграда да Варшавы.

V

Над Віслаю ліпнёвы дзень даспеў,
Гуркі і гарбузы паўзлі ў разоры.
На досвітку звінеў птушыны спеў,
А ноччу Маці вартавалі зоры.

Яе прымаў гасцінна кожны дом,
І частавалі шчодра, як на свяце.
Яна сустрэчных суцяшала ўдоў,
Але ніхто не мог суцешыць Маці.

Яна ішла з сяла і да сяла,
Не ведала ў дарозе адпачынку,
Ды не заўсёды разабраць магла
На прыдарожных помніках лацінку.

Ёй памагалі чулыя жанкі
І тых баёў удзельнікі і сведкі,
Што клалі на гранітныя вянкі
Услед за ёю палявыя кветкі.

На ростанях, далёка ад жытла,
За некалькі хвілін да навальніцы,
Ратуючыся ад дажджу, зайшла
Здарожаная Маці у капліцу.

Відаць, у той далёкі страшны год
Застылі слёзы кропелькамі воску,
Чаргою аўтамата навылёт
Прабіта скронь каменнай маткі боскай.

Маланка секанула з краю ў край,
І блізкі гром аж скалануў капліцу.
— Не гневайся, гасподзь, і не карай,
Што я даўно забылася маліцца.

Глядзела я спакойна смерці ў вочы,
Хадзіла па смяротным рубяжы:
Мяне стралялі і палілі тройчы,
А я жыла, жыву і буду жыць.

Вунь багародзіцу скалечыў супастат,
Паліў людзей у цэрквах і ў касцёлах,
Пасля табе маліўся кожны кат,
Каб вешаць зноў у гарадах і ў сёлах.

Чаму ж тых вылюдкаў на д’ябальскай сяўбе
Маланкай, багародзіца, не збіла?
Чаму не ўратавала ні сябе
І нашых дзетак не абараніла?

Калі ж ты, божа, ёсць,
тут — і твая віна,
Чаму не ўзяў няшчасных пад апеку?..—
Больш Маці не малілася.
Яна
З дакорам пазірала на калеку.

І раптам мокры, белы, быццам снег,
Відаць, даўно адвучаны галіцца,
Ратуючыся ад дажджу, забег
Высокі незнаёмец у капліцу.

Паставіў скрынку. Рашпілі, нажы
Ляжалі, прыцярушаныя пылам,
А ён глядзеў з усмешкай па крыжы
І на анёлаў з перабітым крыллем.

Зірнуў на Маці і аслупянеў:
— Прабачце, я, здаецца, Вас шукаю.
Я — скульптар. Вы не бойцеся мяне,
Я не пакрыўджу і не ашукаю.

Душу і сэрца мне трыццаты год
Жывая памяць працінае болем:
Тут гінулі ў агні за ўзводам ўзвод
І самалёт палаў пад гэтым полем.

Парафіян «свяцейшыя айцы»
Пакінулі ў ліхую непагоду…
Тут біліся савецкія байцы
За нашую і вашую свабоду.

А на ўзбярэжжы ціхае ракі
Крывёю росы і цяпер іскрацца,
Сыноў дасюль чакаюць мацяркі,
Але ніяк не могуць дачакацца.

З кляновага абпаленага пня
Скульптуру рэзаць несуцешнай маці
Я прыязджаў сюды амаль штодня,

Але, відаць, дарэмна сілы траціў,

Бо не ставала рыскі аднае,—
Нічога не выходзіла, хоць рэжце,
І рукі апускаліся мае...
А Вас убачыў, і — знайшоў нарэшце.

Па даху спорна барабаніў дождж,
Збягаў цуркамі па прыступках ганка,
І хмару пасівелую, як нож,
Крамсала зіхатлівая маланка

То наўкасы, то ўпоперак, то ўдоўж,
А тут у чорнай хустцы і ў кабаце
Стаяла на парозе басанож
Маланкаю асветленая Маці.

Дождж адшумеў.
Яны ішлі ўдваіх
Да помніка на ўскраіне пасёлка,
Над спелым полем абдымала іх
Іскрыстымі варотамі вясёлка.

Дажджынак жар на лісці не ачах,
Рамонкамі дыміліся пагоркі,
Трымалі абеліскі на плячах
Маланкамі запаленыя зоркі.

Ім кланяліся ў пояс каласы,
Хілілі вецце маладыя клёны,
І вечнасці жывыя галасы
Шапталі несмяротныя імёны:

Чатыры Івановых і Смірноў,
Казахі, беларусы і грузіны,
Яшчэ слупок аплаканых сыноў
Ледзь дачытаць змагла да палавіны.

Застыла Маці: прозвішча яе,
Паўторанае двойчы, слепіць вочы,
Пякучы боль азвацца не дае
І закрычаць, як некалі:— СЫ-НО-ЧАК!

Ён ці не ён? Згубілася імя...
А каб было?.. Ці ж мала ёсць Іванаў?
І ўсе браты. Усе.
Цяцер ім я
Як маці буду, разам пахаваным.

Калі ж папраўдзе будзе «страшны суд»
І кожны сведка непадкупны будзе,
Каб справядлівы вынесці прысуд,
З-пад гэтых абеліскаў выйдуць суддзі.

...На дол злятаюць стружкі з-пад разца,
Сівы мастак да дрэва як прыкуты,
Ен бачыць ад пачатку да канца
У кожнай рысе Матчыны пакуты.

Ёй сеў на грудзі сіні матылёк.

Яго якраз скульптуры не хапала.
А Маці развязала хуталёк
І на граніт бяссмертнікі паклала.

Паружавела мокрая зямля.
Удалячынь з абпаленага клёна
Глядзелі вочы Маці,
 а з камля
Прабіўся першы парастак зялёны.
1976

## СПАЛЕНЫЯ МАСТЫ

*Памяці Аляксандры Мураўёвай*
«Вы сталі сапраўды ўзорам самаахвярнасці,
мужнасці, цвёрдасці… Няхай будуць
незабыўнымі імёны вашы!»
*Дзекабрыст А. П. Бяляеў*

I
Мяцеліца завеяла дарогі,
Каторы дзень калючы снег мяце
З пустой Сенацкай плошчы да астрога
У заінелай вёсачцы Чыце.

Сабралася за дзень, як па трывозе,
Забыла муфту, шалік не ўзяла,
Здалося — сэрца стыне на марозе,
Але душа не страціла цяпла.

Матляе вецер на раскатах сані,
Фурман замоўк і галавой панік,
Дарожныя слупы, нібыта здані,
Вядуць начам, і дням, і вёрстам лік.

Графіня ледзь кранула ездавога
І слёзна моліць паганяць хутчэй.
Знікае ў белай замеці дарога,
Сухія іскры сыплюцца з вачэй.

З разлёту хвошча па кібітцы веццe,
Зрываюцца з прысадаў груганы,
А ёй часамі спіцца і вярзецца,

Што ў замеці скрыгочуць кайданы.

І чуе голас царскага загаду:
«Пазбавіць званняў, скарбаў і чыноў
Усіх злачынцаў першага разраду,
А разам з імі жонак і сыноў!»

— Я згодна, згодна. Я на ўсё гатова.
Пусціце толькі да яго ў астрог! —
Дрыжыць рука.
                    І подпіс Мураўёвай
Пад выракам пазнаць ніхто б не змог.

Сібірскі шлях рыпіць пад палазамі.
Даўгі, як гора, як прысуд, прамы.
Яго калоднікі касцямі і слязамі
Масцілі ад турмы і да турмы.

У замеці аглухлі нават бомы,
І толькі сэрца стукае часцей.
Яшчэ вярста.
                    Усё далей ад дому,
Ад маці і заплаканых дзяцей.

Душа збалела, як скразная рана,
Скіпеліся ў адно і боль і злосць:
Закуты ў ланцугі яе каханы,
І ў дваццаць год мінула маладосць.

Яна спяшаецца і з кожным крокам траціць
Надзею ўбачыць пецярбургскі свет,
Ёй часта сніцца: Міша, Ліза, Каця
Бягуць за ёю басаnож услед.

Ці ж давядзецца іх яшчэ пабачыць,
Калі ўпадзе астрожная сцяна?
Дрыжыць сляза.
     Але байцы не плачуць,
Не мае права плакаць і яна.

І не заплача ні цяпер, ні потым,
Хоць і злічыў крумкач яе гадкі.
У сцюжу грэюць сэрца, пад капотам
Схаваныя, гарачыя радкі:

«Цяжкія кайданы спадуць...» — на памяць
Сама сабе чытае соты раз
І часам бачыць праз крутую замець,
Як мільгануў агеньчык і пагас.

Паветра, як настылае жалеза,
Аж скроні працінае боль тупы.
Заплюшчыць вейкі — зноў у вочы лезуць
Жандар і паласатыя слупы.

Шлагбаўм рыпіць у ранішнім тумане.
Вось і яе апошняя вярста.
Замецены па стрэхі край выгнання —
Астрожнае зімовішча Чыта.

Мядзведзем з каравулкі паласатай
Вылазіць мікалаеўскі салдат,
Залубянелы, згорблены, вусаты,
І ціха шэпча:
«Свят, свят, свят!

Жанчына! І ў такую непагоду!
Адна! Як матылёк сярод зімы.
Па ўсім відаць — дваранскае пароды,
Чаго ж яна дрыжыць каля турмы?

А ў падзямеллі, ледзь затлее ранне,
У непралазных норах сатаны
Былыя графы, знатныя дваране
Дзяўбуць руду сабе па кайданы

І ўспамінаюць муштру і парады,
Як сам Кутузаў у паход вадзіў.
Але яго вялікасць імператар,
Відаць, не нам адным недагадзіў».

Ад холаду не вымавіць ні слова,
І ўсё ж над беднай злітаваўся бог:
За месяц Аляксандра Мураўёва
Прыехала у катаржны астрог.

Яе з дарогі не вярнула сцюжа,
Ні царскі гнеў, ні завірухі свіст —
І дзень і ноч спяшалася да мужа
Цяпер з адзіным званнем —
Дзекабрыст.

Падумала, як у паэме Дантэ,
Усе прайшла пякельныя кругі.
Але не ўсе. Ва ўладзе каменданта,
Турэмшчыка і вернага слугі

Сустрэчы іх і лёс пад гэтым небам,
Сярод тайгі і адзічэлых скал.
— Перш чым сустрэцца, падпісаць вам трэба
Апошні вырак,— кажа генерал.

— Няўжо хоць нешта на свеце засталося,
Чаго яшчэ пазбавіць можна нас?
— Сустрэчы вашы будуць у астрозе,
Пры афіцэры. На кароткі час.—

І генерал Пякарскі хмурыць бровы:
— Я не люблю дыскусій і прамоў…
Забараняю лішнія размовы
І ужыванне чужаземных моў.

— Не верыцца, што кажаце сур’ёзна…
Бесчалавечна гэта, генерал!
Няўжо дзеля таго, каб жыць кам розпа,
Спяшалася я ў сцюжу за Урал?

— Не ад мяне, шаноўная, залежыць.
Выконваю не ўсё, што сам хачу.
Вы ж дзёрзкасці павінны ведаць межы.

Я пра яе пакуль што прамаўчу,

А мушу вам пакорлівасць парадзіць,
Для вашага ж спакою і дабра,—
І выцягнуўся, быццам на парадзе,
Перад партрэтам новага цара.

Застыла Аляксандра Мураўёва.
Празрыстая ад сцюжы і дарог,
І патрабуе:
      — Я абавязкова
Павінна сёння ж трапіць у астрог,

Хоць на хвіліну, каб убачыць мужа.
Не думаю, што вы такі педант...
— Дазволім. Ён, здаецца, занядужаў,—
Адказвае суровы камендант.

      II
Шуміць пурга.
      Адразу за парогам
Правальваецца і знікае след:
За сценамі чыцінскага астрога
Канчаецца, здаецца, белы свет.

За вузкімі жалезнымі дзвярыма
Пі свечкі, пі агеньчыка няма,
Астылым чадам, плесняю і дымам
Прапахла ўся чыцінская турма.

Александрына падабрала футра
І вобмацкам бяжыць да той сцяны,
Адкуль рвануўся нехта ёй насустрач
І глуха зазвінелі кайданы.

Спынілася няпрошаная «світа» —
Салдат і захмялелы афіцэр.
Ускрыкнула жанчына: — Мой Мікіта,
З табой мы неразлучныя цяпер.

Цалуе потны лоб:
      — Ды ты ў гарачцы,—
Кладзе на скронь настылую руку.
— Не дзіва, Саша, дзень пры дні на тачцы
Важу руду на лютым скразняку.

Яна трымае любага за плечы
І ціха шэпча: — Я з табой навек...
— Развітвайцеся! Кончана сустрэча! —
Нібыта шабляй афіцэр адсек.

Жанчына ледзь стрымала хваляванне,
У зрэнках бліснуў ледзяны агонь,
І непрыкметна Пушкіна пасланне
Паклала мужу ў цёплую далонь.

Натхнёны верш бадай што па край свету
Прывезла Мураўёва нездарма:
З тае хвіліны вераю паэта
Жыла і хвалявалася турма.

Заходзіліся сэрцы, як на плошчы,
Калі прыйшла жаданая пара,
Калі і залп і барабанаў пошчак
Спалохалі расійскага цара.

Выстуквалі начамі катаржане
За словам слова, за радком радок,
І кідала ад грознага паслання
Ахоўнікаў то ў жар, то ў халадок.
Спынілася графіня за парогам,
Куды ні гляне — гора і бяда,
І толькі ў цёмным небе пад астрогам
Гарыць адна Палярная звязда.

Правальваюцца ў снезе чаравічкі,
Губляецца сцяжынка уначы,
А ў стражнікаў няма такое звычкі,
Каб хоць жанчыне ў горы памагчы.

Яна масціла ля астрога сцежку,
Што замасціць не здолела казна,
Яна хавала слёзы за усмешку,
А гора выдавала сівізна.

Яна лячыла боль ласкавым словам,
Іскрылася праменьчыкам святла —
Для вязпяў Аляксандра Мураўёва
Сумленнем і надзеяю была.

III

Надзеяй і сумленнем засталася,
Няскоранай і кволай, як дзіця,
І не хавала ў маладушным страсе
Яна чарнавікі свайго жыцця.

Жыцця ніхто наноў не перапіша,
Не выкрасліць пакутныя гады,
Уратаваць не здолее ў заціššы
Сябе ад нечаканае бяды.

Быў кожны дзень нялёгкай заваёвай
Кахання, вернасці і шчодрай дабраты:
Ішлі ў Сібір сяброўкі Мураўёвай,
Спаліўшы за сабою ўсе масты.

Вясёлую на людзях Аляксандру
У адзіноце немачы гнялі:
Балела сэрца, набухалі гланды
І прыстывалі ногі да зямлі.

За мужам вандравала па Сібіры,
Але яшчэ не верыла сама,
Што, як гадзіннік з адарванай гірай,
Прабіла дваццаць восьмая зіма.

Ужо не ўстаць. Рука, як у шкілета,
Падняць не можа кубачак вады,
Туман заслаў яе дзяцей партрэты,
І свечка дагарэла назаўжды.
Нібы прысуд, жалобны звон ударыў,

Пагостам стала стылая гара,
І кожны раз за новаю ахвярай
Сачыла здань няўмольнага цара.

Так з веку ў век у памяці суровай,
У вернасці каханню і красе
Жывая Аляксандра Мураўёва
Свой боль, і гнеў, і радасці нясе.

...Змяніліся цары,
адзін другога варты,
Мяняліся крыжы і ардэны,
Падвуснікі, бароды, бакенбарды,
А ўсё звінелі тыя ж кайданы.

На Ангару, на Енісей, на Шылку,
У ціхае сяло па рэчцы Шуш
Няскораных у катаргу і ў ссылку
Жандары гналі сотні соцень душ.

За імі даўнім шляхам без вагання,
У замець ад сяла і да сяла,
Як вера, як надзея, у выгнанне
Бязмежная Любоў услед ішла.

З гарачым сэрцам, з яснымі вачыма,
І праз гады яна усім відаць...
Перад святой расійскаю жанчынай
Гатовы кожны на калені стаць.
1975

## ТРЫВОЖНЫ МАНАЛОГ ЗЯМЛІ

Мільёны гадоў
Я цябе гадавала
З жывое іскрынкі
Ў празрыстай вадзе
І ўсё, што магла,
Я табе аддавала,
Каб толькі ніколі
Не быў у бядзе.

З-пад сэрца майго
Вырывалася лава,
Палалі камені,
Паўзлі леднікі,
Я ў сцюжу
Гранітныя горы кавала
І рэзала рэчышча
Новай ракі.

Для дрэў і для кветак
Яскравыя фарбы
Шукала,
Знайшла, і сады расцвілі,
Вякамі збірала па каліву
Скарбы —
Багацце, і сілу,
І славу Зямлі.

Я ўсё да драбніцы
Схавала ў нетры —
Крышталь і алмазы,
Жалеза і медзь,
Каб іх не развеялі
Буйныя ветры,
Каб страціць найменей,
А болей займець.

Я вугаль і нафту
Глыбока схавала,
Рудою аздобіла
Край мерзлаты,
На дзікіх распадках,
На горных увалах
Рассыпала шчодра
Пясок залаты.

Вякамі на целе
Дыміліся раны,
І прорвы ніяк
Не маглі зарасці.
Я так зберагала
Крупінкі урану,
Каб нават самой
Не адразу знайсці.

Каб светлая сіла
Не стала смяротнай,
Каб людзі і горы
Не падалі ніц,
Я след замятала
Па сцежцы зваротнай
Да самых таемных
Сваіх таямніц.

Калі ж ты, падросшы,
Падняўся на ногі
І ўбачыў пупышкі
На гнуткім галлі,
Засеяла я
Напрадвесні аблогі,
Каб жытам улетку
Яны загулі.

Сады наліліся
Даспеленым сокам,
І ты пазіраў
З-пад калматых павек,
Ступаў асцярожна
Няўпэўненым крокам,
Ужо не жывёліна,
А Ч а л а в е к,

Худы, валасаты,
Бяздомны і чорны,
Ты першы расклаў
Ад маланкі касцёр
І ў цвёрдых далонях,
Нібыта на жорнах,

З жытнёвага коласа
Зерне расцёр.

Раслі і згаралі
Секвойі і пальмы,
І толькі ніяк
Не прыпомню, калі
Парвалася сувязь з табой
І, на жаль, мы
Адно аднаго
Зразумець не змаглі.

Ты цёр на далонях
Зярняты ячменю.
І яблыкам ты
Спакусіўся тугім,
А рэшту вытоптваў,
Каб меней ім, меней
Дабра дасталося,
Суседзям тваім.

Я думала, ты
Праз гады зразумееш,
Што ўсё тут тваё
І нашчадкаў тваіх,
Што ты для наступнікаў
Болей пасееш
І сам завіхацца пачнеш
Дзеля іх.

А ты разумнеў,
Ты разведаў сакрэты,
Хоць многае вынес
На ўласным гарбе.
Табе я загадвала
У зімы і ў леты,
Цяпер падуладнаю
Стала табе.

Ты нафту высмоктваеш
З кожнае жылы,
Ты з каменю ставіш
Свае гарады,
Ты грунт разварочаў,
Тугі і настылы,
І ўсё табе мала
І мала руды,

Усё табе мала
Жалеза і медзі,
І золата зліткаў
Не знойдзеш нідзе —
Яно зіхаціць
На тваім бранзалеце
І не паможа
Ніколі ў бядзе.

Для самых сумленных
Хавала старанна
Усе таямніцы

Начамі і днём,
А ты дакапаўся
Цішком да урана,
Каб знішчыць жывое
Смяротным агнём.

І вось паімчаўся,
Бяздумна, бязмэтна,
Далёка ад дому
І ўласнай бяды,
І нішчыў,
Каб рай выглядаў апраметнай,
Каб скрозь спапялелі
Жывога сляды.

Сатлелі.
І толькі пакутнікаў цені.
І плач скамянелы,
І енкі, і боль
Навек захаваюць
Бетонныя стэлы,
А гора засведчыць
Крывавая соль.

Я попел сабрала,
Руіны і целы
І тых падабрала,
Хто выжыць хацеў.
Забойцу, няйначай,
Паслаў звар'яцелы,
Каб заўтра ад жаху
І той звар'яцеў.

Мой сын наймудрэйшы,
Прабач, можа, рана
Усіх папракаць,
Не зірнуўшы наўкол.
Бо ты з невялічкаю жменькай
Урана
На полюс Паўночны
Прывёў ледакол.

Ты свеціш і грэеш
Сцюдзёнаю ноччу,
Рукамі заціснуў
Мільён навальніц.
Табе я адкрыю,
Як толькі захочаш,
Бяздонныя нетры
Сваіх таямніц.

Я кветкамі ўсыпала
Тыя пагоркі,
Якім не зраўняцца
І не здзірванець:
На іх запалілі
Чырвоныя зоркі
Салдаты, што смерцю
Адолелі смерць.
А тыя, што нішчаць,

Каб толькі дапялі,
Напэўна, ізноў
Дамагліся б свайго:
Адзінае сонца
І тое распялі б
І вырвалі б
Палкае сэрца з яго.

Я ўспомніла ўсіх...
Колькі я пахавала!
І колькі дачасна
Хаваю штогод,
Яшчэ маладых,
Што крупінкай металу
Такі ж маладзенькі
Прабіў навылёт.

За што?
За Зямлю?
А хіба яе мала?
Хіба не хапае
Ўрадлівай зямлі?
Навошта яе
Начынілі металам,
Лясы з ручаямі
І рэкі звялі?

Як маманты,
Гінуць
бізоны і рыбы,
І птушак няма
Ў апусцелым гняздзе.
А ты забаўляешся
Атамным грыбам
І сам паратунку
Не знойдзеш нідзе.

Чаго не стае
І чаго табе мала?
Скажы пад прысягаю,
Як па судзе...
Усё, што магла,
Я табе аддавала,
Каб толькі ніколі
Не быў у бядзе.

Пустэльняю сталі
Даўнейшыя багны,
І бусел ужо
Абміноўвае іх.
Не будзь жа такі
Ненасытны і прагны,—
Хоць трохі пакінь
Для нашчадкаў сваіх.

Ты чуеш
Сумленнейшы голас народа,
Што ўзрос і ўзмужнеў
Пад сузор'ем Крамля?
Прыслухайся —

Яснаю стане пагода,
І стане ранейшай Зямлёю
Зямля,

Адзіная, добрая
цэлым сусвеце,
Што кожнага можа,
Як маці, сагрэць.
З агнём не гуляйце,
Дарослыя дзеці,
Каб часам, як той метэор,
Не згарэць.
1977

## РОСТАНЬ НА СВІТАННІ

Гаворацць вусны: «Ён навек загінуў».
А сэрца кажа: «Не, ён не пакінуў!»
Ты чуеш, як звініць і як трымціць струна?
Дрыжыць, нібы сляза гарачая, яна
І б'ецца заадно у глыбіні са мною:
«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»
*Л. Украінка. 7/IV 1901 г. Kimpolung*

### За ўспамінам — успамін

*Нядзеля, 7 студзеня 1901 года, рог Шырокай і Міхайлаўскай, дом Нарэйкі. Толькі што Леся Украінка прыехала да хворага Сяргея Мяржынскага.*

Да раніцы яна не склала
Натомленых, збялелых рук.
Сляза на клавішы упала,
І нарадзіўся першы гук,

Амаль нячутны, анямелы,
Затрапятаў і затужыў:
Спачатку чорны, потым белы
Зайшоўся клавіш, і ажыў

Уступ да светлага накцюрна,
Яшчэ не чутага нідзе:
То ракаталі хвалі бурна,
То сонца плавала ў вадзе.

Ударыў свежы вецер з мора,

Як з-пад арлінага крыла,
Пахаладала, але змора
І надвячоркам не прайшла.

Таму смыліць у кожнай ноце
Даўнейшы і нядаўні боль,
Таму так часта ў адзіноце
На вуснах выступае соль.

Сцяжынкаю імправізацый
За успамінам успамін
Вядзе ў зялёны цень акацый,
Дзе ён чакаў яе адзін.

І так пачціва, так нясмела
Крануўся кволае рукі.
Дрыжалі бровы, быццам стрэлы,
А пад брывамі — васількі.

За молам мора дагарала,
Як утаймованы пажар.
Яны пайшлі. Каля прычала,
Як завадны, снаваў жандар.

Сяргей зірнуў на стража скоса,
Назад адкінуў валасы:
— Вось хто кіруе нашым лёсам,
Вось ён, «аплот» на ўсе часы...
Ці вы не згодны?
Што ж маўчыце?..
— Лягчэй казаць, цяжэй рабіць.
А вы спачатку павучыце
І ненавідзець, і любіць.

І навучыў.
У шумнай Ялце,
На шпацыры між дзікіх скал,
У мітусні і ў пляжным гвалце
Усё гаварыў пра «Капітал».

Так, ён фанатык гэтай працы,
На памяць ведаў мудры змест
І так настойваў учытацца
Ў «Камуністычны маніфест».

Нібы прарок, казаў пра шчасце
Без парабкоў і без цара
І раіў Маркса перакласці
Хутчэй на мову Кабзара.

Які тады ён быў узнёслы,
Які прыгожы, малады,
Ажно ў руках звінелі вёслы
Над прорвай чорнае вады!

Плылі яны па бурным моры.
Змяркала.
Зніклі берагі..
На хвалях зіхацелі зоры
І разбягаліся кругі...

Замоўклі гукі фартэп'яна,
Фіранку кратае зара,
Ды страшна, што занадта рана
Прыйшла развітвацца пара.

Няўжо ж прыйшла?
      І назаўсёды?
Не, ён павінен жыць і жыць
Дзеля дабра, дзеля свабоды,
Куды нялёгкі шлях ляжыць.

А ён амаль што нерухомы,
Той самы і зусім другі,
Вядомы ёй і невядомы,
Адзіны, блізкі, дарагі.

Так непрыкметна праляцелі
Гады, як чорныя стрыжы.
І вось зіма.
А ў кволым целе
Гарыць агонь святой душы

І грэе,
      і пяшчотна свеціць,
Нібы ў чароўным ліхтары,
Але нялёгка жыць на свеце
І разлучацца без пары.

А можа, марачы аб цудзе,
Не траціць веры і надзей,
Што жыць
      і жыць такія людзі
Павінны вечна для людзей.

Што ёсць у іх такія сілы,
Каб здужаць і бяду, і зло.
Яго надзея акрыліла,
Але
      зламалася крыло.

Устала Леся.
Змоўклі гукі.
У мяккім студзеньскім святле
Слядоў яго пакут і мукі
Не засталося на чале.

**Заінелыя журавіны**

А прыйдзе час, і кайданы спадуць,
І ўстрапянецца у палёце песня,
І вырвецца з няволі, як рыданне,
Што доўга стрыманым было
У таямніцах сэрца...
*Л. Украінка. «Рытмы».*
*I/11 1901 г. Мінск*

*Нядзеля, 14 студзеня.*

Гудзе Траецкая гара,
Крычыць, гукае і смяецца.
Якога тут няма дабра!

І ўсё, што трэба, прадаецца.

Вішчаць на санях парсюкі,
Іскрыцца на марозе сала,
Шумяць цыбульныя вянкі,
З аглобляў лыка пазвісала.

Катрынка плача і пяе,
І папугай ружовай масці
Няшчасным шчодра раздае
Пяцікапеечнае шчасце.

А ў самым цэнтры, на буі,
Каб лепей бачылі і чулі,
Ў далонях свішчуць салаўі
І аж заходзяцца зязюлі.

Пад пугаўём звіняць глякі,
Як ветразі, шумяць шпалеры,
Пяюць сляпыя жабракі,
Галосяць змуляныя леры.

Даёнкі хваляць бандары,
Гандлююць зёлкамі бабулі,
На ручніках ляжаць сыры,
У сіце — куханы з цыбуляй.

Прывёз, нібы лясун стары,
Дзядок настрамак з акалотам...
Як лес, аглоблі угары,
І ўсё прапахла конскім потам.

У тлуме торгу і навін,
Сярод кашоў, гладышак, клункаў
Старанна Леся журавін
Шукае, быццам паратунку.

— Сюды, паненачка, сюды,
Дарэмна не тапчыце рынку.
Зірніце, як з тае грады,
У нас буйныя журавінкі! —

З падпаленай бародкай дзед
Разгаварыўся не на жарты,
І Лесі ягады як след
На грыўню ўсыпаў болей кварты.

— Яны за Селішчамі ў пас
Растуць, бывае, па арэху.
Прыедзьце, калі будзе час,
На саладзейшыя, з-пад снегу.

Мы іх збіраем па кашу,
А ўродзяцца — не знаем ліку.
Да пас збярэцеся — прашу:
Спытайце дзядзьку Дамініка.

А мой старэйшы хлопец, Ясь,
Сам з галавы складае вершы.
Вунь і сусед зманіць не дасць,

Што быў і ў школе самы першы.

Калі б вы, паненка, змаглі
Паспагадаць чужому гору,
Дык, можа б, хлопцу памаглі
Убіцца ў нейкую кантору.

— Я знаю, як нялёгка жыць,
Бо і сама такога ж роду,
А сын павінен перш служыць
Замардаванаму народу.

Хай піша, што ў душы гарыць,
Шукае сілу ў кожным слове
І не забудзе гаварыць
На матчынай пявучай мове.—

Падзякавала і пайшла.
Сказала, можа, для прыліку,
І ўсё ж цяжкую задала
Яна задачку Дамініку.

Пад крутаярам — стылая рака,
Над пелькай — крыж ружовы з лёду.
Зірнула Леся, і рука
Зайшлася, як у непагоду:

Прыпомніўся у Луцку дом стары,
Што столькі год адведаць не збярэцца,
Вадохрышча, і вецер на Стыры,
І сцюжа, ад якой не адагрэцца.

Баліць слабое цела дзень пры дні,
А сэрца палымнее несціхана,
Бо самы блізкі з блізкае радні —
Яе і аднадумца, і кахане —

Згасае, як агарак васкавы
На дзікім ветры ў непагоду.
Але гатовы, хоць і ледзь жывы,
Аддаць душу за шчасце і свабоду.

Яна сама б усю да кроплі кроў
І ўласнае жыццё ахвяравала
За ляхаўскіх змарнелых гарбароў,
За кіеўскіх рабочых з «Арсенала».

Спяшаецца з Траецкае гары
Да страшнае пакутніцкай пасцелі.
Застылі рукі. Толькі лоб гарыць.
Ад сцюжы журавіны заінелі.

**Мірыам**

> О, не хачу я, не хачу спакою.
> *Л. Украінка. «Одержима». 18/1 1901 г. Мінск*

*Чацвер, 18 студзеня.*
І кожны раз, як дзверы — насцеж,
Міналі боль і забыццё,
Ён сустракаў яе, як шчасце,

Як паратунак, як жыццё,

Нібыта ўпершыню убачыў,
Чакаў, здалося, сто гадзін,
Лавіў пагляд яе гарачы
І пах адталых журавін.

— Расказвайце, што там, на волі,
Я рады кожнай навіне.
Нібыта вязень, што ніколі
Не бачыць сонца у акне.

Філёры, чорныя ад злосці,
Снуюць уранні і ўначы,
Каб нам не ўстаць,
І на пагосце
Не перастануць сцерагчы.

Прабачце, Леся, гэта жартам,
Калі адчай і набяжыць,
Хачу быць мужным і упартым
І для вялікай справы жыць...

— А я пабачыла сягоння
Манарху помнічак здаля:
Трымае скіпетр, і ў кароне...
— А трэба, каб была пятля
Заместа скіпетра ў далоні.
Пад ёй цяпер Расія ўся.
Пятлёй пры кафедральным звоне
Звялі са свету Кастуся.
Яна і нам здушыла глоткі
І скараціла век кароткі.

— І ўсё ж парадаваць павінна:
Мне расказаў вясковы дзед,
Калі купляла журавіны,
Нібыта сын яго — паэт.

Сваёй цурацца песні годзе.
Даўно загаварыць пара
Так, як гавораць у народзе,
Натхнёным словам песняра.

Магчыма, недзе ў курнай хаце
Расце вялікі ваш паэт,
І крык, і плач знямелай маці
Пачуе хутка цэлы свет.

— Удзячны за навіны, Леся,
Паэту будучаму рад,
Хачу, каб ён і ў нашай прэсе
Гучаў, як вечавы набат,

Каб песня не была чужою
Таму, хто мёрз, гібеў і мок,
Каб так, як «Искра» за мяжою,
Палалі слова і радок.—

Мікстура задрыжала ў шклянцы,

Упаў па дол расталы лёд
І ліст, што з высылкі Румянцаў[2]
Прыслаў яму пад Новы год.

Збялеў.
І кашлю не спыніцца.
Зайшоўся б, каб ляжаў адзін.
І з кволай жмені на масніцы
Сцякалі кроплі журавін.

Заснуў нарэшце.
    Зранку грубка
Сасновым дыхае цяплом,
І адзінокая галубка
У шыбу стукае крылом.

За ноч калматыя сумёты
Вятры у садзе намялі;
На вішнях скачуць каля плота
Чырванагрудыя гілі.

Змяркае. Леся каля печкі
Зноў у палоне даўніх сноў:
Не запаліўшы нават свечкі,
Успамінае зноў і зноў

Аблiччы родных, смех і крокі,
Каля Дняпра сясцёр сляды
І маці горкія папрокі,
Калі збіралася сюды,

Халодны позірк, тон суровы,
На твары горычы пячаць,
І запаволеныя словы
Дасюль у памяці гучаць:

«Апамятайся, Леся, не калеч
Сябе самую гэтак рана...»
І свой адказ: «Не трэба, не пярэч.
Мая душа — скразная рана.

Ні ты, любімая, ні я
Свайму не загадаем сэрцу.
Таму істота кволая мая
Жыве зусім па іншай мерцы:

Да болю сіла выспела ў плячах,
Нібы прарэзваюцца крылы,
А ён і ўдзень і ноччу — у вачах
І будзе, мабыць, сніцца да магілы.

Ты ж разумееш — ён зусім адзін.
Падумаю, і сэрца халадзее,
Што гіне лепшы, той грамадзянін,
Што стаў маім сумленнем і надзеяй».

Вось ён заснуў і свеціцца знутры,

[2] П. В. Румянцаў — член Мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. Яго кватэру менавіта Сяргей Мяржынскі параіў як надзейнае месца для пасяджэнняў Першага з’езда РСДРП.

А мог свяціць усёй Расіі,
Ды толькі часта гінуць без пары,
Не, не біблейскія месіі,

А лепшыя абраннікі душы
Знявечанага мудрага народа…
І голас сэрцу загадаў: «Пішы,
Пакуль у думках і ў пачуццях згода».

А як пісаць,
калі наўкол сцяна,
Названая «Цэнзурным камітэтам»?
І раптам здагадалася яна
Схавацца за евангельскім сюжэтам.

За хісткі столік села ля акна,
Запахла свечка сіняватым дымам,
І не ўставала Леся давідна,
Пакуль не дапісала «Одержиму».

Вятры да самай раніцы гулі,
Здавалася, гайдаецца хаціна,
А на старонках сшытка ажылі
Месія, Мірыам і Палесціна.

Радкі пісала, як лісты сябрам,
Што недзе на Дняпры і на Палессі.
І ў кожным смелым слове Мірыам
Гучаў усхваляваны голас Лесі:

«Навіслі думы хмараю цяжкою,
А з іх вось-вось ударыць бліскавіца
І цэлы свет азорыць. Ох, калі ж,
Калі яна разрэжа цемень хмары?»

Пяро не паспявала за радком.
Гула завея, свечка дагарала.
Пісала Леся і крадком
На цень і жоўты профіль пазірала:

«Каменні азываліся ў пустыні
Патройным рэхам, а вось тут
Не азавуцца, марная надзея,
Я азавуся… Цёмны дух трымае
Мае жывыя словы. О, настаўнік!
Адзіны! Ты святло маіх вачэй!
Няўжо не бачыш, як ад гора гіну,
Ад болю, ад трывогі і нічым,
Нічым цябе суцешыць не магу».

За вокнамі світанне зашарэла.
Званы ў царкву склікалі да імшы.
Дрыжалі рукі. Свечка дагарэла,
Свяцілі ў змроку толькі дзве душы.

**Настаўнікі**

Праменнем: ясным, хваляй штармавою,
Жывымі іскрамі, сузор'ямі ў палёце,
Грамамі, бліскавіцамі, мячамі
Хацела б, словы, вас загартаваць.
*Л. Украінка. «Рытмы», 1/11 1901 г. Мінск*

*Чацвер, 1 лютага.*

Замучыла зіма:
                    то сцюжа, то адліга,
Навіс туман, галосяць капяжы,
Але ізноў парадавала кніга
Часопіса з дакладнай назвай «Жизнь».

У спісе супрацоўнікаў — імёны
Скітальца, Горкага і Ільіна[3],
«Адказ Няжданаву» ягоны,
Як запавет, запомніла яна.

Ёсць і яе імя у гэтым спісе
Сярод такіх імёнаў дарагіх.
Таму яна павінна ў кожнай рысе
Быць вартаю настаўнікаў сваіх.

Настаўнікі! Найпершы, найдарожшы
Падняць ужо не можа галавы.
Яна хацела зваць яго «Сярожа»,
Але дасюль звяртаецца на «Вы».

Яна яго сястра і санітарка,
Уцеха днём, ахова уначы.
За днямі тыдні пралятаюць шпарка,
А чым яму і як дапамагчы?

Пякельнаю хваробаю прыкуты,

[3] М. Ільин (Ленін). Ответ Нежданову. «Жизнь», 1899, № 12.

Ён толькі забываецца у сне...
А можа, каб спыніць усе пакуты,
Прыбавіць дозу морфію?.. О не!

На «Grodenstoss»[4] яна не мае права.
За абаіх ёй працаваць і жыць,
Закончыць незакончаныя справы
І грозныя паэмы завяршыць.

Пакуль ён спіць і у пакоі ціша,
Чарпіла і папера — па стале,
Яна свае агляды перапіша
І ў Пецярбург уранні адашле.

А зараз ноч. «Люблю гадзіны працы»,
Уласныя даўнейшыя радкі
«Сябе перамагчы і не здавацца»
У скроні б’юць, нібыта малаткі.

Яшчэ дайсці самотнай да Галгофы
І ўсё перацярпець прыйдзецца ёй,
За словам слова — набухаюць строфы
Гарачаю пунсоваю крывёй.

І закіпела, зазвінела песня,
Даспеленая ў глыбіні грудзей,
І акрыяла вера, што ўваскрэсне
Яна не раз у памяці людзей.

[4] Grodenstoss — смяротны дар па міласэрнасці (ням.).

І тут адчула: запалалі вочы,
Нібыта згаслых зорак след.
Здалося Лесі, што пагляд прарочы
Убачыў новы таямнічы свет…

Ён трызніць: «Эшафот высокі, коўзкі…
Куды вядзе бяда бяду?
Прабачце. Кліча Каліноўскі…
Вы пачакайце… Я прыйду».

**Развітанне**

Усё, як ёсць, перамагла
Яго любові сіла,
Таго агню, таго святла
І смерць не пагасіла.
*Л. Украінка. «На гадавіну».*
*8/III 1911 г. Галуана*

*Субота, 3 сакавіка 1901 г.*

Яна сарпінкаю укрыла
І кветкамі яго чало
І на грудзях згарнула крылы,
Якім прастору не было.

Зламанага у самай сіле
Ні замяніць, ні ўваскрасіць.
Званы на ім адгаласілі,
А сэрцу вечна галасіць,

Што за дваіх жыве адна,
Што ў Праметэя век кароткі.
Ішла за сцюжамі вясна,
І пачыналіся паводкі.
1980

# З УСМЕШКАЮ

## ДРУЖЫННІЦЫ

Расінкі дрыжаць на ажыне,
І падаюць зоры ў раку.
Чацвёра адважных дружынніц
Па ціхім ідуць гарадку.

Прыбраныя, быццам на свята,
У пышных каронах валос,
Сур'ёзныя ходзяць дзяўчаты
І шчасцем свіцяцца наскрозь.

Выходзяць па ціхую Прыпяць,
І вецер ляціць наўздагон.
Зірнеш і адважышся выпіць,
Каб трапіць да іх у палон.
1962

## РАМОНТ

Спыняюся я
І гляджу ў захапленні
На шыльду:
«Усім рамантую сумленне».

Майстэрня пустуе
ад ранку да ранку,
І толькі дзяўчынкі гуляюць на ганку.
Чаму тут нябачна даўжэзнай чаргі —
Ні п'яніц, ні лютай свякроўкі-каргі?

Чаму тут наперад не лезуць пралазы —
Валютчык і злодзей з аптовае базы?
А можа, яны выклікаюць дахаты
Майстроў, як электрыка ці гамеапата?

І дома цішком па вышэйшай таксе
Ратуюць сумленне аўчарцы і таксе,
Каб з кухні не бралі ніводнай катлеткі,
Каб добра брахалі, як трапяць у сведкі.

А самі?
А самі ракочуць басамі:
— Ніщто не трывожыць,
Не тузае ў пятку,
А раз не турбуе —
сумленне ў парадку.
Каб гэтакі быў безадказны і спраўны

Гастрытам і язваю змучаны страўнік,
Паслаў бы аналізы з лекамі к чорту.
І ездзіў бы ў карты гуляць на курорты.
Сумленне маё не баліць, не бунтуе,
Няхай, калі хоча, другі рамантуе.

Я слухаць хапугу далей не магу:
— Без блату займайце ў майстэрню чаргу,
Бо ведае добра усё чалавецтва:
Страшней, чым у вас, не бывае калецтва!
1969

**КОСЫ**

Я часта глядзеў на цябе пры сустрэчы,
На вочы і бровы дзівоснай красы,
І падалі, быццам праменні, на плечы
Твае дзве касы.

Здавалася, я сустракаўся з табою,
Чытаючы Пушкіна ў даўнія дні.
І косы былі, як надзейная зброя
Тваёй чысціні.

Здавалася ты гераіняю казкі,
Здавалася ціхаю песняй заўжды,
І я забываўся пра ўсе абавязкі,
Як толькі сустрэнешся ты.

Ты мне уяўлялася то Бандароўнай,
То даўняй сяброўкай юнацтва майго,
Зусім незнаёмай і самаю кроўнай,
Ды толькі не мог зразумець аднаго,

Што толькі здавалася так. А сягоння
Сустрэў і не ведаю — ты ці не ты.
Зірнуў і жахнуўся: па лоб і на скроні
Звісалі рудыя хвасты.

Калматая, быццам экраннае дзіва,
Што кажа замест прывітання «салют».
Даўно рэкламуе усюды крыкліва
Такіх Галівуд.

І робіцца крыўдпа, і робіцца шкода,
Што нехта цябе прыгажуняй заве,
Што чорнаю воспай уелася мода,
Што косы раслі не на той галаве.
1960

**ПРАМОЎЦЫ**

Былі аратая,
Цяпер — аратары.

Мы часта гаворым не тое, што ў сэрцы,
А што напісалі даўно на паперцы.
І ў кожнай прамове разважлівасць ёсць,
Ёсць пафас, і лічбы, і жарты, і злосць,
Цытаты і прыказкі ў вершах і ў прозе,

І рэшта — цытаты, але без двукоссяў.
Цытуем з пажоўклай ці свежай брашуркі,
Нібы з хлапчукамі гуляем у жмуркі:
Старому партыйцу або маладому
Даводзім, што кожнаму змалку вядома.
Сяброў сустракаем на людным вакзале,
Вось тут бы, здаецца, ад сэрца сказалі
Гарачае, шчырае, добрае слова,
Ды лезе адразу з кішэні прамова.
А гора надыдзе, ідзём на хаўтуры
З жалобнай старонкаю літаратуры.
Сустрэнем дзяўчыну пад ліпай кашлатай,
У вечным каханні клянёмся цытатай.
Калі ж на вяселлі выскакваюць коркі,
Чытаем з паперкі: «Таварышы, гор-ка!»
Ой, горка жывога не чуць хвалявання,
А толькі чытанне, чытанне, чытанне…
Выходзь на трыбуну, каб шчыра і смела
Сказаць без паперкі, што ў сэрцы паспела.
1971

**ПАВАГА**
*Сумны гумар*

Сам ад сябе не пабяжыш у прочкі,
Сябе самога цяжка перагнаць,
А погляды, як модныя сарочкі,
Лягчэй за ўсё хоць кожны дзень мяняць.

Начальнік твой — аматар палявання,
Ты ўслед бяжыш з ягоным рукзаком,
Паказваеш трафеі з хваляваннем,
Нібы спрадвеку служыш ганчаком.

Цябе павысілі і паважаюць болей,
Наверсе кабінецік немалы.
Начальнік прападае па футболе,
А ты яму падлічваеш галы.

Ты ў новым крэсле разгубіўся крышку,
Ды ўсё узважыў з чатырох бакоў:
Начальнік ловіць рыбу па мармышку,
А ты шкрабеш па юшку шчупакоў.

Цяпер ніхто табе не пагражае,—
Ніхто цябе не лае, не дзяўбе.
Начальнік асабіста паважае.
Ці паважаеш толькі ты сябе?
1969

**ЛАВЕЛАСЫ**

Лысыя лавеласы
Да юных дурнічак ласы.
У іх шматгадовы вопыт:
Казка, і ласка, і «клопат».
Шэпча: «Люблю, як сястрычку,
Вось падару чаравічкі,

Нібыта каваль Вакула...»
А пазірае акулай
І ў самым імклівым тэмпе
Вядзе то ў матэль, то ў кемпінг.
У чадным каньячным хмелі
Пра шчырасць пачуццяў меле
І ручкі цалуе дзяўчыне
У мінімальнай міні.
Яна ж пазірае цяляткам,
Што адлучылі ад маткі,
Пыхкае цыгарэтнай
На еўрапейскі фасон
І длубае моўчкі катлетку
Пад сіплы магнітафон.
А потым хавае ад мамы
На шыі і шчоках плямы,
І хлусіць, і хлусіць, і хлусіць,
Не знае, дзе сесці, дзе стаць,
Здаецца, за локаць укусіць,
Каб толькі магла дастаць.
Пасля учарашняя плакса
Бегае ў розныя загсы,
Просіць, прыносіць даведкі,
Ставіць сяброўак у сведкі.
І зноў, быццам шоўкам шые,
На кожным кроку ілжэ,
Хоць гора пятлёю шыю
Сціскае тужэй і тужэй.
А ноччу бацькоў не на жарты
Ссякаюць, калечаць інфаркты,
Пеклам становіцца дом,
Душа абрастае ільдом.
А на праспекце тым часам,
Не ведаючы граніц,
Лысыя лавеласы
Новых шукаюць дурніц.
1968

**ХАРАКТАР**

Нават кожны трактар
Мае свой характар.

Не хваляваўся чалавек,
Таму быў рады,
Бо ён увесь свой доўгі век
Жыў па раскладу.

Дакладна, як секундамер,
Хадзіў на працу,
А ўвечары ў суседні сквер
Ішоў на шпацыр.

На сходах першы заціхаў,
Як па загаду,
І жонку песціў і кахаў
Ён па раскладу.

Сябе ні разу не змарыў,
А ў людная залі
Заўсёды тое гаварыў,

Што ўсе казалі.

Галоўны прынцып у жыцці:
«Ў ажуры справы».
І як яго ты не круці,
Ён вечна правы.

Кіраўнікоў мяняў парод
І тут і дзесьці,
А ён сядзеў каторы год
На тым жа месцы.

Хадзіў дадому нацянькі,
Ды раптам неяк
Пачуў, што нават цягнікі
Сыходзяць з рэек.

А ён не сыдзе, бо заўжды
Сабой заняты...
Усе пражытыя гады,
Нібы блізняты.

Не хваляваўся чалавек,—
Жыў па раскладу,
І не адчуў, што ўвесь свой век
Сябе абкрадваў.
1969

**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

Вось дачніца крычыць у тэлефон
З палескага сяла Падгор’е:
«Якое шчасце! Дваццаць дзён
Стаіць у нас выдатнае надвор’е.
Пясок такі, што апячэш нагу,
Рака цяплей ад сырадою,
Я нават на змярканні не магу
Расстацца з пляжам і вадою.
Як загарэла? Не пазнаеш ты...
Не, ў спёку мы хаваемся пад тэнтам...»
І раптам прабубніў басок густы:
«Каб ты згарэла, мілая, дашчэнту.
Хто загарае, а ячмень гарыць,
На полі бульба апусціла вушы...
Хіба ж такое можна гаварыць,
Калі бяда, калі пячэ і сушыць?
Жанкі ратуюць буракі і лён,
Цягаюць вёдры, як не рвуцца жылы.
От каб цяпер хоць на дзесятак дзён
Захмарыла і добра задажджыла».
Зірнула дачніца: сівы пенсіянер
Не то гаворыць ёй, не то суседу.
Паклала трубку. Што казаць цяпер,
З настроем сапсаваным да абеду?

## ПРЫЗНАННЕ

Пад музыку і з песняю
І я пайшоў на пенсію.
Былі гарачыя прамовы,
І пляскаў радасна народ,
Ніхто не ўспомніў пра вымовы,
Што мне давалі кожны год.
Разлічваў я на халадзільнік,
А мне прафком паднёс будзільнік,
Ад моладзі і камсамола
Ўсё ж дасталася мне «Спідола»,
Ды не застаўся я ў накладзе —
Мяне хвалілі у дакладзе,
І так хвалілі, так казалі,
Што плакалі жанчыны ў залі,
І сам расчуліўся да слёз,
Што я найлепшы быў заўхоз,
Сумленны, дзелавы, адданы:
Мог з-пад зямлі дастаць бананы,
А для намеснікавай жонкі
Здабыць балгарскія дублёнкі,
На каўняры і шапкі — норкі,
А на банкет — вядро ікоркі.
Казалі, без заўхоза скора
Уся разваліцца кантора.
Пасля ў найлепшым рэстаране
Пілі і елі аж да рання:
На развітальны мой банкет,
Лічы, увесь сабраўся цвет.
Як з меха, сыпаліся тосты,
Што я здагадлівы і просты.
Ну так расхвальвалі мяне,
Што сам падняўся я ў цане,
І стала аж да болю шкода
Асірацелага народа.
Падумаў і сказаў: «Здаюся,
У вас на працы застаюся».
Бухгалтар ледзьве не самлеў,
Зароў начальнік, быццам леў:
«Адпачываць, таварыш, час,
Мы ж пераб’ёмся і без вас!» —
Не дачакаўшыся катлет,
Пакінуў хуценька банкет.
Цяпер кручу сваю «Спідолу»
З другім аматарам футболу,
Крычым удвух: «Суддзю на мыла»,
А потым лыкаем «чарніла».
Адно цікавіць, хто цяпер
Дастане норку на каўнер,
І ці мяне пакліча скора
Асірацелая кантора?
1975

## «ДАБРАДЗЕЙ»

Мне варта ворага убачыць,
І зразумею, што ён значыць,
Адкуль ён цэліць, б’е адкуль,
Які калібр атрутных куль,

Якая тактыка ў яго
І дамагаецца чаго,
Калі ён кідаецца ў бой
І кажа мпе: «Я — вораг твой!»
Здалёк такога заўважаю,
І, як ні дзіўна, паважаю,
Бо ён, калі прыйдзецца туга,
Не выдае сябе за друга.
Сапраўдны вораг — значыць вораг,
Ён не туляецца па норах,
Свайго не ўтойвае памеру,
Калі грызецца за кар’еру.
А вось сустрэў аднойчы «друг»
І расспяваўся, як ашуг,—
Такі уважлівы, рахманы,
Здаецца, прыкладзі да раны —
Сама загоіцца яна
Так, што і болька не відна.
Яго вясёлая усмешка
Заўсёды — цот, ніколі — рэпіка,
А пахвалы, а кампліменты!
Хоць ты плаці за іх працэнты.
Добразычлівец ён адменны:
Авоську часам паднясе,
Дастане Маркеса і Твэна,
Заладзіць дзірку на страсе,
Пазычыць грошы да палучкі,
Адведвае за ўсіх часцей,
Твае ўсе ведае адлучкі,
Тваіх падлічвае гасцей.
Ён свежы анекдот раскажа,
Даставіць першы навіну,
Мазне сваё начальства сажай,
А зваліць па цябе віну,
Свае прыпіша анекдоты,
Тваіх «сумніцельных гасцей»,
Нібыта новыя вароты,
Ён дзёгцем мажа ўсё гусцей.
А ўранні зноў табе ён рады,
Паскардзіцца па ўласны лёс,
Ды будзе ноччу, як напяты,
Страчыць паклёпніцкі данос
Дырэктару, прафкому, жонцы,
Што ты лайдак і лавелас,
Што пляма ты на ясным сопцы
І колісь недабіты клас.
Рукою левай пад даносам
Паставіць подпіс «дабрадзей»,
Каб не пазналі, што пад носам
Жыве нягоднік у людзей,
Што чыстыя калечыць душы,
Бо з ясельных гадоў прывык
Трымаць лакатарамі вушы,
Тачыць раздвоены язык.
А сам пачуе толькі шорах,
Калоціць страх і слепіць злосць,
Нібы кажан, сядзіць у норах,
Хоць быў паклёпнікам і ёсць.
Яму ніколі я не веру
І выклікаю да бар’еру!
1979

## УДОД

Усім вядома, што Удод
Адно спявае з году ў год,
Што некалі Цецеруку
Саромеўся падаць руку,—
Адзін хадзіў заўсёды ў пошук
На камароў, жукоў і мошак,
А часам нават рваўся пуп,
Калі спяваў сваё: «Уп-уп!»
Пачысціўся крыху Удод,
І дапусцілі цераз год
Яго да нейкага стала
У канцылярыі Арла.
Ён спраўна справы вёў свае,
Ды ляпнуў нехта: «Удод пяе!»
І чутка гэтая дайшла
Ад сакратаркі да Арла.
Арол спытаў: «Пяеш?»
— Пяю.
«Пасаду новую даю,
І бачыш, не раблю сакрэту.
Бярыся, брат, за аперэту,
Калі эстраду не заваліш,
Тады і оперу ўзначаліш.
Жыві, працуй без хваляванняў,
І толькі не стварай пытанняў».
А, узначаліўшы, Удод
Мастацтву даў належны ход.
Прыбеглі чаплі, каб лібрэта
Удод накідаў для балета,
З Жаўнаю Драч прыйшоў напару
Прасіць сабе рэпертуару.
Удод, Удодка і намеснік
Складаюць оперы і песні,
А Канарэйка з Салаўём
Ніяк не трапяць на прыём:
Удод і дзень, і ноч заняты —
Агляды, фестывалі, святы,
На канферэнцыю, на сход
Заўжды спяшаецца Удод,
Сімпозіумы, семінары…
Адкуль бярэцца столькі пары?
Калі ён толькі наспявае —
Кіруе, піша і спявае.
І кажуць, што усюды мода
Пайшла на песенькі Удода.
Ды сакратарка падвяла —
На вечар прывяла Арла.
Ён ледзь ад спеваў не аглух.
І паляцеў з Удода пух…
Ён праваліўся, як пад лёд,
А ў музыцы чуваць Удод.
1979

## ХВАРОБА АД ГАРДЭРОБА

Расою мылася, а не вадою,
Не квас, а сырадой піла,
Каб быць заўсёды маладою,
Каб прыгажуняю была.

Часамі нават без прычыны
Сама ўсміхалася сабе,
Каб не заўважылі мужчыны
Маршчынак у яе на лбе.

Заўсёды актуальнай тэмай
Здзіўляць любіла маладых
Пра лепшыя духі і крэмы,
І як дастаць нялёгка іх.

Усё вышэй звычайнай нормы
Насіла першаю яна —
Прычоскі, міні і платформы,
І паўкажушак з барана.

Джэрсі, крымплены і шыньёны
Хоць з-пад зямлі дастаць магла,
Паклонніцаю і палоннай
Усіх дзялкоў яна была.

Хвалілася перад суседкай
Усім, чаго ў тае няма:
Вялізнаю гандлёвай сеткай
Усіх аблытала сама.

Яна заўсёды, як бухгалтар,
Набыткі лічыць дацямна,
Сарочкі і тугі бюстгалтар
Усім паказвае яна.

Адным — усмешка з абяцаннем,
Другім — цукерак карабок.
Хоць поўзаць будзе, а дастане
Сабе махеравы клубок.

І ходзіць з радаснаю мінай,
Парык блішчыць, як антрацыт —
Ці то кабета, ці вітрына,
Дзе выстаўляюць дэфіцыт?

Жыве заўсёды, як на свяце,
І верыць — грошы трацяць пах,
А свет стаіць на трох кітах —
Зямляцтве, хабары і блаце.

Нібы дзіцячая хвароба,
Праходзяць лепшыя гады,
І толькі ў скрынках гардэроба
Яны пакінулі сляды.

Усё дагледжана грунтоўна:
То моль выводзь, то прасушы.
У шафах і ў камодах — поўна,
І толькі пустата ў душы.
1979

## САМ

Пакуль туліўся ззаду ці ўбаку,
Ён першы падаваў усім руку.
А потым нейкі трэсцік шератрэслі,
І апынуўся ён у важным крэсле.
Асвойтаўся, прыцёрся пакрысе,
І ўжо на ўсіх ён пальчыкам трасе.
Наморшчыў Лобік, спахмурнеў,
Нібы і сапраўды паразумнеў.
Сам сустракае ўсіх вядомых,
Але не пазнае старых знаёмых.
Перад начальствам шыю гне,
Быламу другу нават не кіўне.
І так сядзіць, і так пільнуе крэсла,
Што ад сядзення шкура аж аблезла.
Як есці стаў наменклатурны хлеб,
Спярша аглух, пасля аслеп:
Ніводнай просьбы ўжо не чуе,
Заўсёды некага бічуе,
Ні з кім не церпіць панібрацтва,
Бо рухае то гандаль, то мастацтва.
Яго крыху прабралі і патрэслі,
А ён ужо у новым крэсле.
1979

## ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ

Дзверы з кожным днём вузей
У СП і ў літмузей,
Але часам графаманы
Выдаюць яшчэ раманы,
На надзённейшыя тэмы
Строчаць вершы і паэмы,
І лібрэта, і балады,
Калі трэба,— пераклады.
Вельмі ж спрытна і часцей
Лепяць кніжкі для дзяцей,
То прамовамі чаруюць,
То дарвуцца і кіруюць,
А прыносяць толькі страты
Вось такія
экспанаты:

1. У н і в е р с а м

Раманы кволыя свае
Сам піша, сам і выдае.

2. П а л і г л о т

Над падрадкоўнікамі зноў
Мудруе у зацішку:
З усіх перакладае моў
Сабе на ашчадкніжку.

3. В у ч о н ы жук

Спачатку ганіў, лаяў, выкрываў
Паэта-класіка, упарта і зацята,
І вось за гэта атрымаў
Пасведчанне і стаўку кандыдата.

А дачакаўся зручнае пары,
Пачаў хваліць нябожчыка-паэта,
Усё перавярнуўшы дагары,
Прабіўся ён у дактары…
Скажыце толькі, як завецца гэта?

4. Тонкі густ

Заўважае творы ён
Толькі некалькіх імён,
Вельмі ж тонкі густ ягоны,
Не на творы, а — імёны.

5. І так бывае

Зязюля кнігаўцы кукуе:
«Цябе я сёння надрукую,
А дзень ці тыдзень праміне,
Дык надрукуй і ты мяне».

6. Моцнае ўздзеянне

Раман заважыць ледзь не пуд,
І не раман, а проста цуд,
Бо ўсе гавораць: «Кожны том
Мацней за самы моцны бром».

7. Тэматыка

Паэт, гуляючы у скверы,
Запісваў рыфмы і памеры,
А ўгледзеў шыльду «Хлебны квас»,
І верш з'явіўся пра калгас.

8. Знайсці сябе

У лірыцы не шанцавала,
Пачаў пад прозай гараваць,
Калі ж не выйшла, ясна стала:
Цяпер пара крытыкаваць.
Відаць, у крытыцы звякуе,
Бо крытыкуе.

9. «Вечны»

Шаптаў таварышу Ілья:
— Усе бяздарныя паэты.
Іх праглыне жывымі лета,
А застанёмся ты і я.

10. Суддзя

За сем гадоў яго рука
Не напісала ні радка,
А ён затое судзіць строга:
«Той піша дрэнна, гэты — многа».

11. Неспагадлівы

Ужо не цэнтнеры, а тоны
Яго заважаць фельетоны,
На ўсе падзеі і на тэмы
Па тры напісана паэмы,
А ён рубае з-за пляча
І не шкадуе чытача.

12. Не шукай

Літаратурнага чыноўніка дарма
Шукаюць і чакаюць людзі:
Да двух гадзін яго яшчэ няма,
А пасля двух — ужо не будзе.

13. Н е ў т а й м а в а н ы

Ну, як яго, нарэшце, ўтаймаваць,
Каб не пісаў?— рэдактар лемантуе,
І выдаць нельга, і — забракаваць,
Бо сам ён кансультуе і кіруе.

### 14. Вышэй вушэй

Як выбралі Гаўрылу на пасаду,
Дык ён усіх пакінуў ззаду:
Нібыта курка, пад сябе грабе,
Задраўшы нос да самай столі…
— Глядзі ж, мы выбралі цябе,
А больш не выберам ніколі.
Гаўрылу крыўда разабрала,
Ад абурэння аж засоп,
Што у яго занадта мала
Суправаджаючых асоб.
Цяпер ён галаву нясе,
Нібыта чарачку куляе,
Усё тлусцее пакрысе
І добра ў класіка гуляе:
Вітаецца, як жабраку,
Ён тыцне нехаця руку,
Глядзіць угору і не хоча
Зірнуць таварышу у вочы.
Ён сапраўды за нас вышэй
Памерамі сваіх вушэй.

### 15. Творчая справаздача

Як певень, што заўжды пяе
Адно і тое ж кожным раннем,
Паэт пра поспехі свае
Крычыць па кожным скрыжаванні:
— А ведаеце, вось падрукавалі
Мой вершычак і мой партрэт,
І ўсе зязюлі кукавалі,
Што выдатнейшы я паэт.
А вы не чулі? Не чыталі?
Горш за маленькае дзіця,
Недаравальна вы адсталі
Ад магістральнага жыцця.
Вось пра мяне раёнка ніша,
А ў кабінеце у мяне
Дзве персанальныя афішы
Вісяць на шафе і сцяне.
Мой верш пра Мышку і пра Кошку
Унучка ведае мая,
Ёсць нават памятная дошка
На хаце, дзе радзіўся я.
Та-ак! Пры жы-цці!
  Чаго ж дзівіцца.
  Не варта прыбядняцца нам.
Свой капялюш і нагавіцы
Я хутка ў літмузей аддам.
Вось так штодня кручуся корбай,
Але палёгкі не прашу.
Замест аўса вялізнай торбай
Пегасу вершыкі нашу.

### 16. Замардаваны

  — Паслалі ў лазню, ў ашчадкасу,
  Цяпер у яслі ледзь ступаю.
Пісаць зусім не маю часу.
— А што ж ты робіш?
— Выступаю.

### 17. Жалезны графік

Забыты пісьменнік з афішы,
Глядзіць, як славутасць кіно,

На здымку ён быццам бы піша,
Хоць сам адпісаўся даўно.
З таксі перасядзе на «рафік» —
Гарцае з зімы да зімы:
Жалезны выконвае графік
І возіць пуцёвак тамы.
Стары фельетон ці навелу
На кожнай сустрэчы дзяўбе.
Пра творчасць гаворыць і смела
Цытуе выключна сябе.
Пуцёўкамі сэрца сагрэта,
Хоць цяжка нагам і плячам,
І сорамна нават з партрэта
У вочы глядзець слухачам.
1958-1981

# ДЗІВОСНЫ СВЕТ
# вершы і казкі

## ВЯСЁЛКА

Сёння раніцаю ліў
Першы дожджык з громам,
Праляцелі жураўлі
І над нашым домам.

Сёння з вулля першы раз
Вылецела пчолка,
Апусцілася да нас
Першая вясёлка.

І шырокаю дугой
Стала над лясамі.
Колькі колераў у ёй?
Мы палічым самі.
— Вось аранжавы!
— Чырвоны!
— І блакітны!
— І зялёны!
— Фіялетавы!
— І жоўты!..
— Ну а болей
Не знайшоў ты?
Пашукай,
Бо хутка згіне.
— Вось яшчэ знайшоўся сіні.

— Не шукайце больш дарма —
Іншых колераў няма.
Распраўляе крылцы пчолка,
Зелянее збажына.
Загарэлася вясёлка —
Будзе добрая вясна.
1957

## КАСТРЫ

Сухі ядловец, жоўтаяігліца,
Бяроста і кавалачак кары,
У прыгаршчах запалка загарыцца —
І зашугаюць зыркія кастры.
Імклівыя іскрынкі ў сінім дыме
Закружацца і паляцяць да зор,
І, як сцяжкі гарачыя, уздыме
У цёмным лесе сонечны касцёр.
Засвеціцца і затрашчыць ламачча,
Нібыта з грывай вогненнаю конь,
Уздыбіцца, закруціцца, заскача
І загудзе няўрымслівы агонь.
Ад зыркага святла цяплеюць вочы,
Навек сябрамі робяцца сябры...
Пад зорным небам аж да позняй ночы
Шугаюць піянерскія кастры.
Разыдуцца сябры па белым свеце:
На Нёмане, на Лене, Ангары
У полі і на полюсе засвецяць
Яны свае паходныя кастры.
1965

## СЕНАКОС

Травы спелыя шумяць
Ідуць касцы на сенажаць.
Кожны важны, хоць і босы,
На плячах мільгаюць косы.
Склалі торбачкі, біклажкі
І ўзяліся за мянташкі.
Вострацць косы на мяжы —
Пахаваліся вужы,
І ад страху жабкі
Пагублялі тапкі.
Звон стаіць ад вострых кос —
За пракосам лёг пракос.
Тут у фраках, як паслы,
Ходзяць важныя буслы.
Ад спякоты загарэлі,
Ад работы умакрэлі:
Рэжуць дзяцельнік густы,
Абкасілі тры гнязды,
Разагналі дзікіх вос,
Косы склалі пад пракос,
Накасіліся як след
І паселі на абед.
Ім прынеслі буслянят
Хлеб і цёплыя аладкі.
Пад ракітай бусел-дзед
Рэжа сала на абед,
Раздае яго дачка
Ўсім па кубку малачка.

Добра ўсе перакусілі —
Да змяркання луг скасілі.
Як адзін, назаўтра зранку
Ўсе пакінулі буслянку —
Выйшлі дружна на лугі
Ставіць копы і стагі.
Носяць сена дзед і тата,
Памагаюць бусляняты,.
А вярнуліся ў сяло,
Кажуць:
— Весела было.
1975

**ГУСІ**

Па багуне і верасе
Сівы туман плыве,
То сцелецца па беразе,
То па сухой траве.
Вада гусцее сіняя,
Зашэрхлі валуны,
І першым хрусткім інеем
Пабліскваюць чаўны.
А над лугамі стылымі,
Ледзь пачынае днець,
Лапочуць гусі крыламі
І хочуць паляцець
На берагі спякотныя
Далёкае зямлі,
Як гусі пералётныя,
Што ў вырай паплылі.
Лапочуць марна крыламі,
Аж крык займае дух,
Ды не хапае сілы ім
Пераляцець за луг.
Трывожна гусі белыя
На воблакі глядзяць,
Ды толькі, пацяжэлыя,
Высока не ўзляцяць.
Саслаблі крылы дужыя,
Ляціць над лугам пух:
Гусей зіма са сцюжаю
Загоніць у катух.
1977

**ХТО ВІНАВАТЫ?**

Запытала мама ў мышкі:
— Хто тут лазіў у гладышкі,
Паздымаў усе вяршкі,
Панадкусваў піражкі?
Мышка маме адказала:
— Я смятаны не лізала,
Можа, нехта з’еў другі
І вяршкі, і пірагі.
Пацягнуўся шэры кот:
— Я не браў смятаны ў рот,
Скажуць вам і столь, і сцены,

Што зрабіўся я сумленны.
— Ку-ка-рэ-ку! —
Тут дарэчы
Певень выпырхнуў з-пад печы:
— Вам хлусіць і я не стану,
Кот даўно не еў смятану.
Шэпча мышцы кот на вуха:
— На гладышку села муха.
Мышка скача, мышка рада:
— Гэта ж муха вінавата.
Не гаворыць толькі Янка,
Дзе падзелася смятанка.
1964

**У ЛЕСЕ**

Хто, гуляючы па лесе,
На высокі дуб палезе?
Хто, прыйшоўшы у лясы,
Не заўважыць след лісы?
Вось і пень, смаловы, лысы,—
Тут палуднавалі лісы,
Я дагнаць лісіцу б мог,
Але вельмі топкі мох.
Лепш пад елкай паляжу
І цукерку паліжу.
Смага паліць, а вады
Не знайсці, бо авады
Нечакана паляцелі —
Пухіры гараць на целе.
Я другі адзену ўбор
І пайду гуляць у бор.
1975

**ДЗЯЦЕЛ**

Я на елку палячу —
Ўсе галінкі палячу:
Дзюба ў мяне доўгая,
Буду стукаць доўга я.
Пазіраю я гады,
Як буяюць ягады:
З журавін зрабіў каралі —
Журавы мяне каралі,
А суніцы ледзь паспелі,
Іх дразды склявацъ паспелі.
Я спалохаў іх як след,—
І прапаў адразу след.
Прахаплюся я са сну
І на елку ці сасну
Зноў на досвітку лячу —
Дрэва кожнае лячу.
1975

## МЛЫН

Многа клопату мы мелі:
Млын паставілі на мелі,
Але ён зусім не меле,
Бо зрабіць як след не ўмелі.
— Можа, я парадую
Добраю парадаю?
— Ты старэйшы, выручай!
— Загаціце вы ручай.
Гаць зрабілі, а па нас
Прыімчаўся Апанас.
Загадаў:
— Каля ракі ты
Назразай яшчэ ракіты,
А з дубцоў спляцем мы кола.
Нам падзякуе Мікола,
Што, пастаўлены на мелі,
Млын з пяску мукі памеле.
1975

## ЛАСЯНЯ

Захварэла ласяня.
З лесу збеглася радня:
Тата, мама, бабка, дзед,
Брат, сястрычка і сусед.
Плача, енчыць ласяня:
— Мне не вытрываць да дня:
Паліць, торгае, скубе,
За вушамі і на лбе,
З боку ў бок мяне вядзе,
Галава, як звон, гудзе,
Жар абсыпаў галаву.
Не, да дня не дажыву.
Плача мама, плача татка,
Што загіне ласянятка,
Плачуць брат, сястра, сусед,
Але ўсіх суцешыў дзед:
— Пацярпі, дзіцятка, трошкі
У цябе ж вылазяць рожкі.
1975

## ХОДЗІЦЬ СОН

На высокіх тонкіх лапках
Ноччу ходзіць Сон у тапках,
Угары трымае ён
З ясных зорак парасон.
Паміж зорак на бачок
Срэбны лёг маладзічок.
Па начах каля акон
Ціха, ціха ходзіць Сон.
Ён ніколі спаць не хоча,
А табе заплюшчыць вочы,
Каб спакойна спаў да ранку,
Заспявае калыханку:
Спі, дзіцятка,

Люлі, люлі,
Галубы даўно паснулі,
Спяць дразды
І спяць шпакі,
Спяць у рэчцы
Шчупакі.
У куточку дрэмле
Мыш.
Ну, а ты чаму
Не спіш?
Сон даўно змарыў
Бабра,
І табе заснуць пара.
Носіць зорны парасон
І не спіць да рання
Сон.
1979

**ГАРЫВАДА**
*Палеская легенда*

I
З той пары многа вёснаў і зім праляцела,
Болей гора, чым шчасця, было у жыцці,
Калі ў нетрах Палесся дзяўчына хацела
І святло, і цяпло, і збавенне знайсці.

За лясамі гібелі замшэлыя хаты,
Саламяныя стрэхі ў пясок ураслі,
Ад світання да поўначы гнуўся араты
На палітай слязьмі і крывёю раллі.

На касьбе і жніве гадаваліся дзеці,
Дождж іх мыў, і балотны туман спавіваў.
Грэла сонца, люляў над калінаю вецер
І адну калыханку над імі співаў.

Вечарамі на комінку тлела лучына,
Навальніца да рання над полем гула,
Праз акенца ў змрок пазірала дзяўчына
І чакала збавення, цяпла і святла.

А навокал асеннія пушчы шумелі
Выплывалі, як здані, з дрыгвы туманы,
Пугачы рагаталі, ваўчыцы шалелі,
І кружылі над кожнай' страхой груганы.

А за полем і гаем, пад ціхай ракою,

Белы замак стаяў на крутой вышыні,
Там пілі і гулялі, і ў кожным пакоі
Аж да самага рання гарэлі агні,

І лілося віно, і звінелі цымбалы,
Аж дрыжалі ад песень і скокаў муры...
Многа вёснаў, і летаў, і зім мінавала
З той далёкай, але не забытай пары.

2
Пачыналася рана вясна на Палессі,
Прачыналася раненька-рана Алеся,
Па світанні выходзіла з курнае хаты,
А за ёю ішлі па дарозе дзяўчаты
На чужое, агорклае, панскае поле
І сваю праклiналі прыгонную долю.

Праляталі над імі буслы з жураўамі,
І казала Алеся: «Ляцець бы за вамі
На лугі, на азёры, на ціхія рэкі,
Каб забыцца пра гора і панскія здзекі,

Паляцець бы за вамі і нам за аблокі,
Пад гарачае сонца, у вырай далёкі,
Каб не вяла краса, каб не гінулі сілы,
Падарыце нам лёгкія, белыя крылы».

Пазіралі журботна на неба дзяўчаты,
А насустрач ляцеў па кані прыганяты,
Захмялелы і люты, як чорная хмара,
І развеяў дзявочыя светлыя мары.

За сахою хадзілі, капалі, палолі,
Не раса зіхацела, а слёзы на полі,
І ад самага рання да позняе ночы
Чула пушча праклёны ў песні дзявочай.

3
Не сядзелася ў хаце вясною Алесі —
Забывалася гора, блукаючы ў лесе.
Гаманілі дубы і замшэлыя хвоі,
Булькатала крыніца пад елкай крывою,
У кустах і ў ламаччы знікала сцяжына,
Віўся хмель, налівалася сокам ажына.

Не прабілася сонца ў зялёныя нетры,
Не шумелі яліны ад буйнага ветру.
Зарасла багуном і чаротам нізіна,
Расступілася пушча, а там — азярына,
Ні лілеяў, ні бросні не відна нідзе,
Не калышуцца хвалі на чорнай вадзе,
Загусцелай, укрытай вясёлкамі тлушчу,
І трава каля возера чорная ў пугачы.

Паглядзела Алеся на чорнае ўлонне,
Зачарпнула вады ў тугія далоні
І адразу зрабіліся рукі рудыя:
«Як дагэтуль не бачыла чорнай вады я?

Як ніхто да мяне па сцяжынцы звярынай

Не дайшоў да глухое лясной азярыны?»

Берасцянку тугую Алеся скруціла,
Разагрэтай смалою яе засмаліла,
І дамоў, каб ніхто не заўважыў сляды,
Берасцянку панесла дзівоснай вады.

Да Алесі пад вечар сышліся мужчыны,
Запалілі на comінку смольнай лучыны,
Пры няроўным святле разглядалі дзяды
Чарадзейныя кропелькі чорнай вады.

Вось адна на сухую лучынку упала —
Зырка ўспыхнула полымя, затрапятала.

Запыталі сівыя мужчыны тады:
«А ці многа ў возеры чорнай вады?»
Адказала Алеся: «Канца не відно.
Колькі я не глядзела, не ўбачыла дно».

«От і добра,— гаворыць хлапец малады,—
Сцежку ведае толькі Алеся туды,

Хай не кажа, ці блізка ісці, ці далёка,
Каб не ўбачыла возера панскае вока,
Каб цівун не дазнаўся, што ў пушчы сляды
Праз балота вядуць да гаручай вады.

А сцяжынку на возера ў цёмным бары
Хай пакажа Алеся малодшай сястры».

4

Калі ў небе дрыжалі блакітныя знічкі,
Загарэліся ў хатах нясмела газнічкі —
Калыхаўся агеньчык на тоненькім кноце
І свяціў ані да пеўняў прыгоннай галоце.
Пралі кужаль кабеты і кросны снавалі,
Весялей на вячорках дзяўчаты спявалі.
Хоць і паншчына гнула, і голад душыў,
Пасвятлела адразу ў людзей на душы,
Спадзяваліся — прыйдзе збавенне народу,
Бо мужычаму роду няма пераводу,
І паціху Алесю хвалілі заўжды,
Што прынесла ў хаты гаручай вады.
Цераз вёску пад восень, якраз на змяркáнні,
Ехаў пан з прыганятым! на паляванне,
Прыпыніўся па вуліцы з нейкай прычыны
І пабачыў, што ў хаце гарыць не лучына.
— Што там свеціць?
Адкуль у халопа газніца?
Дапытаць. А не скажа, на стайні дабіцца!
Цівуны паляцелі ў Алесіну хату.
— Ну, расказвай, якое мужычае свята
Ты спраўляеш? — пытае старэйшы адразу,—
І адкуль узялася газніца і газа?
Відна, мала вас білі і мала каралі,
Калі з панскага замка вы газы накралі!
— Не, зямелька нас корміць,
зямелька нам свеціць,
Нам ад пана нічога не трэба на свеце.
Мы сваё аддаём. Ці ж не з нашае працы

Вырастаюць да самага неба палацы?
Замігаў газнічок. Цівуны, як пачвары,
Бізунамі хвасталі Алесю на твары.
Хоць раз'юшаны пан гарцаваў на кані,
Загараліся ў кожнай хаціне агні.
Пасвятлелыя вокны у цемені ночы
Асляпілі зайздросныя панскія вочы.
Ён ад злосці шалеў. Загадаў, каб Алесю
Гайдукі з цівунамі вадзілі па лесе,
Аж пакуль не пакажа дарогу туды,
Дзе знайшла азярыну гаручай вады.
Не сціхалі, дапытвалі дзеўчыну каты
І пагналі разутаю з бацькавай хаты,
Сырамятнымі путамі рукі скруцілі
І па лесе да самае ночы вадзілі.
«Каб хацела, ніколі, ніколі ў жыцці
Мне да возера сцежку не ўдасца знайсці —
Бізунамі адбілі мне памяць і розум»,—
Прашаптала Алеся дубам і бярозам.
А за ёю праз пушчу, чарот, багуны
На стаенніках ехалі тры цівуны.
— Супыніся! Ты зноў павяла не туды,
Пад дубамі на сцежцы чарнеюць сляды!
Задрыжала, заныла дзявочае сэрца,
Што прыкмецілі сцежку яны да азерца.
І пагналі па багне, кустах і ламаччы —
Не ад болю Алеся, ад роспачы плача,
Расхінулі чарот. Каля берага сталі...
Зашумелі па возеры чорныя хвалі,
Закіпела, завыла густая вада,
Застагнала Алеся: «Ой, будзе бяда...»
— Ты вядзьмарка,
няйначай,— крычаць цівуны,
Узвіліся над дзеўчынай тры бізуны,
Тут маланка рассекла барвовую хмару,
І над возерам гром нечуваны ударыў.
Захраплі, на калені пападалі коні,
Закіпела вада у глыбокім прадонні.
Правалілася дно, пакаціліся хвалі
І адна за другою ў прорве знікалі.
Паказаліся з возера выспы, груды,
І не стала ні белай, ні чорнай вады.
— Згінь, вядзьмарка! —
ад злосці раўлі цівуны,
Папрыкручвалі рукі да тоўстай сасны.
Пазірала Алеся спакойна па катаў
І казала,
што хутка надыдзе расплата,
Што пакутаў і цемры ніколі не будзе,
Што святло адшукаюць сумленныя людзі.
Асталася Алеся ў дрымучым бары,
Праціналі пабітае цела вятры,
І дзяўчына ад крыўды заплакала горка,
Але чуе — паўзе па хваіне вавёрка,
Каля ног выбіваецца з чорнай травы
Невялічкі гарачы агеньчык жывы.
Перагрызла вавёрка раменныя путы,
Уздыхнула Алеся.
Мінулі пакуты.
На агеньчык сухога накідала вецця,

І пайшла, і панесла надзею па свеце.
Асталася Алеся навек маладою,
Вёску ж людзі назвалі
Гарывадою.

5
З той пары праляталі гады і стагоддзі,
Але вера жыла і дужэла ў народзе,
Што святло і гаручай вады па Палессі
Адшукаюць калісьці нашчадкі Алесі.
Ад палацаў адны засталіся руіны,
А імя не забылася смелай дзяўчыны,
І пад гоман кастра каля белай палаткі
Пра Алесю расказвалі казкі нашчадкі.
На звярыных сцяжынках, па багне, на гале
Маладыя геолагі скарбы шукалі,
Пад дажджамі, і ў спёку, і ў лютыя буры
Прабівалі балота сталёвыя буры.
Аддавала зямля ўсё, што некалі мела,
Працавітым, разумным,
сумленным і смелым.
За Алесінай вёскай, па полі ў зацішку,
Выраслі за вышкаю новыя вышкі,
А калі зацвіталі вясною сады,
Падняліся фантаны гаручай вады.
Вырас горад, нібыта ў казцы ці ў песні,
І не згаснуць ніколі агні на Палессі!
1965

ЛЯСНАЯ КАЗКА
I
Нёс ляснік ламачча вязку
Праз выгары і праз гаць,
Прыпыніўся ён і казку
Нам згадзіўся расказаць.

Мы якраз грыбы збіралі
Ў маладым беразняку,
Нахадзіліся, прысталі
І падселі к лесніку.

Ён у пень загнаў сякеру,
Дубальтоўку зняў з пляча,
З капшука дастаў паперку,
Закурыў і распачаў:

— Па старой замшэлай пушчы
Ходзіць вецер невідушчы,
Свішча, стогне і рагоча,
То зламаць асіну хоча,

То падскочыць на дыбкі,—
Да зямлі прыгне дубкі,
Топча спелыя суніцы,
Гне чарот каля крыніцы.

Вецер гойсае па пушчы
І галлё сухое трушчыць,
Птушанят малых пужае

На яліне у гняздзе,
Спаць лісе перашкаджае,
Рыб трывояшць у вадзе;
Г не на ясені галіны,
Атрасае ўсе маліны,
Камароў загнаў да рэчкі,
Напалохаў слімака,
Патушыў у воўка свечкі
І ліхтар у светляка.

Па старой дрымучай пушчы
Ходзіць вецер невідушчы.
Ён нічога не міне —
Ёлку зломіць, дуб сагне,
На мядзведзі поўсць прычэша,
Спудзіць качак ля ракі
Або ў дзятлавай дэпешы
Пераблытае радкі.

Раптам стала ў лесе ціха,
Знік на небе маладзік,
У хмызняк пайшла ласіха,
Да дубоў падаўся дзік.
Ён збірае жалуды,
Не чакаючы бяды.
А ў паўночніцы-савы
Свой закон, свае правы:
Спіць удзень, а позна ноччу
Свішча, стогне і рагоча.

Выйшаў з логава мядзведзь
На яліну паглядзець.
Там прывязана калода,
А ў калодзе поўна мёду.

І вавёрка каля сцежкі
Лушчыць спелыя арэшкі,
Шустры заяц касавокі
Пад кустом пусціўся ў скокі,

А маленькія казулі
Каля купіны паснулі.
Пракрычаў удод і змоўк,
Толькі вые недзе воўк.

Раптам бліснула маланка —
Стала відка, як удзень.
На сярэдзіне палянкі
Затрашчаў смаловы пень.

Гром ударыў, пакаціўся,
Кроплі пырснулі з гары,
Аганёк замітусіўся
І пабег па гушчары,
Пераскочыў па парэчку —
І заняўся куст, як свечка,
А з парэчкі на яліну —
І пабег на верхавіну.

Затрашчала скрозь ігліца,

Пачало свяціць і грэць.
Заяц кінуў весяліцца,
Папалохаўся мядзведзь,
І сава ўжо не рагоча,
Слепіць дым вавёрцы вочы,
Дзік пакінуў жалуды
І падаўся да вады,
А крумкач сядзіць на веццi
І пытае: «Дзе той вецер?
Дзьмуў, калі было не трэба,
А цяпер уцёк пад неба,
Прабадзяецца да дня,
А у нас гарачыня:
Прыпякае ў хвост і ў лапы,
Пачала смала кіпець,
Воўк ад смагі шчэрыць зяпу,
І качаецца мядзведзь,
А маленькая вавёрка
Да лісы палезла ў норку».

Закрычаў крумкач: «Кра-кра!
Патушыць пажар пара!»
Дым віецца аж да хмар,
Вецер мчыцца у гушчар —
Дзьме ён колькі сілы мае,
А агонь мацней палае:
То аранжавы, то сіпі
Узбягае па асіне,
Па сухой бярозе скача,
Перакінецца на пні,
Загарэлася ламачча —
Пушча ў дыме і ў агні.

2

У гняздзе пішчаць дразды:
«А цяпер ляцець куды?»
Знізу горача і збоку,
Зверху полымя пячэ.
Хто не лётае высока,
Той з пажару не ўцячэ.
Загадаў старэйшы дрозд:
«Вылятайце, дзеці, з гнёзд!»
І яны, сабраўшы сілы,
Разгарнулі шырай крылы,
Праз агонь і чорны дым
Паляцелі ўслед за ім.
За драздамі ўслед шпакі,
Галкі і цецерукі,
А за галкамі сарокі
Паляцелі пад аблокі,
За сарокамі сініцы
Паляцелі да крыніцы,
За сініцамі крумкач,
А за ім сава і драч.
Каля возера паселі,
Пер’е, крыльцы аглядзелі.
Дрозд маленькаму шпаку
Пух паправіў на баку,
Лье сава старому ўдоду
Па крыло з крыніцы воду,

Суцяшае галку драч:
«Ты цяпер ужо не плач.
Хай гарыць гняздо пустое
На трухлявым сухастоі.
Нам ля гэтае крыніцы
Ўсім патрэбна пасяліцца:
Будзем разам гнёзды віць,
І з усімі дружна жыць».
Ды пачуўся раптам свіст:
«Гэта ж дзяцел, наш радыст.
Што там робіцца ў лесе?» —
Запыталіся шпакі.
— У агні цяпер увесь ён,
Там мядзведзі, і дзікі,
І лісіцы, і вавёркі,
І ласіхі плачуць горка.
— Трэба ім дапамагчы,—
Закрычалі крумкачы.
— Трэба! Трэба! Трэба! Трэба!
І зірнулі ўсе на неба.

3
Дым вісіць барвовай хмарай,
Пушча стогне і гудзе,
Λ да возера з пажару
Ні ліса, ні лось не йдзе.
Закрычаў маленькі шпак:
— Ім не выбрацца ніяк!
Засляпіла дымам вочы,
Гінуць вожык і мядзведзь.
Хто са мною разам хоча
На разведку паляцець? —
І сініцы, і сарокі,
І ўсе, што тут былі,
На чатыры выйшлі крокі,
Крылы ўгору паднялі.
Слова ўзяў старэйшы шпак:
— Можа, ўсім ляцець не варта,
Бо з агнём дурныя жарты.
Лепей вырашым вось так:
Падыходзьце да ляшчыны,
Хто збіраецца ў палёт.
Паляцяць адны мужчыны —
Дзяцел, дрозд, крумкач, удод.
І, пастроіўшыся ў пары,
Нібы лётнае звяно,
Закружылі над пажарам,
Але добра не відно,
Хто там ходзіць па паляне,
Дзе хаваюцца сябры.
Шпак ускрыкнуў: — Грамадзяне,
Ёсць прасека у бары.
Вунь, зірніце, ні агню там,
Нават дыму не відаць.
Будзе добра ласянятам,
І зайцам, і лісянятам
З гэтай прорвы уцякаць.
Паглядзеў удод: — Так, так...
Малайчына, браце шпак.
Дзяцел, трэба тэлеграму

Тэрміновую адбіць:
Хай на захад прама-прама
Кожны звер хутчэй бяжыць.
Шпак заняты працаю —
Выбраў клён пад рацыю,
І крумкач працуе з ім,
Ён крычыць: «Усім! Усім!»
Дзяцел, сеўшы па суку,
Выбівае «Тук-туку,
Тук-туку, тук-тук-тука,
Недалёка ёсць рака:
Да тае ракі прасека
Прывядзе усіх сама.
Ні ліхога чалавека,
Ні агню на ёй няма.
Тукі-тукі, тук-тука,
Пасылаем вам шпака,
Ён пакажа ўсім дарогу
Паўз мядзведзеву бярлогу,
Ля кратовае нары
Да прасекі у бары.
Паглядзіце добра ў неба
Т сачыце за шпаком.
Адкажыце, што вам трэба.
Пераходжу на прыём».
«Не патрэбна нам нічога.
Пакажыце, дзе дарога
З пекла гэтага, з агню,
Бо загінем, не маню»,—
Адказаў мядзведзь радысту
І убачыў:
шпак са свістам
Кружыць, лётае над імі
У агні, у чорным дыме,
У іскрыстай замеці,
Нібы ён без памяці.
І звярам праз дыму хмары,
Праз гушчар і буралом
Ш лях паказвае з пажару
Шпак абпаленым крылом.

4

Вось ліса на воўку едзе,
А казуля на мядзведзі,
Заяц выбег з хмызняка,
Асядлаў хутчэй дзіка.
І вавёрка просіць ціха:
— Падвязі мяне, ласіха.
— Не марудзь, сядай на рогі,
Каб не збіцца нам з дарогі.
У бядзе мы ўсе сябры,—
Лось адказвае стары.
— Ну, а мне хто дапаможа? —
Зажурыўся бедны вояшк.
— Лось не хоча браць на ходку,
Кажа: «Колюцца іголкі».
Можа, гэтую бяду
Сам як-небудзь абыду.
Праз калоды,
праз ламачча,

Праз густыя хмызнякі,
Праз агонь,
праз дым гарачы
На ваўку лісіца скача
Да студзёнае ракі,
На рагах вавёрка едзе
І казуля на мядзведзі.
Іх сустрэць бягуць здалёку
Шчабятлівыя сарокі,
Прапануюць ля крыніцы
Разам з імі пасяліцца:
Там высокія таполі
І арэшніку як сад,
А у пушчу больш ніколі
Не варочацца назад.
Паглядзеў мядзведзь з папрокам
І адказвае сарокам:
— З кім не здарыцца бяды?
Ды бяда не будзе вечна,
А у пушчы так бяспечна,
Я пайду ізноў туды.
Там радзіўся, там памру.
Хто са мной?
Усіх бяру.
Вожык, заяц і каза
Закрычалі: «Мы — за, за!»
Далучыўся воўк з лісою
І вавёрка, лось і дзік...
Заіскрыўся луг расою,
Выплыў з хмары маладзік.

5

Нехта стогне ля крыніцы
Каля самае вады.
Прыпынілася лісіца
І патупала туды.
Паглядзела, бачыць — шпак,
На крыле крывавы знак,
Пер’е злезла з галавы,
Непрытомны, ледзь жывы.
Закрычала тут лісіца:
— Клічце доктара з бальніцы,
Хай сюды хутчэй ідзе —
Напі збавіцель у бядзе.
Тут з птушынае бальніцы
Прыляцелі дзве сініцы
І, паклаўшы на падушку,
Узнялі шпака ўгару.
А у лесе ў кожнай птушкі
Папрасілі па пяру.
Назбіралі пер’я, пуху,
Каб шпаку цяплей было.
Каб было заўсёды суха,
Каб гаілася крыло.
Дрозд прынёс расінку з мяты,
Вожык — спелыя зярняты,
Заяц — белую капусту,
А сарока — хлеба лусту,
І мядзведзь прынёс шпаку
Лыжку свежага мядку.
Загаіўшы хутка раны,

Шпак гаворыць крумкачу:
— Я, напэўна, заўтра рана
Разам з вамі палячу.
Мабыць, тут і казка ўся
Пра шпака і пра лася,
Пра сароку і сініцу,
Пра птушыную бальніцу.
А хто часам не паверыць,
У шпака няхай праверыць.
І мядзведзь яму пакажа,
Што дагэтуль лапы ў сажы.
1956

**ВАСЯ ВЯСЁЛКІН ЛЯЦІЦЬ НА МЕСЯЦ**

I
Захацеў Вясёлкін к лету
Змайстраваць сабе ракету,
Каб на месяц паляцець,
Каб самому паглядзець,
Што там ёсць: якія горы?
Ці растуць там памідоры?
Ці чырвоныя яны?
Ці даспелі кавуны?
І ці ў морах шмат вады?
Ці бываюць халады?
Ці ідуць дажджы улетку?
І якую можна кветку
Для гербарыя знайсці?
Ці паспелі расцвісці
Там сланечнікі за лета?
А для гэтага ракету
Неабходна будаваць.
Але як, з чаго пачаць?
Каб узяцца ўсім за справу,
Ён прыбіў на слуп аб'яву,
Так, каб кідалася ў вочы:
«Хто ляцець па Месяц хоча,
Хай прыходзіць да мяне
У алешнік на Дзвіне».
Пад аб'явай падпісаўся:
«Звеннявы Вясёлкін Вася».
Ведаў ён, не два, не тры,
А збяруцца ўсе сябры,
І цяпер ужо нідзе
З імі ён не прападзе.

2
І нясуць хлапцы патрошкі
У алешнік да ракі —
Хто бruскі, аполкі, дошкі,
Хто нажоўкі, хто цвікі.
Цыркуленка ўзяў паперы,
Каб зрабіць на ёй чарцёж,
Лобзік — два лісты фанеры,
А Стамескін — востры нож,
Клім Паяльнік — скрутак дроту,
І ўзяліся за работу.
Ад малодшых па сакрэту

Пачалі рабіць ракету.
Цыркуленка кажа:
- Так,
Я — чарцёжнік і мастак.
Не пярэч мне толькі, Вася,
Я ж вучуся ў трэцім класе.
Адказаў Вясёлкай:
— Што ж,
Пачынай рабіць чарцёж.
Цыркуленка ўзяў аловак,
Расцягнуўся на траве
І малюе загаловак:
«Нумар першы РВВ».
— Назва ёсць — ракета будзе,—
Хлапчукам тлумачыць Клім,—
Мы тады на гэтым цудзе
Аж на Месяц паляцім.
— Што за назва «РВВ»,
І адкуль яна ўзялася?
— Р — ракета, В і В —
Не інакш — Вясёлкін Вася.
Здагадаліся гуртом
І ўзяліся так, як трэба,
Каля рэчкі, пад кустом
Рыхтаваць палёт у неба.
Лобзік выразаў з фанеры
Сцены, столь, падлогу, дзверы,
А Стамескін для кабіны
Абручы сагнуў з ляшчыны,
Іх усе Паяльнік потым
Абвязаў мядзяным дротам
І гаворыць:
— Вось у нас
Ёсць і сцены і каркас!
— Ёсць каркас — ракета будзе,—
Б’е сябе Васіль у грудзі.
— На ракеце,— кажа Клім,—
Мы на Месяц паляцім.
Хлопцы кажуць: «Верым, верым,
Раз Вясёлкін інжынерам!..»
Клеяць, рэяіуць і стругаюць —
Васілю дапамагаюць:
Лобзік піліць,
А Паяльнік
Ходзіць важна, як начальнік,
Цыркуленка і Стамескін
Носяць стружкі і абрэзкі,
Робяць шлемы і ў палёт
Запасаюць кісларод.
Кожны дзень каля Дзвіны
Завіхаюцца яны.

3

А пад вечар ціха стала
У зарэчнай старане.
Хлопцы селі. Смажыць сала
Кухаронак на ражне.
І усім дае патроху,
Дзеліць скваркі напалам
— Перакусім і ў дарогу,—

Кажа Вася хлапчукам.
— А куды ляцець нам трэба? —
Тут Стамескін запытаў.—
Ты спярша зірні па неба,
Маладзік жа не настаў.
Дзе той зараз Месяц будзе?
Злева, справа не відаць.
Паляцім, а раптам зблудзім,
І няма ў каго спытаць,
І няма ў каго дазнацца,
Як да Месяца дабрацца…
Там міліцыі няма,
Не дзяжураць піянеры,
Прабадзяешся дарма
Каля Марса ці Венеры.
І яму Вясёлкін кажа:
— А Венера — зорка наша,
Да Венеры даляцела
Наша станцыя і села.
Ёсць жа ў небе Млечны Шлях,
Вось якраз па ім да мэты
Паляціць на ўсіх парах
Наша першая ракета.
А Стамескін зноў пярэчыць:
— Гэта ўсё, брат, недарэчы,
Зробім правільны разлік,
Як узыдзе маладзік.
Вася спрэчнае пытанне
Ставіць на галасаванне.
Хлопцы рукі паднялі:
— Пачакаем на Зямлі.
Як узыдзе маладзік
Над страхою сельсавета,
Мы, праверыўшы разлік,
Запускаць пачнём ракету.
А цяпер усім пара
Адпачыць каля кастра.
Хлопцы леглі, а Стамескін
У агонь кідае трэскі.
Змрок лажыцца па узгоркі,
Стала ціха ля ракі.
Замігалі ў небе зоркі.
Задрамалі хлапчукі.

4

Раптам Вася чуе гром.
Не, не гром, а выбух гэта.
І ўзнялася над бугром
Рэактыўная ракета.
Вось ужо і ў небе зорным
Апынулася яна,
У тумане край азёрны
І шырокая Дзвіна.
Вунь і школа, вунь і хаты,
І густы калгасны сад,
Тут Стамескіну Ігнату
Захацелася назад.
Ён па вуха шэпча Васю:
— Лепш астацца мне ў калгасе.
Мне па спіну прывяжыце

Вы надзейны парашут.
Без мяне, як ні кажыце,
Прастарней вам будзе тут.
З Васілём не страшна мне,
Я ж ляцець хачу таксама,
Але дзед шукаць пачне,
Напалохаецца мама…
Так апраўдваўся Стамескін,
Нешта плёў пра марсіян…
Раптам зніклі пералескі,
Паказаўся акіян.
Акіян — ні дна, ні краю,
Акаянны акіян!
Вася кажа:
— Ён карае
Баязліўцаў за падман!
— Я не буду злазіць тут,
Адвяжыце парашут.
Акіян гудзе,
Пад імі
праплываюць караблі.
Але хутка ў лёгкім дыме
Паказаўся край зямлі.
— Што ж, прывязвай парашут,
Прызямляцца можаш тут,—
Загадаў Васіль Ігнату,
Але нешта мнецца ён.
— Тут, браткі, не нашы хаты,
Гэта ж горад Вашынгтон,
Тут я злазіць не хачу,
Лепш на Месяц палячу.
Свеціць сонца,
Свецяць зоры,
Не відаць ужо Зямлі —
У бязмежныя prасторы
Касманаўты паплылі.
Вася ў неба пазірае
І сябрам тлумачыць ён:
— Вунь Мядзведзіца Малая,
А вось гэта Арыён.
Гэта — Лебедзь, там — Насос,
А ніжэй Вялікі Пёс.
Чуюць хлопцы, недзе блізка
Забрахаў Ігнатаў Лыска,
Даўгавязы і худы.
— Як жа трапіў ён сюды?
Прызнавайся, не брашы,
Па парадку ўсё кажы!
Пацягнуўся, вылез Лыска:
— Не было мяне у спіску,
Мне ж за ўсё мілей на свеце
Пакатацца у ракеце,
І на Месяц, і назад,
Я ж славутай Стрэлкі брат.
Загадаў Васіль, каб Лыску
Кухаронак выдаў міску,
Каб даваў ён па галеце,
Як і кожнаму ў ракеце.
Хлопцы вырашылі зрэдку
Выпраўляць яго ў разведку.

Кожны цэлы дзень заняты:
Клім прарошчвае зярняты,
Бо збіраецца з Ігнатам
Стаць на Месяцы юннатам.
Цыркуленка не на жарты
Падвастрыў карандашы —
Ён цяпер малюе карты
І складае чарцяжы,
Дзе ўзышлі якія зоры,
Дзе якія метэоры
Праляцелі ў вышыні,
Дзе ў касмічнай цішыні
Загрымеў шалёны шквал,
І запісвае ў журнал:
«Пачалі ў ракету біць,
Быццам дождж, метэарыты,
А яна сабе ляціць
Да намечанай арбіты».
Неба чорнае, як сажа,
Свецяць Месяц і Зямля.
— Вось дык дзіва,— Лобзік кажа
І глядзіць на Васіля,
Бо Вясёлкін стаў вядомым
У ракеце астраномам.
Ён гаворыць:
  — Блізка мэта,
  Месяц вось, над галавой.
Хутка наша ракета
Пералёт закончыць свой.
Тут на карце ёсць наметка,
Дзе ракету пасадзіць,
Але Лыска на разведку
Хай спачатку паляціць.
Адчыніў Стамескін дзверцы,
А ў самога б’ецца сэрца:
Лыска к выхаду ідзе —
І... паплыў, як па вадзе.
Пазіраюць праз аконца
Касманаўты з карабля:
Свеціць Месяц, свеціць Сонца,
Свеціць родная зямля,
Як на карце, рэкі, моры,
І зялёныя палі,
І лясы, і нават зоры
Бачаць хлопцы на Крамлі.

6

— Месяц!
  Месяц перад намі! —
  Закрычаў Васіль сябрам,—
Вунь за тымі валунамі
Прылуняцца трэба нам.
Горы ўнізе паплылі,
Акурат, як на Зямлі,
А за горамі — нізіны,
За нізінамі — раўніны,
І наўкол такая ціша,
Што чуваць, як Лобзік піша
Нешта ў вахценны журнал,
Як парыпвае штурвал.

У нізінах пуста, гола —
Скалы дзікія наўкола,
І кладзецца доўгі цень
На нізіны і на ўзгоркі.
Неба чорнае,
                    і ўдзень
    Свеціць сонца, свецяць зоркі.
Сонца ў небе — значыць, лета,
Ноччу — лютая зіма...
Прылунілася ракета,
А разведчыка няма.
Нарабіў Стамескін піску:
— Дзе мой Лыска?
    Дзе мой Лыска?
— Ён не твой,—
    Вясёлкай кажа,—
    Стаў ён членам экіпажа
    І чакае недзе нас.
Дык не будзем траціць час:
Лобзік пойдзе на Каўказ,
А Ігнат — на Апеніны.
Там разведчыка якраз
Адшукаць яны павінны.
Цыркуленка, на Алтай
Ненадоўга завітай.
Ён далёка, значыць, варта
Захапіць з сабою карту,
Клім на Альпы зазірне
І сустрэне там мяне.
Кухаронак, ты як след
Прыгатуеш нам абед.
Лобзік скокнуць захацеў,
Ды, як птушка, паляцеў,
Паляцеў услед за ім
На гару Ігнат і Клім.
У хлапцоў падняўся дух,—
Сталі лёгкія, як пух:
Ім хадзіць цяпер не трэба,
Крок ступіў — ляціш у неба,
За адзін агледзіш раз
Апеніны і Каўказ.
Вася кажа:
    — Я направа,
    Мора Яснасці прайду,
    Вымпел нашае Дзяржавы
    Я, напэўна, там знайду.
І дайшоў Васіль туды:
Мора ёсць — няма вады,
Ані кроплі, ні расінкі
Нельга тут нідзе знайсці,
А яму без перапынку
Трэба зноў і зноў ісці.
Сонца свеціць, паліць смага,
А ў біклазе ёсць вада
З беларускае крыніцы,
Васілю яе шкада,
Але хочацца напіцца.
Прыпыніўся, трошкі выпіў,
Пот уцёр, далей пайшоў.
На гары савецкі вымпел

Неўзабаве ён знайшоў.
І цяпер ужо, вядома,
Быў на месяцы, як дома.

7
Паляцеў далей Вясёлкін
І знайшоў заліў Вясёлкі.
Бачыць — бераг наздраваты,
Пад нагамі пыл, як вата,
Злева горы, справа горы
І няма ні рэк, ні мораў,
Ні дажджу няма, ні грому…
Захацеў Васіль дадому:
Тут няўтульна, пуста, гола,
Нават хмарак не відно.
І успомніў: «Пэўна, ў школу
Мы спазніліся даўно».
Ён ляціць і чуе: Лыска
Недзе брэша блізка-блізка.
Прахапіўся: ля ракі
Спяць спакойна хлапчукі,
Толькі Лобзік нешта рэжа,
Ды на Месяц Лыска брэша.
Вася ўстаў, шкадуе ён —
Дужа быў кароткі сон.
— Сёння сон, а заўтра быль,
Кажа хлопчыкам Васіль
І майструе зноў макеты
Міжпланетнае ракеты.
1959

**СЛОН**
*Казка*

1
Раззлаваўся ў цырку слон:
Разварочаў клетку ён,
Вырваў хобатам замок,
Скінуў дзверы і уцёк.
Разышлася навіна:
«Цырк астаўся без слана.
Слон жа быў прыручаны,
Усяму навучаны,
Далікатны, смірны слон:
Нізкі ён рабіў паклон,
З мылам вушы мыў у тазе,
Дырыжорам быў у джазе,
На трубе іграў адменна,
Станавіўся на калена,
На слупы нацягваў дрот,
Танцаваць умеў факстрот,
Шыў у цырку з даўніх дзён,
Але ўцёк індыйскі слон».

2
Доўга слон блукаў у змроку
Каля цырка недалёка,
Стала холадна слану.
Бачыць белую сцяну —
Дом без вокан, без дзвярэй,
Ён зайшоў туды скарэй.

Слон ад холаду дрыжыць:
«Т-т-у-т пакуль што можна жыць».
Ёй па лесвіцы ідзе,
Не спыняецца нідзе.
Пастаяў, патупаў слон,
Выйшаў ноччу на балкон,
Паглядзеў на ўсе бакі,
Чуе — свішчуць цягнікі.
І прыпомніўся вагон,
У якім прыехаў ён.
Закруціўся слон ад шчасця,
Ды баіцца, каб не ўпасці
Неспадзеўна з вышыні
На прэнты і камяні.
Адышоўся і ўбаку
Задрамаў на скразняку,
А на золку злез памалу
І падаўся да вакзалу.
Слон ідзе, ды чуе штосьці
Ломіць ногі, ныюць косці.
Паглядзеўся у вітрыну —
Бачыць кожную маршчыну,
Звіслі вушы, лоб пахмуры,
Мабыць, ад тэмпературы.
Ён рашыў — каля аптэкі
Прадаюць, напэўна, лекі,
І апошнім на рагу
Стаў у доўгую чаргу.
Там жанчыны і падлеткі
Атрымоўваюць таблеткі,
Абдзіраюць з іх паперкі
І смакуюць, як цукеркі.
Нехта кажа ў чарзе:
— Хай салодкага згрызе.
Невялікая ж цана.
— Мы заплацім за слана.
Падышоў. Даюць яму
Восем порцый аднаму.
Падабраў усё з рукі —
І падаўся нацянькі.
Потым кашляў дзесяць дзён
Ад марожанага слон.

3

Слон нарэшце на вакзале
Апынуўся ў людней зале.
Падышоў купіць білет,
А яму далі газет.
Што ў іх пішуць — разбяры,
Бо трымае дагары.
Стаў туды,
дзе больш народу,—
Прапануюць бутэрброды,
І буфетчыца спытала:
— Вам паўсотні,
пэўна, мала?
Лепей вы катлет вазьміце,
Кавай цёплаю запіце.
— Мне цяпер не да катлет,
Дзе скажыце, ўзяць білет?

— Вы не трацьце марна часу,
А хутчэй бяжыце ў касу.
Слон спяшацца не прывык,
Але, ўбачыўшы цягнік,
Паімчаўся на перон
І ў парожні сеў вагон.
Едзе слон паўз гарады,
Сам не ведае куды.

4
Звоняць, звоняць цыркачы —
Просяць ім дапамагчы
І крычаць у тэлефон,
Што прапаў індыйскі слон.
Зранку міліцыянеры
Абышлі чатыры скверы,
Восем вуліц абышлі,
А прапажу не знайшлі.
Падалі сігнал трывогі,
Перакрылі ўсе дарогі,
Бо далёка ўначы
Слон не мог бы уцячы.
Усіх пытае старшына,
Ці не бачылі слана.
Муляр кажа:
— Ноччу ён
Развярнуў увесь балкон.
Кранаўшчык гаворыць:
— Рана
Не знайшлі на месцы крана.
А марожаншчыца Іра
Кажа:
— З'еў кіло пламбіру.
Прыбіральшчыца сказала:
— Слон хадзіў каля вакзала.
Цягнікі ўсе абышлі,
А прапажу не знайшлі.

5
Ну а слон?
Спакойна едзе
І ўсё марыць аб абедзе —
Есці хочацца слану.
Ён загрукаў у сцяну:
— Я ад голаду апух,
Не наемся — выйдзе дух.
Праваднік сказаў:
— Пад'есці
Толькі зможаце у Брэсце.
Больш за ўсё слановай ежы
Ёсць у нас у Белавежы.
Стаў цягнік. І на перон
Па прыступках выйшаў слон.
Дзеці рады: «Вось пацеха —
Цырк прыехаў! Цырк прыехаў!»
Недалёка ад вакзала
Гучна радыё зайграла:
Слон пайшоў скакаць факстрот —
Нехта кінуў бутэрброд,
Пакланіўся нізка слон —

Падалі яму батон,
Кош прынеслі з пiражкамі
І запляскалі рукамі.
Трохі слон перакусіў
І напіцца папрасіў.
Ён салодкага сітро
Выпіў цэлае вядро.
А даеўшы бублік свежы,
Слон пайшоў да Белавежы.

6
Нешта важнае здалёку
На хвасце нясе сарока.
І пайшла па пушчы чутка:
Г розны слон прыбудзе хутка,
Велізарны, як гара,
І дужэйшы за зубра.
З перапуду дзік замоўк,
Зажурыўся шэры воўк,
У гушчар пабеглі козы,
Льюць бабры над рэчкай слёзы.
Суцяшалі іх зубры:
— Вы. не бойцеся, сябры,
Не тлуміце галаву:
Любіць слон адну траву.
А пабачылі пляткарку:
— Варта даць табе па нерку,
Глупства ты не балбачы,
Лепш над пушчай пакрычы,
Каб ласі паслалі дзетак
Назбіраць букеты кветак,
Запрашай усіх пад вечар
На ўрачыстую сустрэчу.
Загадаў мядзведзь вавёрцы:
— Прызначаешся ў дазорцы,
Лезь на елку і сачы,
Хоць да самае начы.
Госця ўбачыш — у пару
Далажы пра ўсё зубру.
Паляцеў на пушчы звон:
— На дарогу выйшаў слон,
Крутабокі, чараваты,
Хвост і спераду, і ззаду,
Як слупы, таўстыя ногі.
Пыл віецца ўздоўж дарогі.
Слон вялізны, як гара.
Сустракаць яго пара!
З рэчкі вылезлі бабры,
З гушчару бягуць зубры,
Выйшаў з ельніку мядзведзь,
Каб на дзіва паглядзець.
Вожык просіць: — Хай алені
Лепш пастануць на калені,
Бо за імі ўсё адно
Нам нічога не відно.
Ад зуброў да зайчанят
Ўсе ў адзін пасталі рад.
Лес галосіць і гудзе:
«Слон ідзе! Слон ідзе!»
Азірнуўся, стаў пад клён

На паляне важны слон.
Падштурхнуў казёл бабра
І давай раўсці: «У-р-р-а!»
А за імі ўслед зароў
Прывітанне хор зуброў.
Галавою круціць слон:
— Вы спяваеце не ў тон.
Я прыйшоў, сябры, да вас,
Каб стварыць і хор, і джаз,
Каб артысты ў вас былі,
Каб мы весела жылі.

7
Крывалапы мішка з лубу
Каля рэчкі круціць трубы,
Дзяцел іх дзяўбе наскрозь,
А басэтлю ладзіць лось.
Між ялінамі памалу
Павукі снуюць цымбалы,
На пагорку тры лісы
Правяраюць галасы.
Зубр слану паціху кажа:
— Хутка снег у пушчы ляжа,
Прыйдзе лютая зіма,
А ў цябе яшчэ няма
Кажуха, штаноў, валёнак,
Быццам толькі што з пялёнак,
Як бізун, заўсёды голы,
Хоць і дужы, і вясёлы.
Не бядуй! Усім гуртом
Мы табе збудуем дом
У зацішным гушчары.
Чуеш, валяць лес бабры,
Катлаван дзікі капаюць,
Пра цвікі сарокі дбаюць,
І мядзведзя хутка з труб
Перакіну я па зруб.
Кожны добры ў нас работнік,
Дружна выйдзем на суботнік,
І яшчэ да снегу, браце,
Зажывеш у новай хаце.
Бервяно за бервяном
Цягне слон сабе на дом,
А зайцы нясуць удвох
У кашы з балота мох,
І бабры ў чатыры змены
З круглякоў складаюць сцены,
Ставяць кроквы. Кожны птах
Да змяркання крые дах.
Вось ужо гатова хата.
Загуло у пушчы свята —
Сёння ўходзіны ў слана,
Дзік з казою давідна
Скачуць, быццам у балеце,
Лось іграе на кларнеце,
Зубр у топ яму якраз
Дзьме ў дубовы кантрабас,
Заяц шустры і старанны
Б’е ў чатыры барабаны,
А мядзведзь у флейту свішча.

От ігрышча дык ігрышча!
Дырыжор — вучоны слон
Адкрывае зноў сезон,
І зімою ў пушчы з ім
Будзе весела усім.
1964

**СВЕТЛЯЧКІ**
*Пушчанская казка*

Ох і цёмна ж ноччу ў пушчы:
Ельнік стаў яшчэ гусцей,
Лось галлё сухое трушчыць
І чапляецца часцей
То за пень, то за калоду,
То за вострыя сукі,—
Не былі такія зроду
Паздзіраныя бакі.
Праз ядловец не прабіцца,
Ледзь назад пралезці змог,
І заўважыла Ласіца,
Што ў яго зламаны рог.
Ці былі там вы калі,
Дзе хоць вока выкалі?
А малое Ваўчаня
Пагукала маму
І ўпацёмках каля пня
Паляцела ў яму.
Вые, енчыць і галосіць,
Памагчы суседзяў просіць,
А ў ракітавым кусце
Заяц плача ў цемнаце.
Кінуў цёплую бярлогу
І пабег на дапамогу,
Перапазячы ледзь-ледзь
Праз валежыны, Мядзведзь.
Зайца выцягнуў за вушы —
І прайшоў адразу страх.
«Толькі больш ніколі, дружа,
Не сланяйся па пачах,—
Ушчуваў Мядзведзь касога,—
Вось твая дамоў дарога.
Там даўно бядуе маці,
Я ж пайду да ваўчаняці,
Бо яго бацькам да рання
Не вярнуцца з палявання
З-за шырокае ракі,
Дзе хаваюцца дзікі.
Можа, хлопца уратую,
Толькі трэба паглядзець...»
Але як залемантуе
І завойкае Мядзведзь:
«Ой, скрануцца не магу,
Бо ўпіваюцца ў нагу,
Быццам тысяча іголак,
Дрот калючы ў дзесяць столак.
Касавокі, не бяжы,
Мне хутчэй дапамажы!»
Але раптам з-пад нагі

Голас чуецца другі:
«Хто там прэцца, як мядзведзь
І крычыць без толку,
Хто не можа паглядзець,
Што па мне іголкі? »
«Адурэў, таварыш Вожык!
Хто ж па сцежцы ставіць ложак?»
«Я не ложак, а лагчынку
Паміж лісцікаў і траў
Для начнога адпачынку
Сам сабе аблюбаваў.
У мяне цяпер, сябры,
Тры зламаныя рабры».
«Ну, а я ўжо не змагу
Стаць па правую нагу!»
І Мядзведзь узяў у зяпу
Акрываўленую лапу.
Толькі ў пушчы сярод ночы
З кожнага Сава рагоча,
Бо яна з усіх адна
Добра бачыць давідна,
І на досвітку засне
На яліне ці сасне.
А Мядзведзь раве ад болю,
Стогне, лапаю трасе.
І на крык па добрай волі
Пазбягаліся усе:
Праз ядловец, без дарогі,
Лось прыплёўся аднарогі,
І казулі, і дзікі,
І Лісіца — з-за ракі.
За увагу і за ласку
Заяц робіць перавязку:
Берасцінаю ў тры рэдзі
Закруціў нагу Мядзведзю.
Той суцішыўся, замоўк.
Аж прыбег аднекуль Воўк.
Пасівелы і стары,
Вочы, быццам ліхтары,
З ім і тое Ваўчаня,
Што у яме, каля пня,
З усяе ваўчынай сілы
На ўсю пушчу галасіла.
Раптам крыкнула Сарока:
«Колькі ж нам блукаць у змроку
Мае кожнае сяло
Электрычнае святло.
Вось і трэба ад вады
Нам правесці правады,
Каб сучок і кожны пень
Ноччу бачыць, як удзень».
Просіць слова Воўк стары:
«Толькі выхад ёсць адзіны —
Можа, згодзяцца бабры
Збудаваць для нас плаціну.
Дык няхай да іх дахаты
Сходзяць нашы дэлегаты
І папросяць, каб бабры
На Чаромхавым віры
Добра рэчку загацілі

І па дроце ток пусцілі».
А назаўтра ўсе з ахвотай
Захапіліся работай.
Ад зары і да зары
Завіхаюцца бабры —
Валяць елкі і асіны
Для галоўнае плаціны.
Ад світання да змяркання
Дзік з кратамі — ў катлаване,
А Мядзведзь, хоць і кульгае,
Кожнаму дапамагае:
Прыкаціў на бераг прама
Ён турбіну і дынаму.
Дзе разявіўся — невядома.
Можа, узяў з металалому,
Але ім няма цаны,
Бо як новыя яны.
А цяпер і павукі
Узяліся за работу:
На галіны і сукі
Начаплялі столькі дроту,
Што прайсці і Лось не змог
І зламаў апошні рог.
Завіхаюцца да зморы
Даўганогія манцёры,
І пад вечар пішуць зводку,
Што закончылі праводку.
Каля рэчкі за-гу-ло...
Закруцілася дынама.
«Ёсць і ў нас цяпер святло»,
Паляцела тэлеграма
Да пушчанскага цара —
Белавежскага Зубра.
На галінкі і сучкі
Дружна селі светлячкі
І найлепш на свеце
Свецяць, свецяць, свецяць.
А Лісіца, цётка Ліза,
Каб усюды быў прагрэс,
Каляровы тэлевізар
Прыцягнула з крамы ў лес.
Светла, весела ў пушчы,
А было ж наадварот.
І адразу стаў відушчы
Нават самы цёмны Крот
І жадае: «Каб было
На зямлі заўжды святло!»
1980

# КАЛЯ КАРТЫ ПАЭЗІІ

**Пераклады**

З рускай

**Аляксандр Пушкін**
**АНЧАР**

Ні ценю ў пустцы, ні травы.
На глебе, сонцам разагрэтай,
Анчар, як грозны вартавы,
Стаіць адзін пагрозай свету.
Прырода прагная палёў
Яго ў дзень гневу нарадзіла,
Камель, і мёртвае галлё,
І ліст атрутай напаіла.
Цурком з-пад тоўстае кары
Атрута сочыцца ад спёкі
І застывае ўвечары
Слязінкамі густога соку.
Сюды і птушка не ляціць,
Не завітае тыгр самотны,
А віхар чорны набяжыць
І ўдаль імчыцца ўжо смяротны.
Ці хмара наплыве з далін —
І кожны сонны ліст заплача,
Атрутны дождж з яго галін
Сцякае на пясок гарачы.
Ды чалавека чалавек
Паслаў к анчару на пакуты,
І той пабрыў адзін па здзек,
І раніцой прынёс атруту.
Прынёс смяротную смалу,
Галінку з вялаю лістотай,
І па збялеламу чалу
Каціліся крупінкі поту.
Прынёс, асунуўся і лёг
Пад буданом на жвір прымяты,
І бедны раб сканаў ля ног
Уладара свайго і ката.
А цар атрутай папаіў
Каляных стрэл насечкі з медзі
І смерць у розныя краі
Паслаў няскораным суседзям.

**Аляксандр Блок**
**НА ПОЛІ КУЛІКОВЫМ**

I
Рака раскінулася. Сумна і ляніва
Палошча берагі.
Над чэзлай глінай жоўтага абрыву
У стэпе журацца стагі.
О, Русь мая! Ты жонка мне! Да болю
Наш доўгі шлях!
Ён, як страла татарскай дзікай волі,
Калоціцца ў грудзях.

Гасцінец паш, о, Русь, зажураны,
бязмежны
Туга не абміне,
І нават змрок — начны і зарубежны
Не страшны мне.
Хай ноч. Паспеем. Полымя ўгарыцца —
Азорыць даль,
Заззяе сцяг святы, як бліскавіца,
І ханскай шаблі сталь.
І вечны бой! Спакой нам толькі сніцца,
Праз кроў і пыл,
Па кавылі кабыла ў стэп імчыцца
З апошніх сіл...
Канца няма! Мільгаюць вёрсты, гоні...
Хутчэй спыні!
Спалоханыя хмары вецер гоніць
І захад у агні.
Заход барвовы! З сэрца кроў струменіць!
Плач, сэрца, плач...
Забудзь спакой! Стаеннікі у пене
Ляцяць наўскач!
7 чэрвеня 1908

2
Мы, як ёсць, у стэпе ў поўнач сталі:
Коні нас дамоў не даімчаць.
За Няпрадвай лебедзі крычалі,
І яны ізноў, ізноў крычаць...
На шляху — гаручы белы камень.
За ракой — паганскі крык арды.
Светлы сцяг над нашымі палкамі
Апусціўся, мабыць, назаўжды.
Да зямлі прыпаўшы галавою,
Мне гаворыць друг: «Вастры мячы,
Каб за волю ў бойцы з татарвою
Легчы ў дол або перамагчы!»
Я — не горшы воін, не сярэдні.
Доўга будзе край мой у агні,
Жонка мая светлая, ў абедню
Ты мяне, як друга, памяні.
8 чэрвеня 1908

3
Ноччу аблажыў Мамай ардою
Стэпы і масты,
Мы ж у полі там былі з табою,—
Ці адчула ты?
Перад Донам, цёмным і трывожным,
Ў стэне і ў лясах
Сэрцам чуў я голас твой прыгожы
Ў лебядзіных галасах.
З поўначы палкі князеўскай раці
Хмараю імкнуць,
А ў далечыні на стрэмя маці
Горка слёзы льюць.
Недзе крылы чорныя да ранку
З вечара гулі,
А над Руссю ціхія заранкі
Князя сцераглі.
Клёкатам арлінымі, рэхам здрады

Гуў татарскі стан,
Вэлюмам князёўны над Няпрадвай
Плыў туман.
Над Няпрадвай конь у белай пене
Цуглямі звінеў,
Ты ішла ў вопратцы праменнай
Проста да мяне.
Срэбнай хваляй заблішчала другу
На стальным мячы.
Асвяжыла пыльную кальчугу
На маім плячы.
І калі на золку хмарай чорнай
Рушыў шквал арды,
На шчыце гарэў нерукатворны
Вобраз Твой заўжды.
14 чэрвеня 1908

4
Ізноў кавылі з асакою
Вятрыска і круціць, і гне.
Ізноў за туманнай ракою
Здалёку Ты клічаш мяне...
Паспелі без весткі прапасці
Табун за ліхім табуном,
Развязаны дзікія страсці
Пад месяца плыткім святлом.
І я з непазбыўнай журбою
Пад месяцам воўкам брыду,
Куды мне ляцець за Табою,
Калі я збавенне знайду?

Мне чуюцца стогны і клёкат,
І трубныя крыкі татар,
Я бачу над Руссю здалёку
Шырокі і ціхі пажар.
Туды, дзе гарцуюць татары,
Лячу я на белым кані...
Насустрач праносяцца хмары
У шэрай начной цішыні.
Мне сэрца, скаванае сумам,
Усцешвае думак прыліў,
Ды гэтыя светлыя думы
Мне цёмны агонь спапяліў...
«З'явіся мне, дзіўнае дзіва!
Быць светлым мяне навучы!»
Гайдаецца конская грыва...
За ветрам галосяць мячы.
31 ліпеня 1008

5

> Імглою бедаў неадступных
> Зацягнуты наступны дзень.
> Ул. Салаўёў

Ізноў над полем Куліковым
Плыве імглы густое цень,
І, быццам воблакам суровым,
Зацягнуты наступны дзень.
За цішынёй — спакой і стома,
І за разлітаю імглой
Не чутна дзіўнай бітвы грому,
Няма маланкі баявой.
Я пазнаю мяцежны ранак —

Прыходзяць грозныя часы!
Як некалі, над дзікім станам
Гудуць лябёдак галасы.
Не можа сэрца жыць спакоем,
Зноў хмары абступаюць нас,
Даспех цяжкі, як перад боем,
Маліся — надышоў твой час.
23 снежня 1908

**НЕЗНАЁМКА**

Увечары над рэстаранамі,
Калі спякотны дзень патух,
Кіруе воклічамі п’янымі
Вясновы і атрутны дух.

Здалёк, пад мітуснёй завулачнай,
Над смуткам загарадных дач,
Ледзь залаціцца крэндзель булачнай
І чуецца дзіцячы плач.

І кожны вечар за шлагбаумамі,
Заломваючы кацялкі,
Паміж капаў гуляюць з дамамі
Дасціпныя жартаўнікі.

Над возерам рыпяць уключыны,
І чуецца жаночы піск,
А ў небе да ўсяго прывучаны
Скрывіўся адзінокі дыск.

І кожны вечар, як па звычаю,
Мой друг у шклянцы прамільгне,
І пеннай, даўкай, таямнічаю
Аглушыць вадкасцю мяне.

А каля столікаў гадзінамі
Лакеі сонныя тырчаць,
І п’яныя з вачмі трусінымі
«In vino veritas» крычаць.

У пэўны час, якога прагнуў так,
(Ці гэта толькі сніцца мне?)
Дзявочы стан, у шоўк зацягнуты,
Плыве ў задымленым акне.

Павольна пройдзе паміж п’янымі,
Як і раней, заўжды адна,
Дыхне духамі і туманамі
І сядзе зноў каля акна.

Павеюць даўняю аздобаю
Яе пярсцёнкі і шаўкі,
І капялюш, пяро з жалобаю,
Празрыстасць вузкае рукі.

Прыкуты, як да самай блізкае,
За вэлюмам лаўлю пагляд,
Чароўны бераг тонкай рыскаю

За дзіўны вабіць далягляд.

Мне таямніцы ўсе даручаны,
Належыць сонца мне даўно.
Сваёй душой да болю змучанай,
Я зведаў горкае віно.

Зноў пёры страуса замглёныя
У памяці маёй плывуць,
І вочы сінія, бяздонныя,
На дальнім беразе цвітуць.

Ад скарбаў, што ў душы схаваныя,
Ключы належаць толькі мне.
Сцвярджае зноў пачвара п’яная:
Я знаю: ісціна ў віне.
1906

**ФАБРЫКА**

У жоўтых вокнах ціха стала.
А ў вечары, а ў вечары
Рыпяць марудныя завалы,
Людзей збіраюць па двары.

Глухая брама каля дому,
Чуваць, як бразгаюць ключы,
І нехта чорны, нерухомы
Людзей падлічвае ўначы.

Я з вышыні гляджу і стыну,
А ён мядзяны крывіць рот
І зноў загадвае, каб спіны
Сагнуў замучаны народ.

Яны ўвойдуць, разбрыдуцца
Цягаць кулі з усіх бакоў.
І ў жоўтых вокнах засмяюцца,
Што ашукалі жабракоў.
1903

**ДЭМАН**

Ідзі за мной, ідзі пакорнай,
Адданаю маёй рабой.
На зіхатлівы грэбень горны
Я ўпэўнена ўзлячу з табой.
Мы праляцім пад прорвай нухам,
Я глыбінёй пачну дражніць.
Дарэмны жах твой чорнай скрухай
Мяне усцешыць і натхніць.
Я ад дажджу з эфірным пылам
І ад кружэння засланю,
Усёю сілай дужых крылаў
Табе адкрыю вышыню.
Над горамі у бляску белым,
Дзе цнотны луг абняў раку,
Сваім святым цудоўным целам
Цябе я дзіўна апяку.

Ты ведаеш — хлусня і дробязь,
З якімі поруч ты жывеш,—
Зямная сумная хвароба,
Што дзікай страсцю ты завеш?
У цішыні лагоднай ночы
Ты, заварожаная мной,
Яшчэ вышэй ляцець захочаш
Пустэльняй неба агнявой.
Пад намі горы, як узгоркі,
Т кожны з нас туды ляціць,
Дзе зіхаціць зямля, як зорка,
Зямлёю зорка зіхаціць.
І, анямеўшы ад здзіўлення,
Ты ўбачыш цуд у вышыні,
І задыхнешся ў захапленні
Ад дзіўнае маёй гульні...
Калоцячыся ад бяссілля,
Ты ціха скажаш мне: пусці...
Павольна разгарнуўшы крылле,
Табе ўсміхнуся я: ляці.
І пад чароўнаю усмешкай
Амаль растаўшы на ляту,
Нібыта камень або снежка,
Ты паляціш у пустату.
1916

* * *

Аб доблесцях, аб подзвігах, аб славе
Я на зямлі пакутнай забываў,
Калі твой твар у просценькай аправе
Перада мной на століку заззяў.
Час надышоў, ты раптам знікла з дому.
Я ў ноч пярсцёнак кінуў свой хутчэй.
Ты лёс дзяліла з нейкім невядомым,
І я забыў святло тваіх вачэй.
Ляцелі дні, мільгалі клятым роем...
Віно душу нявечыла маю...
І ўспомніў я цябе прад аналоем,
Шукаў цябе, як маладосць сваю.
Цябе я клікаў,— ты не паглядзела,
Я плакаў,— ты няўмольнаю была,
Ты сіні плашч, самотная, адзела
І з дому ў ноч вільготную пайшла.
Не ведаю, дзеля сваёй гардыні
Дзе ты прытулак, любая, знайшла.
Я моцна сплю, мне сніцца плашч твой сіні,
Калі ты ў ноч вільготную пайшла...
Не мару аб пяшчотах і аб славе,
Усё мінула, маладосць прайшла!
Тваё аблічча ў просценькай аправе
Сваёй рукой прыняў я са стала.
1908

**СКІФЫ**

Панмангалізм! Хоць дзікае імя,
А слых япо заўсёды цешыць.
Ул. Салаўёў

Мільёны — вас. Нас — процьма. Ні грамы
Ні вы пас не застрашыце мячамі!
Так, скіфы — мы! Так, азіяты — мы,—
З раскосымі і прагнымі вачамі!
Для вас — вякі, гадзіна — дзеля пас.
Мы, быццам паслухмяныя халопы,
Трымалі шчыт паміж варожых рас —
Манголаў і Еўропы!
Ад веку ў век неўтаймаваны вал
Глушыў кавадламі грамоў лавіны,
І дзікай казкай быў для вас правал
І Лісабона, і Месіны!
Спрадвеку вы глядзелі на Усход,
Пераплаўлялі нашый дукаты,
І здзекліва лічылі — прыйдзе год,
Калі на нас нацэліце гарматы!
Вось — час настаў. Крывавы дзень бяды,
Агонь і крыўды — ўсё перад вачыма,
А прыйдзе дзень — сатруцца ў пыл сляды
Ад вашых Пестумаў, магчыма!
О, свет стары! Ты п’яўкаю прыліп
І цешышся яшчэ салодкай згадкай,
Апамятайся лепш, як мудры той Эдып
Прад Сфінксам з неразгаданай
загадкай!..
Расія — Сфінкс. У шчасці і ў журбе,
Сплываючы счарнелаю крывёю,
Усё яна ўглядаецца ў цябе,
Кляпе і захапляецца табою!..
А так любіць, як любіць наша кроў,
Спрадвеку з вас ужо ніхто не любіць!
Забылі вы, што ў свеце ёсць любоў,
Якая папяліць і губіць!
Мы любім і разлікі і прагрэс,
Разважлівасць і ўзнёслыя натхненні,
Нам зразумела ўсё — і. востры гальскі сэнс,
І змрочны ваш германскі геній...
Усё мы помнім — і парыжскі чад,
Гаёў лімонных прыгажосць і пахі,
Венецыянскі вадзяны каскад
І Кёльна дымам сточаныя гмахі.
Мы любім плоць — і дух яе, і смак
У пісягах і ў сонечных накрапах.
Ці ж нас security вініць, як хрусне ваш касцяк
У цяжкіх і пяшчотных нашых лапах?
Прывыклі мы за лейцы і гужы
Прытрымліваць стаеннікаў гарачых,
А непакорлівым ламаць крыжы
І сунімаць свавольніц і лайдачак.
З пякельнай бойні нашы трубачы
Вас клічуць — станьце побач з намі!
Пакуль не позна, выкіньце мячы,
Таварышы! Мы зробімся братамі!
А калі не,— няма чаго губляць,
І нас тады не спыніць вераломства!
Стагоддзямі вас будзе праклінаць

Нягеглае і позняе патомства!
Мы ў пушчах і палях у пэўны час
Расступімся перад Еўропай гордай
І першымі павернемся да вас
Сваёю азіяцкай мордай!
Ідзіце ўсе, ідзіце на Урал!
Мы ачышчаем месца бою
Стальных машын, дзе зліўся інтэграл
З мангольскай дзікаю ардою!
Цяпер мы вас не зможам засланіць,
Цяпер мы ў бойку не палезем самі!
Паглядзім, як смяротны бой кіпіць,
Сваімі вузкімі вачамі!
Не зрушымся, калі здзічэлы гул
Пачне трафеі з трупаў важыць,
Паліць дамы, гнаць у царкву табун
І нават мяса белых смажыць!
Апамятайся ўрэшце, свет стары!
На свята працы, роўнасці і міру,
На светлыя братэрскія піры
Склікае варварская ліра!
30 студзеня 1918

## САЛАЎІНЫ САД

1
Я ламлю спланаваныя скалы
Ў час адліву на глеістым дне,
Іх кавалкі асёл перапады
На калматай цягае спіне.
Данясём, пакладзём ля дарогі
І — да мора, за колішні мол
Нас вядуць валасатыя ногі,
І крычаць пачынае асёл.
Рады ён і крычыць галасіста,
Што вяртаецца ўлегцы назад.
Каля самай дарогі — цяністы
І заглухлы раскінуўся сад.
Праз паркан навісаюць галіны,
Нахіляюцца ружаў кусты,
Разліваецца спеў салаўіны,
Шапацяць ручаі і лісты.
Крык асла ўсё часцей раздаецца
Каля брамы садовай якраз,
Нехта там і пяе, і смяецца,
І знікае ў альтанцы не ў час.
Толькі слухаю голас пяшчотны,
Паганяю да мора асла
І гляджу, як на бераг спякотны
Асядае густая імгла.

2
Дзень гарачы знікае бясследна,
Цемра ночы паўзе праз кусты,
І асёл мой здзіўляецца бедны:
«Ну, чаго замаркоціўся ты?»
Розум мой пачынае муціцца,
Думкі блытае спеў салаўёў,
Мне жыццё невядомае сніцца,

І маё, і зусім не маё...
Ну чаго я ў хаціначцы цеснай
Памнажаю пакуты свае,
Паўтараю дзівосныя песні,
Што за брамаю нехта пяе?
Не даходзяць ні стогны, ні енкі
У той сад праз высокі паркан,
Дзе ў змроку бялее сукенка
І мільгае, як воблачка, стан.
Кожны вечар у сінім тумане
Я іду да варот, як у сне.
Гэта вабіць яна на спатканне
І спявае, і кліча мяне.
У прываблівых тых парываннях
Я забытае нешта лаўлю,
Пачынаю любіць хваляванні,
І паркан недасяжны люблю.

3
Спачывае асёл змардаваны,
Лом ляжыць на пяску пад скалой,
А ўначы гаспадар закаханы
Зноў блукае за душнай імглой.
Шлях знаёмы даўно пратаптаны,
Таямніча заблытвае крок,
Але ў змрочную засень паркану
Нешта цягне яго як знарок.
Ён ідзе учарнелы, нядужы,
Дзе звіняць салаўёў галасы
І звісаюць калючыя ружы
Пад іскрынкамі буйнай расы.
Што чакае, бяда ці спагада,
Калі іншую сцежку знайсці,
Каб у змрок салаўінага саду,
Ледзь пастукаўшы, ціха ўвайсці?
Перакрэслю былое старанна,
Скіну лямку з плячэй і пуду:
Сэрца чуе, што госцем жаданым
Я у сад салаўіны прыйду...

4
Праўду сэрца маё гаварыла,
І нястрашнай здалася сцяна,
Я не стукаў — сама адчыніла
Непрыступныя дзверы яна.
Паланілі лілеяў павевы,
Зачароўвалі слых ручаі,
І салодкім раскацістым спевам
Аглушылі мяне салаўі.
Прыгажосць невядомага свету
Разгарнула абдымкі тады,
Як спадалі званчэй бранзалеты,
Чым у марах, што песціў заўжды.
Апаліў мяне хмель залацісты,
Апаліў залацісты агонь,
Я забыўся пра шлях камяністы
І пра беднага друга свайго.

5
Засланіла ад смутку і гора

У шыпшынах і ружах сцяна,—
Салаўінаю песняю мора
Не заглушыш — вядома здаўна!
Уварвалася ў спевы трывога —
Рокат мора і ўсплёскі вясла…
Быццам прывід, узнікла дарога
І стамлення крокі асла…
Водар душнага змроку аблытаў,
І рукою яна абвіла;
«Што з табою, каханы, скажы ты?» —
Дапытацца ніяк не магла.
Пазіраючы ў змрок сіратліва,
Я надыхацца шчасцем не мог,
І размераны рокат прыліву
Засланіў ад будзённых трывог.

6
Я прачнуўся. Імглістаю сцежкай
Першы промень прабіўся к сцяне.
Спіць яна, і з дзіцячай усмешкай
Нешта мроіць і сніць пра мяне.
Любы воблік у ранішніх чарах!
Сэрца мне і душу апаліў,
Па далёкіх і роўных ударах
Я пазнаў — надыходзіць прыліў.
Я акно расчыніў прад сабою,
І здавалася, недзе узнік
За далёкім рыканнем прыбою
Безнадзейны і жаласны крык.
Крык асла, быццам голас падранка,
Ўслед за мною ляцеў наўздагон.
Я паціху завесіў фіранку,
Каб чароўны не кончыўся сон.
Я ішоў камяністаю кручай,
Праз кусты пакідаючы сад.
Быццам рукі, шыпшыннік калючы
Не даваў мне вярнуцца назад.

7
На дарозе з каменьчыкаў шэрых
Стома з раніцы валіць на дол.
Я ступаю на стоптаны бераг,
Дзе астаўся мой лом і асёл.
Можа, сцежку заблыталі цені,
Што ў тумане бягуць чарадой?
Не, я помню абрысы каменняў,
Чэзлы куст і скалу над вадой…
Дзе мой дом? — Я няцвёрдай нагою
Спатыкнуўся на кінуты лом,
Што пакрыўся іржой пад скалою
І зацягваўся мокрым пяском.
Размахнуўшыся рухам знаёмым,
(Ці наяве, ці гэта у сне?),
І ударыў заржаўленым ломам
Я па камені цвёрдым па дне…
З-пад яго толькі шэрыя спруты
Захісталіся з боку на бок,
Краб караскаўся, быццам прыкуты,
І прысеў на вільготны пясок.
Я наверсе паспеў адступіцца,

Ён спаўзаў па каменнях сцяны,
З нейкім другам паспелі пабіцца,
І ў расколіне зніклі яны…
Па сцяжынцы, з якое я збочыў,
Дзе хацінка калісьці была,
Крочыў з кіркаю новы рабочы
І прыспешваў чужога асла.
1915

**ДВАНАЦЦАЦЬ**

1
Чорны вецер.
Белы снег.
Вецер, вецер!
На нагах не стаіць чалавек.
Вецер, вецер —
На ўсім боскім свеце!
Завівае вецер
Белы сняжок,
Пад сняжком — лядок.
Слізка, цяжка,
    Кожны хадок
    Пакаўзнецца — бедалажка!
Між дамамі ў непагоду
Напінаецца канат:
«Уся ўлада Установчаму Сходу!»
Бабулька бядуе, аж плача,
Ніяк не ўцяміць, што гэта значыць,
Навошта палошча вецер
Такі велізарны плакат?
Колькі б выйшла парцянак дзецям,—
Усім абадраным да пят…
Бабулька, як курыца,
Праз сумёт ледзь пратоптвае след.
— Ох, багародзіца-заступніца!
— Ох, бальшавікі загоняць на той свет!
Вецер хвошча зрання!
Аж трашчыць мароз!
І буржуй на скрыжаванні
У каўнер хавае нос.
Патлы звіслі. Што за ён?
Галасочак ледзь чуцён:
— Здраднікі!
— Гіне Расія!
Мабыць, пісьменнік —
Віця…
А вось і даўгаполы —
Сяк-так сумёт разгроб…
Чаму ж ты не вясёлы,
Таварыш поп?
Чорны, як галуза,
Тлусцеў ад году ў год,
Толькі ззяла пуза
Крыжам на народ.
Вось пані, ўся ў каракулі,
Да другой звярнулася:
— Ужо ж мы паплакалі…
Ой, слізка,—

Расцягнулася!
Ай, ай!
Цягні, паднімай!
Вецер вясёлы,
Злосны і рады,
Круціць прыполы,
Сустрэчных косіць,
Рве, матляе і носіць
Вялізны плакат:
«Уся ўлада Ўстаноўчаму Сходу...»
І словы даносіць:
...І мы са сходу...
...Тут поўна было пароду...
...Абмеркавалі...
...Пастанавілі...
Часова — дзесяць, на ноч —
    дваццаць пяць...
    ...І меней ні з кога не браць...
    ...Хадзем спаць...
Позні вечар.
Пусцее вуліца,
Адзін бадзяга
Толькі туліцца.
Ды свішча вецер...
Эх, бедалага!
Падыходзь —
Пацалуемся...
Хлеба!
Марна час не зводзь!
Праходзь!
Чорнае, чорнае неба.
Сумная, сумная злосць,
Гнеў у грудзях разбудзі...
Святая і чорная злосць...
— Таварыш, пільна глядзі!
— Ёсць!

2

Гуляе вецер, лятае снег.
Ідзе дванаццаць чалавек.
Рыпяць вінтовак рамяні,
Наўкол — агні, агні, агні...
Цыгарка ў роце, як блін картуз,
На спіну б трэба званковы туз!
Свабода, свабода,
Эх, эх, без крыжа!
Тра-та, ж-жах!
Холадна, таварышы, холадна!
— А Ваньку з Кацькай піва носяць...
— У Кацькі — керанкі ў панчосе!
— Ванька сам цяпер багаты...
— Свойскі быў, ды стаў салдатам!
— Ну, Ванька, сучы сын, буржуй,
Маю адважся пацалуй!
Свабода, свабода,
Эх, эх, без крыжа!
Ванька з Кацькаю заняты —
Чым заняты, чым заняты?
Толькі — стрэлы ды імжа!
Наўкол — агні, агні, агні...

Рыпяць на стрэльбах рамяні…
Рэвалюцыйны трымайце крок!
У ворага нядрэмны зрок!
Таварыш, вінтоўка цябе ўратуе!
Кулю загонім у Русь, у Святую —
У былінную,
У хацінную,
Таўстазадую!
Эх, эх, без крыжа!

3
Як пайшлі хлапцы з ахвотай
Да чырвоных ваяваць,
Да чырвоных ваяваць —
Галаву за іх аддаць.
Эх ты, гора горкае!
Жыццё — салодкі мёд!
Дзіравае пальцечка,
Аўстрыйскі кулямёт!
Мы такі пажар распалім,
Што усіх буржуяў звалім.
Свет — у полымі, ў крыві —
Госпадзі, благаславі!

4
Слепіць снег, ліхач крычыць,
Ванька з Канькаю ляціць —
Елякстрычаскі ліхтарык
На аглобельках…
Ах, ах, гані!
Шынялёк па ім салдацкі,
Твар ад радасці — вар'яцкі,
Круціць Ванька чорны вус,
Ды падкручвае,
Ды пад'юджвае…
Плечы ў Ванькі — два аршыны!
Гаваркі Іван мужчына!
Кацьку дурыць, абдымае,
Загаворвае…
Стала сэрца заміраць,
Зубкі жэмчугам гараць…
Ах ты, Кацька, мая Кацька,
Таўстамордзенькая…

5
У цябе на шыі, Каця,
Ад нажа глыбокі след,
У цябе пад сэрцам, Каця,
Пісяжок зрабіў стылет!
Паскачы ды пакружы!
Ножкамі заваражы!
Ты ў карунках пахадзіла —
Пахадзі, пахадзі!
Афіцэраў павадзіла —
Павадзі, павадзі!
    Ад разбэшчаных бадзяг
    Сэрца ёкнула ў грудзях!
    Помніш, Каця, афіцэра —
Не пазбегнуў ён нажа…
Ці не ўспомніла, халера?

Можа, ў намяці — імжа?
Эх, няможна забываць,
Пакладзі з сабою спаць!
Гетры шэрыя насіла,
Прагна жэрла шакалад,
Юнкероў папавадзіла,
Падалася да салдат?
Эх, эх, саграшы!
Будзе лёгка на душы!

6

…Насустрач зноў ляціць наўскач,
Крычыць, галёкае ліхач…
Стой, стой, Андруха, памагай!
Пятруха, ззаду забягай!
Трах-тара-рах — б'е пісталет,
А снежны пыл заносіць след.
Ліхач з Іванькам верне ўбок…
Яшчэ, яшчэ узводзь курок!
Трах-тара-рах! Ты будзеш знаць,
Як з дзеўчынай чужой гуляць!
Нягоднік знік па ліхачу,
Табе я заўтра адплачу.
А Кацька дзе? Ляціць на лёд!
З прабітай скроняй навылёт!
Што, Кацька, рада? Ні гу-гу…
Ляжы, як падла, на рагу!
Рэвалюцыйны трымайце крок!
У ворага нядрэмны зрок!

7

Вось ізноў ідуць дванаццаць,
Толькі стрэльбы на плячах,
А ў няшчаснага забойцы —
Сум на твары і ў вачах…
У завулачкі крывыя
Крок прыспешвае бядак.
Закруціў хусцінкай шыю —
Не ачухацца ніяк…
— Ну, чаго ты занурыўся?
— Што, таварыш, за бяда?
— Што, Пятруха, з тропу збіўся?
— Або Кацьку ўсё шкада?
— Ох, таварышы, браточкі,
Як мне Кацьку не любіць?
З ёй праведзеныя ночкі
Мне ніколі не забыць…
— За яе разгул бядовы,
За агеньчыкі ў вачах,
За радзімы знак пунсовы
Каля правага пляча
Загубіў я, бесталковы…
Лепш дагнаць бы ліхача… ах!
— Бач, завёў сваю катрынку,
Што ты, Пецька, баба, псіх?
— Зноў душу, нібы аўчынку,
Выварочваеш пры ўсіх!
— Не пакутуй за дзяўчынку,
Не падводзь сяброў сваіх!
— Час не той, каб толькі вохкаць,

Ныць з табою ад тугі!
Хутка будзе ой нялёгка,
Наш таварыш дарагі!
І Пятруха запаволіў
Неспакойную хаду...
Галаву ўзняў паволі
І забыўся пра бяду.
Эх, эх!
Нам пацешыцца не грэх!
Час паверхі замыкаць,
Зараз будзем рабаваць!
Адмыкайце ў склеп вароты —
Разгулялася галота!

8
Ох, гора ты гаротнае!
Сум-журба
Смяротная!
Я пацешуся гульбою —
Паграшу, паграшу...
Я ўжо цемечка любое
Пачашу, пачашу...
Шалупінне над губою
Панашу, панашу...
Я ўжо ножычкам
Паласну, паласну!
Ты, буржуй, спраўляй памінкі,
А то вып'ю да крывінкі
За каханне той дзяўчынкі,
Чарнабровачкі...
Супакой, гасподзь, душу рабы тваёй...
Сумна!

9
Не чутна шуму гарадскога,
На неўскай вежы цішыня.
І больш няма гарадавога,—
Гуляйце, хлопчыкі, да дня!
Стаіць буржуй па скрыжаванні,
У каўняры схаваўшы нос.
А побач з ім дрыжыць да рання
Схуднелы,
шалудзівы нёс.
Стаіць буржуй, як нёс галодны,
У снег пытальнікам урос.
І свет стары, як лёс бязродны,
Трасецца,
падтуліўшы хвост.

10
Штосьці круціць завіруха,
Ой, мяце, ой, мяце!
За чатыры крокі друга
Не пазнаеш анідзе!
Снег віхурай завівае,
Снег слупамі паднімае...
— Ох, мяцеліца, ох, спасе!
— Пецька, лепей прызнавайся!
Чым табе памог хоць раз
Залаты іканастас?

Несвядомы ты, заўваж —
Лепш падумай і разваж —
Рукі ў Кацьчыпай крыві,
Дык душою не крыві!
— Рэвалюцыйны трымайце крок!
Узводзяць ворагі курок!
Наперад, наперад, у паход,
Рабочы народ!

11

…Без імя ідуць святога
Усе дванаццаць. Не бяда,
Што нялёгкая дарога
І нічога не шкада…
Іх вінтовачкі стальныя
Сплоцяць ворагам даўгі…
У глухіх завулках вые
Пыл шалёнае пургі…
Ды сумёты пухавыя,
Што не выцягнеш нагі…
У вочы б’е
Чырвоны сцяг.
Крокі мераюць
Прасцяг…
Лютым ворагам
На страх…
Завіруха слепіць вочы
Дні і ночы навылёт…
Выходзь у паход,
Рабочы парод!

12

…Вось ідуць дзяржаўным крокам…
— Хто яшчэ там? Гавары!
Сцягам вогненным, шырокім
Разгуляліся вятры…
На шляху — сумёт халодны.
— Хто ў сумёце? Выткні нос!
Жабраком худым, галодным
Чыкільгае ззаду нёс…
— Адчапіся, шалудзівы,
Бо штыхом паказычу!
Свет стары — ты нёс паршывы,
Я твой век укарачу!
…Шчэрыць зубы — воўк галодны,—
Падтуліўшы хвост, брыдзе,
Пёс халодны, пёс бязродны…
— Гэй, адказвай, хто ідзе?
— Хто ідзе з чырвоным сцягам?
— Змрок. Нічога не відаць!
— Хто бяжыць, загнаны страхам?
Вас нікому не схаваць!
— Не туляйся, бо здабуду,
Лепш здавайся сам, жывы!
— Вылезеш,— страляць не буду,
Не,— по зносіш галавы.
Трах-тах-тах! І толькі рэха
Азываецца ў дамах…
Завіруха доўгім смехам
Заліваецца ў снягах.
Трах-тах-тах!

Трах-тах-тах!
...Так ідуць дзяржаўным крокам —
Ззаду чыкільгае нёс...
Сцяг крывавы ўзняў высока,
Незаўважны ў снежным гуле,
Заварожаны ад кулі,
Лёгкім поступам над сцюжай,
У вяночку з белых ружаў,
У крышталях з буйных слёз —
Спераду — Ісус Хрыстос.
1918

**Уладзімір Маякоўскі**
**ЛІСТ ДА ТАЦЦЯНЫ ЯКАЎЛЕВАЙ**

У спякотных вуснаў
дублі,
У цел трымценні
блізкіх мне
Чырванню маіх
рэспублік
Кожны
мусіць
палымнець.
Па-парыжску
не люблю кахаць:
Ад самачкі,
захутанае шоўкам,
Я, пазяхаючы,
гатовы
уцякаць,
Узяўшы па ланцуг
уласнай страсці воўка.
Ты адна
упоравень мне ростам,
Брыво — ў брыво,
і пазіраеш проста.
Дай
пра гэты
важны вечар
Расказваць па-чалавечы.
Пяць гадзін,
і з гэтых пор
Змоўк
людскі дрымучы бор,
Заміраe
горад сонны,
Толькі чуецца
дакор
Цягнікоў
да Барселоны.
Навальніцы
ў небе поступ,
Ад грымотаў
млеюць душы,
Не маланка б'е,
а проста
Рэўнасць хоча
горы

зрушыць.
Слоў пустых
не вер дажджу,
Гром паслухай
без апаскі —
Я за лейцы
асаджу
Страсці
выпладкаў дваранскіх.
Апаўзе страсцей
кароста,
Толькі радасць
хай гарыць
Буду доўга,
буду проста
Складным вершам
гаварыць.
Роўнасць,
жонкі,
слёзы...
ну іх -
І павекі,
як у Вія.
Я не сам,
а я раўную
За Савецкую Расію.
Я на спінах
бачыў латы
І сухотную
навалу.
Дык хіба ж мы вінаваты —
Сто мільёнаў
гаравала.
Мы шануем іх
нязменна —
Спортам
выправіш не многіх,—
Вы патрэбны
і ў Маскве нам —
Не хапае
даўганогіх.
Не табе,
што снег тыфозны
Мяла
гэтымі нагамі,
Песціцца,
вячэраць позна
З нейкімі
нафтавікамі.
По, не жмурся
ў хваляванні —
Слухай сэрца
роўны стук.
Хадзі сюды,
хадзі на скрыжаванне
Маіх вялікіх
і нязграбных рук.
Не хочаш?
Заставайся і зімуй,
Абразу гэтую

на іншыя наніжам.
А я ўсё роўна
некалі вазьму
Цябе адну
або ўдваіх з Парыжам.
1928

**НЯСКОНЧАНАЕ**

Любіць? Не любіць? Я рукі ламаю,
Зламаныя пальцы
раскідваю звонка.
Варожачы гэтак, пускаюць па маі
Насустрач вяночкі рамонкаў.
Няхай знаходзяць ганьбу ў сівізне,
Хай срэбра год падлічваюць уважліва,
Я веру, што ніколі да мяне
Не з'явіцца ганебная разважлівасць.
Хвалі ўжо не кіпяць.
Мора збіраецца спаць.
Як кажуць, інцыдэнт закрэслен,
Човен кахання у быце захрас.
З табой разлічыліся
І перагрэслі
Спіс узаемных і крыўд і абраз.
Ужо за поўнач.
Пэўна, ты лягла,
Праз ноч Млечшлях — празрыстаю Акою.
Я не спяшаюся — маланкам тэлеграм
Няма чаго цябе будзіць і непакоіць.
Як кажуць, інцыдэнт закрэслен,
Човен кахання
у быце захрас.
З табой разлічыліся
І перагрэслі
Спіс узаемных і крыўд і абраз.
Зірні, якая ў свеце цішыня.
Даніна ночы — зорныя манеты.
Такой парою гавару да дня
Гісторыі, стагоддзям і сусвету.
Я знаю сілу слоў, што, як набат, здаўна
Гудуць на плошчах,— аж нямеюць ложы.
Ад слоў такіх зрываецца трупа
І б'е чацвёркаю сваіх дубовых ножак.
Бывае, выкінуць, закрэсліўшы радкі,
Ды слова зноў падцягвае папругі,
Звіняць вякі, і падпаўзаюць цягнікі
Лізаць паэзіі мазолістыя рукі.
Я знаю сілу слоў. Здаецца матыльком,
Пялёсткам кволым пад абцасам танца,
А чалавек душой, губамі, касцяком...
1928-1930

**Мікалай Ціханаў**
**ХАТЫНЬ**

Над чорным кубам сталі тры бярозы,
Замест чацвёртай б'е агеньчык з дзгоз,

Тут і дасюль расказваюць праз слёзы:
«Загінуў кожны ў нас чацвёрты беларус»

Мы у Хатыні, а ўгары пад намі,
У мёртвых камінах гудуць званы,
Тут людзі не хацелі быць рабамі,
І сталі бессмяротнымі яны.

Пра што дасюль гудуць званы Хатыні?
Магчыма, хочуць папярэдзіць нас,
Каб людзі спапялелае пустыні
Не ўбачылі ужо ні ў які час.

Мы ўсе маўчым у цішыні хатынскай,
Мы ледзь ступаем па жывой расе…
І бачым, як стары каваль Камінскі
Свайго Адама з полымя нясе.

* * *

*М. Неслухоўскай*

Дзе мой конь і шабля залатая,
Косы паланянкі маладой?
Дым арды за Волгай асядае,
За сівой вадой.
Пеннай брагі маладую сілу
Ўсю карцамі вычарпаў да дна.
Ці ж не ты сваёй рукой спыніла
Кручаных любімцаў табуна?
На, вядзі мяне з душой аслеплай,
Песень мне і казак напрароч!
Слухаць зоры я любіў над стэпам
І агнямі апяразваць ноч.
Не для заімшэлае надзеі
Песня пачынаецца мая,—
Як і ты, зрабіўся маладзей я,
Гарачай крыві, вастрэй кап'я.

## НАЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА НАД НЯВОЮ

Бляск зорак выпіты з нябёсаў
Губамі прагных навальніц,
І слых трывожней альбатроса
Прыпаў да шэпату крыніц.
Спаліў зігзаг святлом прарочым
Нябёсаў чорны аксаміт,
І паглыбела бездань ночы
Над вуснамі застылых пліт.
Спыніся і душой бязгучнай
Падслухай паядынак сіл,
Хай думка ластаўкай над кручай
Трапечацца ў вясёлках крыл.
У хмары з белай алебастры
Праб'юцца пасмы сінявы,
І фасфарычным ззяннем астры
Кіпяць над хвалямі Нявы.

**М і к а л а й З а б а л о ц к і**

## БЕТХОВЕН

Калі сугуччы здзейсненаю марай
Адолелі складаны свет святла,
Прамень прабіў прамень,
      зайшла за хмару хмара,
      За громам зорка ў зорку увайшла.
Натхненнем апантаным і высокім
Грыміць аркестр грамамі навальніц,
І ты ўзышоў па ўсходцах на аблокі
Над светам і над бляскамі зарніц.
Дубровай труб і возерам мелодый
Ты перамог нястройны ураган,
І з крыкам паказаў самой прыродзе
Свой твар ільвіны праз жывы арган.
Перад усім сусветам адмыслова
Такую думку ўклаў ты ў гэты крык,
Што з болем слова вырвалася з слова,
І музыкаю стаў ільвіны рык:
Запела ліра у рагах бычыных,
Звініць жалейкаю арлінае пяро.
Ты зразумеў сусвет найлепшым чынам
І аддзяліў у ім ад зла дабро.
Сусвету працінаючы асновы
Дзевяты вал праклаў да зорак след.
Стань думкаю і музыкаю, слова,
І ў сэрца бі, каб радаваўся свет.
1946

## НЕПРЫГОЖАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Сярод дзяцей, захопленых гульнёй,
Яна маленькая, як апалонік,
Кашулька змятая ў гармонік,
Расчэсаны кудзеркі пяцярнёй,
Крывыя зубкі, быццам агарожа,
Вялікі рот, і тварык непрыгожы.
Двум хлапчукам, равеснікам яе,
Бацькі купілі па веласіпеду,
І хлапчукі ганяюць без абеду,—
Зважаць на пешых часу не стае,
Яна ж за імі бегае па следу.
Чужая радасць, як свая прыйшла,
Яна хвалюе і з грудзей ірвецца,
Дзяўчынка бесклапотная смяецца,
Нібыта шчасце і яна знайшла.
Ні зайздрасці або ліхога слова
Яшчэ зусім по ведае яна,
І ўсё на свеце ёй здаецца нова,
Што кожнаму даўно не навіна.
А я гляджу з трывогай, і здаецца,
Што прыйдзе час і плачам захлынецца,
Калі заўважыць, што з усіх яна
Расце і непрыгожай і нязграбнай,
Хоць крыўда шчокі пабяліла вапнай,
Ды сэрца не парвецца, як струна.
Мне верыць хочацца, што зыркія праменні
Гараць і свецяцца ў яе душы,
Яны растопяць крыўды ледзяшы

І пераплавяць цяжкія каменні.
Няхай яна здаецца непрыгожай,
Не захапляе і не цешыць зрок,
Але й цяпер усіх расчуліць можа
І кожны рух яе і крок.
А што ж тады такое пекната,
Чаму маліцца ёй гатовы людзі?
Яна сасуд, дзе толькі пустата,
Альбо агонь палаючы ў сасудзе?
1955

## АБЛЯТАЮЦЬ АПОШНІЯ МАКІ

Аблятаюць апошнія макі,
Пратрубілі адлёт жураўлі,
І яскравай прыроды адзнакі
На змярканні знікаюць з зямлі.
На пустой і па голай сцяжыне
Шапацяць пад нагамі лісты,
Ты чаму невясёлы, скажы мне,
І чаму не шануешся ты?
А жыццё пад травінкай любою
Не сціхае, нібыта прыбой,
Ну, а што адбылося з табою,
Што з прыгожай душою тваёй?
Як адважыўся тую, што свеціць,
Дарагую душу назаўжды
Адпусціць, каб сланялася ў свеце,
Каб загінула дзесь ад нуды?

Хай твой дом пастарэў, і прысады
Пазгіналі галовы ў журбе,—
Толькі ведай, страшнейшае здрады
Не бывае за здраду сабе.
1952

## ВЫПАДАК НА ВЯЛІКІМ КАНАЛЕ

На гэты раз не дзеля мільянераў,
На гэты раз не дзеля баркарол
Чатырыста прыгожых гандальераў
Зайшлі ў свае чатырыста гандол.
Быў дзень як дзень. Снавалі вапарэта[5]
У бляску нагрувашчанага шкла.
Венецыя, апушчаная ў лета,
Па ўсіх сваіх артэрыях цякла.
І раптам, паўзнімаўшы гарлавіны,
Зубчастыя і вострыя, як штых,
Натоўпы лодак рушылі ў цясніны
Паміж палацаў грэшнікаў святых.
Пабліскваючы бронзаю і лакам
І мішурою слепячы прасцяг,
Яны ўзнімалі ў гарадскіх клааках
Галечаю падфарбаваны сцяг.
Палохаючы разявак замшэлых,
Шакіруючы самых важных дам,
На іх імчаўся бунт музеяў шэрых,

[5] Вапарэта — маленькі кацер.

Ужо непадначаленых панам.
Плылі пытанні пра цяжкую працу,
Пра голад і галечу у гразі,
Пачуўшы гэта, змрочныя палацы
Адразу апускалі жалюзі.
Венецыя, ты ў снах яшчэ чароўных,
Яшчэ ў палоне казак і цяпер.
А свет не сніць, ён лепшы друг
працоўных,
Ён за рулём, як гэты гандальер.
1957

**Міхаіл Ісакоўскі**
**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ**

Ой вы, вольныя птушкі,
Ой вы, шэрыя гусі!
Даляціце вы, гусі,
Да маёй Беларусі,
Да маёй Беларусі,
Да роднай старонкі,
А ў роднай старонцы —
Да вёскі Сасонкі.
Пракрычыце вы, гусі,
У блакіт паднябесся,
Што ідзём з перамогаю
Мы на Палессе,
Мы ідзём на Палессе
І ранкам вясеннім
Нашым сёстрам з братамі
Нясём вызваленне.
Хай яны не здаюцца,
Хай яшчэ пачакаюць,
Хай фашыстам магілу
Пад асінай капаюць,
Хай капаюць глыбока,
Хай капаюць старанна —
За вялікія крыўды,
За крывавыя раны.
А яшчэ, мае гусі,
Адшукайце дзяўчыну,
Што пайшла партызаніць
За волю краіны.
Ад мяне ёй скажыце,
Што канчаецца гора,
Што ідзе перамога,
Што ўбачымся скора.
Даляціце ж вы, гусі,
Да маёй Беларусі.

**Аляксандр Твардоўскі**
**ЗАПРАШЭННЕ ГАСЦЕЙ**

На свята вялікае — звычай такі —
З'язджаюцца блізкія і землякі,
Па дальніх і блізкіх сяброў і суседзяў
На станцыю мы па світанні паедзем.
Вазы загрымяць — каля брамы сустрэнем,

Для коней не будзе няхваткі у сене!
Прыедуць машынай — страчай, весяліся,
Дарога такая — хоць бокам каціся.
А хто самалётам збярэцца ў вандроўку,
Таму на таку падрыхтуем пляцоўку,
Букетамі кветак сустрэнем гасцей
І скажам прамовы не горш за людзей.
І ўсё па парадку, як трэба, па форме,
Ад шчырага сэрца напоім, накормім.
Мы маем усё — і не можа не быць! —
Ёсць чым частаваць і куды пасадзіць.
У кубках і ў чарках іскрыцца віно:
Дачок запрасілі, нявестак, сыноў,
Герояў, што пільна пільнуюць граніцу
На моры, на сушы, ў раёне, ў сталіцы.
На свята запросім і тых заадно,
Хто родную хату пакінуў даўно,
Што век дажываюць ад дому далёка,
А ў нашай купаліся рэчцы глыбокай,
Што сцежкі пракладі за родным парогам
І нашым карміліся смачным гарохам,
А то і мякінай, а то лебядою,
І рана спазналіся з пашай бядою.
Любуйцеся, госці, кім сталі цяпер мы,
Заходзьце ў святліцы, зірніце на фермы,
Сядзібы і школу пакажуць вам дзеці,
Ад радасці песню тады запяеце.
А перад ад'ездам да самага ганка
Пад'едуць машыны, падыдуць фурманкі,
І разам, замест развітальнага слова,
Нам песню спяеце «Бывайце здаровы»,
Бывайце здаровы, жывіце багата,
Ужо ж мы наедзем дадому, дахаты.

**Яраслаў Смелякоў**
**ЛЕНІН**

Здаецца, што я і не ў залі,
Не бачу ні сцен, ні двара,—
Стаю на Фінляндскім вакзале
І слухаю правадыра.
Праз час, праз гісторыі грукат
Той голас мне ў сэрца пранік,
І проста ў душу, як на бруку,
Жалезны ідзе бранявік.
Адважны, худы, барадаты,
Нібыта ў семнаццаты год,
Я разам з акопным салдатам
На плошчу цягну кулямёт.
Зямля, як асіна, дрыжала,
Калі наш атрад штурмаваў.
Сумленне ісці загадала,
Ільіч на Зімовы наслаў.
Штандары вялікіх змаганняў,
У даўніх пажарах палі…
Як сэнс усяго іспавання
Ільіч існуе па Зямлі.
Я ў грозных шарэнгах знікаю,
Шукаю суровых дарог,

Я з мітынга ў бойку ступаю
І вецер лаўлю перамог.
Не ў залі жалобнай музея,—
Між ціхіх маскоўскіх двароў
Я рукі настылыя грэю
Над жарам зімовых кастроў.
І вочы аслеплі з марозу,
Саслаблі ад бур снегавых,
І вашы, таварышы, слёзы
У зрэнках застылі маіх.
1949

**Міхаіл Дудзін**
**НАЎЗДАГОН НЕЎСКАЙ КРЫЗЕ**

Быў год сорак другі,
Мяне хістала
Ад голаду,
Ад гора,
Ад бяды,
Але вясна ішла
І скрозь ламала
За зіму спрасаваныя
Ільды.
Як рафінад, набраклы, наздраваты,
Павольна, пад Ліцейнага пралёт,
Блакітныя пагойдваючы латы,
Ад Ладагі ішоў Нявою лёд.
І дзесьці там,
У віратлівай стыні,
З размытым следам
Саначак і лыж,
Я разглядзеў з масла
На хісткай льдзіне
Адбітак нейкі,
Што нагадваў крыж.
А крыга падплывала,
За быкамі,
Здавалася,
Яе канчаўся век,
Але з раскінутымі
На бакі рукамі
Умёрз у крыгу нейкі чалавек.
Не, не салдат, забіты
    стрэлам трапным
    Дзесь на пякельным Неўскім пятачку,
    А хлопчык,
Недаростачак нязграбны,
У рамесніцкім кароткім пінжачку.
Ці ён сканаў на Ладазе ад кулі,
Ці збіла завіруха давідна.
Плыве да мора
У вясновым гуле
Ягоная крыштальная трупа.
Плыве пад бляскам
    зорак і сузор’яў,
Гайдаецца у хвалі па спіце.
…Я свет спазнаў
У радасці І ў горы,

І свет, і час душу раскрылі мне.
Спявалі дзеці ў Лондане,
Скакалі
Ў Антафагасце школьнікі,
А ён?
Ён плыў і плыў у веснавыя далі,
Як ціхі стогн,
Праз горкі матчын сон.
Ад землятрусаў лопалася суша,
Вулканнай лавы застываў паплыў,
Грымелі бомбы,
Ледзянелі душы,
А ён усё ў труне крыштальнай плыў.
Душы спакою ні зімой, ні летам
Не будзе болей,
І пакуль жыву,
Я разам з ім
Плыну, плыву пад светам
Праз памяць чалавецтва ўсё плыву.

## ЗЕРНЕ СЕЙ!

Ты вырас тут. І запаветам
Ад прашчураў:
    у час завей,
    Вясною, восенню і лотам
    Жывуць два словы: зерне сей!
Ты нарадзіўся чалавекам,
І абавязан, як і ўсе,
Аберагаць лясы і рэкі,
Зямлю і мора. Зерпе сей!
Няхай варожы гул наўкола,
Як на смяротнай паласе.
Мінуць вайна, чума і голад,
А ты з любоўю зерне сей!
Ты нарадзіўся тут. Вышыні
Цяпер табе адкрыты ўсе:
То зоры клічуць да вяршылі,
То акіян,— ты зерне сей!
Хай сэрца ў трывозе стыне,
Душа нямее пакрысе,
І перш, чым сыдзеш у глыбіні
Зямлі, ты зерне сей і сей!
Табе належыць і нашчадку
Зямля ў сумётах і ў расе.
Няма капца, няма пачатку
Адвечнай песні — зерпе сей!

## НАДПІС НА РУКАПІСУ БЕЗ ПОДПІСУ

Паэт, душой жыві заўсёды
Для спраў высокіх і падзей,
Не дбаючы пра ўзнагароды,
Будзь сам узнагародай для людзей.

**АДЛІГА**

*І. Ісаковіч*

Наблытаў нешта каляндар:
Увіты хмелем навагоднім
Сам студзень з-за блакітных хмар
Красавіком зірнуў лагодным.
За ноч дажджы сагналі снег,
А па сугрэве, у зацішку,
Ручай забулькаў і пабег,
І варухнуліся пупышкі.
Ды зноў лютуюць халады,
Таполі патанулі ў белі,
Лісты ў пупышках назаўжды
Ушчэнт заледзянелі.
Пад гул вясновых навальніц
Лісты не распрастаюць крылы.
І па душы маёй трымціць
Трывога інеем настылым.
З палону вашага агню
На волю выплываюць крыгі,
І радасць крышыць цішыню,
Чакаючы адлігі.

*

У радасным жыцця віры
Шукай не розніцу, а падабенства.
Вясною ў ранішнім бары
Сініцы клічуць у маленства.
Калі іглiцай хвоі шапацяць,
З душы сплываюць боль і змора,
У азёры поўныя глядзяць
І падаюць паціху зоры.
Здзіўляе мудры шлях зярнят,
І промні, што ў расе іскрацца,
Здзіўляе складнай песні лад
У славу неадольнай працы.
Хвалюе чысты купал дня,
Зямля, трава, лясы і воды,
Дзе ўсё і ўсе — твая радня,
Л ты адказны за свабоду.
Вясною салавей пяе —
Наўкол дзівосны свет зялёны
Чакае шчырасці твае
І ад самога абароны.

*

Глядзеў я з гораў на масты,
На бальшакоў і сцежак вецце
І зразумеў, што пустаты
Па белым не бывае свеце.
Ёсць невядомасць да пары
У тайнах скал і неба
За тымі пікамі гары,
Куды падняцца трэба.

**Барыс Карнілаў**
**ПРАЦЯГ ЖЫЦЦЯ**

Я нюхаў казарму, засвоіў статут,
Жыццё пражыву па статуту:
Вучуся, ці пільна стаю на пасту
Я, быццам да месца прыкуты.
Гарыць нада мною штыха вастрыё,
Калі ж загудзе непагода,
Адзінае будзе начальства маё
Бязвусы таварыш камузвода.
Я ўжо не баюся ніякіх работ,
Бо ўзяты ў работу крутую,—
Іду да цябе я, таварыш камузвод,
Іду і пра ўсё рапартую.
Я помню заўсёды вайсковы загад,—
На золку і ў цёмныя ночы,—
Звычайным байцом станаўлюся у рад,
Таварыш, паэт, кулямётчык.
Я крочу з табою ў адзіным страі,
Калі ж прасігналяць: «Да бою!»
Загінуць гатовы я толькі ў баі
І побач, камузвода, з табою.
Яснее світанне ў маёй старане,
Раса абяцае пагоду,
І толькі не бачна цябе і мяне
З сябрамі па нашаму ўзводу.
Мы ў мяккую глебу ўвайшлі з галавой,
Нам сонца і зоры не свецяць,
Мы ў полі ўзыходзім зялёнай травой,
Палошчуць нас ліўні і вецер.
Зялёны, глухі, аднастайны нябыт,
Не варты ранейшай адвагі,
А наша сумленне да новых арбіт
Узыдзе жыццёвым працягам.
Калі ашалелы агонь секане
У часе ліхое нягоды,
Падніме на бітву другога мяне
Другі асцярожны камузвода.
Трывогу пачуе мая старана,
Дзе нашы палі і заводы:
Зацягнецца дымам і чадам яна
Ваеннай сляпой непагоды.
Умеем Айчынаю мы даражыць,
Калі ж нас паклічуць трубою,
Мы ворага будзем крышыць і крышыць
Па правілах тактыкі бою.
Ляцяць самалёты і танкі гудуць,
Пад нашым разгорнутым сцягам
Ідуць камуністы, ідуць і ідуць
Жыцця майго новым працягам.
Я бачу, бо ў кожнай травінцы жыву,
Хоць іншае лёс мне прарочыць,—
Ступаюць байцы на густую траву,
Па мне, не зважаючы, крочаць.
Я зноў узнімаюся ў чыстай расе
Разлівам ад мора да мора,
І бачу зямлю я ў дзівоснай красе
Без бітваў, крыві і без гора.
Я бачу прастор неабсяжнай зямлі,

Камбайны — ад краю да краю
Ідуць і ідуць да мяне.
Падышлі.
Тады я зусім паміраю.
1932

**Ілья Аўраменка**
## МІНЬКА

Зіма. Завея замяла ўсё чыста...
Сібірская ускраінная глуш...
Дамок — былы прытулак дзекабрыстаў —
Стаіць замецены пад ціхай рэчкай Шуш.
Світанне ў вокнах разлілося сінькай,
А нехта ў сенцах клямкай стук ды стук,
— Я, дзядзька, тут,— ледзь чутна кажа Мінька,
Шасцігадовы шустранькі хлапчук.
Ён у дзіравым матчыным кабаце,
У шапцы бацькавай, што злезла да начэй.
— А-а, гэта ты?.. Крутога чаю, Надзя,
Налі для друга нашага хутчэй.
Заходзіць Мінька. Атрасае шапку
Худая залатушная рука,
Пасля цішком садзіцца на канапку
Галодны сын суседа-бедняка.
Суседа-пімаката, што ад злосці
На горкі лёс дачасна пасівеў,
Бо кожны год — магілы на пагосце,
І тольк Мінька выжыў і жыве —
Маленечкі нашчадак горкай долі,—
А іх было трынаццаць у бацькоў...
Гарачы чай падсаладзіўшы ўволю,
Ен накрышыў у сподак праснакоў.
І сёрбае хлапчук расчырванелы
Салодкі чай, схіліўшыся ў цішы,
Маўчыць і азіраецца нясмела
На дзядзю, што прыйшоўся па душы.
Надзежда Канстанцінаўна ласкава
Глядзіць, злажыўшы рукі на стале.
А Ленін піша, ён заняты справай.
І Міньку так прыемна у цяпле,
Так хараша! Гарацъ і ныюць вушы...
І голасам спакойным, як заўжды,
Паклікаў Ленін:
— Ну, наеўся, дружа?
— Ага.
— Цяпер хадзі хутчэй сюды.
Сядай, малюй... Табе не будзе нізка?..
А за акном мяцеліца гудзе.
І зборнікі статыстыкі расійскай
Пад Міньку Ленін на тапчан кладзе.
Яны сядзяць ад самага світання
І чуюць скрып нястомнага пяра,
Пакутнае пары аднасяльчане,
Нявольнікі расійскага цара.
Галосіць вецер за акном, у полі.
А Мінька побач, Міньку добра тут.
Сядзіць хлапчук, як сімвал горкай долі
І як нашчадак бацькавых пакут.

Былы прытулак даўніх дзекабрыстаў —
Маленькі дом над ціхай рэчкай Шуш…
Зіма… Завея замяла ўсё чыста…
Сібірская ускраінная глуш.
1954

**Марыя Камісарава**
**КУПАЛАВА КРЫНІЦА**

З году ў год Купалава крыніца
Свеціцца,
І кліча,
І пяе:
Запрашае да сябе напіцца,
І «Жалейка» голас падае.
Шугануць кастры купальскай ноччу,
Папараць у лесе расцвіце;
Песня засумуе,
І вяночак
Паплыве далёка па вадзе.
Даўняе прыпомніцца дзяцінства,
Мары зноў
Паклічуць у палёт.
Жаўрукі нябачаныя свістам
Сустракаюць сонца кожны год.
Янка ў полі ходзіць за сахою,
Сее
Зерне з горам папалам:
Гора ў полі,
Гора над страхою
Неадлучна ходзіць
Тут і там.
Коціцца здалёку гул набату,
Плачуць бабы,
Плачуць шмат гадоў:
Пабяруць аратых у салдаты —
Столькі будзе сірат,
Столькі ўдоў!
На пакуты і на здзекі гоняць,
Вусны сцяла кожнаму пячаць:
Слова беларускае ў загоне,
І «Жалейка» мусіць замаўчаць.
Але слова мудрага Купалы
У сумленных душах ажыло,
Як з яго ні кпілі,— не прапала,
А ўраджаем буйным узышло.
І гучыць яно на братніх мовах,
І за ім цяпер
Ідуць услед
Сотні песняроў
І песень новых.
Чуе іх
І радуецца свет.

* * *

Мой сад снягамі замяце,
Усё засне
І стане ціха.

На золку толькі прывядзе
Сюды сваіх дзяцей зайчыха.
Яна пасадзіць іх у рад
Пад яблыняю,
На палянку.
Я ўсіх пабачу зайчанят
І іх вясёлую гулянку.
Лажыцца мяккі снег на дол,
То ружаваты,
То блакітны,
Залоціць сонца ўсё наўкол —
Бярозы, стрэхі і ракіты.
Тут на змярканні ў сіняве
Усходзяць новыя сузор'і,
І, пэўна, Дзед Мароз жыве
У гэтым срэбным лукамор'і.

**Мікалай Браўн**
## ОДА БЛАКАДНАМУ ХЛЕБУ

Блакаднаму, нясытнаму,
Няжытняму, ці жытняму,
Хоць жытнім зваўся ён.
Зямлістаму,
Іглістаму,
Што не знаёмы з сітамі,
А вільгаццю налітаму,
Бядою ўсёй зямной.
Глёўкаму,
Мякіннаму,
Што страціў жытні пах,
Што падышоў без рошчыны,
На горы і слязах.
Што ўсім вачам бясслёзным
Ён сніўся кожны дзень,
І ў час галодны, грозны
Лунаў, нібыта цень.
Яму, яму, надзённаму,
Таму, «што дай па дзень»,
Гарачай помсты поўнаму
І поўнаму надзей.
Ад тых, што галадалі,
Хто голад перамог,
Ад тых, што паміралі,
Падзякаваць я змог
Свайму выратавальніку,
Адзінаму ў жыцці,
І сведку непадкупнаму
Я оду прысвяціў.
Яе прыміце, зоркія,
І хто аглух, аслеп,
Гарачую, хоць шорсткую,
Як тая доля, горкую,
Як той блакадны
Хлеб!

## ДОН КІХОТ

Колісь я пісаў пра Дон Кіхота,
Мне ягоны подзвіг па душы,
Пахваліў адзін маю работу,
А другі параіў: «Не пішы:
Марны клопат — бойка з ветракамі,
Штосьці прыдумляць або ўздыхаць,
З дзідаю ганяцца за быкамі,
Дульсіпею ўяўную кахаць!
Ці заўсёды быць у паняверцы,
Над лірычным уздыхаць лістом,
Або гонар рыцарскага сэрца
Папяровым бараніць шчытом!»
Я, прыгожай募аю сагрэты,
Верыў — дзіда сілу мне дае.
І былі перад вялікім светам
Грудзі непрыкрытыя мае.
Сустракаў мяне мой век сурова
На прадзьмутых сіверам палях,
А маё кап’ё і шчыт мой — слова,
З ім пачаў я свой трывожны шлях.
Ветракі гулі, нібы завея,
Я ні дня не ведаў цішыні,
З мараю пра чары Дульсіпеі
З пікаю імчаўся на кані.
Над планетай дзень запяўся новы,
І пакуты новыя прыйшлі.
Расіпанта збітыя падковы
Грукаюць па змучанай зямлі.

## АРКА ГАЛОЎНАГА ШТАБА

Рассунуўшы сцены плячамі,
Здалёку і зблізку відна,
Стагоддзе удзень і начамі —
На варце нязменнай яна.
Не ў тым яе сіла сягоння
І слава не ў тым на зямлі,
Што з бронзы адлітыя коні
Высока падковы ўзнялі.
А ў тым, што з вялікаю верай,
Пад аркай зраўняўшы штыкі,
З мінулай у новую эру
Прайшлі баявыя палкі.
1956

* * *

Калі замкнецца круг жыццёвы
Бясклопатным і вечным сном,
Я па сабе пакіну словы
І невялічкі вершаў том.
Вазьмі тады яго ў дарогу,
Раскрый і — зробіцца лягчэй,
Я разганю тваю трывогу
І слёзы высушу з вачэй.
Раскрый, каб незнарок не ўпасці
Па коўзкі і няпэўны шлях,
Раскрый мой том, калі ад шчасця
Заб’ецца сэрца ў грудзях.
І ўсё, чым я гарэў на свеце,

Што думаў некалі ў цішы,
Няхай табе здалёк засвеціць
І ажыве ў тваёй душы.
Я ажыву, калі з тваёю
Сцяжынка сыйдзецца мая,
Магчыма, і на полі бою
Тваёй апорай стану я.
1956

**Сяргей Арлоў**
*** * ***

Ён пахаваны ў шар зямны,
Хоць просты быў салдат.
Не дбаючы пра ардэны,
Ён выканаў загад.
Яму, як маўзалей, зямля —
На многія вякі,
І Млечныя Шляхі здаля
Завейваюць бакі.
На стромкіх схілах хмары спяць,
Мяцеліцы мятуць,
Грамы з маланкамі грымяць,
Вятры разгон бяруць.
Замоўклі выбухі вайны…
Сябры пайшлі далей,
Яго паклаўшы ў шар зямны,
Нібыта ў маўзалей.

**ПАШТОЎКА**

Шукала пошта з раніцы да ночы
Чатырохзначны нумар ППС,
Блукаў наштар і больш за тыдзень крочыў
З паштоўкаю у абгарэлы лес.
Загінуў адрасат на пераправе,
І ротны пісар вусны абкусаў.
«Вярнуць назад. Няма каму адправіць»,—
Ён на ражку паштоўкі напісаў.
Вярнулася яна ў штабную хату,
І гэткі ж пісар, сціснуўшы тугу,
Пісаў ніжэй: «Паштоўку адрасату
На жаль, ніяк даставіць не магу».
Загінуў ён пры той артпадрыхтоўцы,
Калі крывёй дымілася раса,
Падумаў пісар: пра жыццё ў паштоўцы
Нябожчыку нябожчык напісаў.

**Вадзім Шэфнер**
**КАСКА**

Маўчыць у самоце над стромай
Вярбы пакалечаны ствол,
Пад бросней амаль нерухомай
Густая вада, як расол.
Бывае галоўка ці лапка
Над цемрай мільгае вадзяной —
Плыве адзінокая жабка

З зялёнаю мокрай спіной.
Ды хлопчык з’явіўся з хлудзінай,
І болей няма цішыні:
Аброслую зеллем і глінай
Ён каску дастаў з глыбіні.
Вясёлы, заўжды бесклапотны,
Стаіць, падкасаўшы штаны,
Трымае савецкай пяхоты
Ён цяжкі убор галаўны.
Павольна, нібыта праз сіта,
Ліецца струменьчык тугі,
Праз дзірачку каскі прабітай,
І тут жа знікаюць кругі.
Аб мірным, бязвоблачным небе,
Пра дні без трывог і пакут
Спакойна, як парастак срэбны,
Струменьчык пяе хлапчуку.
Спявае струменьчык імклівы
Аб сонечным леце даўгім,
Пра сёлетні чэрвень шчаслівы,
А мне аб другім, аб другім.
1961

## ЁН ПТУШКАМ СВАБОДУ ДАЕ

Стары ў камунальнай кватэры,
Закончыўшы справы свае,
Адчыніць і вокны, і дзверы —
І птушкам свабоду дае.
Суседзі на рынку нярэдка
Страчаюць таго дзівака,
Што моўчкі з вялікаю клеткай
Стаіць каля заапарка.
Купляе шчыглоў і сінічак,
Хоць грошай і так не стае,
Спяшаецца да электрычак —
І птушкам свабоду дае.
Мільгаюць за вокнамі стрэлы
Дарог, і прысады шумяць,
На месцы пасёлкаў датлелых
Даўно камяніцы стаяць.
Гайдаюцца дачныя сосны,
Празрыстыя рэчкі звіняць,
І нават пад грукат калёсны
Зямная чутна цішыня.
Што ўнука няма і нявесткі,—
Балючая думка кране:
Без весткі, без весткі, без весткі
Прапаў яго сын на вайне.
Паўстанак відзён з паварота
На стыку ракадных дарог,
Дзе некалі ў багне балота
Рубеж абаронны пралёг.
Вось тут, каля спаленай вёскі,
Быў колісь дывізіі тыл,
Дзе выраслі мята і слёзкі
На роўных радочках магіл.
Каторы ж грудочак, каторы?
Дзе тая магіла адна,

Каб выказаць горкае гора
І выплакаць слёзы да дна?
Ён з клеткі развязвае стужкі
У засені светлых гаёў,—
Маўчаць палахлівыя птушкі
І ў шчасце не вераць сваё.
І вось разгарнуліся крылы,
І свіст разарваў цішыню —
Узлётам нябачнае сілы
Рванулі шчыглы ў вышыню.
Як воблачка, зараз растане
І знікне чародка ўгары.
Услед ёй глядзіць з хваляваннем
З адчыненай клеткай стары.

**Леанід Хаустаў**
**ДВА СЭРЦЫ**

Відаць, бяда была наканавана,
Відаць, такі у лейтэнанта лёс:
Ледзь у вайну загоіліся раны,—
Ён на жалезных роліках папоўз.
Не напісаў дадому ні радочка,
І не пакінуў адраса свайго.
Але ўсё роўна з раніцы да ночкі
Чакала жонка кожны год яго.
Калі аднекуль перавод па пошце
Прыходзіў для салдацкае ўдавы,
Балюча сэрца білася чагосьці,
Бо верыла, што недзе ён жывы.
Яго чужыя людзі адшукалі,
І да яго прыехала яна.
Пад ім стальныя ролікі мільгалі,
А ў валасах буяла сівізна.
Ад шчасця ў жонкі слёзы паліліся,
Калі забегла ў горваенкамат,
І тут сустрэла, аж у самым нізе,
Знаёмы і разгублены пагляд.
Перад жанчынай у адно імгненне
Асела вечаровая імгла —
Яна адразу ўпала на калені
І любаму насустрач папаўзла.

**Глеб Пагіраў**
**АСКОЛАК ПАД СЭРЦАМ**

Яго сурова апрацоўваў фронт —
Хірургі ў ім капаліся старанна,
У раны заганялі тонкі зонд,
Каб як дабрацца да галоўнай раны.
Каб напраскі цераз яе прайсці,
А шлях да мэты — аж у дзесяць столак,
Каб у канцы яго хутчэй знайсці
Пад сэрцам ледзь затрыманы асколак!
І вось нарэшце выцяглі яго,—
Уратавалі воіна ад смерці...
З тае пары мінула дваццаць год,
Чаму ж баліць
яшчэ дагэтуль сэрца?
1968

**Уладзімір Цыбін**

* * *

*Памяці Пятра Глебкі*

Беласнежжа, Беларусь, адгукніцеся!
Белалессе,
Белазор,
Белым віцезем
Белы лебедзь паплыве паміж зорамі,
Хто парадуе мяне за азёрамі?
Замець белая гарыць, беліць вуліцы,
Хто абрадуе мяне, хто прытуліцца,—
Ці чырвоная зара познім вечарам,
Ці ракіта
Ля двара,
Ці мо дзеўчына?
Ці то кінуты ў паўзмрок, ці то ў досвітак —
Аж асляпіць прыгажосць мяне водсветам.
Вось таму, відаць, ізноў сэрца просіцца
Ў белазор'е,
Ў Беларусь
Белай восенню.
Думы, думы, час ідзе з вамі раіцца,
Дуды-дуды, на дудзе звонка граецца.
Зразумею, што ў прастор
Песня коціцца,
Ці ляціць яна да зор, ці маркоціцца?
Я гукаю — песні ўслед — далеч сінюю.
Белалессе,
Белы свет — ў белым інеі.
А над інеем дымы
Беланосыя.
Беларусь, я на тваёй стыну восені…
Заірдзеліся бары зноў світанскія,
Быццам грозныя кастры
Партызанскія.
Беларусь,
Твая краса ў сэрцы свежая
Б'е крынічнаю вадой, свеціць вежаю,
Ці гаямі ты звініш,
Ці кварталамі,
Адзавіся, Беларусь,
Мне цымбаламі.
Белалессе,
Белазор,
Белачаіца,
Беласнежжа,
Беларусь — адгукаецца.

**Якаў Хелемскі**

* * *

…Грузінам я ў расійскім перакладзе
Чытаю беларускія радкі,
І з мовы ў мову, у пявучым ладзе,
Яны плывуць усплёскамі ракі.
Іх слухаюць ў Зугдыдзі, Ахалцыху,
Чужы прыняўшы лад, нібыта свой,
У такт радкам пагойдваліся ціха
І ўдумліваківалі галавой.

Чытаю ў Кутаісі і ў Тбілісі,
І хочацца чытаць яшчэ, яшчэ:
Гляджу, як кожны погляд засвіцеўся,
Паэзія з душы ў душу цячэ
І з мовы ў мову. Гэтая сустрэча —
Сустрэча рэчак — горнай і лясной.
Расійская славеснасць — паміжрэчча,
І мост вясёлкавы над вечнаю вясной.
Тлумач і сувязны душы і песень,
У ёй гарыць і не згарыць запал,
Я лірыку раўніннага Палесся
Уздымаю на Зякарскі перавал.
З гаспадарамі шчодрымі ў абдымку
Гляджу на неба ў кропельках расы.
Пачуцці але звіняць, і без затрымкі
Нам у адказ даходзяць галасы.
Ці чуеце, сябры! У сінім пыле
Грамы маланкі зыркія куюць?
Наш Лермантаў і ваш Бараташвілі
Па-беларуску мараць і пяюць.
І зноў дал іны, кручы і атары,
За сцежкаю — пачатак раўчука.
Над скаламі рассеяныя хмары
Пранізаны маланкаю радка.
У горах ранак першародна свежы,
І журавы курлычуць угары.
Сады Масквы і пушчы Белавежы
Плывуць у хвалях восеньскай Куры.
1972

* * *
Дарожны знак — «На Сіняло»
Узнік знянацку ля дарогі.
І ў нас размыла і змяло
Усе турботы і трывогі.
Сінелі ўдалечы лясы,
І сітнягі ў рачной нізіне,
Асфальт сустрэчнай паласы
Цяпер здаваўся цёмна-сіні.
Блакітным пылам замяло
Лісты і тонкія галінкі,
Плыло чароўнае святло
І мы былі яго часцінкай.
Адчула ў «рафіку» душа,
Калоцячыся, як у страсе,
Што Магілёўская шаша
Паветранай падобна трасе.
Каля кюветаў і ракіт,
Пятляючы з гары да дога,
Ізноў у сонечны блакіт
Вяла шурпатая дарога.
За паваротам — сіні бор,
А там — ці вёска, ці пасёлак.
Гудкамі разарве шафёр
Туман світальны ў дзесяць столак.
Прамень насустрач паплыве,
І на шляху, пад Магілёвам,
Прастор адразу ажыве
Святлом льняным і васільковым.
Шафёр рубчастых каляін

Не заўважаў і не сігналіў.
І пасажыры, як адзін,
Чагось чароўнага чакалі.
Чаканне нашае расло,
І сэрца кожнае трымцела.
Загадкавае Сіняло
Мільгала, клікала, сінела.
1970

# З украінскай

**Леся Украінка**
* * *
Скрозь — слёзы, плач і прычытанні,
Скрозь — кліч нясмелы і слабы,
Наўкол глухія нараканні
І вочы поўныя журбы.
Над горкай доляй Украіны
Бядуем з даўняй даўніны,
Чакаем з плачам той гадзіны,
Калі спадуць з нас кайданы.
Ад плачу раны не знямеюць,
Слязьмі не разаб'еш сцяны,
Хоць кайданы ад слёз ржавеюць,
А самі не спадуць яны.
Навошта плач і нараканні?
Назад няма куды ісці!
Нас клічуць праца і змаганне
За долю лепшую ў жыцці.

* * *
Гавораць вусны: «Ён навек загінуў!»
А сэрца кажа: «Не, ён не пакінуў!»
Ты чуеш, як звініць і як трымціць струна?
Дрыжыць, нібы сляза, гарачая, яна,
І б'ецца заадно у глыбіні са мною:
«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»
Калі забыцца ў песнях я хачу пра муку,
Ці хтосьці мне пацісне шчыра руку,
Ці, як ручай, размова пацячэ,
Ці пацалунак вусны апячэ,
Душа трымціць лагоднаю струною:
«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»
Ці ў свет іду таемных летуценняў,
Дзе постаці лунаюць, быццам цені,
Знаёмыя і дзіўныя аблічча,
Ды зноў душу знаёмы голас кліча;
І, як струна, звініць або пяе з журбою:
«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»
Ці сон павольна наплыве, як хмара,
А ў стомленай душы не патухае мара,
Зноў праз цяжкія сны і хваляванні
Я раптам чую голас любай здані,
Трымціць тужліва з дзіўнаю журбою:
«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»
І кожны раз, як ён струну кране,
Дрыжаць у сэрцы кветкі у мяне,
Што ты не здолееў за жыццё сарваць,
Што не хацеў іх у труну схаваць,
Трымцяць і шэпчуць заадно са мною:

«Цябе няма, але я ўсё ж з табою!»

**Максім Рыльскі**
**РУЖЫ І ВІНАГРАД**

Дзяўчына з поля ледзь дамоў прыйшла,
І хоць яе вячэраць маці кліча,
За цяпку — і ў садок, дзе ружа расцвіла,
Яна бяжыць палоць і капанічыць.
З дарогі дальняе вярнуўся машыніст,
Прапахлы дымам і укрыты пылам,
І ў вінаграднік, каб часамі ліст
Хвароба або вусень не пабіла.
Спяшаецца ў калгасны сад юнак,
Каб апылення вывучыць законы,
І гэтак хараша над чорнай глебай мак
Пераліваецца, як полымя чырвоны!
Мы любім працу, як палёт — арлы,
І музыку, што сэрца нам трывожыць,
У шчасця нашага ёсць роўных два крылы:
Ёсць з ружай вінаград — карыснае
з прыгожым.
1955

**Уладзімір Сасюра**
*** * ***
Далі салаўіныя, пошчак салаўіны...
Зноў вясна квітнее ў нас на Украіне.
Зіхацяць пялёсткі па чарэшні тонкай,
Зноўку б'ецца сэрца молада і звонка...
Я іду гаямі. Краю ты мой краю,
Лепшага па свеце за цябе не знаю!
Лепшага не бачыў. У празрыстай сіні
Сустракаю вёсны я на Украіне.
У расе фіялкі, рэкі ў тумане...
Ў сэрцы зззяюць вочы зоркамі кахання...
Мне у твар вясновы цёплы вецер вее,
Я з маёй краінай разам маладзею.
І іду да гаю, і ў блакіт без краю
Сэрца маладое рвецца і спявае
Пра вясну і рэкі роднай Украіны...
Далі салаўіныя, пошчак салаўіны!..
1956

* * *
Пакуты сэрца не сціскалі,
Здаецца: ўсё ты перамог.
Сцяблінкі росныя канвалій
Табе схіляюцца да ног.
Рука слязін не выцірае,
Што зззяюць кроплямі расы.
Я сам даўно і добра знаю,
Што можна плакаць ад красы.
1955

**Мікола Нагнібеда**

* * *

Ці то снілася мне,
Ці папраўдзе было —
Нада мною зялёнай яліны крыло
Беларуская пушча ласкава ўзняла
І, здаецца, пяшчотнай рукой абняла.
Я ляжу на траве, дзе крыніца звініць,
А здалося, што голас чуваць з глыбіні:
— Ты, заезджы, я ведаю, любіш мяне,
Заставайся, і ў шчасці твой век праміне.
Вось працягвае рукі мне ельнік густы,
А здалося, што побач не елка, а ты,
І крыніца, як ты, задуменна пяе,
Пазіраюць званочкі, як вочы твае.
Жыта ў полі здалося тваёю касой,
Макаў цвет, быццам вусны, ірдзее красой.
Мабыць, ты там была,
Бо не спаў я, не сніў —
Прыпадаў да зямлі, што павек палюбіў.
Я пачуў праз гады ціхі шэпат галля —
Украіна дадому гукала здаля...
І трымціць паміж пушчай і сэрцам струпа,
Хоць далёка іду,— не парвецца яна,
Чым далей, тым званчэй і лагодней пяе...
Беларусь, Беларусь! Пабрацімы мае!

**Платон Варанько**

**САЛДАЦКІ СКАРБ**

*Паэма*

Глыбокі тыл.
За Прутам на Карпатах
У акружэнне трапіў мой атрад.
Густы агонь варожых аўтаматаў
З усіх бакоў сячэ,
Нібыта град,
І адсякае вузкія сцяжыны
У недалёкі лагер Каўпака.
Завал зрабілі,
Дзве апошнія міны
Мы ў тыл паставілі
Каля раўка.
Няхай апора будзе за плячамі.
І кволая надзея
    для душы.
Грымела ўсё
І выла цягачамі
За пералескамі Дзяляцінскай шашы.
Адзін ратунак —
    «тыграў» і «пантэраў»
    Стрымалі хвояў тоўстыя ствалы.
Над вёскамі ў агні і ў дыме шэрым
Кружыліся бяздомныя буслы.
Яшчэ раней гуцулаў змардаваных
Сагналі з гораў у барачны чад,

А нас браніраваныя тыраны
Трымалі,
Што — ні ўперад, ні назад,
І люта насядалі,
Бо па Пруце
Мы ўчора ў неба высадзілі мост.
Тут ёсць вада —
Крынічка ў шызай руцэ,
І мяса ёсць,
А ў нас — вялікі пост,
Бо вогнішча цяпер, як самагубства:
На дым цыгаркі
Падае фугас.
Хоць без агню і холадна і пуста,
Ды не пра той агонь у гэты час
Трывожыцца і марыць кожны з нас.
Мы згодны мерзнуць,
без агню, без хаты,
Без хлеба, без вады, без тытуню,
Каб толькі мець патроны і гранаты —
Вось не стае якога нам агню.
Яго нам не хапае
Аж да болю,
Што можа слёзы выкрасаць з вачэй.
А град варожы
Нават камень коле
І б’е спарней, бліжэй і гарачэй.
Стапкач застыў.
Істужкі з парусіны
Ляжаць пустыя,
Як луска змяі,
А мы ўрастаем у расколы гліны
І ў след даўно забытай каляі.
Вінтоўкі толькі бухаюць часамі,
Бо мы агонь не можам прыпыніць —
Цікуюць немцы дзень і ноч за намі,
Калі апошні стрэл наш прагрыміць,
Таму і не спяшаюцца ў атаку,
Чакаюць, што надыдзе хутка час,
Патроны кончацца,
і танкавыя тракі
Усіх адразу перамелюць нас.
А ў нас траншэі выкапаны ўдала
Салдатамі Брусілава яшчэ.
На кручах гор з тае вайны нямала
Іх пёк агонь.
І вось ізноў пячэ
Трацілам
І гарачай сталлю густа
Нас палівае
І шукае зноў,
Зірну ў бінокль,
А каскі, як капуста,
Тырчаць
З вачамі хіжых каршуноў.
Так крумкачы калісьці паляцелі
На кіеўскія светлыя муры —
Жывое сэрца выклеваць хацелі
І спапяліць дашчэнту без пары.
Загадваю акопвацца па пахі,

Магчыма, ноччу выручаць свае.
Ды ў небе крыжык стаў злавесным
птахам,
Зніжаецца і збыту не дае.
Усё ніжэй,
Нібы над папялішчам
Ці над труною, кружыць самалёт,
Ляціць на нас
І, як разбойнік, свішча,
Нахабна пазіраючы, пілот.
Ён бачыць, як нам цяжка,
І шпурляе
Завеяю лістовак цэлы жмут:
«Здавайся, рус!
Тады не пакарае
Ні бог, ні афіцэр,
А інакш —- капут!»
А хлопцы ўсё капаюць і капаюць
Прашыты каранямі горны схіл.
Снарады рвуцца, міны абступаюць
І трушчаць скалы па пясок і пыл.
Згасае дзень.
І соцна, быццам рапа,
Вяршыні гор і вецце крывяніць.
Чакаем мы
Ад Каўпака тарана
І верым —
Прыйдуць нас абараніць.
Надзея то сагрэе,
То астыне,
То ціха шэпча зноў:
«Агню!»
«Агню!»
Атрад паш у сцюдзёнай прорве гіне,
Упёршыся у скалы і ў браню.
Браня раве,
Ракеты слепяць вочы,
Пражэктар нам усім падлік вядзе.
Чуваць —
Гара пад крокамі грукоча,
Чуваць —
Зямля усё мацней гудзе.
Магчыма, каўпакоўцаў батальёны
Шукаюць нас.
Ці ўжо ім не да нас?
Світанне бляскам срэбранай кароны
Прарочыць дзень.
Ці наш крывавы час?
П’юць па чарзе байцы ваду
з крыніцы,
Капаюць дол, выцягваюць карчы,
Каб хоць часова пра бяду забыцца,
Ці, можа, працай смерць перамагчы?
І раптам з ямы:
— Што гэта за скрынкі?
Іх навылёт прашылі карані...
Я выдраў дошку,
А пад ёю — цынкі!
З паўсотні іх ляжыць у глыбні.
Прысыпаныя глінай і каменнем,

Боепрыпасы колішняй вайны.
Я дастаю патроны з утрапеннем —
Дзівосны скарб далёкай даўніны.
Каб часам скарб цароў і фараонаў
Нам трапіўся,
Яго б растрэслі ў прах,
А трохлінейкі рускае патроны —
Ўсім скарбам скарб
І да свабоды шлях.
Па трыста штук ляжыць у скрынцы
кожнай.
Ці не зачах зарад іх агнявы?
Глядзелі мы з надзеяю трывожнай.
Але струменьчык медзі, як жывы,
Бег у падсумкі, дыскі, магазіны,
Здымалі хлопцы торбачкі з пляча,
Ускрэслі нават стужкі з парусіны
І папаўзлі хутчэй да станкача.
Але ў атрадзе цішыня застыла —
Ніхто не мог націснуць на куркі:
А што, калі зрабіўся порах пылам?
За чвэрць стагоддзя злёгся ў камякі?
Глядзелі мы, нібыта на маленнні,
І па затворы, і па сталь курка.
А тут з траншэяў уставалі цені
Гвардзейцаў пахаванага палка.
Здавалася, пасталі побач з намі
Сівыя прашчуры пад навіссю скалы.
Збуцвелымі запахла шынялямі,
Крышыліся іржавыя ствалы.
Мы падхапіліся.
За прывіднай калонай
На поўны рост ішоў і мой атрад.
Я не паспеў дазнацца пра патроны,
Як самалёт загуў,
Упаў снарад...
Азваўся афіцэр:
— Сухі ў нас норах!
Смялей, нашчадкі,
З богам марш!
Агонь!
Станкач ударыў,
Абяскрылеў вораг
І, як галуза,
Упаў на абалонь...
Атака загула,
І бой кароткі
Парваў цянёты смертаносных трас.
Плячо ў плячо ступалі нашы продкі
І мужнасцю сваёй натхнялі нас.
Мы праз агонь ішлі з боепрыпасам
У новы бой:
На лагер Каўпака
Паўзла пяхота,
Штурмавалі асы,
Рэзервы недабітага палка
Падцягваў оберст і хвалько заўзяты
І ўсё крычаў, што знішчыць партызан.
Ды раптам наш атрад
Яму — на пяты,

Нібыта да патыліцы наган.
Спаўзалі Фрыды ў прорву,
Як вужакі,
Круціліся
І праклiналі нас.
Канчаліся хвалёныя ваякі,
Ды не канчаўся баявы запас,
Што мы на горным схіле адкапалі.
Калі ж нага лагер сцішыўся ўначы,
Здавалася, па вахту заступалі
З брусілаўскіх дывізій вусачы.
Сатлелі іх і шынялі, і ранцы,
Забыўся боль старых смяротных ран,
Яны бароняць нас, як навабранцаў
Бароніць пасівелы ветэран
І засланяе ад шалёнай кулі,
Ад вострага варожага клінка...
І без трывог упершыню заснулі
На Дзіл-гары атрады Каўпака.
У галавах ляжыць патронаў скрыпка,
Якую мы вярнулі з небыцця,
І чую ціхі голас:
— Сынку! Сынку!
Табе належаць радасці жыцця,
Шчаслівы мір і шлях у свет шырокі...
Не ведаю, наяве ці у сне
Мпе чуюцца далёкіх продкаў крокі,
І ўдзячнасць абуджаюць у мяне,
Пакуль жывая памяць
Аб вайне.

**Уладзімір Забаштанскі**

**МАЦІ**

Няма у Марфы сям'і і роду,
Ёсць толькі ў скрыні з жалобай вестка.
Бялее хатка ў канцы гароду,
За ёй — таполя, нібы нявестка.
Гамоніць з ёю сівая маці,
Вярэдзіць сэрца боль успамінаў,
І да світання не верыць страце,
А потым плача і кліча сына.
Для Ганны месяц заходзіць рана,
Ды не заходзіць яе трывога,
Адно і тое н? пытае Ганна
Калі — ў сустрэчных, калі — у бога.
Няма адказу. Не ціхнуць мукі,
Ляжыць на сэрцы бяды ільдзіна,
Ад гора маці ламае рукі,
А потым плача і кліча сына.
А ў Стэфы слова — для сэрца свята.
Ад слова ў зрэнках святла прыбудзе,
Калі пра подзвіг свайго салдата
Яна гаворыць знаёмым людзям.
Вярэдзіць рана душу глыбока,
Трапеча сэрца, як ліст асіны,
Зірне на хлопцаў чужых здалёку,
А потым плача і кліча сына.

# З фарсі

**Рудакі**
**(X стагоддзе)**

**ДВУХРАДКОЎІ**

1.
Хай плача воблака вясной, яму хвала:
Зямля ад гэтых слёз, як ружа, расцвіла.

2.
Пакуль жыву, заўжды адным заняты —
Я ворыва хвалю, жніво і спелыя зярняты.

3.
Чароўны дзень вясны заўжды надобен раю,
А мне прыемнай ноч, калі цябе спаткаю.

4.
Не любіш, а майго кахання ты чакаеш,
Шукаеш праўды, а сама любога ашукаеш.

5.
Ты пахнеш амбраю і мускусам таксама,
Але з душы тваёй не сходзіць ганьбы пляма.

6.
Кіёк абточаны, блішчасты і прыгожы
Вярбой зялёнаю ніколі стаць не зможа.

7.
Хай адзенне будзе брудным, чыстым быць павінен сам,
Але гора чорным сэрцам і зайздрослівым вачам.

8.
Ты ў шчодрасці увесь, тваё адзенне — слава,
А веліч — родны дом, і гонар твой — дзяржава.

9.
О, гора! Коршак дзвесьце год жыве,
А ластаўка праз год канае на траве.

10.
Ты ловіш кожны дзень чароўных песень гукі,
А чуць не хочаш, плач ад гора і ад мукі.

11.
У гэтых — мяса на стале і з міндаля пірог адменны,
А тым, галодным, здабываць нялёгка хлеб ячменны.

12.
Няпраўда, што мудрэц вялікі жыве ў наступніках сваіх:
Род прадаўжаецца. А мудрасць? А мудрасць не пяройдзе ў іх.

13.
Ідзі, спасцігні сэнс жыцця, і знікнуць перашкоды:
Драбніца кожная табе спатрэбіцца заўсёды.

14.
Такі ўжо свет, і будзе так бясконца —
То ў бездань кіне пас, а то ўзнясе да сонца.

15.
У вершатворчасці я стаў, бадай што, першы,
Бо з каменя раблю, нібыта з шоўку, вершы.

# З грузінскай

**Важа Пшавела**

**НЕ ТОЙ ГЕРОЙ, ХТО...**

Не той герой, хто смелы сам,
Калі з ім побач трое,
А ў тым, хто варты сам траіх,
Жыве душа героя.
Душыць таго, хто збіты з ног,—
Не бойка, а забойства,
А ратаваць з бяды слабых —
Сапраўднае геройства.
Не цяжка ласку здабываць
Ад катаў у каронах,
А гонар — весці барацьбу
За шчасце пакаропых.
Ты ганарышся, склаўшы гімн,
Калі па горла сыты,
І фанабэрышся сабой,
Што кожны з нас забыты.
Пяеш і не даеш другім
Ты заспяваць пры гэтым.
Спявай галодны. Вось тады
І станеш ты паэтам.

# З армянскай

**Геворг Эмін**

* * *

Мама гаворыць заўсёды ціха
І на мяне пазірае з дакорам,
Мама не хоча, каб слухала ліха,
Каб не падслухала горкае гора.
Звычкаю звычка навек застаецца,
Калі нават шчасце у зрэнках іскрыцца,
Мама ніколі не засмяецца,
Быццам яна саграшыць баіцца.
Мама заўсёды мяне ушчувае,
Калі я бываю ў найлепшым гуморы:
«Хто часта смяецца і звонка спявае,
Той можа разгневаць ліха і гора.
Ты любіш часта, сынок, смяяцца,
Мне ж сэрца боязь гняце і гняце,
Дзён нешчаслівых не трэба баяцца,—
Шчасце заўсёды за горам ідзе».
Ах, мама, мама! Ты ў працы да зморы
Ведала толькі бяду і трывогу
І стала заўсёды баяцца гора,
Так, як баяліся некалі бога.
Богу даўно перасталі маліцца,
Гора матулю даўно абмінае,
Яна ж і дагэтуль гора баіцца,
Ранкам і ноччу яго ўспамінае.
Я разумею: яшчэ нялёгка
З усім пражытым ёй разлучыцца.
Я стрэльбу ўскінуў, прыжмурыў вока,
Каб з горам маміным разлічыцца.
А гора паспела крукам сагнуцца
І ўжо схавацца за сэрца мамы...
Ніколі нельга мне прамахнуцца,
Каб не параніць сэрца
Мамы.

# З літоўскай

**Саламея Нерыс**

**МОЙ КРАЙ**

Мой край, нібыта кропля залатая
Празрыстага бурштыну на зары,
Мой край зімой і летам расцвітае,
І рады ўсе суседзі і сябры.

Сагрэлі промні, дружбы залатыя
Прыбалтыкі дзівосную красу.
Літва, Літва, імя тваё заўжды я,
Нібыта сонца, на руках нясу.

Саюз Саветаў — нашай дружбы мора,
І ты з усімі радасна спявай
У шматгалосым і адзіным хоры,
Мая Літва, мой родны светлы край.

## ВЕЦЕР І ДЗЕЦІ

Ужо вясны вясёлай вестуны
На золку свішчуць у зацішку,
І цёплы вецер ранняе вясны
У шыбу звоніць першаю пупышкай.
Рагоча вецер, волкі і густы,
Гайдае вецце, разганяе цені,
І ведае, што клейкія лісты
Вясна на дрэва кожнае надзене.
Апырскае лугі вясновы дождж,
Пакліча вецер з добраю усмешкай:
— Хутчэй бяжыце, дзеці, басанож,
Я высушу для вас шляхі і сцежкі.
Як добра, вецер, што гукаеш ты,
Што нам прыносіш радасці і шчасце.
За тое, што шумяць наўкол лісты,
Табе мы вокны расчыняем насцеж.
1928-1930

## БЕЛАЮ ДАРОГАЮ

У замеці бомы звіняць і звіняць,
І хаты, і дрэвы — у цемрадзі ночы,
А коней на белых шляхах не стрымаць,
І толькі гараць нашы чорныя вочы.
Усё, што захочаш, аддам да драбніц —
І шчырасць, і шчодрасць пяшчотнае ласкі.
На небе гараць аганькі завушніц,
На белых дарогах — дзівосныя казкі.
Ляцім і не знаем, дзе спынімся мы,
Якія чакаюць яры або ўзгоркі,
Імя тваё свеціць у змроку зімы
І ў сэрцы маім навагоднюю зоркай.
1926

## БЕЗ КАСЦЁЛА

Без ксяндза і прамоў на амбоне,
Без пярсцёнкаў і шлюбнай фаты
Нас імчаць нестрыманыя коні
Па шляхах невядома куды.
Валасы нам расчэсвае вецер
У бязлюднай лясной цішыні,
Нам сузор’і далёкія свецяць
І вянчаюць навек з вышыні.
Б’юцца сэрцы трывожным жаданнем,
Лета хмельнае, быццам віно,
Абяцае блакітнае ранне,
Што грахі даравала даўно.
Без касцельных званоў і пярсцёнкаў…
Толькі неба — наш сведка і госць
Абдымае і чуе, як звонка
Па дарозе ляціць маладосць.
1927

**Альбінас Жукаўскас**

**БЛЫТАНІНА**

Я сто разоў даваў сабе зарок,
А ўбачу дзеўчыну, і сэрца так заб'еццa,
Іду ўслед за ёю незнарок,
З надзеяю, што, можа, мне ўсміхнецца.
Лаўлю прамень прыжмураных вачэй,
Гляджу на шыю, валасы і бровы,
Здаецца, чырвань вуснаў абпячэ
І пырсне сок, як з ягады барвовай.
Усхваляваў абрыс яе грудзей
Пад складкамі шаўковае тканіны...
Хоць сівізна ў мяне ў барадзе,
А чорт яшчэ штурхае пад рабрыну.

**Уладас Мазурунас**

**СЯБРАМ**

Настане мір. Замоўкне гул гарматаў,
Сябры за стол збяруцца, як даўней,
І ўпершыню заўвая{аць, што на свята
Не ўсе прыйшлі, што стала прастарней.
Замоўкнуць жарты, дым растане сіні,
Цішэй — у залі, за сталом — пусцей,
Спяшацца будзе па сцяне гадзіннік
І папракаць запозненых гасцей.
Прыпомніцца, як лютымі начамі
Зямля крывёй палала пад Арлом,
І ажывуць сябры перад вачамі,
Што Невель бралі з бою, напралом.
Сябры зямлю сабою прыкрывалі,
Сцякала кроў на жвір і палыны...
Дарма гадзіннік б'е ў прасторнай залі:
Сяброў няма, не прыйдуць больш яны.
Цясней пасядзем. Нас сягоння мала,
Мы нават крэслы ўсе не занялі,
Падымем моўчкі поўныя бакалы
За тых сяброў, што з бою не прыйшлі,
За тых сяброў, хто сёння так далёка,
Хто не дайшоў праз кулі і грамы,
Хто быў да Перамогі за паўкрока
І ўпаў, каб святкавалі сёння мы.
1944

**Юсцінас Марцінкявічус**

* * *

Кожны дзень я ў самога сябе паглыбляюся
І знікаю, нібыта ў натоўпе людскім,
У глыбінях уласных блуканняў губляюся,
Не заўважаны, не разгаданы нікім.
Прастаты!
Я хачу прастату непадробную,
Быццам хлеба акраец, трымаць у руках,
Абыходзіць прасторы чужыя і родныя,
Каб адлегласць адчуць

на цяжкіх бальшаках.
Я жадаю павесці за ручкі маленькія
Неспакойных, дапытлівых, прагных дзяцей,
Каб у свет угляदаліся яспымі зрэнкамі,
Як зямля у ласкавых праменнях цвіце.
Так, напэўна, прыходзіць жаданая сталасць,
Калі чую і бачу я ўсё да драбніц,
І баюся, каб толькі для іх не настала
Неспадзеўна ліхая пара навальніц.
Толькі б ім не прыйшлося, пакінуўшы справы,
І мяне дакараць, і мяне папраўляць,
Толькі б нашым наступнікам, дужым і правым,
Не дазнацца, як даўнія раны смыляць.

# З латышскай

**Ян Райніс**

## САПРАЎДНЫ ЧАЛАВЕК

Я плакаў,
Смяяўся,
А ў сэрцы гарэў
І біўся гарачаю лаваю гнеў.
Я ціха стагнаў,
Сунімаючы кроў,
А раны загаіўшы,
Біўся ізноў.
Балюча ў адчаі рабілася мне,
Ды помніў заўсёды:
Няшчасце
Міне.
Ашчаднасцю зроду
Сваёй не грашыў,
А ўсё для парода
Аддаў ад душы.
Часамі балюча
Пакрыўджаны быў,—
І я ненавідзеў,
А болей — любіў.
Люблю і шаную
Сумленных і смелых,
Але ненавіджу
Заўжды азвярэлых.
1908

**Ян Судрабкалн**

## ЖЫВАЯ МОВА

Жывую латышскую мову
Далёка на захадзе, ў сне,
Я слухаў, як зачараваны,
І сон перарваць не пасмеў.
Свісталі ў прысадах сініцы,
Крышыла ільды Даўгава,
Пярун грукатаў у нябёсах,
І маці люляла дзіця.

Спяваў пастушок свае дайны,
І Райніса слова гучала.
Я раптам у епе скалануўся —
Мне сціснула шыю змяя,
Бо дзякаваў хтосьці фашысту,
Бо хтосьці назваў яго другам.
І я прахапіўся ад жаху —
Кашмар! Адступіся, кашмар!
Хто нашай ласкаваю мовай
Так дзякуе вылюдку-немцу,
Той словам, як тручаным джалам,
Мне сэрца прапёк навылёт.
І нават сабакі ад страху
Знікаюць за шчыльным парканам,
Я ж слухаю енкі і стогны
На захадзе сірат і ўдоў.
Там мала глухіх баязліўцаў,
Там воіны дужыя клічуць
Змагацца за шчасце і праўду
Сумленных усіх латышоў.
У вольнага толькі народа
Ёсць мова жывая заўсёды.

**Андрэй Балодзіс**

**МАЦІ**

Хто яна, што ў кожнага адна,
Што, як сонца ласкавае свеціць,
Што, як зорка ў небе, хто яна?
Хто яна, адзіная на свеце?
Хто яна, што ў горы і ў бядзе
Нас да сэрца моцна прыціскала?
Хто яна, што ўслед за намі едзе
Праз усе крутыя перавалы?
Пра каго мы часта забываем
На сваёй службовай вышыні?
У каго радзей за ўсіх бываем,
Хто начамі плача ў цішыні?
Гэта — маці, маці, што на свеце,
Нібы сонца, ў кожнага адна.
І тады яе шкадуюць дзеці,
Як над ёй зачыніцца труна.

**Інара Роя**

**У ЛЕСЕ**

А ў лесе глухім — ні бяды, ні трывог,
Толькі шлюбнай парой у здзічэлым завале
Затрубіў чалавек у бяроставы рог,
І алень не пазнаў, што яго ашукалі.
Быццам полымя, ён шугануў цалінай,
З прагай бою імчыцца прыгожы і смелы.
Паляўнічы разважыў, што кулі адной
Дастаткова для дужага цела.
Пахіснуўся, укленчыў алень, як знарок,
Але ёсць у жыцця неадолены звычай:

Ён з апошняе сілы ступіў яшчэ крок —
І за воблачкам дыму растала здабыча.
Зноў у лесе глухім — ні бяды, пі трывог.
Не заплакаў ніхто, не прасіў дапамогі.
Паляўнічы ішоў напрасткі, нібы бог,
І ўзнімаў, як паходню, аленевы рогі.

## АД ЛЕНІНА ІДУ

Пра Леніна не думаць немагчыма,
Без Леніна не зразумець сябе.
Бываюць людзі з яснымі вачыма,
З сакратаўскай маршчынкай на ілбе,
Але няма такога чалавека,
Якога, як паходню, ўзняў народ
На бранявік, назваўшы сцягам веку
У той агністы, векапомны год.
Было даўней на свеце шмат куміраў,
Што паднімалі вострыя мячы.
Прыйшоў Ільіч у свет як сімвал міру,
Каб назаўсёды зло перамагчы.
І Ленінскае праўды не асіліць,
Бо з ім народы шчасце здабылі —
Вялікі сын вялікае Расіі
Стаў светлаю надзеяю зямлі.
У сэрцы — ЛЕНІН.
Але каб не збіцца
З вялікае дарогі на хаду,
Каб не сфальшывіць, каб не памыліцца,
Я раіцца да Леніна іду.

## ТЫДЗЕНЬ

Пояс на шэсць міль з залатымі
спражкамі на канцах.
*Латышская загадка*

Калі панядзелак ударыць у звон,
І тыдзень пачнецца, і дасць нам заданно,
Мы верым наіўна, прачнуўшыся ўранні,
Што шмат ёсць загадак, а больш яшчэ дзён.
Вазьміся,— адну хоць за тыдзень асіль,
І ўздыме цябе на прыступкі крутыя
Загадка пра пояс па шэсцера міль,
Пра спражкі ў яго на канцах залатыя.
Мы зранку зацягнуты поясам тым,
З яго пазрываць мы бразготкі гатовы,
І хтосьці, нібыта ў парыве святым,
Куе з іх ужо сашнікі і падковы.
Мы пояс расслабім,
У поўдзень якраз,
Хоць з’едзена намі не так ужо многа,
Палічым, а колькі наперадзе ў нас
Тых міляў няпройдзепых да перамогі.
Змарыліся пальцы яшчэ да пары
Сукаючы ніткі змярканняў да поту.
Знікаюць у яркім святле камары,
і дні адлятаюць усе без звароту.

## З НІЗКІ «МОРА»

* * *

Тут пясок мне і пена,
І надоўга, напэўна,
А мне трэба бяздонны
Шквал да самага скону!
Трэба пошукаў сцежкі,
І людскія усмешкі,
Губы любага, з соллю,
І ўзаранае поле.
Трэба! Трэба! І трэба
Больш за сонца, за неба.

* * *

Я цябе чакала, быццам зорку,
Што відна ў бяссонні толькі мне.
Ты прыйшоў і усміхнуўся горка,
А чаканне так і не міне.
Дык няхай прамень зялёны свеціць,
І крутой вясёлкі ўзыйдзе рог.
Можа, меней гора будзе ў свеце,
Меней слёз, пакутаў і трывог.
Ты знікаеш у тумане белым,
Яблыня срабрыцца ад расы,
Ј галінкай кратае нясмелай
Над маёю скроняй валасы.

* * *

Усё закружылася ў свеце,
У буйнай красе лістападу.
Вецер. Вецер. І вецер!
Голых дубоў каланада.
Сэрца бруснічнай чырвонай
У конаўцы берасцяной.
Страшна ў гушчэчы бяздоннай
Мне на сцяжынцы лясной.
Хай!
Я сама застаюся,
Бо і зімы не баюся.

* * *

Галавой мне кляліся:
Страх мацней чалавека,
Як не думай, не бíся,
Так вялося ад веку.
Колер белы і чорны
Пераблытаць магчыма,
Быць бяздумнай, пакорнай
Лёгка знойдзеш прычыну.
Навучалі ласкава:
Не знайсці мне падковы,
І не ўзыйдзе да славы
Поспех мой выпадковы.
Схамянулася раптам:
Што ж ланцуг я надзела?
І ланцуг, быццам краб той,
Мне ўпіваецца ў цела.

Я крычала ад болю,
Вырываючы звенні,
І на мне зарасталі
Пісягі, як збавенне,
А на лузе і ў полі —
Спелых кветак кіпенне.
Клапатлівыя пчолы
Прылятаюць з нектарам,
Я зірнула наўкола
І з нязведаным жарай
Зразумела, што шчасце
Узніме да неба,—
Словы ж чорнае масці
Мне і дарам не трэба.

# З аварскай

**Расул Гамзатаў**

**У АХВАХУ**

Як толькі сэрца зноў заные,
Давай наедзем у Ахвах,
Праверым мы, ці маладыя,
Ці адгулялі ў жаніхах.

Юнацтва ўспомнім у Ахваху
І зноў,
 як некалі даўно,
Закіне кожны з нас папаху
Адной дзяўчыне у акно.

Даведаемся не без страху,
Каго яна кахае з нас:
Чыю далоў шпурне папаху,
Таму дамоў вяртацца час.

...Я ўспамінаю змрок вясновы
І месячныя вечары,
І пра каханую размовы
З хлапцамі па чужым двары.

Тады, яшчэ зусім бязвусы,
Як толькі забурліла кроў,
Я ўсё па дыбачках цягнуўся
Да большых за сябе сяброў.

Як, апынуўшыся з хлапцамі
Пад вечар у адным двары,
Мы выглядалі малайцамі,
Да гэтай, помніцца, пары.

Лістота з ветрыкам шаптала,
І месяц усміхаўся мне,
Прыціхлі ўсе, як заспявала
Гаранка, седзячы ў акне.

Пра сонца і пра зоры ліўся,
І пра каханага той спеў,

Каб толькі любы не спазніўся,
Каб іншых перагнаць паспеў.

Што сэрца трапятала птахам,
Было і ў поцемках відно.
А хлопцы скінулі папахі,
І кожны цэліўся ў акно.

Ад хвалявання ледзь не стыну —
Цягну шчаслівы свой білет
І, быццам роўны,
кепку кінуў
Я за папахамі услед.

Здалося, гаснуць зорак свечкі,
Здалося, валіцца страха,
Калі папахі, як. авечкі,
У двор ляцелі з катуха.

І кепка з казырком зламаным
Упала недзе за кусты,
Яе знайшоўшы пад парканам,
Я зразумеў — білет пусты.

А дзеўчына ад спачування
Сказала:
— Хлопчык, слёз не зводзь.
Прыйшоў ты рана на спатканне,
Як падрасцеш, тады прыходзь.

Ад крыўды я дрыжаў і страху,
З двара ўцякаючы праз бэз,
А нехта па сваю папаху
У акно расчыненае лез.

Прайшлі гады, мінула гора,
Змялелі рэчкі на вірах,
Я праз гады, нібы праз горы,
Ізноў прыехаў у Ахвах.

Нявесты, дзе вы, дарагія,
Ці помніце сяброў былых?
Са мной хлапцы ішлі другія,
І я старэйшы быў за іх.

Усё, як калісь, засталося,
І месяц ўсміхаўся мне,
І напачатку мне здалося —
Дзяўчына тая ж у акне.

Калі ж з папахамі з аўчыны
Пастала, можа, дзесяць душ,
Закінуў у акно дзяўчыны
І я свой модны капялюш.

Хлапцы, што ад трывогі млелі,
Апамяталіся, калі
З акна папахі паляцелі
І хмару пылу паднялі.

Амаль пад самыя вароты
Мой капялюш упаў на дол.
Нібы наскрозь прабіты шротам
З вяршыні горнае арол.

І дзяўчына ад спачування
З папрокамі сказала зноў:
— Прыйшоў ты позна па спатканне,
Чаму раней ты не прыйшоў?

Быў вечар, як тады, харошы,
І зоры бачылі, і лес,
Як хлопец, за мяне малодшы,
Ў акно расчыненае лез.

Заўжды спяшаюся старанна,
Бо не спяшацца не магу,
Але прыйду то вельмі рана,
То надта позна прыбягу.

**ПАКУЛЬ НЕ СПЫНІЦЦА ЗЯМЛЯ**

Я сонца прагна піў заўсёды,
Ступаючы ў шырокі свет,
Насустрач чырвані усходу
І чырвані заходу ўслед.

Дзе стромкія ўзняліся горы,
А ў сэрцы — бляскі навальніц,
Я прыгаршчамі чэрпаў зоры
З рачулак горных і крыніц.

Салодкім хмелем пахла глеба
Каля высокіх берагоў.
Я піў з блакітнай чашы неба
Настой аблокаў і лугоў.

У замеці, калі сцяжынкі
Знікалі на крутых гарбах,
Мне ўспомнілася, як сняжынкі
Сцякалі па маіх губах.

Я вёсны піў
    па кварце поўнай,
    Калі сяўцы ў палёх ішлі,
    Халодную прайшоўшы Поўнач,
    Я піў мароз, як спірт пілі.

Я навальнічны піў бывала
Гарачы і гаючы сок,
Крутой вясёлкаю бакала
Іскрыўся тонкі беражок.

Шыпшыннік расцвітаў калючы,
І хмель цясніны акрапіў,
Заўжды ўзыходзячы на кручы,
Я хмельны водар ніў і піў.

Зямной красою захапляўся

І радасці не мог стрымаць,
Не раз, не двойчы закахаўся
І песні піў, каб зноў спяваць.

Душы складаная прырода!
Я піў з сябрамі заадно
У радасці — настоі з мёду,
У горы — горкае віно.

Калі я сэрцам піў,
      дзвюх кропель
      Не праглынуў дзеля пацех.
Я Хірасімы бачыў попел,
Я фестываляў слухаў смех.

І здзьмухваючы, быццам з піва,
Пустога шумавіння злосць,
Піў сэнс жыцця
                    і быў шчаслівы,
Што праўда ў гэтым сэнсе ёсць.

Люблю пяшчотнасць і адвагу
І п’ю свой дзень да забыцця,
І зноўку адчуваю смагу
Кахання, праўды і жыцця.

Хай у зямлю аднойчы лягу,
Як запавет, скажу здаля,
Каб людзі адчувалі смагу,
Пакуль не спыніцца зямля.

**РОДНАЯ МОВА**

Я ўспамінаю дзіўны сон старанна.
Прыснілася мне сёння смерць мая.
Пад спёкаю ў даліне Дагестана
Свінцом прабіты ледзьве дыхаў я.

Звініць рака, бяжыць да акіяна,
Забыты і сябрамі, і раднёй,
Я на зямлі радзімы распластаны
Ляжу, пакуль не стапу сам зямлёй.

Смяротны холад засцілае вочы,
Ніхто мяне не чуе, як знарок,
У вышыні сівы арол клякоча,
І стогнуць лані дзесь непадалёк.

І каб паплакаць над магілай ранняй,
Якую не ўдалося абысці,
Няма ні роднай маці, ні каханай,
І нават простай планкі не знайсці.

Так я канаў ад болю і бяссілля,
Але прайшло раптоўна забыццё,
Бо побач па-аварску гаварылі,
На мове роднай мне па ўсё жыццё.

Пад спёкаю ў даліне Дагестана
Я паміраў, а тут удвох вялі
Гаворку пра якогасьці Гасана,

Пра хітрыкі якогасьці Алі.

Услухваюся ў кожны гук і слова,
І ажываю, як ад дзіўных чар,
І разумею, што ўратуе мова,
А не вучоны доктар ці знахар.

Кагосьці, мабыць, ад бяды суровай
Чужая мова лечыць напавер,
Калі ж мая загіне заўтра мова,
Дык я гатоў памерці хоць цяпер.

Я за яе заўжды душой хварэю,
Хай кажуць — наша мова не ў цане,
Хай не гучыць яна на асамблеі,
Але была і будзе родпай мне.

Каб зразумець Махмуда, супляменпік
Няўжо чытаць павінен пераклад?
Няўжо і я апошні той пісьменнік,
Што піша вершы па аварскі лад?

Люблю жыццё, люблю я ўсю планету,
Куточак кожны, а найбольш сваю
Краіну неабсяжную Саветаў
І па-аварску пра яе пяю.

Яна заўжды ў маёй душы і сэрцы —
Ад Брэста да Камчацкіх бальшакоў,
Я ўсюды за яе гатоў памерці,
А пахавайце на зямлі бацькоў,

Каб на магіле блізка ад аула,
Каля майго аварскага гнязда,
Успаміналі землякі Расула,
Гамзатава наступніка з Цада.

* * *

Да сузор’яў, у бездань прастору
Адляталі ракеты не раз.
Людзі, людзі — высокія зоры,
Даляцець бы мне толькі да вас.

# З азербайджанскай

**Самед Вургун**

**Я НЕ СПЯШАЮСЯ...**

У зорках неба, з мора свішча вецер,
Падымем шклянкі, каб сустрэць зару.
Я не кажу: «Забудзьма ўсё на свеце»,
«Душу крыху сагрэем»,— гавару.
Хай позніцца світанне. Ноч, як футра,
Пры вогнішчы цяплом нас ахіне.
Хай тое, што скажу, не надта мудра,
Ды мудрасць друга — выслухаць мяне.
Пакуль кахаць і пець гарыць жаданне,
Пакуль я прагну сонца і вады,
Прадоўжыць трэба поўдзень і світанне,—
Спяшацца мне
Яшчэ няма куды.

Маё каханне!
    Што ўзрост мой значыць?!
    Няхай гады ляцяць, як скакуны.
Я меней бачыў, чым хацеў пабачыць!
Давай з табой абыдзем шар зямны!
Калі маіх лятункаў лёгкі ветразь
Закіне нас у мора да пары,
Мы пройдзем небяспекі кіламетры
І ў завадзі не кінем якары.
Магчыма, зорка нада мной узыдзе,
Знайду яе, магчыма, праз гады.
Ні ясны дзень, ні змрочны мне не збрыдзеў,
Спяшацца мне
Яшчэ няма куды.
За паляўнічым, самым лепшым другам,
Хадзіў я па лясах, нібыта цень.
Давай яшчэ паходзім летнім лугам
І кожнай кветцы скажам: «Добры дзень!»
Рука да кветкі дацягнуцца хоча,
Не для таго, каб рваць або зразаць,
А каб зірнуць у радасныя вочы
І добрыя ёй вочы паказаць.
Раскрыюцца яны па добрай волі,
Пялёсткі ўсцелюць наглыя сляды.
Я не спяшаюся, нібы вятры у полі,—
Спяшацца мне
Яшчэ няма куды.
Плыве павольна хмара сярод ночы,
Рака паціху хвалямі шуміць,
Каб да драбніцы ўбачылі ўсё вочы,
Каб я нічога ўжо не мог забыць.
Не думай, што змарыўся я ў паходзе,
Хачу, каб след пакінуў мой паход.
Калі пражыць не суджана стагоддзе,
Хачу за дзень пражыць дзесятак год.
Хай не спяшаецца пяро ў руцэ паэта,
І не прыспешвае жыццё свае хады.
Будзь доўгі, дзень! Плыві, мая планета!
Спяшацца мне
Яшчэ няма куды.

## ЦЕЛАГРЭЙКА

Ты помніш, друг, як, мабыць, недарэчы
Я да цябе ў Маскве ўварваўся ў дом?
І колькі б не пілі мы ў гэты вечар,
Дай бог, каб найчасцей быў гэтакі садом.
Паўднёвец я, прастыў у непагоду,
І ты за легкадумнасць дакараў,
Што, калі мне сябе зусім не шкода,
Табе я трэба і тваім сябрам.
І целагрэйку зняўшы праз хвіліну,
Яе мне па-салдацку падарыў.
«Прастужвацца паэты не павінны!
Дык не хварэй!» — ты так мне гаварыў.
І голас твой, што грэў у завіруху,
Мне не забыць ніяк, пакуль жыву.
Хай будзе трэскай падарунак друга,
Я мора з трэскай той пераплыву.
Калі з ружжом у стэпе я блукаю,
І люты сівер рэжа твар, як шкло,
Адразу целагрэйку апранаю
І адчуваю зноў тваё цяпло.
Калі ў Баку засвішча норд вясновы,
І лёгкія заньюць зноў і зноў,
Мяне радня, не кажучы ні слова,
Кладзе ў пасцель і кліча дактароў.
Я целагрэйку ў радасці і ў горы
Адзену зноў у роднай старане.
Якіх мне дактароў шукаць за морам,
Калі ты ўзяўся вылечыць мяне.
1955

## КАР'ЕРЫСТ

Яго каварных думак не выдае пагляд,
А вось памылцы друга, як выйгрышу, ён рад.

Па лесвіцы службовай ён лезе кожны дзень,
Яму памылка друга — наступная ступень.

На подласці гатовы заўжды, заўжды, заўжды.
«А ці ў яго ёсць сэрца?» — «Яно — катух пусты!»

Дабро зрабіць нікому ніколі ён не ўмеў,
Таму ад лютай злосці і зайздрасці схуднеў.

Яго мы сустракаем звычайна кожны дзень,
Ён за Святлом блукае, нібы злавесны Цень,

А пыл пускае ў вочы! Спытаеш,— ён у лад
Сыпне з вядомых кніжак паўтысячы цытат.

Ён раздае усмешкі, нібыта бэз вясной,
А свой кінжал атрутны хавае за спіной.

Паклёпнікава сэрца нянавісцю смыліць,
Ён хоча непрыкметна агульны дом спаліць.

*

Зласлівы, подлы, хітры, лісьлівым здольны быць,
Калі чужая слава да воблакаў грыміць.

Яму і злосць, і зайздрасць засцелюць белы свет,
Калі таленавіты праславіцца паэт.

Яму ён цісне рукі, стараецца дружыць,
А сам гатоў ад злосці яго са свету зжыць.

Калі ж баец славуты праз тысячы грамоў
Адважным пераможцам вяртаецца дамоў,

Зайздроснік побач трэцца, нібы і ён герой,
Нібыта з пекла бою зляцеў у мірны строй.

Тут прыказку старую дарэчы прыгадаць:
Як жаба пі надзьмецца, а ёй сланом не стаць.

*
Калі ашуг прыцісне да сэрца звонкі саз,
Каб праспяваць Краіне Саветаў шчыры сказ,

І кветкі аксакалу яго сябры нясуць,
Зайздроснік жа гатовы яго з гары сапхнуць.

Калі пілот-дзяўчына імчыцца, як страла,
Народ нясе ёй славу, зайздроснік — церні зла

Усім цынічна шэпча: «Каб я жанчынай быў,
Мяне б яшчэ не гэтак Славуты палюбіў».

Напэўна, нехта лічыць, што гэта фанфарон.
Не! Страшны ён, бо знешне зусім не страшны ён

Узброіўся нягоднік ліслівай хлуснёй
І з праўдаю святою вядзе таемны бой.

Усмешачкай ліслівай ёй любіць сустракаць.
Даверлівых не цяжка такому адшукаць!

Сумленнага прамоўцу нягоднік не міне
І гучнаю цытатай адразу рот заткне.

Ён надта ж любіць сходы і пустату прамоў,
Пакуль не набалбоча, не выправіш дамоў.

Ён «вылучыўся з масы». Бывае малады
Работнік спатыкнецца і ступіць не туды.

Паўзе нягоднік ціха, аж словамі кране,
Ды юнака за дробязь адразу праглыне.

Прамову так закруціць: «Ён вораг, хоць юнак,
А ворагу не можам мы даравацць ніяк!»

Яго мы раскусілі, яму мы кажам: «Стоп!
Вялікую эпоху запляміў твой паклёп!

Душа твая, як сажа, язык — атрутны меч,
Таму Зямля Саветаў табе гаворыць: ПРЭЧ!

Прэч з нашае дарогі і з нашага двара! —
Ад злосных кар'ерыстаў пазбавіцца пара!»
1938

## З узбекскай

**З у л ь ф і я**

**КРОПЛЯ**

Табе сягоння пяцьдзесят, мой друг,
Хоць ты далёка, я сцвярджаю смела,
Што сонцу пяцьдзесят, і ў кветках луг
Здаецца мне таксама пасівелым.
Пяру з папераю таксама пяцьдзесят,
Ды я радкі стрымаць не маю сілы —
І ўжо шуміць дажджом і лісцем сад,
А сум і радасць пабываюць крылы.
Казалі нам арабы нездарма
(А мудрацоў сярод арабаў многа),
Што ў свеце пайдаўжэй дарог няма,
Чым паміж сэрцамі дарога.
Да самай запаветнае вярсты
Дайсці нялёгка, асабліва першым.
Я ж пракладу між сэрцамі масты
Натхнёным, шчырым і сумленным вершам.
Я патаемна ў дом твой не ўвайду,
Твой лёс не раскалю халодным кліпам,
Я не паклічу на цябе бяду,
Лепш у спакоі твой спакой пакіну.
Калі ж збяруцца ворагі й сябры
І ўсе за стол з твае пасядуць ласкі,
З'яўлюся я, як воблачка з гары,
Як першы верш або пачатак казкі.
Мне, кроплі, доўга месца не шукай,
Для кроплі месца — на лістку ці ў чашы.
Ты лепш гасцей ласкавей сустракай,
Лепш пі віно і слухай тосты нашы.
Ты раптам ставіш келіх свой пусты,
Глядзіш на ўсіх туманнымі вачыма,
Таго шукаеш і гукаеш ты,
Каго вярнуць ніколі немагчыма.
Навокал людзі, але ты даўно
У адзіноце на вясёлым балі,
Ты прагна п'еш іскрыстае віно,
Тваё ж натхненне — бура у бакале.
Цябе бярэ ў палон журба твая,
Суроваю цвярозасцю карае,
Падобная слязінцы салаўя,
На дне бакала кропелька жывая!
Няхай гарыць і свеціцца яна,
Празрыстая і чыстая заўсёды,
Няхай няшчырасць выпаліць да дна,
Але не дасць чаканай асалоды.
Хто ж тая кропля? Іскарка вачэй —
Слязінка, мара, што заўжды павінна
Гарэць, як зорка, ў цемені начэй,
І хваляваць далёкія ўспаміны?
Кахання, можа, палахлівы дар,
Здабыты, як загоеная рана,
Душы жаночае неўтаймаваны жар,
Што на цябе павеяў нечакана?
Што б ні казалі, кропля — гэта я,
Так, я. І ты ўжо не пакутуй.

Глядзі, каб часам кропля з ручая
Салодкай не зрабілася атрутай.

**М і р т э м і р**

**ВОБЛАКА**

I
У белых воблаках блакіт вясновы неба,
Чакаем з воблака і малака і хлеба.
Плывуць аблокі — будзе добры май:
Запахла і дажджом, і навальніцай,
І гром грыміць услед за бліскавіцай,
За ліўнямі прыходзіць ураджай.
А пойдзе дождж — трава у пояс будзе,
Пшаніца выспее і малака прыбудзе.

II
Аблокі белыя плывуць у сіпім небе,
Нібы за лебедзем ляціць у вырай лебедзь,
Нібыта гораў снежныя вяршыні
На шоўку неба вывела рука
Вялікага умельца — мастака,
І маладзік намалявала сіні,
І Млечны Шлях яна праклала роўны,
А гэта ж горы белае бавоўны.

# З калмыцкай

**Міхаіл Ханінаў**

**АРАНЗАЛ**
(З паэмы)

Сорак першы.
Палі запалалі.
І насустрач вайне праз агні
Я ляцеў на сваім Аранзале,
Танканогім калмыцкім кані.
Рваўся ў бой,
Каб пад нашай зямлёю
Не глуміўся фашысцкі тыран,
І, паранены, стрэўся з сям'ёю
Беларускіх братоў-партызан.
Пад Смаленскам, ля сцен Магілёва,
За Дняпром і ў лясах на Дзвіне
Зноў імчаўся я ў бітвах суровых
На калмыцкім сваім скакуне.
Беларусы мяне засланялі,
Калі край у агні палымнеў,
І тады ля кастра, на прывале,
Камандзірам абралі мяне.
Нас нявечылі рурскія кулі
І свісталі па лесе, як град.
У бінтах і ў прабітай кашулі,
Ледзь жывы, я вяртаўся ў атрад.
Атуліла увагай і ласкай

У зялёным лясным будане
Беларуская маці — Параска
І ад рап ратавала мяне.
Скрозь:
Пад Мінскам, пад Пінскам і Гродна
Білі ворага мы напавал,
І ў свяшчэнным змаганні пародным
Нёс мяне праз агонь Аранзал.
Конь праз багну знаходзіў дарогу,
Добра ведаў, дзе смерць абміне,
І аднойчы на повадзе доўгім
Выцяг з самага пекла мяне.
Ён імчаўся, нібы апантаны,
Па дрыгве, па счарнелым бары.
Падабралі мяне партызаны —
Зноў у смерці адбілі сябры.
Не сціхала баёў навальніца.
Не шкадуючы сіл і жыцця,
Мы ўзнялі на Дзяржаўнай граніцы
Палымяны прастрэлены сцяг.
Нас віталі ў Еўропе народы,
Аж зямля пад нагамі гула,
Бо вясна сорак пятага года
Услед за намі па Захад ішла.
Неслі Ленінскі сцяг неўміручы
Партызанскія нашы палкі,
І фашысты зрываліся з кручы
У бяздонную прорву ракі.
Кожны з нас, нібы віцязь былінны,
Вызваляў за кварталам квартал,
І па дымных завулках Берліна
Капытамі грымеў Аранзал.
«Пе-ра-мо-га!» — каціласся рэхам
Над зямлёй шматгалосіца моў…
На сваім Аранзале паехаў
Я ў калмыцкія стэпы дамоў.
Ён скакаў па палескім балоце,
Па бязмежных расійскіх краях,
І звінелі калечкі аброці,
Быццам першая песня мая.
Я глядзеў, як на золата зліткі,
Як на вытканы сонцам узор,
І на родны улус, на кібіткі,
На кавыльны калмыцкі прастор.
І сцяжынка вяла Аранзала
Да кібіткі, што роднай лічу,
Але сэрца маё падказала
Аб усім далажыць Ільічу.
З ім сумленне і думы звяраю,
Ім акрылена вера мая.
Пра свабоду Савецкага краю
Перш дакладваю Леніну я.

# З яўрэйскай

**Ізі Харык**

**ПЕСНІ ПРА ПЕСНІ**

I
Навошта песні я свае спяваю,
Калі вятры пяюць паміж лісця?
А галава баліць і не сціхае,
Хоць я яе люляю, як дзіця.
Мой бацька, вечна змучаны работай,
Не літары выводзіў, а крукі.
І я, як ён, напэўна, шыў бы боты,
Сукаў бы дратву, забіваў цвікі.
Калі лагодны вецер на прадвесні
Пастукаецца ў шыбы да шаўца,
І я спяваў бы за варштатам песні,
Без сэнсу, без пачатку і канца.
І быў бы п бясклопатны раменнік,
Спакойны ад бяздумнага жыцця...
Навошта ж, галава, вучыцца песням
І быць непаслухмянай, як дзіця?

2
Няхай мяне ў вяках не будуць ведаць,
Маё імя не здолеюць знайсці,
Я да нашчадкаў невядомым следам
Хачу з натхнёнай песняю дайсці.
І я б спяваў пра лес і неба просінь,
Пра зоры і пра першую траву,
Ды не магу, каб мне лягчэй жылося,
Калі нялёгка іншыя жывуць.
Мяне і сёння вабіць дзень вясновы,
Люблю ружовы золак сустракаць,
Ды не пяю пра іх, бо ў час суровы
Пра зоры песня можа пачакаць.
І не бяда, што праз вякі вучоны
Мае сляды не здолее знайсці.
Я, як салдат, у галаве калоны
Павінен з песняй новаю ісці.

3

*Маладым паэтам прысвячаецца*

Нашы бацькі гаравалі вякамі,
Крык заглушыўшы ў сэрцы сваім.
Грызлі мы чэрствы акраец, як камень,
Самі мужнелі і верылі ім.
Мы не шукаем сягоння спакою,
Болей не просім сухіх праснакоў —
Сэрца у кожнага з нас трапяткое
Б’ецца гарачаю сілай бацькоў.
Чуеце, з нас песняры вырастаюць
З новаю сілай жывых галасоў.
Гэта мае аднагодкі спяваюць.
Слухайце песню, як шум каласоў.
1925

* * *

Я сёння нечакана смерць адчуў
І аж адскочыў на дзесятак крокаў,
Бо я яшчэ здавацца не хачу
І знікнуць, як раса знікае ў спёку.
Мяне спакой заплюшчаных павек
І цішыня нябыту не прывабяць,—
Таму і нарадзіўся чалавек,
Каб жыць, смяяцца, радавацца, плакаць.
З тае пары, як я сябе пазнаў,
Мяне жыццё ўзняло і акрыліла,
Мяне яно, як ранняя вясна,
Нясе і ўзносіць з неадольнай сілай.
Маё жыццё — мой баявы равеснік,
Яшчэ нам столькі суджана стварыць,
Яшчэ зладжыць такія трэба песні,
А значыць — трэба доўга, доўга жыць.
Калі ж знянацку куля напаткае,
Ёй трапяткое сэрца не прабіць.
Мне сорамна, што часам смерць пужае,
Калі так хочацца і так патрэбна жыць.

# З чэшскай

**Пётр Безруч**

**ЧЫРВОНАЯ КВЕТКА**

За цёмным акном у шчарбатым гаршчэчку
Сумуе калючы запылены кактус.
Аднойчы уранні
Сцяблінка раскрыла маленечкі келіх
Чырвонае кветкі.
Паэт быў у нас з маладымі вачамі,
Любіў ён шыкоўныя свежыя рулад
І гучнай страфою уславіў пялёсткі,
Ды грэбліва кпіў ён
З чырвонае кветкі.
Ёсць чэрствыя людзі і злыя заўсёды,
Асцём зараслі іх спакойныя душы.
А што ў іх у сэрцах?
Яны ж не пабачаць у прыцемках ночы
Чырвоную кветку.

# З венгерскай

**Дзюла Ійеш**

**ПРАДВЕСНЕ**

Неўсталяваны, без прыкметных змен,
Прадзьмуты навылёт, прапахлы вапнай,
Без аканіц, без вокан і без сцен,
Да навальніцы і да грому сквапны,
Маланкаю разбуджаны ад сну,
Ізноў чакае гэты край вясну,
Прапахлы свет жывіцаю сасновай,
Падлогай вымытаю гаспадыняй новай,
Свет, у якім цяпла чакаць пачну,
Прымі мяне, прасторны, чысты дом,
І пасялі мяне ў кватэры дальняй!
Вясну, абыдзеную маляром,
Вітаю скразнякі і першы гром
Я, летуценнік і стары шукальнік.

Як тут хвалюе ўсё парой світальнай!
Ты пакажы мне, дзе той выключальнік,
Дай я ўключу, шаноўны дружа,
За сонцам месяц і галактык люстры,
Няхай усё прамень асвеціць шустры.
Было дасюль даволі цемнаты,
Даволі завірух, ільду і сцюжы!
Сагрэтае паветра ацяпленнем
Нясе да пас ласкавыя пласты,
І неба сінь, узнятая пад намі,—
Ты — абаронца наш і наша воля ты.
Нас астудзілі страшныя дарогі.
Не ведаю, на колькі хопіць змогі,
Патрэбен нам спакой замест трывогі,
Кватэра, вокны, дзверы і парогі,
Паліца кніжак і дыван пад ногі —
Звычайны быт і ціша за сцяной,
Каб сходзіліся гутарыць са мной
Сябры, якіх я трачу год за годам,
І маладыя —
                    Каб чакалі тут,
Калі пачнецца ясная пагода!

**Аціла Бераш**

**ГРУКОЧУЦЬ ТАБУНЫ**

То нікацін грызе, то часам алкаголь,
То гора пазрывае ўсе прабоі,
А ты не верыш, што шукаў цябе,
Не веру сам, што я жыву табою.
Грукочуць табуны ў маіх вушах,
Я ўспамінаю аб мінулым леце,
Сабою захапіўся, але зноў
Гудзе вільготны сакавіцкі вецер.
Красавіком азораны разліў,
І жнівень надышоў не вельмі рана,
Запалкамі кастрычнік падпаліў

Лісты і пераспелыя каштаны.
Грукочуць табуны ў маіх вушах,
Радок даспелы стаў перад вачыма.
Што пажаданні! Кнігу я сваю
Убачыў у руках сустрэчнае дзяўчыны.
Я выйду, закасаўшы рукавы,
У белае свавольства снегападу.
Людзей шукаюць людзі, каб кахаць
І паслязаўтра сустракаць каляды.

**Міклаш В е р а ш**

## ПЕСНЯ КАХАННЯ

З чарэшань снегу намяло,
А ён і не растаў ад спёкі.
Згуляць бы нам з табой, Іло,
Ці, як раней, пусціцца ў скокі.

Ты мне жадай адных удач,
Каб песня аж да зор шугала,
Каб я ляцеў, як той скрыпач
З карціны мастака Шагала,

Ці валацугай па шляхах
Ішоў ад хаты і да хаты,
Каб думалі, што я манах,
Адны святошы і вар'яты,

А ты б сядзела на страсе,
Адзеўшы танныя аздобы,
І ў шаліноўку пакрысе
Складала дробны мой заробак.

Хай песня зорная твая
У неба скрыжаванні месціць,
Каб не спаткпуўся болей я
Аб сцепу зайздрасці і злосці.

Час акрыліў, зірні, Іло,
Малога Міклаша з Ілонкай,
І ўсё, што некалі было,
Цяпер здалося песняй звонкай,

І нашы летуценні ўсе,
Твае прыдумкі і парады,
З табою мора нас нясе
У казачныя вадаспады,

Бо казка зноў жыве, Іло,
Яе чароўныя прылівы
Адкрылі вусны, ногі, лоб,
І я шчаслівы, я шчаслівы!

Даўно завуць цябе маёй,
Мяне тваім завуць нязменна,
Бо гэта сцверджана крывёй,
Пра гэта ціха шэпчуць гены.

Няхай так будзе, як было —
Мы сталі песняю, Іло.

**Э н д р э Р а ж а**

## НЕДАРАВАНЫ ПСАЛОМ

Як не запоўняць кволыя крыніцы
Усіх марскіх глыбіняў таямніцы,
Так прыгажосць тваю не апісаць.
Як рэчка неспакойная бруіцца,
І неба ў рэчцы сонечнай іскрыцца,
Каб недзе ў вусці сіняй хваляй стаць.
Усё ў табе сабралася адразу,
Гатовае, як трапны сказ да сказу,
З мінулага ў наступнае прыстаць.
Рассыпаліся пырскі, як карункі,
А я табе збіраю падарункі,
Як іскры, іх у лона прынясу.
У роце соль трашчыць ад хваляў шэрых,
Лабасты камень разбівае бераг
І дзвюх галінак кволую красу.
Не сумнявайся ты ў маіх намерах —
Я кроплі поту з жорнаў закарэлых
Табе, як кроплі шчасця, прынясу.
Усё жывое да цябе імкнецца,
Пачуццяў круг ніколі не замкнецца:
Перад табою радуюцца ўсе,
Нібы перад жаданым падарожжам
Ці перад раннем светлым і прыгожым,
Што прывітанне ўсіх званіц нясе.
І горад музыкі, і лозы вінаграду
Узяць цябе ў свае абдымкі рады,
Каб рассыпаць сузор'і па расе.
Тваю істоту я прыняць гатовы
У сэрца і ў заржаўленыя словы,
Тваё ж свавольства адштурхне мяне,
Усё запоўніць космасам вышынным,
Закруціцца пякельная машына
І бераг твой ужо не абміне.
Калі б ты на хвіліну уявіла,
Што спее выбух навальнічнай сілы
І ў цішыні маланкай секане.
Ты пекнаты дзівоснай чараўніца,
Ці знікні, ці адкрый мне таямніцы,
Каб вір кахання здолеў зведаць я,
Адкрый усё, што засланяюць хвалі,
Што берагі скалістыя схавалі,
Чым свеціцца істота ўся твая.
Ці ява ты? Скажы мне шчыра, дзе ты?
Трывожуся даўно, ці існуеш ты,
Бясконцая фантазія мая?

## З іспанскай

**Пабла Нэруда**

**РАСПАРАДЖЭННЕ**

Сяброў я прашу, каб мяне пахавалі
на востраве Чорным,
на ўзбярэжжы знаёмым, дзе зморшчыны
скалаў і хваляў
больш ніколі не ўбачаць патухлыя вочы мае.
Кожны дзень акіян
мне прыносіў туманы
ці ўзлёты блакіту,
або проста бязмежжа спакойнай вады,
ён прыносіў усё,
што прасіў я,
што гоіла сэрца.
Кожны крок кармарана ў жалобным адзенні,
кожны ўзлёт шэрых птахаў зімовай парой,
кожны круг саргасаў,
прыбітым прыбоем,
кожнай хвалі узлёт, што страсае з сябе
халады,
і з-пад цёмнага пласту вады патаемны
гербарый,
народжаны горкаю соллю,
туманам і ветрам,
выйдуць морскія зоры
на бясконцы пясок прыбярэжны —
ўсе жывыя крыніцы прыморскай зямлі
добра ведаюць радасць маю,
добра знаюць,
што заснуць я хачу між павекамі
акіяна і гэтай зямлі…
Да бяздонных глыбіняў
залевы і дзікія ветры,
што развейваюць пылам здзічэлыя хвалі,
панясуць мяне рэчышчам цёмным
да вялікай вясны адраджэння.
Расчыніце вы побач магілу каханай
і дазвольце
аднойчы прайсці ёй са мною ізноў па зямлі.

**Кнігі Сяргея Грахоўскага**

Дзень нараджэння. Вершы. Мінск, 1958.
Ад вясны да вясны. Вершы. Мінск, 1958.
Горад маладосці. Нарыс. Мінск, 1960.
Чаканне. Вершы. Мінск, 1960.
Сёння і заўтра. Вершы. Мінск, 1961.
Бацькі і дзеці. Нарыс. Мінск, 1962.
Табе зайздросціць сонца.
Вершы. Мінск, 1963.
Памяць. Вершы. Мінск, 1965.
Які вялікі дзень. Апавяданні. Мінск, 1966.
Гарыць касцёр. Вершы. Мінск, 1966.
Тры вымярэнні. Воршы. Мінск, 1967.
Рудабельская рэспубліка.
Аповесць. Мінск, 1968.
Вершы. Вершы і паэмы. Мінск, 1968.
Паэма дарог. Вершы. Мінск, 1970.
Агеньчык у акне. Апавяданні. Мінск, 1972.
Выбраныя творы ў двух тамах. Мінск, 1973.
Гарачае лета. Аповесць. Мінск, 1974.
Ранні снег. Аповесць. Мінск, 1975.
Зазімак. Вершы. Мінск, 1976.
Суровая дабрата. Аповесць, Мінск, 1977.
Лірыка. Вершы. Мінск, 1978.
Зачараванасць. Вершы. Мінск, 1978.
Дзве аповесці. Мінск, 1980.
Сонечная сцежка. Воршы. Мінск, 1980.
Асеннія гнёзды. Вершы. Мінск, 1982.

*На рускай мове*

У синих криниц. Стихи. «Советский писатель».
Ленинград, 1960.
Вася Веселкин летит на Луну. Сказка. Минск, 1962.
Высота. Стихи. «Советский писатель». Москва, 1966.
Горивода. Стихи. Минск, 1967.
Рудобельская республика. Повесть.
«Советский писатель». Москва, 1969.
Колокола. Стихи. «Советский писатель». Москва, 1972.
Сеятель добра и гнева. Повесть.
«Политиздат». Москва, 1975.
Рудобельская республика. Повесть.
«Воениздат». Москва, 1976.
Горячее лето. Повесть. «Молодая гвардия».
Москва, 1977.
Зазимок. Стихи. «Советский писатель». Москва, 1978.

*На украінскай мове*

Лісова казка. «Веселка». Кйів, 1979.

*Пераклады*

Аркадзь Гайдар. Ваенная тайна. Аповесць.
Мінск, 1936.
Жуль Верн. 80 000 лье пад вадой. Аповесць.
(У сааўтарстве з Ю. Лявонпым). Мінск, 1936.
Рабіндранат Тагор. Крушэнне. Раман. Мінск, 1958.
Аляксандр Блок. Выбраныя вершы і паэмы.
Мінск, 1980.

**ЗМЕСТ**

Сустрэчы і ростані
вершы 1977-1981
Апошні ветэран .................................. .. 5
Трапяткі радок ....................................... 6
*** Чаму не закрасуе красавік?.. ............ 7
Акцёр ...................................................... 8
Калі ты друг ........................................... 9
Старая карчма ........................................ 10
Друг ........................................................ 12
Дзік ........................................................... 13
Коціцца званочак .................................... 14
Асеннія дажджы ....................................... 15
Развітальная журба .................. ... 16
З табой і для цябе..................... ... 16
Вясновы дым ............................................ 17
Бярозы ...................................................... 18
Рабінавы сок ............................................ 19
*** Каго ты цураешся? .............................. 19
Дзівакі..................... .............................. 20
На чым трымаецца Зямля.................... ... 21
Толькі вечар... ............................... .. 22
Балючая цішыня ...................................... 23
Чалавек і бог ............................................ 23
Асеннія гнёзды .......................................... 24
Аддай без жалю ................................ .. . 24
*** Калі завея слепіць вочы ..................... 25
*** За вокнамі снежныя казкі .................. 25
*** Я пазычаць калісьці бегаў жар .......... 26
*** Мне крытыкі гавораць.......... ... .. . 26
Над зімою .................................................. 27
Праўда і дружба ......................................... 28
Размова з Уладзімірам Ільічом.................. 29
Назаўсёды ................................................. 32
Ачышчэнне............. .. . .......................... 33
Дома ............................................................ 33
Галасы на Палессі........................................ 36
Прабачэнне .................................................. 38
Усё ад маці ................................................. 39
Жар-птушка ................................................. 39
Дзве радасці.................................................. 40
Успаміны... успаміны ...... ......................... 41
Колеры жыцця .............................................. 42
Мае сябры .................................................... 43
*** Вось ізноў не да сну ........................... 43
Высокае імя..................................................... 44
Мая пасада....................................................... 45
Разуменне ....................................................... 47
*** Ужо і сонца на заходзе ...................... 47
За магістраллю — магістраль ........ 48
Мястэчка............... . ...................................... 49
Да вясны! ...................................... . 50
Сівыя галубы .................................................. 51
Паўстанак ............................... .. 52
Фінал загадкі .................................................. 52
*** Жыццё хвастала, мяла і круціла......... 53
Сустрэчныя .................................................... 54
Традыцыі .................... .. 56
Святая грэшніца .............................................. 57
Адна .... ........................................................ 58

Ружовы снег .......................................... 59
Няміга ......................... 59
Завея ............................................60
Вырай ............................................61
Госцi ............................................ 62
Ідзе Купала па зямлі ............................ 63
Помнік Янку Купалу ў Ароў-парку 64
Вечны вучань .................................... 65
Скарб ............................................ 66
Талент ................................ .. 66
Сівізна...........................................67
З матчынага ліста ................................ 67
*** Не сходжу я з крутых узгоркаў... .... 68
Каралі . ......................................... 68
Пурпуровыя ветразі .............................. 70
Халодны ліпень ................................... 71
Нараджэнне песні .................................. 71
Турботы ......................................... 72
Самакрытыка .......................... .. 73
Адзіная .......................................... 74
Восень .................................. .. . 75
Чытаючы «На полі Куліковым» ...................... 76
Рукі ..............................................76
У Глуску.......................................... 78
Сумненні ..........................................78
Мастак ............................................79
*** Мой лепшы друг на рубяжы пакут..... 80
Сустрэчы . . ...................................... 80
Незваротнае .......................................81
Каля вогнішча ..................................... 82
Броўкава слова ............................ 83
Альтруізм .........................................83
Спадчына ..........................................84
Маўчанне ..........................................85
Сэрца паэта........................................ 86
Галасы незабыўных ................................. 87
Кумір ............................................. 88
І першы і апошні ............................ 88
Гукае лета .. ..................................... 90
Абаронцы ..........................................91
Пазваніце ......................................... 92
Нястачы ........................................... 92
Кароткае лета............ ......................... 94
*** Не трачу я надзей ........................ 95
Забытая дарога .................................... 95
У творчай лабараторыі ............................. 96
Неспадзяваны снег.................................96
Пасля навальніцы...................................97
*** Ляцяць лісты і павуціна ................... 98
Трактат пра верлібр .......... 98
Просьба ........................................... 99
Вечнасць .......................................... 99

**Паэмы**

Памяць ............................................ 101
Тры вымярэнні..................................... 105
Паэма дарог ...................................... 115
Бяссмертнай ...................................... 130
Спаленыя масты.................................... 153
Трывожны маналог Зямлі............................ 102
Ростань на світанні ............................... 170

**З усмешкаю**
Дружынніцы ........................................ 186
Рамонт ..................................................187
Косы................... ................................ 188
Прамоўцы ........................................... 189
Павага...................................................190
Лавеласы .............................................191
Характар..............................................192
Пункт гледжання ................................. 194
Прызнанне .......................................... 195
«Дабрадзей»..........................................196
Удод .....................................................198
Хвароба ад гардэроба ........................... 200
Сам ...................................................... 202
Літаратурны музей ............................... 202
**Дзівосны свет**
*Вершы і казкі*
Вясёлка ................................................209
Кастры ..................................................210
Сенакос ................................................ 211
Гусі........................................................212
Хто вінаваты? ...................................... 213
У лесе ....................... ......................... 214
Дзяцел ...................................................215
Млын .................................................... 216
Ласяня...................................................216
Ходзіць сон........................................... 217
Гарывада. Палеская легенда ................ 219
Лясная казка ........................................ 226
Вася Вясёлкін ляціць па Месяц ............... 237
Слон. Казка ..........................................250
Светлячкі. Пушчанская казка ...............259
Каля карты паэзіі
**Пераклады**
З рускай
Аляксандр Пушкін
Анчар ...................................................264
Аляксандр Блок
На полі «уліковым ................................265
Незнаёмка ............................................270
Фабрыка ...............................................272
Дэман ...................................................273
*** Аб доблесцях, аб подзвігах, аб славе ...274
Скіфы . .................................................275
Салаўіны сад ........................................278
Дванаццаць...........................................284
Уладзімір Маякоўскі
Ліст да Таццяны Якаўлевай....................296
Няскончанае ........................................299
Мікалай Ціханаў
Хатынь .................................................301
*** Дзе мой конь і шабля залатая? .......... 302
Начная навальніца над Нявою...............302
Мікалай Забалоцкі
Бетховен.............................................. 303
Непрыгожая дзяўчынка .......................304
Аблятаюць апошнія макі ......................305
Выпадак на Вялікім канале....................306
Міхаіл Ісакоўскі
Беларуская песня .................................307

Аляксандр Твардоўскі
Запрашэнне гасцей ............................309
Яраслаў Смелякоў
Ленін ...............................................310
Міхаіл Дудзін
Наўздагон неўскай крызе.........................311
Зерне сей! ..........................................313
Надпіс на рукапісу без подпісу ................314
Адліга .......................... .. ....................315
Барыс Карнілаў
Працяг жыцця ......................................317
Ільля Аўраменка
Мінька..................................................319
Марыя Камісарава
Купалава крыніца .................................321
*** Мой сад снягамі замяце ......................323
Мікалай Браўн
Ода блакаднаму хлебу ............................323
Дон Кіхот ............................................325
Арка галоўнага штаба ............................326
*** Калі замкнецца круг жыццёвы ...........326
Сяргей Арлоў
*** ён пахаваны ў шар зямны. .................327
Паштоўка ............................................328
Вадзім Шэфнер
Каска . .. ..................... .. 328
Ён птушкам свабоду дае ......... 330
Леанід Хаўстаў
Два сэрцы ...........................................331
Глеб Пагіраў
Асколак пад сэрцам; ..............................332
Уладзімір Цыбін
*** Беласнежжа, Беларусь, адгукніцеся!...333
Якаў Хелемскі
*** ...Грузінам я ў расійскім перакладзе...335
*** Дарожны знак — «На Сіняло...» ...........336
З украінскай
Леся Украінка
*** Скрозь — слёзы, плач і прычытанні ....338
*** Гаворацць вусны: «Ён навек загінуў!..» 338
Максім Рыльскі
Ружы і вінаград ....................................340
Уладзімір Сасюра
*** Далі салаўіныя, пошчак салаўіны........340
*** Пакуты сэрца не сціскалі ..................341
Мікола Нагнібеда
*** Ці то снілася мне ............................342
Платон Варанько
Салдацкі скарб. Паэма ..........................343
У Ладзімір Забаштанскі
Маці .................................................350
З фарсі
Рудакі
Двухрадкоўі .........................................351
З грузінскай
Важа Пшаеела
Не той герой, хто ....................... .. 354
З армянскай
Геворг Эмін
*** Мама гаворыць заўсёды ціха .............355

З літоўскай
Саламея Нерыс
Мой край ........................................ . 357
Вецер і дзеці........................................ 357
Белаю дарогаю ...................................... 358
Без касцёла ............... .. ......................... 359
Альбінас Жукаўскас
Блытаніна ............................................ 359
Уладас Мазурунас
Сябрам ................................................. 300
Юсцінас Марцінкявічус
*** Кожны дзень я ў самога сябе паглыбляюся.361
З латышскай
Ян Райніс
Сапраўдны чалавек................................ 363
Ян Судрабкалн
Жывая мова ........................................... 364
Андрэй Балодзіс
Маці .......................................................305
Інара Роя
У лесе ..................................................... 366
Да Леніна іду.......................................... 366
Тыдзень ................................................. 367
З нізкі «Мора» ........................................ 368
З аварскай
Расул Гамзатаў
У Ахваху ................................................371
Пакуль не спыніцца зямля .......................374
Родная мова ...........................................376
*** Да сузор'яў, у бездань прастору ..........378
З азербайджанскай
Самед Вургун
Я не спяшаюся ............... .......................379
Целагрэйка ........................................... 380
Кар'ерыст ..............................................382
З узбекскай
Зульфія
Кропля ...................................................385
Міртэмір
Воблака .................................................387
З калмыцкай
Міхаіл Ханінаў
Арапзал (з паэмы)..................................388
З яўрэйскай
Ізі Харык
Песні пра песні.......................................391
*** Я сёння нечакана смерць адчуў ..........393
З чэшскай
Пётр Безруч
Чырвоная кветка ....................................394
З венгерскай
Дзюла Ійеш
Прадвесне .............................................395
Аціла Бераш
Грукочуць табуны ..................................396
Міклаш Вераш
Песня кахання .......................................397
Эндрэ Ража
Недараваны псалом ...............................398
З іспанскай

Пабла Нэруда
Распараджэнне . . . ............... .. . . . .      401
Кнігі Сяргея Грахоўскага . . ...................403

Грахоўскі С.
Выбраныя творы. У 2-х х. Т. 2. Вершы, паэмы, казкі, пераклады.: Маст. літ., 1983.—
414 с., І л. партр

Другі том выбраных твораў вядомага беларускага паэта Сяргея Грахоўскага склалі вершы 1977-1981 гадоў, паэмы «Памяць», «Тры вымярэнні», «Спаленыя масты» і інш., а таксама паэтычныя пераклады.